# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

1 (987)

СТУДЗЕНЬ

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2012

ЗМЕСТ





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



Мікола МЯТЛІЦКІ

# ХЛЕБ І СОЛЬ
(З агледзін Беларусі)

## СЛУЦКІ ПОЯС

Красуе сонца залатое,
Пераліваецца ў зару.
І зноў у рукі слуцкі пояс
З душой адкрытаю бяру.

Мой край, твой сімвал ясназоры
Не схмурыць часу беглы цень.
Якія ясныя узоры
На ім люструе новы дзень!

Паўстане Случчына так гожа
У ззянні кветкі васілька.
На ніве тут гадуе збожжа
Здавён сялянская рука.

І ураджай такі — зашчодра
Чаруе ніва земляка.
І ткуць натруджаныя бёрды
*Цвяток радзімы васілька.*

---

***Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч*** *нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977) працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 1983 года — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 2002 годзе прызначаны галоўным рэдактарам часопіса «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыце» (1980), «Мой дзень зямны» (1985), «Ружа вятроў» (1987), «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), «Жыцця глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005), «На беразе маім» (2010), «Цяпло буслінага крыла» (2010) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986) і Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1998).*

## ШАХЦЁРЫ

Капры сталёвыя ў дазоры
Увачавідкі прад табой.
Тут кожнай раніцай шахцёры
Наноў спускаюцца ў забой.

Работы юнаю ахвотай
Сустрэне іх скляпенняў золь.
І набрыняе іхнім потам
Жыццёвы сэнс — зямная соль.

У працы рупнае ў хаўрусе
Душы распалены агонь.
Падмурак роднай Беларусі
Упарта кратае далонь.

Забіты пылам рэспіратар,
Паветра чыстага глыток…
І спешны рух…
Эвакуатар
Пагоніць свой па жылах ток.

Пад’ём наверх…
Начныя зоры,
Святлом напоеныя дні.
Душой далучаны шахцёры
Да глыбіні і вышыні.

Няма другой такой работы,
Не сціснe сэрца чэпка стынь.
Адно прасоленыя боты
У распранальніку пакінь.

І хвосткі душ пыл чэпкі змые
Усёй натугаю струны.
Ідуць яны, багі зямныя,
Падальш ад тлумнай гаманы.

І на плячах — адбіткі зморы,
Жыцця жывога пот і соль.
Ідуць на раніцы шахцёры —
Ім, дзень, красы адпіць дазволь!

## СПАДЧЫНА

Нам Купала сказаў, думна гледзячы ў свет:
— Беражыце свой край, мову матчыну!
І прымаю душой песняра запавет,
Берагу, прымнажаючы спадчыну.

Устаюць гарады… Нівы росяцца ўсцяж…
Пушча думу адвечную думае.
І узносіцца новага веку віраж,
Як і колісь, з мяцеліцаў шумамі.

І не здадзена сэрца адчаю на злом,
І крыляе зноў думкамі вольнымі.
Смольна дыхае зруб… І глядзіцца наш дом
На прасторы святлістымі вокнамі.

І Купалу кажу з чутай годнасцю я
Пад нябёсаў вячыстымі зводамі:
— Заняла Беларусь маладая мая
Свой пачэсны пасад між народамі!

## КАЛГАС «РАДЗІМА»

— А ты ўзараў свой ворны клін
Ці гультаём праслыў у часе,
І там, дзе быльнік і палын,
Твая руплівасць засталася? —

Мне зноў даводзіць старшыня,
Стаіць з дзяцінства нада мною.
Ступаю полем… Ціша дня…
А поле — вечнасцю зямною.

Услед — другі ступае час,
І ён не рушыць, веру, міма.
Другая вёска. І калгас
З павечнай назваю —
«Радзіма»!

Жыцця трывучага запас,
І старшыні такі аповед:
— Душа у кожнага ёсць з нас,
Яе жывыя сокі пояць.

Каб чалавекам чалавек
Застаўся (тое ад маленства),
Прымі, як самы гойны лек,
Яго з Сусветам падабенства.

Адкрыты ён душой наўсцяж
Тваім, жыццё, агню віхурам.
А скажа лёс — сыдзі і зляж,
Ён не паверыць гэтым бурам.

Устане горда на зямлі,
Вачмі абсяг зямны акіне.
Свае, што зоры, мазалі
На далані увыш уздыме.

І скажа годна: «Чалавек!» —
Напрацаваўшыся ў ахвоту.
І зноў пральюцца з веку ў век
Салёныя кроплі поту.

І зноўку выстаіць зямля,
Сустрэне будзень свой і свята.
Усё, нарэшце, з мазаля
Пад небам ранішнім пачата.

## БУЙНІЦКАЕ ПОЛЕ

Поле тваё, Магілёў,
Дзікі палын не аплёў:
Юнай нявесты крок,
Раніцы светлы зрок,
Поле тваё жыве,
Быццам крыніца ў жарстве…
Вечнаму полю быць —
Долю ў вяках здабыць.

Як уявіць, што тут
Столькі было пакут,
Столькі было мінут —
Смерць зазірала ў твар?
Поле тваё, Магілёў,
Чэпкі палын не аплёў,
Смерч, што хіжэй атрут,
Грозны прыняў удар.

Поле тваё, Магілёў,
Бачыцца зноў і зноў,
Стаўшы эпохі дном,
Не парасце палыном.
Юнае дотык рукі,
Ўздых над памёрлым гняткі
Здатныя зноў ажывіць
Тое, чаму тут быць:
Кроку жывога жыцця,
Выдыху пачуцця,
Лёсу твайму, Магілёў,
Раніцы між вятроў…

Полем Буйніцкім я
Дыхаю. Памяць мая
Горне з мінулых дзён
Праўды жывой заслон:
Тут устаяў твой дух
Між небыцця завірух,
Што не аддаў Масквы.
Поле, твой кліч — жывы!
Поле, твой зык — агнявы!



Уладзімір ЛІПСКІ

# АДКРЫЙ СЯБЕ

Лісты да ўнука[1]
(год другі)

**38**

Наш дарагі другачок Толік!

У тваім жыццёвым вымярэнні зроблена першая засечка. Ты пражыў год. Ты праляцеў па касмічнай арбіце Зямлі вакол Сонца. Пачаў свой палёт летам. Пасля былі — восень, зіма, вясна. І зноў наступіла пара кветак, ягад, каласавін, купання пад промністым небам.

Зямны год — у тваім багажы! А гэта ўсяго 365 усходаў Сонца, 365 зорных начэй.

Наш агульны карабель Зямля нястрымна рухаецца далей, а мы, зямляне, жывём сваімі клопатамі. Галоўным клопатам апошніх дзён было тваё хрышчэнне. Табе падабралі хросных бацькоў — Ігара і Алу. Твая мама Марына паслала іх у царкву на споведзь. Цябе, чысцюткага, павінны ўзяць на рукі безграхоўныя людзі.

Выпадкова ці не зусім, але ў тваім дні хрышчэння збеглася шмат знакавага. Цябе, Толік, хрысціў айцец Анатоль, наш сямейны прыяцель. Быў дзень 16 ліпеня, калі хрысціяне адзначалі дзень народзінаў святога Анатолія. І была Божая, летняя нядзеля.

Вы прыехалі ў царкву вёскі Новы Двор, прыход айца Анатоля. Апроч тваіх родных і хросных бацькоў, сведкамі ўрачыстасці сталі бабуля Ніна і сястра Маша.

---

***Ліпскі Уладзімір Сцяпанавіч*** *нарадзіўся 6 мая 1940 года ў вёсцы Шоўкавічы Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Мінскі тэхнікум харчовай прамысловасці (1960) і завочнае аддзяленне факультэта журналістыкі БДУ (1966). Працаваў на Гарадзейскім цукровым заводзе, у рэдакцыі Нясвіжскай раённай газеты «Чырвоны сцяг», у апараце ЦК ЛКСМБ, у Саюзе пісьменнікаў Беларусі. З 1978 года — галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка». З'яўляецца старшынёй праўлення Беларускага дзіцячага фонду.*

*Аўтар звыш сарака кніг для дарослых і дзяцей: «Я. Праўдзівы апавед пра твой і мой радавод» (1998), «Мама. Малітва сына» (1999), «Каралева белых прынцэс» (2000), «Бацька» (2004), «Аўцюкоўцы» (1995, 2000, 2003), «Мы» (2006) і інш.*

*Лаўрэат літаратурных прэмій імя Янкі Маўра і імя Аляксандра Грына, Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2000).*

[1] Працяг. Пачатак у № 5, 2010 г.

Усё ішло добра. Ты спакойна сядзеў на руках у хросных. Слухаў малітвы і разглядваў незнаёмы пакой з іконамі і свечкамі. Але як толькі цябе раздзелі дагала, як толькі цябе ўзяў на рукі барадаты айцец Анатоль, тут ты і паказаў усім свой голас і характар.

Айцец Анатоль рабіў сваю справу — маліўся і хрысціў цябе святой вадой. А ты, Толік, крычаў на ўвесь сусвет. І ў тваім плачы не было ні злосці, ні крыўды. Ты як бы хацеў сваім голасам перадаць у Нябеснае і Зямное царствы, што ты ёсць, ты жывеш і хочаш жыць, доўга і слаўна. Не ведаю, ці ўсе пачулі цябе, а я, будучы на свяце гумару ў Спораве, за трыста кіламетраў ад цябе, кожную секунду адчуваў тваё дыханне, тваё трапяткое сэрцайка.

Шчыра віншую, унук, з хрышчэннем. Цяпер ты ўжо пад поўным наглядам Бога. І хай жа ён беражэ цябе ва ўсе зямныя дні. І хай сама Зямля разам з табой робіць бясконцыя рэйсы вакол Сонца.

*Твой сябар*
*16 ліпеня 2006 г. (нядзеля)*

**39**

Чароўны Таляйка!

Бацькі павезлі цябе на Нарач. Першая твая далёкая адлучына з дому. А я сумую без цябе. Увесь Мінск нібыта апусцеў, асірацеў.

Паехаў у Сухарава, у вашу кватэру, каб паліць кветкі. Адчыніў дзверы — цішыня, духата. Праветрыў пакоі, напаіў вазоны вадзіцай. Зноў цісне ў вушы цішыня. І я здзівіўся: як жа кватэра жыла без цябе? Як жа свет існаваў без цябе?

А на дачы — твая пустая гушкалка. Яна сумуе па табе. Над ёй вісела галіна з яблыкамі ды нечакана рухнула на зямлю. Назбіраў з яе чатыры кашы зялёных яблыкаў. Саму галіну парэзаў, пасек на дровы. Сэрца маё пры гэтым разрывалася на друзачкі. Здавалася, не галіна, а жывая рука адарвалася ад яблыні. Залепліваў рану маззю і маліўся: «Даруй, яблынька. Залячы рану. Выжыві, яблынька. Захавай пад сабой гушкалку хлопчыка, які абавязкова вернецца да цябе...»

Зразумей, Толік, ты патрэбны нам усім. А мы — табе. І нас змацоўвае любоў.

Шчаслівага табе адпачынку на Нарачы.

*Твой Уладзімір Ліпскі*
*24 ліпеня 2006 г.(панядзелак)*

**40**

Нарачанскі мой хлопчык!

Не бачыў цябе з месяц, і амаль не пазнаў. Ты ўжо хочаш хадзіць. І ходзіш! Адной ручкай шукаеш падтрымкі ў дарослай рукі і тупаеш імкліва, з лёгкасцю і радасцю. А тварык твой высвечвае споведзь: «Іду!.. Адпоўзаў сваё!..»

Віншую, унук, што падняўся з чацвярэнек. І больш ніколі, ні перад кім не згінай каленяў. Ты мужчына, ты воін і абаронца. Урэшце, ты — Ліпскі, а яны ніколі не гнуліся, як казаў твой прадзед Сцяпан, «у тры пагібелі».

Ты ўпершыню на Нарачы. З бацькамі, з сястрой Машай. Табе, адчуваецца, тут добра спіцца, есца, гуляецца. Ведай, дружа, цябе вывезлі да блакітнага

сэрца Беларусі. Тут рыбнае возера, грыбныя баравіны, жураўліныя і журавінныя балоты. Тут спрадвечна жывуць людзі, улюбёныя ў свой гаючы край, у песні, у прыродную красу. Тут, у Нарачы, купаюцца нябесныя зоры. Мо таму яны так зырка зіхацяць над усёй Беларуссю?

Во ў якім Божым памесцi ты цяпер!

Ты, здаецца, гэта адчуваеш І твая актыўнасць адметна рознымі дзеямі.

Сядзіш на падлозе, узяў машынку, тры літары (тэ, рэ, ы) зліваюцца ў гуд, і машына твая заведзена. Ты едзеш! Катаешся! Ды раптам падаеш мне тую машыну: «На!» От малайчына, пагуляў сам, даеш пагуляць дзеду. І я з радасцю фыркаю, як машына, еду на ёй па дыване. Божа мой, якая асалода! Я ж у сваім дзяцінстве не меў такой цацкі.

Маша падкатвае да цябе каляровы мячык. Ты хапаеш яго ў абедзве рукі і кідаеш у сястрычку. Чатыры зубікі выбліскваюць з роціка. Задаволены!

Маша прыціскае свайго браціка-карапузіка да грудзей, і вы кідаецеся на ложак. Падушкі ўгінаюцца пад вамі. Маша жмакае цябе, ласкава шлёпае па попе. А ты, смяшлівы, вылузваешся ад яе, паўзеш да сцяны, дзе вісяць лямпа, дрот і выключальнік. Табе, дапытліваму, трэба абследаваць гэты новы аб’ект у нарачанскай часовай кватэры.

Такое ўражанне, Толік, што сваім прыездам сюды ты пацешыў саму велічную Нарач. Яна ў летняй зморы, сцішаная і пяшчотная, хоць ідзі па ёй, як па люстраной падлозе. А ноччу возера накатвае на бераг ціхія хвалі, спявае табе сваю калыханку. Спі ды набірайся моцы на заўтрашні дзень.

Твой нарачанскі дабрадзей — дзед з лапцей<br>14 жніўня 2006 г. (панядзелак)

**41**

Танцорык мой!

Як жа ты павесяліў нас усіх.

Маша пад язык выводзіць танцавальную мелодыю. Ты сядзеў на канапе, ажывіўся і пачаў у такт Машыных гукаў расхітвацца з боку на бок. Падняў ручкі, і яны пайшлі «ў скокі». Тварык натхнёны, сур’ёзны.

Праз нейкі час ты, Толюсь, папоўз у бок кухні, дзе была мама. Маша наўздагон і, скажу чэсна, знарок зноў завяла сваё «тра-ля-ля». Ты рэзка прыпыніў сваё поўзанне і, стоячы на карачках, пачаў зноў расхітвацца.

Пацеха!

Бач, твая душа ўспрыняла мелодыю і адгукнулася ў танцы. Віншую, мой музычны ўнук!

Хачу, каб твае вушы чулі і ўспрымалі толькі добрыя мелодыі. Жадаю, каб ты навучыўся прыгожа танцаваць. Выкручваецца на дыскатэках цяпер кожны віртуоз. А вось танцы даўнейшых вечарынак забыліся. Мала хто ўмее прыгожа танцаваць грацыёзны вальс, заліхвацкую польку, выкрунтасную кадрылю, узнёсла-шляхецкі падэспань.

Мяняюцца часы і густы. А мелодыі, якія абагачаюць душу, заўсёды ў цане. Навучыся, Толік, выбіраць настаўнікаў для сваёй душы. Часцей прыслухоўвайся да гукаў і цішыні матухны-прыроды, умей ацаніць яе красу.

Твой сябар<br>16 жніўня 2006 г. (серада)

## 42

Мой слаўны ўнук!

На Нарачы ідзе грыбны дождж. Спорны і няспешны. Нябеснае поліва супакоіла ўсіх. Возера сцішанае, без хваль-рабаціння. Рыбы не плюхаюцца. Сосны не хістаюць свае верхавіны-антэны.У тайныя схованкі пазалазілі птушкі, жучкі, павучкі. І людзей санаторных нябачна. Пад дожджык моцна спіцца. Толькі кігікаюць над вадой чайкі. Трэба карміцца. Сталовак і павароў у іх няма.

І я, Толік, успароўся рана. Як жа прапусціць такі досвітак. Сяджу на лоджыі, слухаю ціхую музыку дажджу, цешуся шэрым, падарункавым небам і думкі распіраюць маю галаву.

Першае, на чым злавіў самога сябе: хто я і што я ведаю?

А ніхто я. Пясчынка на пляжы. Ігліца на сасне. Кропля ў вадзе. Мураш у муравейніку...

І нічога я не ведаю.

Любуюся Нараччу, а не ведаю, чаму яна тут, на Мядзельшчыне, як утварылася, адкуль пайшла назва. Адзін ахмялелы саснянец выдаў мне сваю тайну. Падвёў да берага возера, кажа: «Прысядзьце і пазірайце вунь на той камень». Прысеў, бачу валун, а на ім як бы твар старога дзеда: вочы прыжмураныя, нос вялікі, барада вытыркаецца. Волат! Мой даверлівы адкрывальнік шэпча: «Гэта — Галавадзед!.. Яго хацелі танкам зрушыць з месца — не ўдалося, — мужчына прыклаў палец да губ. — Толькі маўчыце: гэты Галавадзед вартуе возера. Ён як бы пробка Нарачы. Зруш яго, і Нарачы няма...»

Мы падышлі да каменя-валуна. Зблізку на ім не пазнаецца Галавадзед. Халодная, гранітная, загадкавая глыбіна ляжыць каля самага возера. І пазірае Дзед не на ваду, а на ўсіх, хто ідзе да яе, на ўсё, што рухаецца да яе. Вось і гадай, што да чаго.

Не ведаю я, Толік, нічога. Адкуль людзі на Зямлі? Як з’явілася ў сонечнай прасторы наша планета? Чаму адзін з людзей геній, другі — дурань? Адзін — добры, другі — злыдзень? Ці ёсць Нябеснае Царства? Чаму Маша бачыць каляровыя сны?

Ты ўваходзіш у жыццё цікаўным хлочыкам. Можа, ты разгадаеш тайны зямныя, загадкі Неба? І хай штуршком да тваіх пошукаў стане мой роздум пад ранішнюю мелодыю ласкавага дажджу.

*Твой Уладзімір Ліпскі*
*18 жніўня 2006 г. (пятніца)*

## 43

Зайчык выскачыў на палянку. А тут — паляўнічы з ружжом і сабакам.

Плотачка выплыла з чароту. А тут — рыбацкі кручок з апетытным чарвячком.

Муха паляцела па здабычу, а трапіла ў павуковы сеці.

Баравіку крамяному захацелася вызірнуць з-пад махнатай елкі. А тут — грыбнік з кашом і нажом.

Кропля расы асела на лісцік, чулліва заіскрылася. А тут — сонца ўзнялося, зацалавала кроплю, і яе не стала.

Мілы Толік, для чаго я табе пра ўсё гэта пішу?

Хочацца асцерагчы цябе ад усялякага ліха, якое на кожным кроку. Ты яго не жадаеш, а яно цябе падсцерагае. Ты яго не хочаш, а яно сляпіцай лезе да цябе.

Я і сам, Толік, не ведаю, як пазбавіцца ад бяды, як уберагчыся ад яе. Але ж помні пра маю трывогу і насцярожанасць. Беражонага і Бог беражэ. Вучыся слухацца Бога і свайго Анёла. Яны штохвіліны побач. Яны — ва ўсім!

*Застаюся заўсёды тваім сябрам*
*18 жніўня 2006 г. (пятніца)*

**44**

Цікаўны мой хлопчык!

Ты сядзіш у калясцы, прывязаны рамянямі, як перад узлётам. На табе — светлая маечка і пятністая панамка. Ты пільна пазіраеш перад сабой, як бы мамы няма побач.

Што ж цябе так заманіла?

Паварочваюся ў той бок, у які пазіраеш і ты. Бачу трактар. Сіняя кабіна, грузавы кузаў, высокія калёсы. Тваю ўвагу ўзрушыла дзіўная машына, незнаёмая табе. А я не мог намілавацца табою.

Цікаўны мой!

Узяў цябе на рукі. Ты пальчыкам паказваеш на ліхтар, як бы расказваеш мне пра яго.

Твой пальчык-указальнік утыркаецца ў неба: зірні, дзед, там воблакі і сонца.

Падыходзім з табой да сасны. Ты кладзеш сваю далоньку на шурпаты ствол, як бы ацэньваеш моц дрэва. Твае пальчыкі адкалупваюць кавалачак карычневай з мохам кары. Пільна даследуеш здабычу.

Убачылі белага ката, і ты ўпіваешся ў яго сваімі вачыма-вішнямі. Што за звер? Чаго ён ходзіць па траве?

Адкрываем дзверцы кухоннай шафы, і ты, Толік, як запраўскі гаспадар, пачынаеш перабіраць розныя рэчы: крышкі, адкрывалкі, драўляныя лыжкі, дэталі ад мясарубкі. Усё табе дзівосна!

Мой хлопчык, як жа мне хочацца, каб ты з адкрытымі вачыма дажыў да сівых валасоў. Каб ты з цікаўнасцю пазіраў на свет, каб ён цябе заўсёды здзіўляў. Тады больш убачыш і адчуеш смак жыцця.

*Твой Уладзімір Ліпскі*
*21 жніўня 2006 г. (панядзелак)*

**45**

Цябе, Талян, павезлі ў Мінск.

На Нарачы засталіся Маша, бабуля і я.

Звоніць Марына:

— А Толік выдаў першы сказ!

— Які?

— «Дай анан!»

Пасля мамінага малачка ды кашак і пюрэ ты рассмакаваў паўднёвы плод банан. Бачыў, як ты яго еў.

Мама лыжачкай нашкробвала мякаці, а ты, як верабейчык у гняздзечку, адкрываў роцік. Смаката!

Можаш не паверыць, дружок, а я ўпершыню ўбачыў і пакаштаваў банан,

як мне стукнула гадоў трыццаць. Ён быў тады рэдкім заморскім далікатэсам. Трапляў на стол далёка не кожнаму беларусу.

От, цікава, Толік, якія яшчэ ласункі рыхтуе табе жыццё! Ні ты, ні тым больш я, гэтага не ведаем. Давай толькі запомнім, што першая твая свядомая фраза — «Дай анан!»

*Твой дзед-бульбяш*
*22 жніўня 2006 г. (аўторак)*

**46**

Мой любы дружа!

Вось і мы пакідаем чароўную Нарач. Пад канец нашага адпачынку і яна сцішылася, супакоілася. З тваім бацькам Лёнем, які прыехаў па нас, мы нават паплавалі на лодцы і пацягалі з глыбіні паласатых акунёў. А яшчэ мы з ім злавілі на Белым возеры шчупака. О, гэта была падзея! Як мы цягнулі яго, як супакойвалі яго ў лодцы, як радаваліся — пра гэта, здаецца, пачулі ўсе сосны, якія акружаюць возера, усе людзі, якія адпачывалі на яго берагах.

Мне б хацелася, унук, каб і ты навучыўся сядзець з вудай ля ракі ці возера. Гэта такое замілаванне, што не перадаць словамі. Пазіраеш на паплавок і пастаянна чакаеш, што вось-вось ён здрыганецца. А хто зацікавіцца тваім кручком — поўная тайна. Цягні, не прапусці той міг таямніцы, і ты можаш мець здабычу.

Хачу, каб ты палюбіў лес, ціхае паляванне ў ім — пошук грыбоў. Гэты занятак з ліку казачных.

Апошнім днём у санаторыі я выйшаў прагуляцца да Нарачы без вуды. Не пабег і ў лес з кошыкам. Сеў каля берага, акінуў вокам блакітнае люстэрка. Замілаваўся!

У празрыстай вадзе, заўважыў, плаваюць, цешацца сонцам малькі. Віруюць побач плотачкі, верхаводкі, акунькі. Вёрткія, шустрыя, як усе дзеці. Ім, адчуваў, разам весела і ўтульна. А разумееш, Толік, вырастуць тыя акунькі, стануць звярамі і пачнуць ганяцца за ўнучкамі тых плотачак, з якімі гуляліся ў дзяцінстве. Яны, драпежнікі, будуць карміцца імі. От і канец сяброўству.

Вучыся, унук, разбірацца ў людзях. Мне, скажу шчыра, прыемна, што ты не адразу ідзеш да таго, хто працягвае табе рукі і сюсюкае: «Толік, Талюсік, ну ідзі да мяне...» Ты схіляеш галоўку, саромеешся, потым крадком пазіраеш на незнаёмца, як бы вывучаеш яго. І толькі адчуўшы давер і спакой, аддаешся новаму чалавеку.

А я заўсёды іду да цябе праз гульню. Ты любіш мячык, і мне ён падабаецца. Кладуся на падлогу, ты садзішся побач, і мы перакатваем мячык адзін аднаму. Весела!

Ты «едзеш» на машыне. І я побач. Разам гудзім. Толькі ў цябе гуд выходзіць лепшы. Ты высоўваеш амаль палову языка, і ён лапоча, як сапраўдны матор «шэўрале». У мяне так не атрымліваецца. Буду трэніравацца!

Дарагі Толік, еду на сустрэчу з табой. Вязу новую машынку. І ўсю дарогу карціць вучыцца гудзець, як гэта лоўка ўмееш рабіць ты.

Чакай дзеда, унук, і мы весела паганяем машынкі па паркетнай падлозе.

*Нязменны твой сябар*
*2 верасня 2006 г. (субота)*

**47**

Дзіця чалавечае, Толік!

Сёння ты ўсім нам падарыў пяць самастойных крокаў. Пастаяў крыху, пра нешта падумаў. А можа, і не думаў, а проста прыкмеціў на крэсле цацку. Падстрахоўшчыкаў наўкол не было, і ты рушыў у дарогу сам.

Толькі не вер, што нікога наўкол не было. Мама з цябе не спускала вока. Яна ацаніла твой намер. У кожную секунду гатова была кінуцца на падмогу, але чакала да апошняга міга. І дачакалася! Ты зрабіў першыя ў жыцці пяць самастойных крокаў. Віншую і я цябе. Ты пайшоў!

Іншым разам ты ўбачыў сябе ў шафным люстэрку і пакрочыў насустрач самому сабе. Паздароўкаўцца ці пазнаёміцца? Пайшоў адкрываць сябе.

Ведай, дружа, дарога да сябе самая цяжкая і складаная. Багата каму не пад сілу. Каб пераадолець яе, людзям, бывае, не хапае жыцця.

Мама твая дакладвае мне па тэлефоне пра твае подзвігі, а я тым часам гляджу па тэлевізары фільм пра жывую прыроду. Нарадзілася цялятка ў зубрыхі. Мокрае, не астылае яшчэ, прыпадаючы на пярэднія ножкі, паднялося з траўкі, хістанулася і зноў нягегла прылегла. Але ж адпачываць няма як. Мама-зубрыха адступілася на пару метраў, чакае. Тая ростань стала першым выпрабаваннем для цяляткі. Яно яго вытрымала з чацвёртай «пробы». Стала на чатыры ножкі, павільваючы ўсім тулавам з боку на бок, падышло да мамы і тут жа прыпала да цёплай цыцкі.

Во, Толік, як бывае ў вольнай, дзікай прыродзе. З дзіцём чалавечым усё складаней. Ты зрабіў першыя крокі толькі праз 450 дзён жыцця, на другім годзіку зямнога раю. Не хвалюйся, родны, яшчэ находзішся, натупаешся. Галоўнае, каб ножкі твае былі нястомнымі. А сцежкі-дарожкі не камяністымі, не балотнымі.

Помні яшчэ адно. Як бы ты далёка ні адыходзіў ад дому, ад Мамы і Таты, нават калі ты абыдзеш увесь зямны шар, то абавязкова зноў вернешся ў той цэнтр зямны, адкуль пачаў свой шлях. Туды, дзе твая пупавіна, да тых, хто даў табе пазнаць смак жыцця. Жыві і помні пра гэта!

*Твой дзед-усявед*
*27 верасня 2006 г. (серада)*

**48**

Хлопчык мой!

Ты пайшоў! Ты ўзняўся ў поўны свой расток. Тэпаеш у асалоду сабе, у радасць усім нам. Здаецца, і вочкі твае ад гэтага сталі больш відушчымі, і тварык больш натхнёным, і кудзёркі валасоў больш закручастымі, і ўсмешка больш загадкавай.

Ты робішся вольным. Не трэба чакаць ці плачам даказваць, чаго ты хочаш. Ты падымаешся і кіруеш да цацкі-жука. Націснуў на чырвоную кнопачку, і жук журчыць, поўзае, тыкаецца сваімі рагамі ў ножкі крэсла, сам паварочваецца ў другі бок. Цікава табе і мне!

Жук надакучыў, ты ўзняўся з падлогі, пайшоў у Машын пакой. Там табе перапала ручка і папера. Намаляваў рысачак туды-сюды. Карціна гатова! Трэба рушыць далей.

Я неадступна іду за табой. А ты ўжо на кухні. Паказаў мне літары, якія магнiцікамі трымаюцца на халадзільніку. Дунуў у пустую бутэльку. Ад пасві-

сту сам сабе ўсміхнуўся. Пастаяў каля балконных дзвярэй і надумаўся пайсці ў залу. Шлях для цябе няблізкі, і ты ўчапіўся ручкай у маю руку. Ісці рука ў руку надзейней і весялей.

У зале Лёня дэманстраваў гасцям свежыя кадры лічбавай камеры. Там ўсё — пра цябе. Ты, Толік, рэзка выцягнуў сваю руку з мае рукі, зрабіў некалькі крокаў адзін. Гэпнуўся каля бацькі на паркет, ухапіў пульт і выключыў тэлевізар. Свядома гэта атрымалася ці выпадкова, але ўсе мы ахнулі ад твайго спрыту. А ты стаяў пераможцам пасярод пакоя і ўрачыста ўсміхаўся, як бы павучаў нас: «Няма чаго пазіраць на тую скрыню. Я — Толік, вось я... Вось тут, сярод вас...»

От і даў нам, дарослым, свой урок: гуляйце са мной! Глядзіце не на экранныя, а жывыя кадры жыцця. Разумны ты мой рэжысёрык, хай жа ніхто і ніколі не азмрочыць твайго натхнення, тваіх добрых намераў, тваіх правільных крокаў на Белым свеце.

У той дзень тваёй маме Марыне было 34 гады. Мы пілі чай, віншавалі імянінніцу. Я напісаў ёй на паштоўцы: «І хай ты восенню ўбачыла свет, калі вясёлкай квітнела прырода, а ты трымай у сабе вясну і вясёлку нябесную, Божую, ад якіх маладзее душа, ад якіх не стамляецца сэрца».

Толік, падрастай і дапамажы маме здзейсніць маё пажаданне.

*Твой дзядуля, майскі Цялец*
*27 кастрычніка 2006 г. (пятніца)*

**49**

Дарагі Толік!

Гэтай ноччу, можа, ты па маёй віне варочаешся, не спіш. Кажуць, калі моцна думаеш пра некага, то таму, некаму, ікаецца, а калі ён у гэты момант спіць, то абавязкова прачынаецца.

За маім акном — восеньская, чорная ноч. На гадзінніку — пачатак новых сутак, а мяне сон не бярэ. Пазіраю на тваю фотку, што стаіць на маім пісьмовым стале і бачу цябе жывога ў маім рабочым кабінеце. Прыгадваю...

Нас, цябе і мяне, пакінулі на дзве гадзіны адных. Бацькі, Марына і Лёня, пабеглі па магазінах. Маша гуляе на камп'ютары. Бабуля Ніна на кухні рыхтуе абед. А мы з табой. Я — нянька, ты — мой аб'ект выхавання. Ды што цябе выхоўваць. Ты пачынаеш даваць мне свае ўрокі. Перад табой кошык з каўчукавымі шарыкамі розных памераў і колераў. Бярэш першым зялёны шарык і кідаеш яго ў гліняны куфаль. «Ба-а-а!..» — вырываецца з тваіх вуснаў. А мне карціць разгадаць, чаму ты першым выбраў зялёны шарык? Зялёны — гэта вясна, жыццё, натхненне? Ці ў тваім разуменні зялёны — самы прыгожы, кідкі, прыцягальны?

Пакуль разважаю пра твой выбар, ты пакідаў ужо ўсе шарыкі ў аўцюкоўскую кружку і выцягваеш іх назад, кладзеш у кошык. Вочы твае зіхацяць лазернымі ліхтарыкамі. Ты працуеш! Табе падабаецца перакладваць шарыкі, бабахаць іх у розны посуд.

Бачу, табе ўжо надакучвае гэты занятак. Выцягваю з шафы шахматы, і ты з абноўленым азартам прыступаеш да новай працы. Будуем пірамідкі. Правільней сказаць, я іх складваю, а ты бурыш. Кажу: «Што ж ты робіш?.. Ая-яй...» Схіліў галоўку, панурыўся, засаромеўся. Смешны ты ў гэты міг. Як

бы адчуваеш сваю вінаватасць, хочаш прасіць выбачэння, але моўчкі, крадком пазіраеш з-пад ілба на мяне. Я ўсміхаюся, і ты павесялеў. Я будую новую піраміду, і ты спрабуеш скласці сваю. Вось такая наша з табой першая гульня ў шахматы.

Цябе, Толік, лёгка забавіць чым-небудзь, бо ты адкрывальнік жыцця, шукальнік прыгод і працы. Хацеў падняцца і некуды пайсці, а я табе, хоп, дастаю пачак алоўкаў. Мы раскладваем іх у карабок, раўняем. Ты выкідваеш назад, зноў раўняем, складваем.

Сярод алоўкаў знаходзім шарыкавую ручку, я падсоўваю табе чысты аркуш паперы, і ты малюеш на ім першую сваю карціну.

На ёй — шмат рысачак у розныя бакі. Калі прыгледзецца, то можна «ўбачыць» што хочаш: бараду, венік, лісце, галінку, асобныя літары. Але нічога гэтага ты не меў на ўвазе, калі вольным стылем разкалякваў чыстую паперу.

А яшчэ табе спадабаліся мае ключы. Ты падышоў да дзвярэй і пачаў у кожную заклёпку «ўтыркваць» ключык. Пакручваў той ключык туды-сюды і нешта бубнеў-гудзеў. Ды раптам у дзверы пазванілі, вярталіся з магазіна бацькі. Ты ўздрыгнуў ад радасці. Атрымалася, што ты адкрыў ім! Божа, ты ўвесьператварыўся ў сонечны зайчык. Ты сустрэў сваіх, ты амаль крычаў: «Ма-ма!.. Та-та!..»

Я быў таксама рады, бо здаў вахту без тваіх слёз, вытрымаў экзамен выхавальніка. Ведай, Толік, у гэтым заслуга не толькі мая. Ты падмог мне выканаць даручэнне бацькоў. Дзякуй! Ты клёвы сябрук.

*А я — твой улюбёнец*
*6 лістапада (нядзеля)*

**50**

Дарагі наш ласунок!

Табе да гэтага часу смачнае маміна малачко. Пацягваючы яго, сцішваешся і засынаеш. Шчаслівая мама радуецца. Хай жа яе гаючы напой пойдзе табе на здароўе, умацуе цябе на ўсе гады жыцця.

У твой рацыён, Толік, паступова ўваходзяць іншыя стравы. Прыемна, што табе, беларусіку, падабаецца, як і ўсім нам, бульба вараная, бульба-пюрэ. Любіш кашку рысавую, амлет, кефір, ёгурты, гародніну, бананы, вафелькі.

А кукурузныя палачкі — твой самы галоўны далікатэс. З аўцюкоўскай цікаўнасцю назіраў, як ты цягаў і хрумстаў тыя палачкі.

Мама, відаць, знарок паклала каробку ў пакет і як бы забылася пра яго. Ты ўбачыў знаёмую заманку, падышоў да табурэткі, засунуў руку ў каробку і пачаў шарыць там. Ты б бачыў, як бегалі твае вочкі, якім таямнічым быў твой тварык. Урэшце ты выцягнуў з паўпустой каробкі кукурузную палачку, хуценька ўкінуў яе ў рот. Яна захрумсцела на тваіх вострых зубках. А тым часам твая рука шуганула зноў у каробку. Па самы локцік засунуў яе туды і зноў пачаў адшукваць смакату.

Я забавіў цябе цацкамі, кніжкамі, музыкай. Але не вельмі надоўга. Ты, відаць, не выпускаў з галавы, што на кухні ляжыць таямнічы пакет з каробкай, а там твае любімыя хрумкі. Ты часта тупаў туды і вяртаўся з набітым ротам кукурузных палачак.

*Добрага апетыту табе, унук!*
*7 лістапада 2006 г. (панядзелак)*

**51**

О, Талян!

Давай запомнім сённяшні дзень.

Субота. Лістапад.

Цёпла. Туманна.

Ва ўсяго працоўнага люду — выхадны. І бавяць яны яго найчасцей на канапах, каля тэлевізара.

У 14.30 паказвалі па Першым беларускім канале перадачу «Арбіта жыцця» пра твайго дзядулю Валодзю. Пра мяне гаварылі добрыя словы народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, вядомы мастак Аляксей Кузьміч, паэт Мікола Маляўка, мае сіроты-хрэснікі Герман Артамонаў і Юрый Радзькоў, твая мама Марына і дзядзька Ігар, а мае — дачка і сын...

Ды справа, урэшце, не ў перадачы і хто, што гаварыў. Галоўнае, ты, Толік, «засвяціўся» ў ёй. Тваю кудлатую галоўку, твой светлы тварык і здзіўленыя вочкі, твае самастойныя крокі — ўсё гэта бачыла Беларусь. Ты быў на маёй «арбіце жыцця». А як бы хацелася ведаць, на якую сваю арбіту вынесе цябе асабістае жыццё. З такімі думкамі дажываю дзень, прымаючы дзясяткі тэлефонных водгукаў ад самых розных людзей, якія паглядзелі перадачу.

І яшчэ думаю: на якую б арбіту не ўзнімаўся чалавек, а для справаздачы ён абавязкова спускаецца на зямлю. Не ён, а людзі ацэньваюць яго палёт і вышыню. Гісторыя вырашае, якую старонку сваёй кнігі адвесці таму ці іншаму чалавеку, згадваць пра яго ці выкрасліць з памяці.

Цяпер, Толік, я пішу для такіх як ты і крыху большых кнігу пра паэта-генія Янку Купалу. Калі ён загінуў, мне было ўсяго два годзікі. Я зараз нанава прапускаю праз сябе яго жыццё, творчасць. Мне хочацца разгадаць таямніцы яго бунтоўнай душы, сакрэт яго мужнасці, яго няскоранай вернасці беларушчыне.

*Твой дружок-піражок*
*25 лістапада 2006 г.*

**52**

Дарагі Анатоль!

У першых радках свайго пісьма, так калісьці пачынаў свае лісты мой бацька Сцяпан, паведамляю, што я жывы і здаровы, чаго і табе жадаю. Яшчэ паведамляю табе, унук, што я з радасцю сустракаю кожны дзень жыцця і пастаянна помню, што ты ў нас ёсць. А сустрэчы з табой — свята душы.

Вось і сёння адклаў усе справы і прыехаў да вас у Сухарава. Ты сустрэў дзеда, як даўняга знаёмага, як радню. Адразу пайшоў на рукі. Шырока ўсміхнуўся, калі я падняў цябе пад столю. І тут жа прадэманстраваў, што ўмееш рабіць.

Па Машынай камандзе ты сеў, пасля лёг, устаў. Па мамінай просьбе ўключыў музычны цэнтр і ўставіў касету, а калі загучала музыка, пачаў смешна прысядаць, круціць попай і размахваць рукамі. Тата Лёня закручваў адвёрткай нейкую шрубу, ты й да яго прыстроіўся. Узяў у рукі інструмент і пачаў таксама як бы нешта закручваць.

Пацешыў ты нас усіх, Толік. Усё разумееш, вось толькі слоў мала. Вырываюцца гукі «ма», «ба».

Мама адрэзала твае закручастыя валосікі, і ты цяпер выглядаеш больш дарослым, самастойным. Словам, у хаце з'явіўся мужычок, хлопчык-гаспадарык. Любіш у шафах навесці парадак. Падабаюцца машынкі, піраміды-складалкі, мыльныя шарыкі.

А самае галоўнае — мама адлучыла ад свайго малачка. Ты і без яго моцна заснуў. І адбылося гэта ў твой год і пяць месяцаў. Віншую цябе, Толік, з самастойным крокам у жыцці.

*Твой летапісец*
*3 снежня 2006 г. (нядзеля)*

**53**

Шаноўны Пупсік!

Вось і яшчэ адзін Новы год мы адзначаем з табой разам. На вуліцы цёпла. Няма снегу. А ты прыехаў да нас у боціках, чорныя з белымі плямамі. Насіў па кватэры, паказваў усім сваю абноўку. Куртка, світарок, калготкі — усё як бы вядомае, знаёмае, а вось боцікі — навіна.

Гаворыш мала, але вочкі разумныя, кемлівыя. Можна здагадацца, чаго хочаш, што падабаецца табе, а што не вельмі.

Паслухмяны. Падаў мне ручку, і мы пайшлі ў мой кабінет. Пацешыліся новымі цацкамі. Пакачалі адзін аднаму шарыкі. Будавалі з шахмат вежы. Я ладзіў іх, а ты азартна бурыў. Хай сабе і так, але ведай, дружок, Герастрату было лягчэй, чым вялікім і цярплівым талентам-майстрам.

Пакой, дзе мы гуляем, напоўнены сусветнымі навінамі. Расія завышае цану на газ для братоў-беларусаў. Памёр прэзідэнт Туркменіі. Іракскага прэзідэнта павесілі. У Грузіі снегу навАліла па калена. У Амерыцы — навадненне, вада пайшла на людзей. Во, браток, якія пірагі ў свеце.

А на нашым святочным стале сапраўдныя пірагі. Еш, хоць пуза расперажы: качка тушаная, адбіўныя са свініны, бульба-пюрэ, бутэрброды з чырвонай ікрой, салат з агародніны, грыбы нарачанскія, рыба запечаная, вяндліна, каўбасы, сыр, халадзец, гуркі марынаваныя, капуста квашаная, масліны, мандарыны...

Табе ж даспадобы кашка, сок, банан. Нашпокаўся, аж жывоцік з-пад світарка вытыркаецца. Памахаў усім ручкай, пайшоў гуляць у суседні пакой. А я за табой, як нітка за іголкай. Хочацца гуляць з табой, хочацца ўявіць такім жа сябе самога перад вайной...

Жадаю, Толік, каб ты патраціў свае жыццёвыя рэсурсы толькі на раскрыццё сваіх генных здольнасцей. Хай цябе мінуюць войны, беды, катастрофы, хваробы, тытунь, п’янь, нарката. Павер, у жыцці шмат Божай асалоды, любові. Адшукай іх і наталіся, як пчолка нектарам. Нашчадруйся сонечным цяплом, і сам стань сонейкам.

А за карціну, якую ты адбацаў мне за некалькі секунд — нізкі паклон.

*Заўсёды твой*
*01.01.07 г.*

**54**

Мой любы Тэпала!

Ходзіш-блукаеш па дзедава-бабінай кватэры. Табе ўсё цікава: дзе выключальнік, якія люстры, якія карціны на сценах. Асобны інтарэс да сувеніраў у маім кабінеце. Іх — мора, з усяго свету, з кожнай вандроўкі. Яны — мая памяць. Яны — твае адкрыцці.

Ты, Толюсь, вялікімі вачыма разглядваеш званочкі, ракавінкі, статуэткі. А я здзіўлена разглядваю цябе, як іншапланецяніна. Не было хлопчыка ў сям'і Ліпскіх ды раптам з'явіўся. З замілаваннем пытаюся ў цябе:

— Толік, ты — шмолік?

Ты ківаеш галоўкай у знак згоды, і з цябе вылятае гук, падобны на «ага».

Пагадзіўся, што ты — шмолік. А я і сам не ведаю, што гэта азначае. Проста ты смешны, забаўны, нізенькі.

Ідзём з табой у спальню. Я адпусціў руку. Ты пабег. Зачапіўся ножкай за дыванок на паркеце. Упаў. Цярнуўся шчочкай аб калючы ворс дывана. Можна і заплакаць. А ты павольна падымаеш галоўку. Тварык сурьёзны. Ацэньваеш абстаноўку: плакаць ці не? І ўсё-такі вытрымаў, не праслязіўся. Дзякуй, мужычок! Хай слёзы застануцца на больш крыўдны боль.

Мама кажа, ты навучыўся адчыняць і зачыняць дзверы. Віншую! Навучыся толькі з часам адрозніваць дзверы добрых людзей і нячысцікаў, дзверы, дзе цябе чакаюць, і дзверы, адкуль цябе гоняць. Жыві і век вучыся!

*Твой дзед*
*07.01.2007 г. (нядзеля)*

**55**

Дарагі Толік!

Хацеў напісаць табе пра ўнікальную з'яву прыроды. У сярэдзіне зімы — цёпла, як вясной. А пад Новы год у Белавежскай пушчы людзі збіралі грыбы. Такога яшчэ, здаецца, не было на маім вяку. А што будзе на тваім? От, цікава, от, хочацца зазірнуць у далёкую будучыню. Ты шчаслівы, яна табе свеціць рэальнасцю.

Бачыш, хацеў хваліць цёплую зіму, аж тут яна ціскануда ўсіх нас маразамі. Давай выцягваць з шафаў шапкі-вушанкі, цёплыя боты, дублёнкі. От, і слухай старых: «Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш».

Нядаўна званіў вам. Мама Марына перадала табе трубку. Я паздароўкаўся з табой, расказаў пра маразы, спытаў, як ты пажываеш. Сапеш у трубачку, толькі і сказаў: «Да, да». Дзякуй табе і за гэта.

Разглядваю твой новы малюнак мне. Ты яго зрабіў за якую хвіліну. Не магу надзівіцца. Здавалася, простыя рысачкі, лініі, загагуліны, павароты, а можа, гэта дарогі-шляхі, а можа, гэта траекторыя нейкага невядомага яшчэ касмічнага апарата, а можа, гэта лініі твайго лёсу? І што азначаюць фіялетавыя, зялёныя, чорныя колеры ў тых шляхах?

Бач, пра што можна дадумацца, калі доўга разглядваць твой малюнак. Таксама, браток, і ў жыцці. Калі пазіраеш на ўсё натхнёнымі, радаснымі вачыма, то і бачыш радасныя малюнкі. Хочаш засмуціцца, успрымай усё раздражнёна, пазірай на свет праз цёмныя акуляры. Не рабі так ніколі, унук! Хай у радасць табе будзе кожны міг зямнога раю. Тады больш чаго паспееш зрабіць у жыцці.

Наматай на «вус» вось такую інфармацыю. Французскі кампазітар і піяніст Каміль Сен-Санс у два з паловай гады пачаў іграць на раялі. Кампазітар Аляксандр Даргамыжскі падбіраў пачутую музыку на пятым годзе жыцця, а гаварыць пачаў позна — толькі ў шэсць гадоў. Аляксандр Пракоф'еў у дзевяць гадоў сачыніў першую оперу. А Сяргей Рахманінаў у дзевяць гадоў пераступіў парог Маскоўскай кансерваторыі.

Думай, дружок, а я на гэтым развітваюся з табой. Іду чытаць Янку Купалу, пра якога пішу кнігу. Хочацца, каб яна калі-небудзь стала для цябе жыццёвым урокам.

*Твой дзед*
*27.01.07. г. (субота)*

**56**

Мой сонечны хлопчык!

Ты сёння наведаў нас, дзеда і бабу. Я сустракаў вас каля цырка. Ухапіў цябе з маршруткі на рукі. Верабейчыкам цёплым прымасціўся ля маіх грудзей і пачаў круціць галоўкай. Табе заманліва зірнуць на цыркавую рэкламу з размаляванымі клоўнамі, на зіхатлівые ліхтары, на вялізны гадзіннік. Асаблівую цікаўнасць у цябе выклікалі машыны-легкавушкі, грузавік-снегавік, трактар. Паказаў пальчыкам, дзе стаіць дом дзедаў. Сам націснуў на кнопку ліфта.

Цэлы дзень я хадзіў за табой. Каб жа ты ведаў, як хораша быць у тваёй аўры!

На табе — чырвоны світарок, штонікі сівыя, чаравічкі светлыя. Яны маячылі цэлы дзень па ўсіх пакоях. Ты добры, усмешлівы, паслухмяны. І, здаецца, разумны. Што ні скажаш табе, усё даходзіць. Толькі вось мала слоў выгаворваеш. Але гэта не бяда.

У жыцці, унук, важна навучыцца і маўчаць. Вось як гэта ўмеў рабіць Янка Купала. Маўчаў, думаў, у размову ўстаўляў рэдкія словы. Аднойчы да яго зайшоў паэт Максім Лужанін. Сядзелі, маўчалі. А на развітанне Янка Купала сказаў яму:

— Дзякуй, што памаўчаў са мной. Удвух і маўчаць лягчэй. Хоць і не гаворыш, а ўсё ж як быццам раішся...

Я пазіраў на цябе, Толік, і раіўся з табой: якой будзе Беларусь заўтра, кім ты вырасцеш, ці будзеш шанаваць дзеда, які цябе нёс на руках, ці запусціш у душу мову, на якой я пішу, гавару, думаю, якая пануе ў маёй душы?

На развітанне ты зноў мне намаляваў карціну. Расклаў фламастары, якія прывёз з сабой, выбраў толькі чатыры — чырвоны, сіні, зялёны, светла-карычневы. Накалякаў нейкіх рысачак. Адну завёў ажна ўгору аркуша і загнуў яе ў кручок. Я прасіў цябе яшчэ нешта падправіць жоўтым, чорным, але ты рэзка хітнуў галоўкай, мыкнуў, маўляў, не прыставай, сеанс малявання закончыўся.

Ты, Маша, мама, тата паехалі. Сумую. Мне трапіўся на вочы адзін гараскоп, па якім можна нешта даведацца пра характар чалавека. Запісваеш дату нараджэння, месяц і год, складваеш усе лічбы і па атрыманай суме «чытаеш» хто ты ёсць.

Твая лічба: 2.07.2005 г. (2 + 7 + 2 + 5) = 16 (1 + 6) = 7.

Мая лічба: 6.05.1940 г. (6 + 5 + 1 + 9 + 4) = 25 (2 + 5) = 7.

Наша з табой лічба — 7. Што яна азначае?

Чытаю: «Людзі гэтай лічбы здольны да поспехаў у многіх абласцях. Уладальнікі сямёркі таленавітыя і актыўныя. Людзі з добрым пачуццём гумару».

У мяне ўсё гэта, здаецца, адбылося.

Табе, браток, усяго гэтага трэба дасягнуць. Потам. Працай. Стараннем. Любоўю. Рыхтуйся да выпрабаванняў.

*Твой Уладзімір Ліпскі*
*4 сакавіка 2007 г. (нядзеля)*

**57**

Сёння вялікая радасць наведала маю душу. Прынеслі яе вестуны вясны — шпакі.

Іх, чацвёрку крылатых гасцей, упершыню ўбачыў на дрэве пад акном. Яны сядзелі на самай верхавіне ліпы, на ўзроўні шостага паверха, і чысцілі пёркі.

Элегантныя, падцягнутыя, не тое, што бухматыя вароны. Касцюмчыкі на іх глянцаваныя, чыстыя. Дзюбкі бялявыя. Божа, столькі адмахалі сваімі крыльцамі, каб вярнуцца на радзіму. Яны былі ўрачыстыя, святочныя, вёрткія, іх было чацвёра. Дзве пары. Відаць, адпачывалі з дарогі ды жвава аб нечым раіліся. Можа, аглядвалі Мінск і цешыліся, што ён прыбраны, чакаў іх. Побач — дзіцячы парк са старымі дрэвамі. Там можна будаваць жыллё, выводзіць дзяцей.

Толік, уяўляеш, шпакі прыляцелі!

Вясну прынеслі з сабой. Да нас вяртаецца цяпло, зелень, сонейка. Давай парадуемся ўсяму гэтаму!

Званю, расказваю табе пра свае назіранні, пачуцці. А ты сцішана, цярпліва слухаў. Пасля перадаў гукі, якія нядаўна засвоіў: прамяўкаў, пракукарэкаў.

Мой любы коцік, мой мілы пеўнік, я адказаў табе шчоўканнем-посвістам шпакоў.

*Твой дзед-вястун*
*19.03.07г. (панядзелак, 10.00)*

**58**

Панятлівы ты мой!

Сёння амаль што пагаварылі з табой. Першы наш дыялог. Марына і Маша падказалі, як задаваць табе пытанні. І вось якая размова атрымалася:

— Як маму завуць?

— Ма-ма.

Дзіўна, калі цябе просіш сказаць слова «мама», — маўчыш. А вось як завуць маму ведаеш. Гэтак жа і з бацькам.

— Толік, як твайго тату завуць?

— Па-па.

«Мама» і «папа» вымаўляеш пяшчотна, тонкім галаском, як бы падкрэсліваеш гэтым сваю любоў да іх.

— Толік, а я хто?

— Во-ва.

Канечне, на словы «Валодзя», «Уладзімір» пакуль не хапае «пораху». Але я бязмежна ўсцешаны. Разумовы камп'ютар твой падключаны да жыццёвай высакавольткі і ўжо выдае першыя крышталікі вопыту. Слова «Вова» ты пачуў раней, помніў, да каго яно належыць і ў патрэбны момант выдаў яго па адрасе. Віншую цябе, мой дарагі адкрывальнік.

— А ты хто, Толік?

— Я-я! — бадзёра адказваеш і бяжыш да машынкі, якая можа шустра лётаць па пакоі.

Пасля цябе зацікавіла звязка ключоў. Ты ўзяў іх і пайшоў да дзвярэй. Паказваеш, каб падсадзіў цябе да замка. Стаўлю табурэтку, а на яе — цябе. Ты доўга і засяроджана перабіраеш ключы. Знаходзіш патрэбны і ўстаўляеш

у замочную шчыліну. Вочы твае зіхацяць ад радаснай перамогі. А мае зіхацяць — ад тваёй кемлівасці.

Слоў у цябе мала. Карыстаешся мовай жэстаў. Можна беспамылкова давендацца, што ты будзеш есці, а што не. Ківаеш галоўкай у знак згоды і хітаеш у бакі, калі хочаш адмовіцца ад прапановы.

— Куды пойдзем?

Паказваеш у бок кампю'тара.

— Падсадзіць на крэсла?

Ківаеш галавой.

Націскаеш на клавішы. На экране нічога няма, і ты здзіўлена працягваеш ручку да мяне. Маўляў, што ў цябе за бандура, не працуе яна ці што?

От і пагаварылі. От і паразумеліся.

Як жа цікава з табой гуляць, забаўляцца. Шкадую толькі, што рэдка бачымся. Апошнія месяцы быў страшэнна заняты. Дапісваў кніжку для дзяцей пра Янку Купалу — «Янкаў вянок». Рыхтаваў юбілейную праграму «Вясёлкі». Нашаму дзіцячаму часопісу споўнілася 50 гадоў. А ў ім я галоўным рэдактарам ужо дваццаць восем гадоў. Падрасцеш, браток, прачытаеш «Янкаў вянок», пачнеш выпісваць «Вясёлку» і табе стане зразумелым, чаму дзед рэдка завітваў да цябе.

Гуляйся і налівайся мудрасцю. Вельмі чакаю той часіны, калі мы з табой зможам пагаварыць на любыя тэмы. От і будзем вывяраць нашы кампю'тары на жыццёвых хвалях.

А пакуль што — бывай!

*Твой дзед Вова*
*30 красавіка 2007 г. (панядзелак, выхадны дзень, Узгор'е-2)*

**59**

Толік!

Ведаеш, чаму я табе зайздрошчу?

Ты малы — можаш вырасці.

Ты не ўмееш гаварыць — навучышся.

Ты можаш стаць кім хочаш!

А я ўжо той, хто ёсць. Маю тое, што маю. Хаду не выправіш. Вочы не абвострыш. Слых не надточыш. Ссівелыя валасы не пачарнеюць. Лысіну не зменшыш.

Вось толькі розум светлы і душа маладая. Чаго і табе жадаю ў твае 67 гадоў!

Гэта кароценькае пісьмо адрасую табе ў свой дзень Анёла, у свой дзень народзінаў. Мяне цэлы дзень віншавалі самыя розныя людзі, з самых розных гарадоў — Мінска, Гомеля, Віцебска, Рэчыцы, Салігорска, Лагойска, Міргарада, Калінкавіч, Калінінграда...

А я ведаеш пра каго цэлы дзень думаў? Пра сваю Маму Марыю. Яна дала мне жыццё! Я — тваёй маме Марыне. Яна — табе. За сваю Маму малюся. Ёй — лепшыя мае словы і ўсё дыханне душы. «Родная мая, святая мая! — крычу ў яснае неба. — Я люблю цябе!..»

Ва ўнісон маіх пачуццяў быў тост твайго бацькі. Хачу, Толік, каб ты запомніў яго і з часам зразумеў. Лёня сказаў коратка, але важка:

— Вы, бацька, бязмежна любіце жыццё. Хай жа гэтак верна жыццё любіць Вас. І хай жа гэта любоў доўжыцца вечна!..

А ты, Толік, падчас гэтага мудрага тоста бегаў па кватэры і клікаў мяне, Вову, гуляць у хованкі.

Я хачу знайсці цябе, ты — мяне. І абодва мы хочам быць у дзень Юр’я пераможцамі, верхам на кані. Гульня вартая сапраўдных мужыкоў.

Бывай здаровы!

*Твой дзед*
*6 мая 2007 г. (нядзеля)*

**60**

Анатоль!

Ні з таго, ні з сяго цэлы дзень думаю пра зуброў. Яны самыя старажытныя звяры ў нашых пушчах. Ходзяць важна, павольна. Ведаюць сабе цану. Не растрачваюць дарэмна сілы. Пазіраюць на людзей з роздумам, як бы з адным і тым жа запытаннем: «Што робіце, каб мы выжылі, захаваліся?..»

Жуюць траву няспешна, быццам прыслухоўваюцца да яе смаку і параўноўваюць, якой была яна ў іх дзяцінстве.

Мускулістыя, барадатыя зубры нагадваюць мудрых дзядоў, якія пабачылі свету, даволі патапталіся па зямлі. Такім дзядам можна верыць. Яны ўмеюць разважаць разумна. Не лянуюцца, калі трэба, падставіць сваё плячо. Гатовы падзяліцца апошнім рублём. О, маладым «зубрыкам» усяму гэтаму трэба яшчэ вучыцца!

Жывуць на зямлі зубры і дзяды. І мне здаецца, усім ад гэтага спакойней. Яны могуць пракладваць дарогу. Могуць быць надзейным тылам. Хлопцы, звяртаюся да цябе, Толік, і да ўсіх хлапчукоў Беларусі: «Давайце берагчы зуброў і дзядоў! Яны — жывая гісторыя. Яны нясуць у сабе памяць пражытых гадоў. Яны — ваш падмурак, на якім узводзіць вам свой зямны рай. Хіба ж ён будзе раем, хіба ўтрымаецца, калі рухне падмурак?!»

Сядлай, Толік, дзеда-зубра, і я гатоў адкрыць для цябе ўсё, што сам спазнаў за пражытыя гады.

Заставайся здаровенькі і з цікаўнай душой.

*Твой дзед, які са смакам з’еў абед.*
*9 мая 2007 г. Дзень Перамогі*

**61**

Мой слаўны сябручок!

З акна вашай кватэры бачна, як узводзяць новы дом. Ты любіш назіраць за будоўляй. А нядаўна здзівіў маму. Вось якая размова атрымалася паміж вамі:

— Толік, што за акном ты бачыш?

— Кан.

— Дзе ён?

— Там.

— Што ён робіць?

— Дом.

О, мой хорошы, віншую цябе з новымі словамі. А найбольш дзіўлюся з тваёй назіральнасці. Правільна, унук, умей усё-ўсё бачыць і заўважаць вакол сябе.

Вось я толькі што прыехаў з дачы і магу пахваліцца ўбачаным.

Назіраў, як павук, устрывожаны маім капаннем у цяпліцы, ратаваў свой скарб — белы шарык з зародышамі дзетак. Ён цягнуў «радзільню» ўгору,

падаў з ёй, аслабелы. Зноў і зноў паўтараў узыход па металічным слупе. Ён адчуваў трывогу. Яна прымушала яго ўцякаць з ціхага седала. І ён з усіх сіл ратаваў сваіх нашчадкаў.

А яшчэ, Толік, бачыў дразда, які сядзеў на электраслупе і пра нешта шчоўкаў, хрыпеў і драў голас. Птушка шэрая, вялікая, дзябёлая. От цікава, пра што дрозд спяваў на ўзыходзе сонца?

Мяне здзівіў бухматы чмель. Толькі-толькі распачаўся новы дзень, а ён ужо вылецеў з цёплага гняздечка, можа, каб шукаць харч для дзетак, жонкі, а можа, проста, каб размяць крылы. Але ж вельмі ранні руплівец. У такую рань нават пчалу-стаханаўку не ўбачыш. Стракозы спяць. Нават мурашы ў сваіх «стажках» не высоўваюцца, апроч варты, канешне.

Пабумкаў чмель каля майго вудзільна і паляцеў сваім маршрутам, аднаму яму вядомым. А я пачаў напружана сачыць за паплаўком, які нехта пачаў пашавельваць. Так і ёсць — прачнуўся карась. І я выцягнуў яго, заспанага, на бераг. Цяпер ён разам са сваім дружком жывуць у маёй бочцы з вадой. Я ім туды кінуў зямлі, каб мякчэй было спаць. Назапасіў ім хлеба, дажджавых чарвякоў. Хай гадуюцца!

Прыедзеш, Толік, на дачу, мы зловім рукамі карася, вялізнага, што парася. От будзе радасці і табе, і мне!

Дык бачыш, колькі ўсялякага дзіва адбылося са мною ў выхадны дзень. Давай і надалей нястомна адкрываць вакол сябе белы свет. Ён такі вядомы ЎЖО і такі ЯШЧЭ невядомы. У ім столькі тайнаў, што хопіць на ўсіх, хто пажадае іх пазнаць.

Бывай і мяне не забывай.

*Твой сябар*
*14 мая 2007 г. (панядзелак)*

**62**

Наш дарагі Гаварун!

Твой галасок усё больш вызвоньваецца зразумелымі словамі. Яны кароткія, простыя, але блізкія табе. І ў іх — цэлы твой свет.

У слова «мама» ўкладваеш і просьбу, і покліч, і радасць, і трывогу. «Мама» — пачатак тваёй мовы, разумення ўсяго, што наўкол. Вось чаму, відаць, і Маша, твая сястрычка, для цябе таксама «мама». А з мамай выпеставаны новыя словы — «ам», «бах», «дай», «на», «во», «ма», «батон», «банан», «кока».

Упоравень з галоўнай тваёй выхавацелькай і карміліцай ты ставіш тату. Таму другім у тваёй мове стала слова «тата». З блізкай радні вылучыў «бабу», «дзядзю», «цёцю» і мяне — «Вову». За што табе асабісты дзякуй!

У тваім моўным «рэпертуары» яшчэ некалькі слоў: «цік-так» (гадзіннік), «кап-кап» (дождж), «топ-топ» (Толік ідзе ці пойдзе некуды), «гаў» (сабака на вуліцы), «гога» (голуб, ручкамі паказваеш, як птушка ляціць), «буль-буль» (вада ў кране), «кака» (смецце на падлозе), «бах» (нешта ўпала ці ты сам). Сябе называеш — «я». Вымаўляеш гэту літару з шляхецкім гонарам:

— Як Толіка завуць?

— Я!

Гэта «я» гучыць ў цябе выразна, моцна і крыху здзіўлена: «Хіба ты не ведаеш, што Толя — гэта я, Анатоль Ліпскі!»

Вось так імкліва ты ўваходзіш у жыццё. І падумалася мне, што, можа, наступіць часіна, калі мой унук Толік захоча напісаць мне свае пісьмы. Першы

том — мае лісты да цябе. Другі том — твае да мяне. Пра што ж табе захочацца пагаварыць са мною, што расказаць, аб чым параіцца, што папрасіць? От цікава... От бы дажыць да тваіх пісьмаў... І пачытаць іх...

*Твой дзед Вова, які чакае твайго Слова.*
*30 мая 2007 г. (серада)*

**63**

Мой слаўны Унук!

Роўна месяц да твайго новага юбілею. Табе споўніцца два гады. Божа, зусім нядаўна ты нарадзіўся, а зямля ўжо завяршае свой другі круг вакол Сонца. Во колькі ты накатаўся на нябесным караблі. А калі сюды прыплюсаваць зямныя дарогі — на маміных руках, у калясцы, на татавай машыне, на гарадской маршрутцы, — то цябе можна смела прыпісваць да сапраўдных падарожнікаў.

Рух — гэта жыццё. І ты ўваходзіш у яго непаседам, вертунком, хлопчыкам-жыўчыкам. А мне сёння хочацца супыніць цябе, усадзіць насупраць і сказаць нешта сур'ёзнае. Набярыся цярпення і выслухай.

Усіх-усіх людзей, якія жывуць на Зямлі, можна падзяліць на дзве катэгорыі. Адны ўзводзяць, будуюць, майструюць нейкі храм-будынак. Ці то духоўны, ці матэрыяльны, ці творчы. Ён застанецца помнікам па іх. А другія — капаюць сабе магілу, укарочваюць сабе жыццё п'янствам, гульбой, зайздрасцю, грахоўнасцю...

Карацей, на свеце жывуць толькі два чалавекі. Адзін — стваральнік, другі — разбуральнік. Адзін — ясны дзень, другі — чорная ноч. Адзін жыве па Божых запаветах, другі — выконвае каверзы д'ябла...

О, пра гэта можна гаварыць доўга-доўга. Пра гэта напісана мноства кніг, зроблена шмат фільмаў, перададзена з вуснаў у вусны безліч казак, легендаў, паданняў. Але кожны новы чалавек пачынае як бы з нуля, па-свойму. І навука стагоддзяў — быццам кату пад хвост свечка. Мы бяжым, ляцім спазнаць свет і сябе ў ім. Ды не заўсёды карыстаемся памылкамі продкаў. Паўтараем іх альбо робім свае.

Дарагі Толік, хай жа Бог дасць табе розуму далучыцца да тых людзей, якія будуюць помнік сабе. Гэта страшэнна цяжкі і часам няўдзячны клопат. Гэта потная і мазольная праца, ад якой нельга чакаць імгненнай аддачы. Тое, што ты ўкладваеш у тую будоўлю, можа вярнуцца табе нават не пры зямным жыцці.

Зірні ўвысь. Высока ў небе плывуць дзве срабрыстыя аблачынкі. Можа, гэта душы тваіх прадзеда Сцяпана і прабабкі Марыі. Яны ўсё зрабілі, каб твой дзед Валодзя выжыў у ваеннае ліхалецце, каб адолеў пасляваенны голад, каб вывучыўся ў Мінску, каб у яго сям'і з'явілася твая мама Марына.

Павітай, дружа, нябесных вандроўніц-аблачынак. З'ездзі ў вёску Шоўкавічы і пакланіся там градкам, агароду, дубу векавому, лесу, сенажаці, якія некалі кармілі і натхнялі твайго дзеда Валодзю, у якіх засталося жыццё тваіх прадзеда Сцяпана і прабабкі Марыі.

У маім дачным музеі патрымай у руках іх зброю — касу, серп, верацяно, самапрадку, граблі, — і табе захочацца заплакаць над тым «помнікам». Хай у тваёй душы ўзварушыцца спагада, удзячнасць і народзіцца малітва добрай памяці. Гэта і стане тваёй «цаглінкай» у помнік продкам. А значыць, і самому сабе.

*Твой дзед*
*2 чэрвеня 2007 г. (субота)*

**64**

Сонечны Толік!

Сонца на небе стала высокім, спякотным. Лета ўсчалося гарачым. Кожная раслінка-травінка просіць піць. І цябе смага бярэ. Мама спагадліва ставіць на беражок стала пакецік з сокам. У ім тырчыць трубачка. Ты падбягаеш да стала, хапаеш пітво, смачна цмокаеш праз трубачку. І зноў бяжыш. У кватэры ў цябе шмат клопатаў. Трэба зазірнуць у Машын пакой і яе пазабаўляць, а калі дазволіць, панацiскаць на клавішы піяніна. З мамай трэба паўзірацца ў акно, як там будуюць дом, як кран падымае грузы. Трэба пагуляць з канструктарам, пакатацца на сваёй машыне, пацягаць па хаце свой веласіпед. Калі ідзе ў кватэры ўборка, у цябе ёсць свая анучачка. Калі мама палівае кветкі, у цябе свая бутэлечка з вадой. Ды трэба не забыцца пры гэтым паесці ды паспаць. О, гэта толькі здаецца, што ў малых не жыццё, а маліна. На самай справе клопатаў вышэй галавы. Калі гэта разумеюць дарослыя, тады і няма канфліктаў. Я думаю, Толік, цяжкіх для выхавання дзяцей няма. Ёсць цяжкое жыццё ў дзяцей. Дык тут зноў жа дарослыя вінаваты. Гэта з іх «падачы» ў сіроцкіх установах нашай краіны выхоўваюцца звыш трыццаці тысяч дзяцей. Чужых людзей яны называюць «мама», «тата». І ў казённых сценах, цёплых і ўтульных, яны мараць пра дамашні рай.

А яшчэ ёсць шмат дзяцей, якія жывуць толькі з адной мамай, якіх не могуць вылечыць медыкі, якіх крыўдзяць маньякі, разбэсты, чыноўнікі. Не для ўсіх дзяцей лета — час адпачынку і аздараўлення. Ёсць дзеці — наркаманы, бадзягі, п’янтосікі. Божа, крычу ў высокае неба, заступіся за нашых дзяцей, дай ім саспець у нармальны чалавечы плод, падмажы ім выканаць свае зямныя абавязкі!

Цябе, Толік, забіраюць на прагулку. Радасць сонечным зайчыкам ускочыла на твой тварык. На вуліцы, каля дома, цябе чакаюць дзеці-аднагодкі. Там ёсць пясочніца, горкі, мячык. Божа мой, як мала трэба для шчасця. І як, часам, гэтага нечага малога якраз і не хапае і хлапчаняці, і даросламу дзіцяці.

Радуюся, Толік, што ў цябе нічога не праходзіць бясследна. Пасля прагулкі і сну ты з мамай пачынаеш маляваць. Карычневым алоўкам вывеў дрэўцы, зялёным — лісточкі. Мама пытаецца:

— Кветкі будзем маляваць?

Ты ківаеш галавой у знак згоды. І доўга перабіраеш алоўкі. Выбраў фіялетавы, пад колер кветак, якія растуць на клумбе каля вашага дома і якія табе запомніліся. Хай жа ў такім бадзёрым колеры будзе і тваё жыццё!

*А пакуль што — бывай.*
*4 чэрвеня 2007 г. (панядзелак)*

**65**

Мой кучаравы шустрык!

Мама прыхарошыла тваю галоўку. Сама падраўняла нажніцамі твае шаўкавістыя кудзеркі. І ты ад гэтага пахарашэў.

Прыбірае мама цябе па-моднаму, як сучаснага мінчучка. Усё на табе да ладу: і шорцікі, і кашулька, і туфелькі з вясёлкавымі шкарпэткамі.

А вірлівы жыўчык усё болей праяўляецца ў табе. Проста хадзіць ты ўжо не можаш. Ножкамі перабіраеш шустра, амаль подбегам. А калі на дарозе

перашкода — сцішваеш хаду, хапаешся рукой за сцяну, поручні ці за руку дарослага.

Ты пакуль не можаш доўга засяроджвацца на нечым адным. Хутка мяняюцца твае інтарэсы. Нагой падфутболіў пару разоў гумавы мячык. Тут жа пускаеш у ход машынку. Фыркнуў два разы — не зусім цікава. Просіш у таты ключы і бяжыш да яго машыны. Разам адчыняем дзверцы. Ты куляешся на сядзенне шафёра. Лоўка ўторкваеш ключ ад «газа». Пакручваеш ключ тудысюды. Вочы зіхацяць!

Дый гэтага занятку хапае на хвіліну. Табе ўжо закарцела паліваць кветкі. Хапаеш сінюю леечку, і мы ідзём да крана, набіраем ваду — прапаную палівацы траўку, кветкі ці дрэўца. А табе хочацца памыць цэментаваную дарожку, па якой ты ходзіш. Намачыў сандалікі. Пачаў рукой іх праціраць. А пасля папрасіўся рукі памыць. Во, браток, да якіх нечаканасцей прывяло тое паліванне. Усё, як бачыш, трэба ўмець рабіць толкам, абдумана, а не абы-як.

А яшчэ табе спадабаўся ветрачок. Круціцца, махае пялёстачкамі, гудзіць. Табе ўсё падабаецца, што круціцца і гудзіць.

Вось і камара-званара падпусціў да сябе, дазволіў яму сесці на тварык. І лыгнуў разбойнік тваё далікатнае цельца. Ходзіш цяпер з чырвонай адмецінай паміж вачэй.

Мой хлопчык!

Мы з табой на дачы. Кручуся каля цябе неадступна. Баюся, каб чаго не здарылася з табой. Хачу, каб табе спадабалася на прыродзе.

— Прыедзеш яшчэ да нас? — цікаўлюся.

— Да-а, — адказваеш.

І гэта «да-а» — самы вялікі падарунак дзеду і бабе.

Хай хто едзе на Вячу, а ты да нас, на дачу. Тут цябе чакаюць новыя адкрыцці.

*Твой дабрадзей*
*17 чэрвеня 2007 г. (нядзеля, Узгор'е-2)*

**66**

Талян!

Ты сёння зарабіў першыя грошы ў жыцці.

Ехалі на машыне з дачы. Баба пачала прасіць цябе:

— Скажы «Ніна».

Ты мудра пазіраў на яе сваімі вачыма-вішнямі, як бы дзівіўся: «Вымаўлю «баба», чаго яшчэ трэба?»

— Скажы, Толік, «Ніна», — дамагаецца баба.

— Ніна, — адказваеш ты.

Баба ледзь не праслязілася. Дастала з кашалька дзесяць тысяч рублёў:

— Вазьмі, унучак, зарабіў.

Ты працягнуў ручку да грашовай паперкі, узяў яе, патрымаў хвілінку і перадаў маме.

Усім было весела. Унук зарабіў грошы за новае слова. Ён цяпер ведае, што маміну маму завуць баба Ніна і што ў яе кашальку ёсць грошы. Трымайся, баба Ніна!

А я, унук, хачу нагадаць табе мудрасць маіх дзядоў: чалавек за свае грошы ўсюды харошы, хто з грашыма — той і пан; грошы камяні разбіваюць і муры ламаюць, але ж розуму грашыма не заменіш… Моцна задумайся, Толік, чаму

старыя людзі верылі, што капейка з мазаля ў карысць ідзе. І чаму яны казалі, што няхай прападзе і серабро, калі жыць невесяло.

Узбагачай, Толік, сваю душу не грашыма, а скарбамі дабрыні, міласэрнасці, спагады. І толькі тады адчуеш, што ты сапраўдны багацей!

Будзь жа ім з дзяцінства і ўсё жыццё!

*Твой дзед Валодзя*
*18 чэрвеня 2007 г. (панядзелак)*

**67**

Дарагі Толюсь!

Ты асвойваеш трэці дзясятак слоў. А я чытаю кнігу чалавека, які больш за дзве тысячы гадоў назад праявіў сябе выдатнейшым прамоўцам, майстрам філасофскага Слова. Таго старажытнага мысліцеля звалі Марк Тулій Цыцэрон. За свае 63 гады зямнога жыцця ён агучыў сто пяць знакамітых прамоў у судзе, як абаронца бязвінных. Цыцэрон усё жыццё прысвяціў барацьбе супраць нахабнікаў, бессаромных, бесцырымонных людзей. Бачыш, гісторыя шануе памяць пра гэтага незвычайнага ваяра. Чаму? Ды таму, што ён змагаўся за чысціню душы чалавека. Такія змагары становяцца агульначалавечымі героямі, а іх праца ўзводзіцца ў духоўны помнік гісторыі. Гэта і ёсць вечнасць.

Пасылаю табе, Толік, некалькі цыцэронавых думак. І хай яны стануць табе ўрокамі мудраца, які жыў да нашай эры:

«Лепш сярод лютых звяроў праводзіць свае дні, чым жыць сярод усеагульнага азвярэння».

«У горадзе з’яўляецца раскоша, з раскошы немінуча ўзнікае прагнасць, з прагнасці ўзгараецца дзёрзкасць, ад якой нараджаюцца ўсе злачынствы і ліхадзействы...»

«Трэба трымацца вось якіх правіл: няхай юнак беражэ сваю сарамлівасць і не робіць замах на чужую, няхай не растрачвае бацькоўскае дабро, не разараецца ад ліхвярства, не робіць замах на чужы дом і гонар, не ганьбіць бязвінных, не пляміць бязгрэшных, не няславіць добрых людзей, не пагражае насіллем, не шкодзіць вераломствам, цураецца цёмных спраў».

«Хто сапраўды мудры і мужны, той у жыцці шукае подзвігу, а не ўзнагароды за подзвіг... Найвялікшая з узнагарод — гэта слава: толькі яна суцяшае нас у кароткачасовасці жыцця памяццю нашчадкаў; толькі яна нам дае ў завочнасці — прысутнічаць, у смерці — жыць; толькі па ёй, па яе прыступках людзі быццам уздымаюцца да небажыхароў».

Вось, Толік, якая мудрасць дайшла да нашых дзён, і кошт на яе высокі. Разгадай калі-небудзь тайну жыццёвай славы чалавека, які жыве і ў нашай памяці пад знакамітым імем Марк Тулій Цыцэрон.

А пакуль што спакойнай ночы. На маім гадзінніку пачатак новага дня.

*Твой*
*20.06.07 г. (серада)*

**68**

Наш Трубач!

Маша расказала мне:

— Раніцай мама з Толікам разбудзілі. Прыходзяць у пакой. Мама кажа: «Пачынай!» Толік і задудзеў.

Тая чырвона-жоўтая дуда — цацачная. Але з яе можна выдуць гукі, ад якіх не ўлежыш у пасцелі. Такім дударом і стаў ты, як займеў музычны інструмент.

Пазней ты мне паказаў, як трэба дудзець. У цябе выдуваюцца розныя мелодыі: і танцавальныя, і напеўныя, і рэзка-трывожныя.

— Толік, дай пайграць, — прашу ў цябе вясёлую забаву.

А ты не скнара. Просіш, дык на, атрымлівай. Бяру тваю дуду і спрабую зварганіць нейкую мелодыю, накшталт: «Тра-ля-ля, тра-ля-ля, мы вядзём з сабой ката, чыжыка, сабачку, зайку-забіячку...»

Ты задаволены маімі поспехамі, усміхаешся, але тут жа забіраеш цацку. Маўляў, пагуляў і хопіць, мне самому трэба дудзець. А я і не крыўдую. У кожнага сваё хобі. Бяру вуды і бягу да сажалкі. Там чакаюць мяне карасі.

Бывай, музыка!

Чакай з уловам!

*Твой дзед*
*23.06.07 г. (субота, Узгор’е-2)*

**69**

Толік-адкрывальнік!

Хачу засведчыць такі выпадак на дачы. Праціскаюся цераз крапіву за хлявок. Там у нас — дровы, дошкі, угнаенне, вёдры. Табе, Толік, наказаў, каб чакаў мяне каля кітайскага лімонніку.

Шукаю патрэбную рэч, міжволі кінуў позірк у той бок, адкуль прыйшоў, а ты з-за вугла хляўка выглядваеш. Божа, пралез цераз пякучку-крапіву за мной.

Я пахаладзеў: што будзе ад тваёй мамы, калі даведаецца, што ты такі «бесхозный» са мной? А яшчэ я быў уражаны тваімі вачыма. Яны, здаецца, былі ў цябе на ўвесь тварык. Ні носа, ні рота не бачыў — адны вочы. Вялізныя, цёмныя, блішчоныя. Яны зіхацелі ад задаволенасці. Яшчэ б: адолеў цяжкі шлях, знайшоў дзеда Вову.

Хлопчык мой вірлавокі!

Ведай, вачыма можна адчуваць і ацэньваць, свяціць і стрыгчы, адкрываць і пранізваць, песціць і асуджаць. З вачэй могуць сыпацца іскры. Можна бегчы за вачыма, і нават вокам не маргнуўшы. Вочы ўмеюць быць на мокрым месцы, на патыліцы, могуць разбягацца, вылазіць, вылупліваца. Вочы бываюць добрыя, ліхія, пільныя, свежыя, затуманеныя, слязлівыя, усмешлівыя.

Мне запомніліся твае вочы — вялікія на ўвесь тварык. Хай жа заўсёды будуць у цябе здзіўленыя вочы. І ты тады шмат чаго новага ўбачыш!

*Твой дзед Вова.*
*24.06.07 г. (нядзеля)*

**70**

Дарагі наш юбіляр!

Табе сёння — два гады.

Божа, як мала і як ужо многа.

На млыне двух гадоў ты ўжо багата чаго перамалоў, пераадолеў. Ты стаў

чалавекам, з якім цікава і пагуляць, і пагаварыць, і пажартаваць. Ты нават склаў сваю песню: «Падам-бадам, пададам».

У сястры тваёй Машы была любімая мелодыя «Хопі-я-я». У брата твайго стрыечнага Антона свая — «Фундзя-Фундзя — Кафундзя». А ў цябе — «Падам-бадам, пададам».

Што гэта? Ці хто? Пра што ці пра каго гэта? Чаму ў цябе вырываюцца такія словы? І найчасцей, калі ты ў гуморы, калі бегаеш па вуліцы.

За два гады ты стаў на ногі. Асвойваеш мову. Палюбіў бацькоў і прызнаў радню. Умееш маляваць, дудзець, фыркаць, як машына. Любіш ключыкі. У татавым аўто ведаеш, які трэба ўтыркнуць у дзверцы, які — у каробку запальвання. А ключы ад кватэры так схаваў на дачы, што бацькі ледзь адшукалі. Усе перапалохаліся, як увойдуць у гарадскую кватэру. Адзін ты быў спакойны: маўляў, мне і тут, на дачы, няблага.

У твой дзень нараджэння мы зноў усе на дачы. Мне радасна, што табе падабаецца быць тут, на зямлі, сярод кветак, раслін, кустоў. Ты бачыш, як цвітуць гуркі, памідоры, як спеюць ягады. Ты любіш пагаспадарыць з лапаткай у пяску. Табе хочацца паліваць траўку. От і правільна, мой слаўны мужычок, вучыся змалку разумець, адкуль усё з’яўляецца ў магазінах, у халадзільніку.

А калі палілі ў печы, ты не адыходзіў ад мяне. Падаваў паленцы, паперу на падпал. Не зводзіў вачэй з агню. Табе падабаўся яго танец, яго ласкавае цяпло. Печ, браток, гэта гаспадыня ў хаце. Яна і абагрэе, і абсушыць, і накорміць. У яе цяпле можна бачыць прыемныя сны.

На твае імяніны мы, дарослыя, накрылі стол пад яблыняй. А той стол майстравалі ўтрох: ты, твой бацька і я. Селі дружна за яго Ліпскія — дзед Вова, баба Ніна, мама Марына, тата Лёня, сястра Маша, дзядзька Ігар. Пад шампанскае, каньяк і шашлыкі гаварылі прыгожыя словы пра цябе, другачка, і ты, здаецца, быў на вяршыні радасці. Хай жа, унук, у тваім жыцці будзе паболей такіх слаўных дзён!

*Твой дзядуля Валодзя*
*2 ліпеня 2007 г. (аўторак, выхадны дзень, Узгор’е-2)*

***Працяг будзе.***

**S**



Віктар ШНІП

# БАЛАДЫ КРЫВІ І ЛЮБОВІ

## БАЛАДА ФРАНЦІШКІ УРШУЛІ РАДЗІВІЛ (1705—1753)

Жонка князя, паэтка, красуня, княгіня,
Кіраўніца тэатра — і гэта ўсё ты.
Прад камінам сядзіш, і агонь, што ў каміне,
Асвятляе жыццё і да мужа лісты.

Князь ізноўку адзін адлучыўся з Нясвіжа
І не заўтра, стамлёны, прыедзе дамоў,
Разаб'е, як шкляную, нясвіжскую цішу,
Без якой, нібы ружы, каханне й любоў

Не завянуць цяпер, бо слязамі паліты
Па сынах, што малымі пакінулі свет.
Як жанчына, як маці баішся нябыту,
Не баішся нічога — тутэйшы паэт.

І ў «Зялёным» тэатры за замкавым ровам
Пра сямейную вернасць гаворыш людзям.

---

***Шніп Віктар Анатольевіч*** *нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1979) і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1987). Працаваў у часопісе «Беларусь», у газеце «Наша слова». З 1995 па 2004 год быў намеснікам галоўнага рэдактара і галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Гронка святла» (1983), «Пошук радасці» (1987), «Шляхам ветру» (1990), «На рэштках Храма» (1994), «Выкраданне Еўропы» (1996), «Чырвоны ліхтар» (2000), «Воўчы вецер» (2001), «Інквізіцыя» (2002), «Выратаванне атрутай» (2003), «Беларускае мора» (2004), кніг паэзіі і прозы «Балада камянёў» (2006), «Страла кахання, любові крыж» (2008) і інш.*

*Лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага (1987), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2007), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2008).*

І тваё, што ад сэрца прамоўлена, слова
Патрапляе ў людскую душу, як у Храм.

Зоркі ў небе высокім, нібы залатоўкі,
Нібы свечкі, што ў вежы начной, дзе жывеш.
І душа твая рвецца, як птах, у вандроўкі,
І вандруеш, але на радзіме ўсё ж лепш,

Бо тут роднае ўсё і табе ўсё святое —
І застольная песня, і самота магіл.
І Нясвіжу ніколі не станеш чужою,
Бо ты наша княгіня, бо ты Радзівіл…

## БАЛАДА ФРАНЦІШКА САВІЧА (1815—1846)

Першы снег, як чыстая папера,
На якой напішацца крывёй
Шкодны верш пра беглага жаўнера,
Што далёка ад зямлі сваёй
Не забыўся, што такое воля,
Без якой марнеецца душа…
Ты ідзеш, і прад табою поле
Белае, дзе, як глыжы, ляжаць
Чарапы тваіх братоў забітых,
Што шукалі волю і знайшлі
Сонца ў снезе, як крывавы злітак
Сэрца і любові да зямлі,
На якой з’явіліся аднойчы,
Каб з каленяў свой народ падняць,
І глядзець чужынцам смела ў вочы,
І суседзям, як братам, казаць:
«Мы за нашу й вашую свабоду,
Бо свабодны ў гэтым свеце той,
Хто не толькі збавіцца прыгнёту,
А й суседа выведзе з сабой
На шлях вольны…» Прад табой папера,
Быццам снег апошні на шляху тваім.
Ты памёр, ды не памерла вера
У народ, якому ты не стаў чужым…

## БАЛАДА ЛЮДВІКА НАРБУТА (7.09.1832—4.05.1863)

Дубіцкі лес прыціх над рэчкай Котрай
І над табой, забітым, маладым.
І ўслед з крывёй папоўз за шабляй вострай

Вызвольнага паўстання слёзны дым,
Па-за якім засталіся дарогі,
Якія ты, як праз агонь, прайшоў,
І радасці зямныя, і трывогі
Спазнаў далёка ад зямлі дзядоў
На сцежках акрываўленых Каўказа,
Куды прасіў, каб родныя табе
Прыслалі васілёк, і ты адразу
«Бывай!» сказаў бы маладой журбе…
І ты сказаў, вярнуўшыся дахаты:
«Каб волю атрымаць, патрэбна ўстаць
З кален, і будзе край не край пракляты, —
Краіна, за якую аддаваць
Жыццё не грэх, бо гэтая краіна,
Як Божы Храм, адна і назаўжды!..»
Лістотай першай над табой рабіна
Затрапятала. Як агонь, лісты
Табе дарогу ў вечнасць асвяцілі
І Беларусь, якая будзе тут,
Калі яна аднойчы знойдзе сілы
Пазбавіцца спрадвечных пут…

## БАЛАДА БАЛЯСЛАВА КАЛЫШКІ
(7.08.1837—9.06.1863)

Як знак невінаватасці — парваная вяроўка,
Але спакойна кат ізноў нацягвае пятлю.
І сонца над прыціхлай Вільняй божаю кароўкай
З нябёсаў светлых, як з крыла анёла, на зямлю
Перад табою падае і назаўжды знікае,
І ты вісіш, нібы звана нявырваны язык.
І ўжо народ на пляцы — як кулак, які сціскае
Твой сябар, у сабе, як бомбу, затаіўшы крык.
І гэты крык з душы прарвецца і разбудзіць Бога,
І мары светлыя ўсе збудуцца, і праз гады
Твая паўстанцкая не зарасце быллём дарога
Да Беларусі вольнай, нібы да жывой вады…

## БАЛАДА ЦІТУСА ДАЛЕЎСКАГА
(13.05.1840—11.01.1864)

Не баішся нічога, і нават памерці
Не баішся — абрыдзелі цені-віжы,
І штодня ў тваім плача зажураным сэрцы
Родны край, што распяты на чорным крыжы
Еўрапейскіх дарог між Масквой і Варшавай,
Для якіх Беларусь — гэта проста прастор,

На якім растуць бульба, бярозы і травы,
А народ — гэта пыл, што без сонца і зор
Можа быць, можа жыць і знікаць пад вятрамі,
Што на ўсходзе і захадзе вечна не спяць,
А век нашу зямлю засяваюць касцямі,
Каб народ наш з каленяў не змог заўтра ўстаць…

Не баішся нічога, бо не адзінокі.
З Кастусём Каліноўскім да волі ідзеш,
І твой шлях, як у небе халодным аблокі,
Гэткі ж сумны, кароткі, нібыта капеж,
Што пад студзеньскім сонцам, ажыўшы на хвілю,
Зноў заціх, растрывожыўшы сэрцы і сны.
Пад канвоем паўстанцы прывезены ў Вільню,
І пастаўлены з імі і ты да сцяны,
Да сцяны беларускага плачу і гора.
І на снег упадзеш акрываўлены ты,
Ды ніколі не будзе пакорным прасторам
Родны край, для якога ты жыў, малады…

## БАЛАДА ВАНДЫ ЛЯВІЦКАЙ
(25.09.1895—8.12.1968)

Далёка Беларусь — і ўсё далёка,
Што сэрцу міла і душы было.
Па снезе скача за табой сарока,
Збіраючы ў слядах тваіх святло,
З якім прыехала ў Сібір за мужам,
Якога выслалі, бо любіць ён
Радзіму, над якой вароны кружаць,
Аж сонца пачарнела ад варон,
І кроў людская, як вада, ільецца.
Ды кроў людская — не вада, і ты
Любоў трымаеш, як агонь, у сэрцы,
Якую не загубяць халады
Ні душ варожых, ні сібірскіх зімаў.
Па снезе, як па воблаках, ідзеш.
Заходзіць сонца, свеціцца Радзіма,
Як сонца, што не згасне анідзе…

## БАЛАДА МІКОЛЫ УЛАШЧЫКА
(4.02.1906—14.11.1986)

…Ужо з Масквы дамоў не вернешся ніколі,
І твой апошні лістапад, нібыта бог,
Па горадзе ідзе, нібы па лесе й полі,
Не выбіраючы ні сцежак, ні дарог,

Як ты не выбіраў, бо меў адну дарогу —
Любоў да Беларусі, да якой ішоў
Праз чорны снегавей жыцця і праз астрогі,
Душой трымаўшыся за веру і любоў,
За вёску Віцькаўшчына, што знікае й знікне,
Ды застанецца ў сэрцах, курганах сівых
І ў слове родным, што ніколі тут не сціхне,
Чужым не стане ў акіяне слоў чужых…

Апалае лісцё, як золата ад фрэсак,
Ад беларускіх фрэсак з храмаў і званіц,
Што знішчаны і зараслі высокім лесам,
І дзе званы зрабіліся вадой крыніц,
Жывой вадой, якую снег прысыпле ўночы,
І ты памрэш, але не адрачэшся ты
Ад Беларусі, што табе глядзела ў вочы,
Дзе бачыла заўсёды час свой залаты,
Што прыйдзе ўсё ж аднойчы…

## БАЛАДА ВАСІЛЯ ВІТКІ
## (16.05.1911—05.07.1996)

Жыццё — не казка. Казка — як жыццё,
І ў кожнай казцы Беларусь жыве,
Самотная, як восенню лісцё,
Як срэбра павуціны на траве,
І мудрая, як мудрая сава,
І мужная, багатая святлом
І мовай роднай, што ты шанаваў,
Бо ведаў, што без мовы мы памром
І Беларусь памрэ і толькі ў казках
Жыць застанецца на кароткі час,
І будзе гай шумець, і будуць краскі
Цвісці, але ўжо толькі не для нас…

І ты ішоў штодзённа да дзяцей,
Каб Беларусь у іх заўжды была
Не толькі ў казках, а ў душы жыла,
Была душой і вечнасцю людзей,
Якім наш родны край заўсёды мілы
Усім, што ёсць, што будзе і было.
І родны край не стане нам магілай,
Бо родны край — Жыццё, Любоў, Святло…

## БАЛАДА ВАЛЯНЦІНЫ КОЎТУН
## (6.04.1946—30.04.2011)

На зломе вясновай маланкі
Твая адляцела душа…

І сонца ўзышло новым ранкам,
І ўспырхнулі птушкі з крыжа,
І ўсё, як было тут заўсёды,
Пайшло, пацякло, паплыло
У вечнасці мутныя воды,
Дзе ёсць Беларусі святло,
Дзе ёсць Еўфрасіння і Цётка,
Якімі штодня ты жыла,
І ў кнігах, нібы ў белых лодках,
Ты з імі ад сэрца плыла
Да сэрца, якое не здрадзіць
Ні Богу, ні людзям, ні снам.
Калі мову родную страцім, —
Як мове, прапасці і нам.
І ты паўтарала штохвілі,
Нібыта малітву, заклён,
Каб мы родны край наш любілі,
Любоўю ўратуецца ён
Ад здрады, ад гвалту, ад хама,
Што ў кожным смяротным жыве.
Была Беларусь тваім Храмам
І будзе, не знікне ў жарстве,
Бо ёсць Еўфрасіння і Цётка,
Бо ёсць беларусы, і ты,
І кнігі твае, што, як лодкі,
Нясуць нас усіх праз гады…

## БАЛАДА ВІТАЛЯ СКАЛАБАНА
## (5.08.1947—20.08.2011)

Ад Бога планіда — знаходзіць імёны і даты,
Як цэглу старую, з якой будаваўся наш Храм,
Які быў амаль што разбураны ў час той пракляты,
Калі замест Храмаў турма будавалася нам.

І гэтай святою планідай ты жыў для Айчыны
І пылам, і попелам дыхаў, знаходзячы нам
Забытыя творы, нібыта ад Храма цагліны,
Каб чорнай турмой не зрабіўся ніколі больш Храм.

І сонца ўзышло па-над вёскамі і гарадамі,
Як рыцарскі шчыт, за якім стаяў рыцарам ты
З усмешкаю светлай, як роднае неба, з вачамі,
Дзе поўна, як зорак калючых, слязін залатых

Па скарбах, якія не вернуцца ў нашыя хаты,
І што маладым аніколі не ўстаць з курганоў
Закончыць пачатыя справы, а іх жа багата
Было й засталося на шмат адраджэнскіх гадоў,

Дзе слову твайму не згубіцца, а жыць для Айчыны,
І іншай Айчыны для нас не было і няма,
Як гэта, дзе сумныя ў полі бярозы й рабіны,
Дзе лета кароткае й доўгая восень-зіма,

А ў сэрцах вясна, што дае нам надзею, як маці,
Што здзейсняцца нашыя светлыя мары і сны,
І мы ўжо надзею і веру вякамі не трацім,
Жывём у змагарным чаканні сапраўднай вясны.

І ты нечакана пакінуў наш свет, як ад ветру
Патухла найсветлая свечка каля абразоў
І ўміг загарэлася зноўку ад нашае веры
У Бога і край, дзе твая засталася любоў,

З якою заўсёды нам жыць, як ты жыў для Айчыны
І пылам, і попелам дыхаў, знаходзячы нам
Забытыя творы, нібыта ад Храма цагліны,
Каб чорнай турмой не зрабіўся ніколі больш Храм…

# а



Таццяна ПЯШКО

# ВЫПРАЎЛЕННЕ ПАМЫЛАК

Аповесць

## 1

Школа была старая. Яе пабудавалі адразу пасля вайны. Няўмольны час, рамонтныя работы летам у час канікул пакінулі на будынку свой адбітак. Яна як звонку так і ўнутры выглядала не надта ўтульна — шэрыя сцены, цёмныя шпалеры, нямодныя фіранкі. Але і настаўнікі і вучні з такой няўтульнасцю, здавалася, звыкліся, мала звярталі на гэта ўвагі, іншыя клопаты займалі іх паўсядзённае жыццё.

…Быў снежань. Стаялі кароткія дні, пахмурныя. У класах было цемнавата, асабліва пасля абеду. Аднак святла не ўключалі, аб гэтым прасіў дырэктар, заклікаў і настаўнікаў і вучняў быць ашчаднымі. Ён ледзь не штодня хадзіў па калідорах, заглядваў у класы, сам выключаў асвятленне, калі дзе гарэла лямпачка, казаў настаўнікам і вучням: «Хіба ў вас дома ў гэты час святло гарыць?»

З ім моўчкі згаджаліся, сапраўды, калі днём паўсюль уключаны электралямпачкі, хоць гэта і дробязь, але ўсё ж неяк не па-гаспадарску.

За ацяпленнем, расходамі гігакалорый дырэктар таксама сачыў уважліва, таму ў школе іншы раз было халаднавата, вучні і настаўнікі тады хадзілі на перапынках у паліто і куртках, жартавалі, маўляў, загартоўка яшчэ нікому не шкодзіла…

У настаўніцкай, што месцілася на другім паверсе, сабралася з дзясятак педагогаў — тых, у каго цяпер не было ўрокаў: такі час называлі акном, ці фортакай.

Сталы ў гэтым вузкім доўгім пакоі стаялі ў два рады, як парты ў класах. Каля акна адзін рад, ля сцяны, застаўленай шафамі, другі. І настаўнікі, седзячы за сталамі, нагадвалі вучняў за партамі, але калі хто з педагогаў вельмі ўжо сутуліўся, яму заўваг ніхто не рабіў.

---

***Пяшко Таццяна Іванаўна*** *нарадзілася 1 лістапада 1973 года ў вёсцы Каменка Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла СШ № 1 г. Шчучына. Працавала рабочай на заводзе «Аўтапровад». З 1992 настаўніцай у Шастакоўскай, Вялікасельскай, Багушоўскай базавых школах Шчучынскага раёна. З 1997 года працуе ў СШ № 2 г. Шчучына. Скончыла завочнае аддзяленне матэматычнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (1998).*

*Апавяданні і гумарэскі друкаваліся ў часопісах «Першацвет» і «Вожык».*

Насупраць дзвярэй, якія выходзілі ў калідор, ля сцяны стаяла старая канапа. На ёй ноччу спаў вартаўнік, а днём яна звычайна была занятая. Усе ведалі, што канапа прызначалася для начальства і правяраючых, якія маглі завітаць у школу ў любы час без папярэджання.

Дзве жанчыны настаўніцы даволі шаноўных гадоў сядзелі побач за адным сталом, правяралі сшыткі. Некаторыя маладыя выкладчыкі і іх крыху старэйшыя калегі такім абавязкам, як праверка сшыткаў, сябе не вельмі абцяжарвалі. Гэта тыя, хто не меў да гэтай прафесіі прызвання, хто зразумеў, што ў школе ён апынуўся памылкова. Другія, што не ўяўлялі свайго жыцця без настаўніцтва, школьных званкоў, дзіцячых усмешак, старанна карпелі над кнігамі і сшыткамі, уважліва пісалі канспекты, удумліва складалі планы. Такіх не палохалі ніякія цяжкасці, нават тое, што ў будынку халаднавата — гэтыя настаўнікі лічылі сваім абавязкам як след вучыць і выхоўваць дзяцей. Тыя, што не прымалі тых умоў, у якіх даводзілася працаваць, да ўсяго абураліся, што ў педагогаў маленькая зарплата. Казалі: «Як аплачваюць работу, так і працуем…»

Тым часам некалькі маладых настаўніц вярнуліся са сталовай.

— Не разумею, чаму нас кормяць паўфабрыкатамі? — абуралася юная гістарычка Карына Людвігаўна, міргаючы даўжэзнымі накладнымі вейкамі.

— А ў нас у студэнцкай сталовай такія бліны гатавалі… Пальчыкі абліжаш, — успомніла яе сяброўка Клаўдзія Пятроўна. — А тут… Кожны дзень катлеты, катлеты, шніцаль раз на тыдзень. Дзе элементарная фантазія кухара? А яшчэ пытанне — куды глядзіць дырэктар школы?

— Дырэктар клапоціцца, каб эканомілі электраэнергію, паліва. Тады яго будуць хваліць, будзе прэмія. А сталовая… — сказала філалагічка Вольга Міхайлаўна і махнула абыякава рукой.

Пажылыя настаўнікі, у якіх быў вялікі педагагічны стаж і якія шмат чаго пабачылі за гады сваёй працы, спалохана азірнуліся: што гэта за вольнасці ў ацэнцы работы кіраўніцтва?

— Дзяўчаты, вы яшчэ маладыя, — асцярожна сказала маладым геаграфічка са стажам Валянціна Міхайлаўна. — Думайце, што гаворыце.

— А хіба мы няпраўду кажам? — здзівілася Клаўдзія Пятроўна. — Калі ўжо так, мы самі можам сказаць дырэктару пра гэта. Няхай ведае, што трэба больш клапаціцца і пра настаўнікаў, і пра дзяцей. Вядома, найперш пра вучняў. Яны ж, як усе ведаюць, не асабліва ядуць той абед. Усе бачаць, колькі варыва нясуць назад, на кухню. Шкада, столькі прадуктаў псуецца.

— Ну, нашым кухарам школьных прадуктаў не шкада. Яны гэтымі адыходамі сваіх падсвінкаў адкормліваюць. Наогул, цяпер такі час, што, здаецца, многія не думаюць пра прафесійную годнасць, звычайную, чалавечую прыстойнасць.

— Аб прафесійнай годнасці, павазе, дабрыні мала хто цяпер і ўспамінае, — адарвалася ад сшыткаў на выгляд бабуля, сухенькая, са зморшчаным тварам, разумнымі вачыма выкладчыца хіміі Тамара Васільеўна.

Маладыя настаўнікі заўсёды глядзелі на яе са здзіўленнем. Здавалася б, чаго гэтай бабульцы не сядзець дома ды глядзець тэлевізар? Дзеці на ўроках яе не слухаюць, бывае, нават здзекуюцца. Ёй, з яе несучаснымі маральнымі паняццямі, не зразумець цяперашнюю дзятву. А яна ўсё думае, што выхаваннем падрастаючага пакалення цяпер займаюцца не тыя, каму гэтую справу трэба было б даверыць. Маўляў, раней… А што раней? Было — не вернецца ранейшае. Яна ўсё кажа, што маладыя настаўнікі, ды і бацькі вучняў былой магутнай краіны, людзі, якія мала што бачылі ў жыцці, не зведалі голад і нястачу, як, напрыклад, яна, могуць некага выхаваць спагадлівым і добрым?

Вунь, сярод яе былых вучняў — і вучоныя, і генералы, і настаўнікі, і кіраўнікі… А кім стануць сённяшнія вучні?

Увогуле ж Тамара Васільеўна — сама тактоўнасць, далікатнасць, інтэлігентнасць і бязмежная дабрыня. Яна пры ўсіх гэтых сваіх якасцях тым не меней не разумела, чаму многія хлопцы і дзяўчаты, закончыўшы педагагічныя ВНУ, неахвотна ідуць працаваць у школу настаўнікамі. Нямала хто з іх, адпрацаваўшы ў школе пасля ўніверсітэта два гады (абавязковы тэрмін), шукаюць працу, дзе можна было б зарабіць значна больш. Таму ў школе з кожным годам усё больш настаўнікаў пенсійнага ўзросту.

— Я пасля інстытута ў вёсцы два гады працавала, — успомніла Тамара Васільеўна. — Бывала, ідзеш па вуліцы, кожны сустрэчны здалёк ледзь не да зямлі табе кланяецца, а дзеці «дзень добры» даюць па некалькі разоў. Цяпер вітацца з настаўнікамі ў старшакласнікаў стала ледзь не благім тонам. А каб зрабіць каму-небудзь з вучняў заўвагу, трэба яшчэ добра падумаць, ці варта. Зробіш катораму заўвагу, дык назаўтра, а то і ў той жа дзень маці ці бацька прыбяжыць да дырэктара са скаргай на цябе, маўляў, маё дзіцё пакрыўдзіла. А потым яшчэ і абразіць: «Займайся сваёй хіміяй, вучы, а выхаванне — наша справа! Яшчэ раз пакрыўдзіш — паскарджуся на самы верх, мала табе не будзе!»

— Цікава, чым усё гэта скончыцца? — адарвалася ад карты, разасланай на стале настаўніца геаграфіі Валянціна Міхайлаўна. — Мяне гэта ўсё як бабулю цікавіць і хвалюе. Маім унукам праз пяць гадоў у школу ісці. Хто іх будзе вучыць і як? Хочам мы гэтага ці не, але нашае пакаленне адыходзіць ад спраў. Цяпер у педагагічныя каледжы ды ВНУ, мабыць, большасць паступае па прынцыпе: «Няма дарогі, шуруй у педагогі!» Успомніце, хто за апошнія гады з нашых выпускнікоў падаўся ў педагогі? Серадняк, слабыя школьнікі. Нават Пералыгіна, якую мы, бывала, па прытонах з міліцыяй шукалі ды ўгаворвалі, каб яна хоць як-небудзь школу закончыла, у педкаледж пайшла. Памятаеце, яна яшчэ ў дзявятым класе на назе, крыху вышэй шчыкалаткі наколку зрабіла — гадзюку, якая збіраецца скокнуць на ахвяру… Вось і ўявіце, што яна стане настаўніцай, надзене сукенку, з’явіцца ў класе вучыць маіх унукаў...

— Надакучыла, усё адно і тое ж, адно і тое ж — усё пра негатыў… Давайце зменім пласцінку, — прапанавала Карына Людвігаўна, прысеўшы на канапу. Настаўніца ўважліва разглядвала свой манікюр з персінгам, дзе на пафарбаваным пазногці матлялася завушніца ў выглядзе замочка, на другім пальчыку другая ў выглядзе ключыка. — Надакучыла проза жыцця, лепей раскажыце што-небудзь цікавае.

— Што цікавага, апроч школы мы можам расказаць? Вось ты, Карыначка, маладая, і расказала б нам што-небудзь цікавае. У цябе жыццё павярнула так, як у якім серыяле ці бестселеры. Але, выйшла замуж за добрага чалавека, з’ездзіла з ім у вясельнае падарожжа ў Егіпет, у падарунак «Мерседэс» атрымала. А ў нашым сціплым жыцці што можа быць цікавага? — сказала Тамара Васільеўна.

— І я так скажу, Карына Людвігаўна, — падтрымала яе Ала Сігізмундаўна, таксама пенсійнага ўзросту жанчына. — Раскажыце, а мы з задавальненнем паслухаем.

— Ат, не блазнуйце, шаноўныя калегі, — спакойна, з разважлівасцю сказала Карына Людвігаўна. У калектыве яна лічыла сябе нашмат прыгажэйшай і разумнейшай за ўсіх. Да ўсяго — багатая… — Я ведаю, многія не любяць мяне. Лічаць, што замуж я выйшла па разліку. Пры гэтым яны проста мне зайздросцяць. А што? Усе мы перш за ўсё — звычайныя жанчыны. Нам і каханне

хочацца, і багацця. Хаця, калі пра каханне, дык хто з нас ведае — якое яно, каханне, увогуле? У кожнага яно сваё… Ну і няхай мой Андрэй невялічкага расточку, лысы. Але ж як ён мяне беражэ! І забяспечвае ўсім, што мне трэба, як павінен забяспечваць сваю жонку нармальны мужчына. Ён ціхі, заўсёды ва ўсім мне дапамагае, — яна лена пазяхнула. — Ат, чамусьці на ўрок не хочацца ісці, дамоў цягне. Я там сябе каралевай адчуваю… А грошы мой муж умее зарабляць. Ён жа ні ў кога іх не крадзе, нікога не рабуе, плаціць падаткі. Што тут кепскага? Клопату ў яго ў тысячу разоў больш, чым у кожнай з нас. Не ўсім жа быць настаўнікамі, як мы, некаму трэба бізнесам займацца. Хаця, бачу, працаваць у школе многім з нас надакучыла, не толькі мне: шэра і будзённа, кожны дзень адно і тое ж. Але ж, мабыць, хутка я ад вас пайду, мы з мужам думалі жыць у сталіцы, марылі займець свой домік дзе-небудзь на ўскраіне. Толькі куды паедзеш, калі ў нашым горадзе ў яго бізнес, ды і ў Гродне некалькі гандлёвых кропак. Хутчэй за ўсё ў Гродна мы і перабяромся, — яна на хвіліну змоўкла, затым працягвала. — Я ўчора свой вясельны дыск паглядзела. Ведаеце, сапраўдная казка. Я яшчэ б раз замуж выйсці не адмовілася.

— Калі хто возьме, — усміхнулася Вольга Міхайлаўна, кінуўшы ацэньваючы пагляд на Карыну Людвігаўну.

— Думаеце, калі што, дык мяне ўжо не возьмуць? — жаночае самалюбства Карыны Людвігаўны было закранута, на яе твары з’явілася незадаволенасць. І адразу ж з-пад няўдала накладзенага слою грыму прарэзаліся маршчыны.

— А я свайго мужа ледзь-ледзь угаварыла на мне жаніцца, — раптам прызналася Вольга Міхайлаўна, чым здзівіла ўсіх, хаця было не зразумела, жартуе яна ці кажа сур’ёзна.

— Як гэта? — здзіўлена спытала Тамара Васільеўна і нават зняла акуляры, каб лепш разгледзець не надта маладую кабету, не спускала з яе вачэй, чакала адказу.

— Прымусілі, бо вельмі кахалі?.. — узнёсла спытала ну зусім танклявае дзяўчо, леташняя выпускніца ўніверсітэта настаўніца біялогіі Юлія Мікалаеўна, якую ўсе называлі Юлькай.

— Вы, Юлечка, яшчэ ў тым узросце, калі здаецца, што ўсе шлюбы заключаюцца выключна па каханні і на нябёсах, — сказала Вольга Міхайлаўна. — А на ўсіх кахання не хапае. Дэфіцытны тавар. Я быццам і нічога, і з твару, і з паставы, а ён… Ну, гэтыя вушы-лакатары… — без эмоцый разважала яна. — Якое тут каханне?

— Ну, вялікія адтапыраныя вушы — не загана, а наадварот. Няма праблем са слыхам. Во, некалі бачыла па тэлевізары, у знакамітага рэжысёра Леаніда Гайдая яны аж надта адтапыраныя, і нічога, нават вельмі сімпатычна глядзіцца, — не пагадзілася з ёй Тамара Васільеўна. — А як замуж пайшла?

— Ну як? Вочы заплюшчыла і пайшла, — быццам пра звычайную будзённую справу, а не пра вельмі асабістае гаварыла Вольга Міхайлаўна, гартаючы вучнёўскія дзённікі. — Мне споўнілася дваццаць восем, у яго вышэйшая адукацыя, кватэра, салідная пасада. Вось і ўхапілася.

— А што для душы? — настаўніцу геаграфіі таксама зацікавіла гэтая незвычайная жыццёвая сітуацыя.

— Для душы ў мяне ёсць Машачка, дачка.

— У смутны час заўсёды было цяжка, — са шкадаваннем прагаварыла Тамара Васільеўна. — Не верыць, не знаць ісціны.

— А хто ведае, што такое ісціна? — спытала Юлечка.

— Дабро, каханне, вера, — усё тое, што цэніцца заўсёды.

— Грошы, улада таксама цаніліся заўсёды, а ўсё астатняе — для суцяшэння няўдачнікаў, — у голасе Вольгі Міхайлаўны адчувалася іронія.

— Гэта асноўныя прынцыпы светапогляду сучаснай моладзі, — складваючы карты, канстатавала Валянціна Міхайлаўна. — Няўжо і мае ўнукі такімі цынікамі выраступь?

— Ды жартую я, жартую. Ужо і пасмяяцца, разыграць вас нельга? — звонка рассмяялася Вольга Міхайлаўна. — Так можна ператварыцца ў занудлівых вучылак.

— Ды я не разумею, Вольга Міхайлаўна, — Юлечка вырашыла высветліць для сябе да канца, што было сказана сур'ёзна, а што жартам. — Вы так пра замужжа ўсур'ёз?

— У кожным жарце ёсць доля ісціны, — зноў ухілілася ад прамога адказу Вольга Міхайлаўна.

— Ды ну вас.

У гэты час у настаўніцкую ўвайшла дзяўчына, на якую адразу ўсе звярнулі ўвагу. Яна выдзялялася тут як паставай, так і адзеннем. Упрыгожанні ёй былі не патрэбны, як не патрэбны яны жывой кветцы. Зычлівы адкрыты твар, увогуле ўсё ў дзяўчыне было надзвычай гарманічным: цёмныя пышныя валасы, чорныя вялікія вочы, ладная спартыўная фігура.

— Добры дзень. Я заўважыла, што вы мяне рады бачыць, — ад бадзёрага прыемнага голасу, здаецца, пасвятлела ў шэрым памяшканні.

Дзяўчына займала пакуль яшчэ не зусім звычайную ў школе пасаду — сацыяльнага педагога. Доўгі час у школе наогул не давалі належнага значэння сацыяльнаму выхаванню. Аб'яўляліся розныя рэформы, потым яны нечакана згортваліся, уводзіліся і адмяняліся розныя прадметы, умацавалася новая, дзесяцібальная сістэма ацэнкі ведаў вучняў, адбываліся пастаянныя карэкціроўкі школьных праграм, а вучань, як быў вучнем, так ім і заставаўся. І праблемы выхавання заставаліся, застаюцца… Калісьці вывучалі этыку і псіхалогію сямейнага жыцця, толькі спецыялістаў па гэтым прадмеце не рыхтавалі, і яго ў рэшце рэшт чамусьці адмянілі. Грамадства сутыкнулася з праблемай дзяцей, што жылі і выхоўваліся ў так называемых сем'ях сацыяльна небяспечных. Каб аказаць педагагічную дапамогу такім сем'ям, дзецям, у школах увялі пасаду сацыяльнага педагога. Толькі ці пад сілу рашаць праблему аднаму настаўніку нават са спецыяльнай падрыхтоўкай? Ну што, напрыклад, можа зрабіць гэтая мілая дзяўчынка?..

У яе было незвычайнае імя — Мілена. Яе з'яўленне ў настаўніцкай азначала, што хтосьці з педагогаў разам з ёю павінен наведаць якую-небудзь так званую праблемную сям'ю. Лепш за ўсё туды ісці разам з класным кіраўніком.

Мілена накіравалася да Вольгі Міхайлаўны, і ўсе з палёгкай уздыхнулі.

— Вольга Міхайлаўна, а што калі мы сёння наведаем вашых вучняў? Даўно не былі ў іх? Як цяпер там, у сем'ях?

Голас Вольгі Міхайлаўны быў спакойны, нават, здавалася, яе не засмуціла, што сёння «ахвярай» сацыяльнага педагога стала менавіта яна.

— Нядаўна Юра прыйшоў у школу з сіняком пад вокам. Як ні дапытвалася, так і не сказаў, што здарылася. А я ж не следчы… А вось Кацю сталі лепш апранаць.

— Дык пойдзем? Вы вечарам свабодная? — пытала Мілена.

— Свабодная — не свабодная, а раз трэба… Я толькі дачку з дзіцячага садзіка забяру і пойдзем.

— Шкада малую. Няўжо няма з кім пакінуць на гадзінку-другую?

— Нічога страшнага, хай прывыкае да складанасцей жыцця. У мужа нейкая нарада ці семінар.

— Значыць, дамовіліся. Пастараемся доўга не затрымлівацца, паглядзім што і як і пойдзем.

Празвінеў званок, настаўнікі заварушыліся, падняліся, накіраваліся ў класы да вучняў.

## 2

Зіма лягла рана. Быў толькі пачатак снежня, а снег шчодра засыпаў намёрзлую зямлю, мароз за некалькі дзён дасягнуў дзесяці градусаў…

Вольга Міхайлаўна забрала дачку з садка і паспяшалася да школы, дзе дамовіліся сустрэцца з Міленай. Маша ледзь паспявала за маці.

— Мамачка, ножкі баляць, пальчыкі таксама.

— Няўжо змерзла? — спытала маці.

— Не-а… Хачу на ручкі.

— Ты ўжо вялікая, ідзі сама, добра, дачушка? Даганяй! Тым, хто бегае хутка, ніякі мароз не страшны…

Яны ўсё роўна спазніліся, калі прыйшлі да школы, там іх чакала Мілена Сяргееўна.

— Прабачце, што спазніліся. Даўно чакаеце? — спытала Вольга Міхайлаўна.

— Нічога страшнага, хвілінкі тры.

— Тады, можа, забяжым у школу? Маша зусім змерзла.

Крыху пагрэўшыся ля стала дзяжурнай тэхнічкі, выйшлі са школы, і пакуль пляліся па заснежаных вуліцах і завулках, зноў іх крыху прабрала холадам.

— Можа, чаю прапануюць, — сказала Вольга Міхайлаўна, мяркуючы сагрэцца ў чужой кватэры. Жанчыны ўвайшлі ў пад'езд жылога дома і спыніліся. Вольга Міхайлаўна пакратала ў дачкі рукі: ці замерзлі… Машыны ручкі былі цёплыя.

— Наўрад ці прапануюць, — адказала Мілена Сяргееўна, — цяпер не тыя часы. Ды і калі зойдзем, то, мабыць, убачым тое, што і ў мінулы раз: мама з сяброўкамі будуць адзначаць нейкае, прыдуманае імі, свята ці падзею, а дзіця будзе сляпіць вочы ля тэлевізара ці камп'ютара.

Настаўніцы падышлі да патрэбных дзвярэй, пазванілі.

Дзверы адкрыў гаспадар. Убачыўшы сімпатычнага, спартыўнага на выгляд стройнага маладога мужчыну, жанчыны сумеліся, падумалі, што пераблыталі нумары кватэр, што пазванілі не ў тыя дзверы.

— Прабачце, тут жывуць Палуніны? — спытала зніякавелая Вольга Міхайлаўна.

— Жывуць. А вы да каго?

— Мы са школы, — адказала здзіўленая Мілена. — Вы Каці кім будзеце?

— Бацька, — цяпер здзівіўся ўжо мужчына.

— Цудоўна! Нам з вамі трэба пагаварыць.

— Ну, калі трэба, то калі ласка, заходзьце, распранайцеся. Я чайнік пастаўлю, за чаем і пагаворым. Змерзлі, мусіць, пяшком дабіраліся? Добры сёлета мароз, даўно такога не было.

Жанчыны не паспелі апамятацца ад нечаканай гасціннасці гаспадара, нязвыкла было адчуваць і тую галантнасць, з якой ён дапамагаў ім зняць верхнюю вопратку. Маша распранулася сама, першая, цярпліва трымала сваё карат-

каватае чырвонае футра, чакала, калі пра яе ўспомняць дарослыя. Мужчына ж, дапамагаючы жанчынам, не звяртаў увагі на дзіця, але Маша нечакана сказала:

— Які ж вы дзядзя… Хіба можа быць мароз добрым? Нас памарозіў, а вы яго хваліце…

Усе дружна рассмяяліся з такой дзіцячай непасрэднасці, скаванасць і напружанне паміж незнаёмымі людзьмі знікла.

— А цёця настаўніца сказала, што тут нас не пачастуюць, — раптам дадала дзяўчынка. Гаспадар, пачуўшы гэта, усміхнуўся, а жанчыны з дакорам паглядзелі на Машу: ім было няёмка.

— Нічога, — сказаў мужчына, звяртаючыся да Машы. — Яна проста пажартавала. Я не такі ўжо і кепскі дзядзька, — крыху памаўчаў, дадаў: — А ведаеш, у мяне цукеркі ёсць. Любіш цукеркі?

— Пытаецеся. Хто ж іх не любіць? — узрадавалася Маша.

— Вы праходзьце ў пакой, там Каця ўрокі рыхтуе, а я чай завару, — гаспадар пайшоў на кухню, а настаўніцы і Маша накіраваліся ў пакой, куды паказаў гаспадар. Увайшоўшы туды, яны ўбачылі Кацю. Яна сядзела за камп'ютарам, кіравала на экране гоначнымі машынамі. Заўважыўшы настаўніц, Каця ўзрадавалася. Яна была жыццярадасным дзіцем. Вольга Міхайлаўна ведала, што тыя няпростыя жыццёвыя абставіны, якія акружалі дзяўчынку, пакуль што не змаглі зрабіць яе горшай, так бы мовіць, не знішчылі ў ёй дабрыню, шчырасць, спагадлівасць да іншых, якія заклала ў яе прырода.

— А гэта ваша Маша? Такая маленькая, прыгожанькая, — сказала Каця.

— Я не маленькая. Мне ўжо ажно пяць гадоў. Я хутка ў школу пайду, — адказала Маша, а потым: — А можна і мне пагуляць?

— Канечне, можна. Я толькі растлумачу, што да чаго, — ахвотна пагадзілася Каця.

Дзеці захапіліся камп'ютарнай гульнёй, настаўніцы разглядалі, як абстаўлены пакой. Яны ўжо неаднойчы былі тут, бачылі гэтую шыкоўную імпартную мэблю, іх уражвала, што за той час, як яны не наведваліся сюды, у пакоі зроблены дарагі еўрарамонт. Але разам з тым настаўніцы заўважылі, што дарагіх рэчаў, якія сведчылі б аб дастатку ў сям'і, стала значна меней. Многія шыкоўныя цацкі, статуэткі, што стаялі за шклом у серванце, фарфоравы посуд, крышталь зніклі.

Тым часам, пакуль яны разглядвалі, што і як у пакоі, з падносам у руках увайшоў гаспадар.

— Каця, што ж ты не прапанавала сесці? — гаспадар накіраваўся да стала, зрабіў выгляд, што не бачыць, з якой увагай госці разглядваюць пакой.

— Нічога, — сказала Вольга Міхайлаўна, — мабыць, Каця палічыла, што вучаніцы запрашаць настаўніц няёмка. Праўда, Каця?

— Ага, — яшчэ больш сумелася дзяўчынка і пачырванела. — Я думала, што яны самі сядуць.

— Гуляйце, гуляйце, — сказала Мілена Сяргееўна, таксама зразумеўшы, што зараз адчувала дзяўчынка.

Дзеці зноў пачалі ўважліва сачыць за нерэальным святлом на маніторы, за тым, што там робіцца. Дарослыя размясціліся за невялікім журнальным столікам — жанчыны на канапе, гаспадар у крэсле.

Раней, калі настаўніцы прыходзілі ў гэтую кватэру, звычайна заўважалі, што Кацінa маці на падпітку. Часта тут былі і яе такія ж захмялелыя сяброўкі. Педагогі бачылі, што Каця недагледжана. Разумелі, як ёй нялёгка, што дзяўчынцы патрэбна дапамога. Але якой яна павінна быць? Што зрабіць, каб маці ўзялася за розум, яны не ведалі.

Цяпер жа сітуацыя была іншая: іх сустрэў Кацін бацька, прыстойны, інтэлігентны малады мужчына. Раней яны яго ні разу не бачылі.

— Частуйцеся і расказвайце, што Кацярына натварыла. Дрэнна займаецца?

Чай быў цудоўны, з тонкім прыемным пахам. Вольга Міхайлаўна некалі піла такі ў мужавых знаёмых, якія кожны год адпачывалі недзе за мяжой і адтуль прывозілі дарагога гатунку чай.

Мілена крадком разглядвала пераплёты кніг у кніжнай шафе, прозвішчы некаторых аўтараў выданняў яна сустракала ўпершыню.

— Нам, Максім Пятровіч, вельмі няёмка, — пачала Вольга Міхайлаўна. — Калі мы памыляемся, то прабачце. Мы ж не па ўласным жаданні стукаемся ў дзверы кватэр некаторых нашых вучняў. Гэта наша работа, і ў вас мы не першы раз, — на момант яна спынілася і падбіраючы патрэбныя словы, каб як мага далікатней патлумачыць прычыну візіту, і працягвала: — Разумееце, уся справа ў вашай жонцы.

Мілена паспяшалася «дапамагчы» каляжанцы:

— Амаль заўсёды, калі мы да вас прыходзілі, у вас дома было не ўсё, як трэба… Вы разумееце, пра што я кажу?

Мілена не магла пры дачцэ казаць пра яе маці кепскае, хаця бачыла, што Каця, занятая гульнёй, не звяртае ўвагі на тое, пра што гавораць дарослыя. Але яна, і Вольга Міхайлаўна таксама, бачылі, як увачавідкі мяняўся твар мужчыны. Разумелі, што ён не хацеў, каб яго сямейныя непаладкі сталі вядомы настаўнікам яго дачкі.

— Давайце выйдзем у прыхожую, — прапанавала Вольга Міхайлаўна, — Няхай дзеці гуляюць.

Яны выйшлі з пакоя, спыніліся ў прыхожай, гаспадар запрасіў жанчын у гасціную.

— Я думаю, для вас гэта не навіна, — спакойным тонам працягвала гаворку Мілена, калі яны туды зайшлі.— Мы ведаем, што вы падоўгу не бываеце дома.

— Так, сапраўды, — лагодна-вясёлы настрой гаспадара змяніўся на задумліва-сур’ёзны. — Так сталася, што я пачаў займацца бізнесам. Як кажуць, захацелася ісці ў нагу з часам, нечага дасягнуць у жыцці. Хочацца нешта зрабіць для сябе і для людзей. Але справа дыктуе свае ўмовы, я падоўгу знаходжуся ў раз’ездах, — шчыра казаў Максім Пятровіч. — Зразумела, стараўся, каб усё было дома як трэба, каб жонка і дачка не мелі ні ў чым патрэбы. Прывозіў у дом дарагое адзенне з маскоўскага буціка, купіў замежную мэблю, выконваў усе яе капрызы, стараўся ні ў чым ёй не адмаўляць. Я ж інжынер па адукацыі, добра зарабляў нават раней, цяпер тым болей. Суседзі даўно мне гаварылі, што ў жонкі з’явіліся нейкія падазроныя кампаніі. Я ж спачатку не верыў, думаў — зайздросцяць. Цяпер бачу сам — нешта прагледзеў. Грошай цяпер ёй не даю, сам, як вяртаюся з паездак, купляю тое, што трэба для сям’і, для дома, стараюся меней бываць у камандзіроўках. Яна ж знайшла выйсце — выносіць рэчы з кватэры, прадае іх за паўцаны, зразумела, хто ж будзе браць за поўную цану? Ну і прападае ў сяброўак, дома рэдка бывае. — Ён роспачна ўздыхнуў: — Увогуле, я мужчына і мне няёмка скардзіцца на жонку. Асабліва жанчынам.

— Максім Пятровіч, мы вам шчыра спачуваем, — сказала Вольга Міхайлаўна. — Але ж і нас зразумейце. Парадкі ў адукацыі строгія, дзеці з такіх сям’яў, як ваша, на кантролі. Педагогі наведваюць такія сем’і рэгулярна, і калі

ўсё будзе як цяпер, вас паставяць на ўлік як сацыяльна-небяспечную сям'ю. Чым канчаецца ўсё? Як правіла, аднолькава — пазбаўленне бацькоўскіх правоў. Самі павінны ведаць, бываеце дома рэдка, а жонка які прыклад паказвае Каці? Так што думайце, як быць далей.

Салаўіным пошчакам заліўся званок.

Максім Пятровіч зазірнуў да дзяцей, прыкрыў дзверы ў пакой, у якім былі дзеці, і толькі тады заспяшаўся да ўваходных дзвярэй. Вярнуўся ён хутка, следам за гаспадаром у гасціную зазірнула яго жонка, Каціна мама.

— Мяне папракаеш, а сам… — незадаволена прамармытала яна.

Было бачна, што жанчына на падпітку, яна цяжка стаяла на нагах, хісталася, і, мабыць, каб не ўпасці, прыхілілася спінай да сцяны.

— Рыта, гэта настаўнікі з Кацінай школы, — сказаў Максім Пятровіч. — Ідзі ў пакой, у цябе такі стомлены выгляд…

— Бачу, бачу, хто да нас завітаў. Прабачце, адразу не пазнала. Не буду перашкаджаць. Шампанскага крыху выпіла, у сяброўкі дзень нараджэння быў, — жанчына, не скідаючы абутку, падалася ў суседні пакой.

— Нам пара ісці, — рашуча паднялася з канапы Мілена. — Час позні, а нам трэба яшчэ адну сям'ю наведваць. — Вы сур'ёзна падумайце, пра што мы вам сказалі, праз тыдзень-паўтара зноў да вас зойдзем.

Недалёка адсюль на гэтай жа вуліцы ў інтэрнаце жыў адзін вучань з класа Мілены Сяргееўны. Інтэрнат быў не з лепшых, шмат гадоў тут не рабілі рамонт. Брудныя, выцвілыя бляклыя сцены калідораў, стаптаная рыпучая, у шчылінах драўляная падлога, на якой амаль не засталося фарбы — усё гэта прыгнечвала.

Настаўніцы амаль подбегам падняліся на трэці паверх, адшукалі патрэбны нумар пакоя, пастукалі ў дзверы. Аднак ім ніхто не адказаў, хаця з пакоя чуліся галасы. Тады Мілена мацней некалькі разоў пастукала кулачком. Неўзабаве пачуліся крокі, дзверы адчыніліся, на парозе з'явіўся мужчына. Быў ён сярэдняга ўзросту, хударлявы, з прыкметна апухлым тварам. Мужчына няўпэўнена трымаўся на нагах. Убачыўшы жанчын, ён іранічна ўсміхнуўся. Відаць, яго зацікавіла — хто ж так настойліва напрошваецца да яго ў госці?

— Прашу, — раскінуў ён рукі і шырока адчыніў дзверы.

Жанчыны ўвайшлі. Адразу кінуліся ў вочы абшарпаныя сцены ў прыхожай, старое трумо з мутнымі падцёкамі на люстры, засмечаная падлога. У адным кутку — гара стаптанага абутку, другі быў завешаны бруднай анучай на звычайнай вяроўцы. Праз расчыненыя дзверы, што вялі ў меншы пакойчык, Вольга Міхайлаўна ўбачыла вучнёўскую парту. Побач з ёй — стол. За ім — тры постаці — дзве жанчыны і мужчына, выгляд ва ўсіх быў стомлены. На стале стаялі міска з буракамі, адкрытая бляшанка з селядцамі, некалькі бутэлек з-пад віна, ляжаў і абшчыпаны акраец хлеба. Віднеўся край халадзільніка, на ім таксама стаяла некалькі пустых бутэлек.

Вользе Міхайлаўне заўсёды было непрыемна сустракаць такіх людзей на вуліцы, аднак быць там, дзе яны жывуць, бачыць іх на свае вочы, гаварыць з імі ёй ніколі не даводзілася.

— Прашу, прашу, дзяўчаткі… даўно бачыліся, — зусім не саромеючыся, як старых знаёмых, гаспадар запрашаў настаўнікаў.

Вольга Міхайлаўна ніколі не бачыла гэтага чалавека, цяпер пашкадавала, што пагадзілася пайсці ў гэтую сям'ю. Па тым, як развязна паводзіў сябе гаспадар, жанчыны зразумелі: мужчына не проста на добрым падпітку, ён у такім стане, што наогул гаварыць з ім пра што-небудзь няма сэнсу.

— А дзе ваша жонка? — строга спытала Мілена. Яна заўважыла, што за сталом незнаёмыя ёй людзі, з такімі ж апухлымі, як і ў гаспадара тварамі, недаўменна паглядзелі на яе.

— На ложку. Хворая яна.

— Можна з ёю пагаварыць? Яна можа выйсці?

Мужчына адкрыў дзверы ў суседні пакой.

— Тут зноў са школы прыйшлі, выйдзі пагавары…

— Няхай заходзяць.

Вольгу Міхайлаўну ахапіў жах ад брудна-шэрай бялізны, на якой спакойна ляжала жанчына. Твар яе быў зямлістага колеру. Вакол вока — сіні, з зеленавата-чырвоным абадком падцёк. Яе даўно нямытыя ўскудлачаныя валасы былі распушчаны, але жанчына нават не спрабавала іх прывесці ў парадак. У кутку пакоя быў яшчэ адзін ложак, з такімі ж бруднымі коўдрамі, са скамечанай прасцінай, ля сцяны — зваленая ў кучу вопратка. Ля акна стаяла яшчэ адна старая вучнёўская парта, на ёй былі параскіданы школьныя падручнікі і сшыткі.

— Вы можаце з намі пагаварыць? — спытала Мілена.

— Галава баліць. Гэта так цяпер зубы рвуць, — паказваючы на вока, з цяжкасцю прамовіла жанчына.

— А ўстаць вы можаце? — тое, з чым тут сутыкнулася Мілена, яна бачыла ўжо не аднойчы, у адрозненне ад Вольгі Міхайлаўны, якая з гэтым сустрэлася ці не ўпершыню.

— Галава расколваецца.

— Хуткую дапамогу выклікаць?

— Ну што вы…

— Зразумела. Дзе Мікола?

— Дзе ж… На вуліцы.

— На такім марозе?

— Ну, тады ў інтэрнаце ў каго-небудзь.

Настаўніцы зразумелі, што далей гаварыць з бацькамі няма сэнсу. Нават не развітаўшыся, яны выйшлі з інтэрната. Доўга маўчалі. Гаварыць пра нешта было цяжка. Але і маўчаць — таксама. Нарэшце, калі, здавалася, маўчанне стала невыносным, Вольга Міхайлаўна спытала:

— Мілена, работу не думаеш мяняць?

— Думаю… — уздыхнуўшы, адказала тая. — Вось аб чым я цяпер падумала. Можа, звярнуцца ў міліцыю? Але тады хлопца выклічуць раз, другі… Ды, можа, у прытулак забяруць? А калі гэта яго абразіць? У такім узросце абраза і крыўда — рэчы страшныя. Гэта можа зламаць яго лёс. Калі ж пакінуць усё так, як ёсць, тады ён зможа давучыцца разам са сваім класам. І яшчэ, у прытулку ён будзе накормлены, але ж там, побач, могуць быць і кепскія хлопцы. Як яны на Міколу могуць паўздзейнічаць? Увогуле, ён нядрэнны хлопец. Я аднойчы чула, як ён бацьку сарамаціў за тое, што той п’е.

— Не выклікайце міліцыю, — сказала Вольга Міхайлаўна. — Колькі тут засталося да канца навучальнага года… Усё будзе добра і без міліцыі. Хлопец у вучылішча механізацыі пойдзе… Вы яго лепш на бясплатнае харчаванне пастаўце.

— Паставіла. А дома? Нават не магу ўявіць, як ён харчуецца. Калі не прыйду — міска чырвоных буракоў на стале, у лепшым выпадку ліверная каўбаса, ці свіныя вушы на талерках. А наконт вучобы пасля дзявятага класа, то я дакладна ведаю, ён у ПТВ не пойдзе.

— Гэта чаму?

— Мікола закаханы ў аднакласніцу, у Юлю Саніну. Яна ж у вучылішча паступаць не збіраецца… І ўсё ж зараз мы з вамі зрабілі памылку.

— Якую? — не зразумела Вольга Міхайлаўна.

— Дарэмна Машу ўзялі з сабой. Не трэба ёй бачыць такое.

— Магчыма. Ладна, хай знаёміцца з жыццём. А раптам яна некалі стане сацыяльным педагогам? Спатрэбіцца вопыт, — пажартавала Вольга Міхайлаўна.

## 3

З расказу Каці Вольга Міхайлаўна зразумела, што сямейныя абставіны прымусілі Палуніна змяніць звыклы ўклад жыцця, адмовіцца ад паездак, больш быць дома. Такім чынам, ён спрабаваў захаваць сям'ю, засцерагчы жонку ад непажаданых сябровак і знаёмых, якія кепска ўздзейнічаюць на яе, уносяць разлад у адносіны паміж бацькам і маці.

Было бачна, што Палунін шмат увагі надае выхаванню дачкі. Вольга Міхайлаўна заўважыла, што Каця стала лепш вучыцца, пачала акуратна апранацца і наогул стала больш сур'ёзна-задумлівай.

Некалькі разоў Вольга Міхайлаўна спрабавала даведацца пра здароўе яе маці, але дзяўчынка адказвала толькі кароткімі фразамі, маўляў, усё нармальна.

Аднойчы позна вечарам, калі Вольга Міхайлаўна ўкладвала дачку спаць, муж паклікаў яе да тэлефона.

— Вольга Міхайлаўна, — назваў ён жонку так, як яе называлі калегі і вучні ў школе, і незадаволена прабурчэў: — Ідзі хутчэй, там твая выхаванка ад плачу ажно заходзіцца.

Калі Вольга Міхайлаўна ўзяла трубку, то сапраўды з-за частых усхліпванняў, што чуліся там, не магла зразумець, што здарылася.

— Кацярына, спачатку супакойся, раскажы, што з табой? — папрасіла настаўніца.

— Татка з маці пасварыліся зноў, мама пайшла з хаты. Потым татка сказаў, што яму вельмі дрэнна, баліць у грудзях, пайшоў у спальню і ўпаў на падлогу. Цяпер ляжыць, не можа падняцца…

— Каця, слухай мяне ўважліва. Я выклічу хуткую дапамогу, і тут жа еду да вас. Калі доктар прыедзе раней, чым дабяруся я, то адкрый яму дзверы, не бойся, доктар дапаможа бацьку…

Калі Вольга Міхайлаўна падышла да пад'езда дома, дзе жыла Каця, то ўбачыла машыну хуткай дапамогі. Настаўніца крыху пераняла дыханне і заспяшалася на трэці паверх. Дзверы ў кватэру былі прачынены, Вольга Міхайлаўна зайшла туды, убачыла, што ў пакоі на ложку ляжыць Кацін бацька, а каля яго — урачы. І яшчэ, што ён цяпер зусім не падобны на таго, ранейшага, прыгожага статнага мужчыну, якога яна ведала. Каця ж сядзела ў крэсле ў куточку пакоя і ціха, ледзь стрымліваючы сябе, каб не зарыдаць, плакала. Мусіць, яна разумела, што і ўрачам, і бацьку патрэбна цішыня.

Вольга Міхайлаўна падышла да дзяўчынкі, села побач ў шырокае крэсла, прыхіліла яе да сябе, ціха сказала:

— Кацечка, усё будзе добра, вось пабачыш…

Дзяўчынка, адчуўшы шчырасць ў словах настаўніцы, яе спагаду, нібы ў згодзе лёгенька кіўнула галавой, выцерла рукамі слёзы на шчоках.

Пасля таго, як Палуніну ўрачы аказалі дапамогу, ён адкрыў вочы і ці то з болем, ці то з нейкай віной паглядзеў на дачку і яе настаўніцу; малады ўрач сказаў, звяртаючыся да Вольгі Міхайлаўны і да Каці:

— Усё будзе добра, зараз мы забяром яго ў бальніцу, вылечым.

Пакуль медыкі з брыгады хуткай дапамогі хадзілі па насілкі, затым прасілі суседзяў, каб тыя дапамаглі знесці хворага да машыны, настаўніца даведалася ад маладога ўрача, што цяперашнім часам хваробы сэрца «амаладзіліся»: інсульты і інфаркты здараюцца нават у дваццаціпяцігадовым узросце, і што, мабыць, у Кацінага таты інфаркт — дакладны дыягназ паставяць у бальніцы. Таксама сказаў, што ўрачы прыехалі своечасова.

Хворага паклалі на насілкі. Каця трымала бацьку за руку, ён глядзеў то на дачку, то на Вольгу Міхайлаўну, і калі іх пагляды сустрэліся, ледзь чутна, сасмяглымі губамі вымавіў:

— Вы прабачце, але я баюся, што Каця застаецца адна, можа…

— Не хвалюйцеся, Максім Пятровіч, — заспяшалася супакоіць яго Вольга Міхайлаўна. — Каця пабудзе са мною. А вы хутчэй вылдараўлівайце і ні пра што не думайце.

— Апроч жонкі, у нашым горадзе са сваякоў у мяне нікога няма. Яна ж пайшла… І гэта, я ведаю, на некалькі дзён. Так што…

— Я зразумела, усё будзе добра, — паўтарыла Вольга Міхайлаўна. — Каця пажыве ў нас, яна ў вас цудоўная дзяўчынка.

Максім Пятровіч, здаецца, слаба, з удзячнасцю ўсміхнуўся і закрыў вочы.

Увесь гэты час Каця стаяла каля настаўніцы, якая трымала яе за руку, і быццам, нічога не чула і нікога не бачыла, акрамя бацькі.

Калі ж хворага Палуніна ўладкавалі ў машыне хуткай дапамогі, зачыніліся дзверы, Каця не магла стрымацца, заплакала наўзрыд.

— Ну што ты, Кацярына… Усё будзе добра, бацька хутка паправіцца, цяпер медыцына робіць цуды, — суцяшала настаўніца дзяўчынку, гладзячы яе мяккія валасы. — А ты ўжо дарослая, будзеш дапамагаць яму, будзеш аберагаць яго — мужчыны ж слабейшыя за нас, жанчын.

Дзяўчынка яшчэ мацней прытулілася да Вольгі Міхайлаўны, і яна адчула, як Каці не хапае мацярынскага цяпла.

## 4

Развітаўшыся з Кацяй, Вольга Міхайлаўна прыехала дамоў і адразу сказала мужу, што Палунін цяжка захварэў, а таксама, што рашыла часова ўзяць дзяўчынку да сябе. Сяргей, крыху памаўчаўшы, сказаў:

— Вось не думаў, што ты станеш місіянеркай. Гэта, павер, зараз не модна.

— Сярожа, дзяўчынка засталася адна, няўжо аддаваць яе ў прытулак? Няўжо табе абыякавы яе лёс? Не, нельга яе адну пакідаць.

— Я спачуваю ёй, яе бацьку, але ж ты забылася, што ў цябе ёсць сям'я, забылася пра свае сямейныя абавязкі. Ты занадта шмат часу аддаеш школе, прападаеш там з раніцы да вечара, нават вечарам у цябе то педсавет, то бацькоўскі сход, то нарада класных кіраўнікоў. Словам, амаль кожны дзень у цябе то вечар, то ранішнік, то экскурсія, то паход у кіно. Надакучыла. Колькі разоў я прапаноўваў табе пайсці са школы! Сядзела б у выканкаме, перабірала паперкі, і галава не балела б. Колькі ў нас там такіх, як ты, з педагагічнай адукацыяй… Яны перайшлі на іншыя ўмовы працы. Цяпер усе, у каго ёсць магчымасць, ты гэта цудоўна ведаеш, збягаюць са школы, шукаюць дзе лепей і не так клопатна.

— Сярожа, трэба рашаць, што рабіць з дзяўчынкай, — сказала Вольга Міхайлаўна. — У яе няма нікога з родных у Беларусі, бабуля ў Чэлябінску.

Канечне, яна прыедзе. Каця і так шмат усяго перажыла, навошта ёй яшчэ стрэс? Бацька праз тыдзень-другі паправіцца, прыедзе бабуля, усё будзе нармальна. Пацярпі некалькі дзён, трэба ж дапамагаць людзям…

Тая настойлівасць і шчырасць, з якой яна, калі трэба было, даводзіла сваё, не раз здзіўляла мужа.

— Надакучыла… Рабі, як хочаш, — махнуў ён рукой. — Цябе ўсё роўна не пераканаць.

Некалькі дзён, якія правяла Каця ў сям'і настаўніцы Вольгі Міхайлаўны, супакоілі дзяўчынку. Але цяпер у школе яна была меней актыўнай, чым раней. Ды і тут, у чужой сям'і, дзяўчынка старалася быць непрыкметнай. Калі муж Вольгі Міхайлаўнай прыходзіў з работы, Каця ўвогуле станавілася іншай, здавалася, яна адчувала, што ён не хоча, каб у яго сям'і жыла чужая дзяўчынка. Толькі гуляючы з Машай, Каця паступова нібы абуджалася, і нават, здаралася, забыўшыся на ўсё, гарэзліва смяялася. Кожны дзень яна пыталася ў настаўніцы, калі можна наведаць бацьку, ці перавялі яго з рэанімацыі ў звычайную палату?

Тады Вольга Міхайлаўна набірала нумар тэлефона, званіла ў бальніцу, пыталася, як адчувае сябе Палунін?

Неўзабаве на яе пытанне пра стан Палуніна Вользе Міхайлаўне паведамілі, што яго перавялі ў палату нумар тры. Кацін твар, калі яна пачула гэтую навіну, пасвятлеў, яна сказала настаўніцы, што вельмі хоча хутчэй наведаць бацьку ў бальніцы.

— Зараз жа едзем, — сказала ёй Вольга Міхайлаўна.

Па дарозе яны зайшлі на рынак, купілі апельсінаў, бананаў, яблыкаў і груш. Палата, у якой ляжаў Кацін бацька, была на другім паверсе. Каця, а за ёй і Вольга Міхайлаўна амаль подбегам узняліся па лесвіцы туды, спыніліся перад палатай. Каця на імгненне замерла, быццам разгубілася.

Вольга Міхайлаўна ціха пастукала ў дзверы і крыху счакаўшы, паволі штурхнула іх; увайшоўшы, акінула позіркам хворых. Палунін ляжаў каля акна і не адразу заўважыў іх. Выгляд яго быў вельмі стомлены, было бачна, што цяжкая хвароба змучыла Максіма Пятровіча, ён прыкметна змяніўся: твар раней светлы і зычлівы, зараз выглядаў шэрым.

Раптам Палунін заўважыў Вольгу Міхайлаўну, затым дачку, якая выйшла з-за спіны настаўніцы.

Вольга Міхайлаўна лёгенька падштурхнула дзяўчынку, тая кінулася да бацькі, абняла яго, асцярожна пацалавала ў шчаку.

— Дачушка, — прашаптаў ён. — Як я рады, што ты прыйшла. І вам рады, Вольга Міхайлаўна…

Каця расказвала пра школу, пра сяброўства з Машай. Палунін слухаў дачку вельмі ўважліва, часта пераводзячы сумны позірк на Вольгу Міхайлаўну, і ў гэтым яго паглядзе настаўніца адчувала ўдзячнасць за клопат пра дачку.

Трымаючы перад сабой пакет з садавінай, Вольга Міхайлаўна падышла да ложка Палуніна, сказала:

— Гэта вам, Максім Пятровіч. Частуйцеся і частуйце ўсіх. Я так рада, што нарэшце вы ў палаце, што каля вас дачка.

— Вольга Міхайлаўна, дзякуй вам за ўсё. Памятайце, я ваш вечны даўжнік, — Максім Пятровіч асцярожна прыўзняўся на ложку. — Я ведаў, што вы не пакінеце Кацю адну.

— Не будзем пра гэта, — адказала яна. — У вас такая цудоўная дачка. — І крыху памаўчаўшы, дадала: — А пра дапамогу, дык я лаўлю вас на слове, папраўцеся, я вам падкіну работу — будзеце рамантаваць школьны кабінет.

— Згодзен. З задавальненнем! Для вас згодзен адрамантаваць нават школу… Хачу спытаць, каб потым не забыцца… Я прасіў медыцынскую сястрычку ў рэанімацыі, каб яна пазваніла вам, каб вы паведамілі маёй маці, што я ў бальніцы. Думаю, што яна прыехала б.

— Не хвалюйцеся. Я адразу пазваніла ў Чэлябінск, ваша мама сказала, што выязджае неадкладна. Дарэчы, вось мабільны тэлефон, можаце самі ёй пазваніць, — Вольга Міхайлаўна дастала з сумачкі тэлефон, паклала яго на тумбачку.

Палунін паглядзеў на Вольгу Міхайлаўну і з удзячнасцю ўсміхнуўся.

## 5

Каціна бабуля прыехала з Чэлябінска перад самым Новым годам, і адразу накіравалася ў бальніцу. Кацю яна вырашыла сустрэць у бальніцы, ведала; дачка з настаўніцай у другой палове дня кожны дзень наведваюць яе сына.

Калі Вольга Міхайлаўна сустрэлася з маці Палуніна, то настаўніцы кінулася ў вочы, што тая і сын вельмі падобныя: у яе такія ж, як і ў яго, прыемныя рысы твару, але, здаецца, характар у жанчыны больш лагодны, хаця ў размове яна больш эмацыянальная чым ён.

Калі маці з сынам крыху пагаварылі, Палуніна раптам ні з таго ні з сяго нібыта абыякава падала Вользе Міхайлаўне загорнуты ў паперу невялікі скрутак.

— Вазьміце, калі ласка, мілачка. Гэта вам.

Вольга Міхайлаўна адхіснулася ад жанчыны, са здзіўленнем паглядзела на яе, потым перавяла разгублены позірк на Максіма Пятровіча, адчула, што чырванее, і яны абодва зразумелі — адбылося штосьці непрыемнае, нетактоўнае.

— Гэта грошы… — патлумачыла жанчына. — Вы ж панеслі страты.

— Не трэба… Што вы… — яшчэ больш пачырванела Вольга Міхайлаўна і рашуча адсунула скрутак ад сябе. — Нехта павінен быў дапамагчы. Я ж не дзеля грошай...

Маці Палуніна застыла ў недаўменні.

— Як жа так, задарма? Цяпер свет такі, што…

— Прабачце Вольга Міхайлаўна, мама не хацела вас пакрыўдзіць, — сказаў Палунін. — Ёй хацелася неяк кампенсаваць затраты, якія вы панеслі з-за мяне. Ды і расходы на Кацю… Прабачце. Зрэшты, калі папраўдзе, то і я ўжо звыкся з тым, што цяпер за ўсё трэба плаціць.

— Ат, не трэба прабачэння, — крыху супакоіўшыся, сказала Вольга Міхайлаўна. — Давайце лепш забудзем пра гэта, бачу, мая дапамога больш не патрэбна, — Вольга Міхайлаўна паглядзела на шчаслівых Кацю, Палуніна, яго маці. — Будзем у школе сустракацца, — настаўніца выйшла з палаты, ёй хацелася хутчэй пазбавіцца таго непрыемнага пачуцця, якое апанавала ёю, калі маці Палуніна давала грошы…

А Максіму Пятровічу пасля таго, як Вольга Міхайлаўна пайшла, стала сумна. Падалося, нібы ў палаце паменела святла, здаецца, тут нават павеяла холадам. Толькі цяпер ён зразумеў, што доўгімі зімовымі вечарамі чакаў прыходу не толькі дачкі, а і яе настаўніцы. Яму было вельмі прыемна бачыць Вольгу Міхайлаўну, яна падабалася яму, гэтая сімпатычная прыгожая жанчына з правільнымі рысамі твару, падабаліся яе рудыя, крыху кучаравыя валасы, заўсёды акуратна прычэсаныя, ён любіў глядзець у яе светла-сінія вочы, на крыху кірпаты носік. Максім разумеў, што хваляванне, пяшчота да жанчыны

маглі ўзнікнуць з-за пачуцця ўдзячнасці, за ўсё тое, што яна рабіла для дачкі і для яго.

Часам, калі ў палату прыходзіла Каця з Вольгай Міхайлаўнай і ён размаўляў з дачкой, то заўважаў, што настаўніца прыглядваецца да яго. Здаралася, калі іх позіркі сустракаліся, тады абое адразу ж адводзілі вочы. Значыць, думаў ён, гэтая мілая жанчына не абыякавая да яго.

Увогуле ж, жанчын у Палуніна амаль і не было. Першае яго сур’ёзнае захапленне жанчынай закончылася шлюбам. Марго — яго ці то першае каханне ці захапленне, некалі таксама была прывабнай мілай дзяўчынай, ласкавай. Аднак чамусьці з гадамі іх сумеснага жыцця яна мянялася, так бы мовіць, станавілася грубаватай, няўважлівай да яго, І вось ужо даўно між імі, здаецца, з’явілася нейкае ледзь улоўнае адчужэнне. А запатрабаванні Марго непамерна раслі, ёй хацелася болей убораў, простая ежа ёй не падабалася, на стале часта з’яўляліся далікатэсы: балыкі, бужаніна, чырвоная рыба, ікра. Калі нарадзілася дачка, клопатаў прыбавілася, і Марго, непрывычная да фізічнай працы, часта недасыпаючы, а яшчэ зведаўшы да гэтага смак бесклапотнага і забяспечанага жыцця, пачала скардзіцца, што ён не дапамагае, заўсёды ў паездках.

Палунін, заняты працай, не заўважыў, як і калі жонка стала курыць дарагія цыгарэты, што ў яго доме ўсё часцей наладжваюцца застоллі, не адразу заўважыў, што яна паступова пачала піць.

Да яго ў бальніцу Марго прыходзіла толькі двойчы, і то, каб папрасіць грошай. У яе быў жахлівы выгляд. Была яна ў бруднай пакамечанай куртцы і пацёртых, у плямах ад тлушчу джынсах. Ад Марго патыхала перагарам. Апухлы твар было цяжка пазнаць.

Палунін памятаў — дома на стале ў партманеце, калі яго забралі ў бальніцу, заставалася шмат грошай, значыць, нейкі час, пакуль ён ляжаў тут, жонка з сяброўкамі жыла шыкоўна і, вядома ж, усе яго грошы, патраціла.

— Марго, спыніся, вазьміся за розум, што ты робіш? — пачаў ён ушчуваць жонку, калі яны выйшлі ў калідор, каб пагаварыць.

— Ну ты і зануда, Макс, — здзекліва ўсміхнулася яна. — А яшчэ да ўсяго ты стаў жмотам… Мне ж няма з чым ісці да цябе: я не магу купіць ні яблыкаў, ні апельсінаў. Грошай ні капейкі…

— Мне нічога не трэба. Тут нядрэнна кормяць, — на душы ў Максіма Пятровіча было прыкра, ды і вярэдзіла пачуццё жалю: гіне жонка, гіне, і ён не можа нічым ёй дапамагчы.

— Цябе то кормяць, а я галодная. Слухай, ты як-небудзь уцячы адсюль, толькі на гадзінку, знімі грошы. Ніхто не заўважыць, у ціхі час… Я прашу.

— Ты можаш пра мяне што хочаш думаць, а на выпіўку я табе грошай не дам! Ідзі працаваць, як гэта робяць усе людзі, — Палуніну хацелася, каб жонка хутчэй пайшла з бальніцы, ён заўважыў, што да іх прыслухоўваюцца хворыя, якія пахаджвалі па калідоры.

— Я ж нічога не ўмею рабіць, — упэўніўшыся, што ён не жартуе, казала яна, вырашыўшы памяняць тактыку. — Ну што ж, калі так, прыйдзецца прадаць чэшскі гарнітур. Я так і зраблю. Ужо і пакупніка знайшла.

Бессэнсоўна разважаць — калі і ў чым ён памыліўся. Няўжо ў тым, што ніколі не шкадаваў ёй грошай, якія, як разумеў, і сталі прычынай няшчасця? А грошы тыя даваліся яму нялёгка. Зрэшты, можна было б і не зарабляць шмат іх, але цяпер у грамадстве чалавек, здаецца, лічыцца самадастатковым толькі тады, калі ў яго ёсць важкі банкаўскі ўклад, прычым, пажадана ў валюце. Здаецца, цяпер ніякі іншы «капітал», тым больш душэўны, нікога не цікавіць. А дарэмна. Добрая жонка, сям’я, дзе ўсё ладам, як высветлілася, як паказала

жыццё, даражэй за любы самы каштоўны капітал, усялякія грошы. Вось было б у Марго болей розуму, любові да яго, Каці, не здарылася б той ідыёцкай сітуацыі, у якую трапіла сям'я.

## 6

На ўроку хіміі ў 11«Б», які ў школе лічыўся самым праблемным класам, адбылося незвычайнае здарэнне.

Хуліганаватаму Адаму Хвайніцкаму, які стаяў на ўліку ў міліцыі, хімічныя ўласцівасці металаў сталі нецікавыя, ён дастаў з кішэні запальнічку, шчоўкнуў ёю і паднёс да шыкоўнай шавялюры Пашы Мельніка, які сядзеў перад ім. Некаторыя выпускнікі адрошчвалі доўгія пасмы, якія звісалі да плеч. Паша Мельнік, укормлены, поўны хлопец адчуў небяспеку толькі тады, калі полымя ад запальнічкі кранула «шэдэўр» самадзейнага цырульнага майстэрства, які красаваўся на яго галаве. Ад болю Паша нема зароў на ўвесь клас, лаючыся, пачаў істэрычна біць сябе па галаве.

У класе запахла паленым. Прыкрываючы рукамі насы, перапалоханыя дзяўчынкі з крыкамі адчаю і абурэння павыбягалі з класа ў калідор. На шум, крыкі, грукат дзвярэй са свайго кабінета, які быў побач з кабінетам хіміі, выскачыў дырэктар. Выслухаўшы блытаны расказ настаўніцы хіміі Тамары Васільеўны, ён жахнуўся, схапіў адной рукой за каўнер пінжака Хвайніцкага, другой ягоную ахвяру і пацягнуў вучняў у калідор. Перад гэтым ён пакараў клас.

— Хочаце вясёлага, бесклапотнага жыцця, не можаце жыць без прыгод? Што ж, сядзіце, дыхайце гэтай паленай парфумай да канца заняткаў, усе шэсць урокаў, — ён, узрушаны незвычайным здарэннем, забыў, што палова ўрокаў прайшла. — Вокны не адкрываць, не хапала вам батарэі размарозіць! Што за клас… На ўсю школу план па незвычайных здарэннях перавыканалі. Учора дзверы зламалі, а сёння… А вы, Тамара Васільеўна, напішыце дакладную пра здарэнне, — кінуў ён напаследак настаўніцы.

Пасля гэтага ўрока наступнага ў Тамары Васільеўны не было, яна сядзела ў настаўніцкай, перажывала, не ведаючы, як быць. У настаўніцкую зазірнуў дырэктар — гэта быў яшчэ малады кіраўнік, працаваў толькі паўгода на пасадзе.

— Тамара Васільеўна, інцыдэнт вельмі сур'ёзны, я б аднёс яго да сацыяльна-небяспечных, — сказаў ён. — Беспакараным гэты ўчынак пакінуць нельга. Інакш Хвайніцкі, або нехта іншы школу падпаліць, калі мы своечасова не спынім гэтага хулігана. Вы напісалі дакладную? Напішыце на маё імя. Я пазваніў ужо інспектару па справах непаўналетніх. Хай міліцыя разбіраецца, гэта і яе функцыі.

— Даўно пара ў выхаваўчы працэс падключаць спецслужбы, — падтрымала дырэктара настаўніца англійскай мовы Марыя Пятроўна, якую многія за яе цвёрды, як у жалезнай лэдзі характар, называлі Тэтчар. — Гэтая беспакаранасць, патуранне інстынктам яшчэ не раз прынясе нашай школе дурную славу. Незразумела, хто каго неўзабаве будзе выхоўваць і ўвогуле, хто каго зараз накіроўвае на шлях ісціны. Вы думаеце, вучні не ведаюць, што нам за двойкі дастаецца болей, чым ім? Што «тры» цяпер ставяць толькі за наведванне заняткаў? Я Сёмкіну тры паставіла, а ён мне кажа: «Вы, Марыя Пятроўна, вечарам, пасля другой змены не баіцеся вяртацца са школы дадому?»

— Будзем наводзіць парадак, — з аптымізмам падвёў вынікі размовы дырэктар. — Так, настаўнікі павінны актывізаваць выхаваўчую індывідуальную работу. Але мітынг закончылі, разыходзімся па кабінетах, класах. Педагогі павінны быць дзе? У гушчы мас, а гэтая гушча для нас — дзеці. Раней

казалі: «Кантроль, кантроль і яшчэ раз кантроль», потым падкарэкціравалі: «Вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца», — дырэктар выйшаў з настаўніцкай, але ў клас не пайшоў, завярнуў у свой кабінет.

— Ну вось, самі падлілі масла ў агонь, а калі я працавала ў Польшчы…

Пачуўшы ў каторы раз гэтую фразу, якую прамовіла Тэтчар, некаторыя настаўнікі рашуча, нібыта кінуўшыся выконваць дырэктарскае распараджэнне, прыхапіўшы класныя журналы, накіраваліся да выхаду.

Яшчэ б, гісторыя пра тое, як Марыя Пятроўна паехала за мяжу зарабляць грошы, многім даўно набіла аскоміну: усе амаль дакладна ведалі пра парадкі ў сістэме выхавання суседняй дзяржавы.

— Не скажу, як там было па ўсёй краіне, а ў нашай школе дзяцей на перапынках у кабінетах не трымалі. Званок прагучаў — клас на замок, — працягвала Тэтчар. — Гэта самы верны спосаб захаваць у школе ўсё цэлым і ў парадку. Там дзеці перад дзвярыма чакаюць настаўнікаў. А настаўнікі кожны перапынак п’юць каву. Нам там і каву давалі, дарэчы, бясплатна. Яшчэ былі бясплатныя ручкі, сшыткі. А тут купі ўсё са сваёй зарплаты. Быццам яна ў нас як у расійскіх алігархаў. У нашай школе прыйдуць на ўрок чалавек пяць без ручак, алоўкаў, ды яшчэ іх, калі ласка, забяспечвай прыладамі працы… Ну вось, разбегліся педагогі, — Тэтчар закончыла сваю прамову амаль у апусцелай настаўніцкай, паглядзела на Вольгу Міхайлаўну, якая правярала сшыткі. — І ў вас фортка, Вольга Міхайлаўна?

— Але.

— Кіньце безнадзейную справу, пойдзем у сталовую кавы вып’ем.

— Баюся, не магу скласці вам кампанію, тады сачыненні не праверу.

— А я сшыткі даўно кінула правяраць. Мне за праверку капейкі налічваюць, няўжо за нейкі мізэр буду сляпіцца?

## 7

Роўна праз тыдзень Тэтчар зноў сумавала ў час вымушанага перапынку, а Вольга Міхайлаўна карпела над сшыткамі. У настаўніцкую зазірнула Карына Людвігаўна. Вольга Міхайлаўна, калі са стукам зачыніліся дзверы, азірнулася, затрымала позірк на каляжанцы. Яркі васількова колер убораў моднай настаўніцы не мог не выклікаць увагі.

— Карына Людвігаўна, у вас такі прыкід, што сёння вашым дзецям будзе не да вучобы, — не ўтрымалася Тэтчар.

«Хутка Новы год, — падумала Вольга Міхайлаўна. — Калі б Карына так не апранулася, то я і не ўспомніла б. Зусім забылася, што трэба падарункі купляць. Карына сёння як ёлка прыбралася. І навошта так ярка, з выклікам? Гэта ж школа».

Карына Людвігаўна і сапраўды была апранута нібы з выклікам. Васільковая трыкатажная кофтачка гладка аблягала гнуткую Карыніну фігуру, васільковымі былі і туфлі. І галоўнае — такога ж колеру — завушніцы: злучаныя ланцужкамі тры трохвугольнічкі дакладна нагадвалі дзве незвычайнага колеру елачкі. Доўгія пазногці бледных пальцаў былі пафарбаваны ў такі ж васільковы колер.

— Таварышы-панове, у мяне прапаў кашалёк, — зрабіўшы некалькі вальяжных крокаў па настаўніцкай, раптам аб’явіла Карына Людвігаўна.

— Можа, дзе-небудзь пакінула, — са шчырай заклапочанасцю паспачувала ёй Тэтчар. — У сталовай ці ў туалеце.

— Цікава. Ну, можна было пакінуць у сталовай, але я там не была, у туалеце… Цікавая арыгінальная версія. Не, я толькі што правяла ўрок. Дарэчы, у вашым класе, Вольга Міхайлаўна. Пасля званка выйшла пагаварыць па тэлефоне. Сумку, дурніца, пакінула, я часта яе пакідала ў класе. У вас няма нячыстых на руку дзяцей?

Вольга Міхайлаўна зразумела — праверыць сшыткі ёй не ўдасца.

— Карына Людвігаўна, я толькі тры месяцы, як класны кіраўнік. Што можна ведаць пра дваццаць трох чалавек за гэты час? Настаўніца пачатковых класаў нічога не сказала на гэты конт?

— А можа, хто-небудзь з наступнага класа заходзіў ды ўзяў? Што-небудзь узяць чужое — да гэтага болей схільныя падлеткі. Часта для таго, каб проста ўзяць, а не ўкрасці.

— 9 «В» добры клас. Там класны кіраўнік Мілена Сяргееўна. З вучнямі ўжо гаварыла, яны нічога не бачылі.

— А вы скажыце пра прапажу завучу па выхаваўчай рабоце, — параіла Тэтчар. — Яна ў падобных справах прафесіянал, мае багаты вопыт.

— Але ж якімі метадамі гэты прафесіянал у разборках карыстаецца, — палічыла патрэбным з ноткай скептыцызму папярэдзіць Вольга Міхайлаўна.

— Вынік, бывае, апраўдвае сродкі, — запярэчыла Тэтчар.

— Мяне ніколечкі не хвалюе, якімі сродкамі будуць здабыты весткі, мяне цікавіць мой кашалёк, там усё-такі былі мае пяцьдзясят тысяч, — сказала Карына.

Завучу па выхаваўчай рабоце Ганне Фёдараўне Піявінай далі прозвішча П’яўка. Называлі яе так не толькі некаторыя дзеці, а нават некалькі настаўнікаў. Мусіць, было за што — многім яна, як кажуць, добра-такі папсавала крыві.

Ганна Фёдараўна стварыла свой стыль работы. Кожны панядзелак у настаўніцкай вывешвала вялікі аркуш ватмана, на якім быў напісаны план выхаваўчай работы на тыдзень. Апрача ўрокаў, падрыхтоўкі да іх, праверкі сшыткаў, трэба было яшчэ і выконваць план работы завуча, які некаторыя настаўнікі ставілі на першае месца і дзеля яго выканання ахвяравалі нават урокамі. Тыя, хто па нейкай прычыне не змог выканаць план ці выконваў яго дрэнна, без выдумкі, не ў поўным аб’ёме, станавіўся аб’ектам строгай крытыкі. Калі Ганна Фёдараўна падводзіла вынікі выканання плана і выяўляла, што нехта не справіўся, то было бачна: яна адчувае ад гэтага нейкую адной ёй вядомую асалоду.

Адначасова П’яўка баялася праверак, і як толькі чула, што будзе праверка, у яе пачынала балець галава. Паколькі правяраючыя перш за ўсё глядзелі паперы, то завуч асаблівую ўвагу надавала афармленню дакументаў па выхаванні і патрабавала ад падначаленых, каб яны пісалі разгорнутыя планы і няўхільна іх выконвалі.

У той час, калі настаўнікі быццам навыперадкі выконвалі планы завуча, сама Ганна Фёдараўна, зачыніўшыся ў сваім кабінеце, чытала дэтэктывы. Калі дэтэктыў захопліваў яе вострым сюжэтам, а ў завуча ў раскладзе значыўся ўрок, то яна дачытвала яго на ўроку, дзецям жа давала самастойную работу. Вучні з класа, дзе вяла ўрокі П’яўка, скардзіліся сваім класным кіраўнікам, што часта пішуць сачыненні, якія яна, на жаль, не правярае ці правярае выбарачна.

Ганна Фёдараўна да здарэння — знік кашалёк з грашыма — паставілася вельмі сур’ёзна. Спачатку пагутарыла з тымі вучнямі, якія найчасцей парушалі дысцыпліну. Запалохваючы, спрабавала, каб хто-небудзь прызнаўся ў крадзяжы. Другім этапам расследавання была яе палкая прамова перад класам. Мілена прысутнічала пры гэтым.

— Мы правялі ўжо расследаванне, — упэўнена сцвярджала завуч вучням, — і дакладна ведаем, чыіх рук гэта справа. Каб не выносіць смецце з хаты, мы хочам, каб чалавек, які ўзяў кашалёк, сам вярнуў яго. Як гэта зрабіць? Я цяпер пайду ў сталовую, мой кабінет адкрыты, значыць, ёсць магчымасць зайсці туды, вярнуць чужое. Калі ж не будзе вернуты кашалёк, мы выклікаем міліцыю. Оперупаўнаважаны зніме адбіткі пальцаў з сумкі Карыны Людвігаўны, па іх і будзе выяўлены той, хто ўзяў кашалёк. У гэтым выпадку заводзіцца крымінальная справа, злодзея ставяць на ўлік, бацькі выплачваюць штраф, вінаваты ў крадзяжы атрымлівае чорную пляму на сваю біяграфію. Вось і думайце, трэба вам такое ці не?

Такую ж прамову, толькі ў больш даступнай форме, каб зразумелі пяцікласнікі, П’яўка сказала і на ўроку Вольгі Міхайлаўны. Настаўніца слухала яе ўважліва, ведала — гутаркі завуча не далі жаданага выніку.

— Ліха без дабра не бывае, — праз дзень пасля здарэння хвалілася Карына Людвігаўна, дастаючы з сумачкі новы кашалёк з кракадзілавай скуры. — Шкада, што не ведаю таго нягодніка, а так падзякавала б яму. Каб не выпадак, то хіба займела б я сумку за дзвесце даляраў? Вось, муж, даведаўшыся пра страту, прэзентаваў, — настаўніца паказала калегам дарагую сумачку.

Настаўнікі пасля такой дэманстрацыі рашылі, што працягваць пошукі злодзея не варта.

Дырэктар жа быў іншай думкі. Ён зайшоў у настаўніцкую ў час вялікага перапынку, каб даведацца, як ідзе следства. Кіраўнік школы спачатку звярнуўся да Тамары Васільеўны, яна правярала сшыткі.

— Тамара Васільеўна, вас прасілі зайсці ў міліцыю. Там цікавяцца здарэннем у 11«Б».

— Во, мне толькі знаёмства з міліцыяй на старасці гадоў і не хапала.

— Вы не хвалюйцеся, гэта толькі фармальнасці. Напішуць пратакол, вы паставіце свой подпіс, і ўся справа. Схадзіць усё ж давядзецца.

— Схаджу, схаджу, уладам трэба падпарадкоўвацца.

— Правільна мысліце. І не адкладвайце справу, зрабіце гэта тэрмінова, аператыўна.

Нечакана ў дырэктара зазваніў мабільнік.

— Так, слухаю, Юрый Канстанцінавіч… Штосьці вы да нас часта звяртаецеся. Сільвановіч Міша? Ёсць такі… Быццам някепскі хлопец, наколькі ведаю. Вучыцца сярэдне. Што, сабраць лінейку да дванаццаці? А чаму ж не, можам і сабраць. Скажыце толькі, дзеля чаго, па якой прычыне? Кажаце сюрпрыз? Ну, ваш сюрпрыз можа да інфаркту давесці. Што ж, калі так, пачакаем сюрпрызу, можа, нічога не здарыцца непажаданага да дванаццаці гадзін.

Усе, хто знаходзіўся ў настаўніцкай, чулі гутарку паміж дырэктарам і работнікам міліцыі, таксама былі заклапочаны здарэннем.

— Хто ўзяў кашалёк, так і не даведаліся? — спытаў дырэктар у настаўнікаў, адключыў мабільнік, асцярожна засунуў яго ў чахол, паклаў у кішэню.

Настаўнікі маўчалі, няўцямна паціскалі плячыма.

— А міліцыя, здаецца, ведае. І калі яны паспелі правесці расследаванне? Во, гэта работа, гэта сапраўдны прафесіяналізм высокага класа. Нам бы так аператыўна працаваць, — ён крыху памаўчаў, потым дадаў: — Ну што ж, у дванаццаць і мы даведаемся, хто злодзей. Так што прашу пастроіць дзяцей на лінейку… Так сказаць, у мэтах выхаваўчага ўздзеяння… — зноў памаўчаў, уздыхнуў: — Няўжо Сільвановіч? З чыйго ён класа, хто там класны кіраўнік? Чаму там дрэнна пастаўлена выхаваўчая работа?

Цяпер ужо з кожнай новай фразай дырэктар усё больш і больш злаваў, здавалася, яго ўсё раздражняла, асабліва настаўнікі, якія, спачуваючы, спало-

хана паглядвалі на збялелую Тамару Васільеўну. Яна паднялася з-за стала і абапіраючыся на яго дрыготкімі рукамі, стала па стойцы «смірна».

— Я класны кіраўнік, — шэптам прызналася старая настаўніца. — Я, Віктар Станіслававіч.

— Ну і як вы Сільвановіча прагледзелі?

— Віктар Станіслававіч, з пятага класа яго я вучу. Ён заўсёды быў такі прыкладны хлопчык, з добрай сям'і. Ну што зробіш… Не дапрацавалі, выходзіць. Дапусцілі памылку, будзем выпраўляць… Хто не памыляецца… Хаця, можа, не дарэмна кажуць, што ў ціхім балоце чэрці водзяцца. Калі ў класе іх дваццаць пяць, дзе ж за кожным прасочыш?

— Ён хоць у школе сёння?

— Заняткаў ён не прапускае.

— Прасачыце, каб абавязкова прысутнічаў на лінейцы, — загадаў дырэктар і высока ўзняўшы галаву, шырокімі крокамі пашыбаваў з настаўніцкай.

## 8

У апошні час у школе рэдка праводзілі лінейкі. Гэта раней, у савецкі перыяд, калі існавалі піянерскія дружыны, калі рэгулярна праходзілі камсамольскія сходы, вучні часта строіліся на лінейкі — былі розныя святы, падзеі. Цяпер лінейкі праводзілі толькі ў пачатку навучальнага года і ў канцы, прысвечаныя першаму і апошняму званку. Увогуле ж звычайна лінейкі праходзілі на пляцоўцы перад школай, у дажджлівае надвор'е, зімой дзяцей выводзілі ў фае на другім паверсе. Цяпер была зіма. Нечаканы сход усіх вучняў школы быў шумны і дрэнна арганізаваны. Аднак, калі з'явіліся дырэктар і начальнік райаддзела міліцыі, усе прыціхлі, чакаючы, што будзе далей.

Ад кепскага настрою, у якім быў дырэктар яшчэ гадзіну таму, і следу не засталося. Ён усміхаўся, нешта казаў напаўголаса падпалкоўніку міліцыі. Затым звярнуўся да вучняў і настаўнікаў:

— Сёння мы праводзім лінейку па адной вельмі важнай і прыемнай для нас усіх прычыне, — казаў дырэктар. — Калі гаварыць коратка, то адзін вучань нашай школы праявіў сябе як бясстрашны малады чалавек, як сапраўдны грамадзянін, сапраўдны мужчына. Я ведаю, што гэты юнак збіраецца паступаць у ваеннае вучылішча, ён марыць стаць афіцэрам. Але пасля ўчынку, які ён здзейсніў, упэўнены, яго з радасцю прынялі б не толькі ў ваенную акадэмію, а і ў тую навучальную ўстанову, дзе рыхтуюць афіцэраў міліцыі. Гэта коратка. Больш падрабязна раскажа наш госць, падпалкоўнік міліцыі Юрый Канстанцінавіч. Калі ласка, вам слова, Юрый Канстанцінавіч.

— Гэтае здарэнне адбылося позна вечарам, — пачаў прамову міліцыянер. — Адна жанчына, немаладога ўзросту пасля змены вярталася дамоў. Нечакана выпадковы прахожы, параўняўшыся з ёй, выхапіў сумку, у якой рабочая хлебапякарні несла свой месячны заробак, і кінуўся наўцёкі. Збянтэжаная, разгубленая жанчына апамяталася, стала клікаць на дапамогу. Непадалёку знаходзіўся вучань вашай школы з 11 класа Міша Сільвановіч. Пачуўшы крыкі, ён, ні секунды не раздумваючы, кінуўся на дапамогу. Мішы ўдалося трапіць на след злачынцы, які завярнуў у незнаёмы двор. Ён дагнаў мярзотніка, не толькі адабраў сумку, але і затрымаў яго. Выклікаў па мабільніку міліцыю, трымаў злачынцу да прыезду нарада. Вось такі, я не баюся перабольшвання, герой знаходзіцца сярод выхаванцаў вашай школы. І сёння ва ўрачыстай абстаноўцы выказваю яму, а таксама настаўнікам школы падзяку за выхаванне сапраўднага грамадзяніна. Таксама дазвольце мне ўручыць Мішы Сільвановічу грамату і грашовую прэмію. Калі ласка.

З няроўнай шарэнгі старшакласнікаў зрабіў некалькі крокаў наперад сціплы юнак у цеснаватым касцюмчыку і, саромеючыся, выйшаў на сярэдзіну калідора, дзе стаялі падпалкоўнік з дырэктарам. Падпалкоўнік моцна пацiснуў хлопцу руку, затым перадаў яму грамату і канверт з грашовай прэміяй. Дырэктар запляскаў у далоні, вучні тут жа заапладзіравалі. Усміхаліся дзеці, настаўнікі. Апладысменты сціхлі, калі Міша вярнуўся да свайго класа і сарамліва схаваўся за спіны таварышаў.

Тамара Васільеўна ўся свяцілася ад шчасця, быццам гэта яна стала героем дня, а не яе вучань…

Міша сціпла і годна перажываў хвіліны славы. Зрэдку ён паглядваў на сваіх аднакласнікаў, сярод якіх у натоўпе стаяла Юля. Тады вечарам яны разам вярталіся з кіно. Неўзабаве на пустой вуліцы пачулі крыкі аб дапамозе. Ён толькі сказаў ёй, каб бегла за ім, не заставалася адна на начной вуліцы, а сам што ёсць сілы кінуўся туды, адкуль чуўся жаночы крык.

Юлька Саніна Мішы падабалася даўно. Неяк на дыскатэцы ён асмеліўся запрасіць яе на танец, хаця да гэтага танцамі не надта захапляўся, лічыў сябе няздатным да такога занятку: неяк асвоіў нешта падобнае на вальс. Тады, калі танцавалі, і спытаў Юлю, чаму так часта ён бачыць з ёй Міколу Саковіча? Дзяўчына спакойна адказала, што Мікола яе даўні сябра, яны некалі разам хадзілі ў адзін садок, у адной пясочніцы пяклі «піражкі», жылі ў адным інтэрнаце. І вось Саніны нарэшце пабудавалі кватэру, пераехалі ў яе. Саковічы так і засталіся ў інтэрнаце. Бацькі ж Міколы занадта захапіліся моцнымі напоямі.

**9**

Школьныя вечары, як і лінейкі, праводзілі не часта. Звычайна, гэтаксама як і лінейкі, прымеркаваўшы да якога свята.

Гэты вечар, на які сабралася Юля, быў напярэдадні Новага года. Ідучы надвячоркам у школу, дзяўчына адчувала нейкае, здавалася, дасюль невядомае ёй і невытлумачальнае хваляванне, што агортвала душу, хаця было зразумела, ад чаго яно: ад сустрэчы з хлопцам, які ёй падабаецца. Юля, калі думала пра яго, зайздросціла тым паненкам, якія сто гадоў таму апраналі бальныя сукенкі, танцавалі вальсы, мазуркі, паланэзы з тымі, каго кахалі, зайздросціла, хаця і разумела — паненкамі былі нямногія

Цяпер жа, каб адпавядаць модзе, зімой трэба надзець тонкія калготкі, кароткія шорты, просценькую футболку, а зверху — майку іншага колеру, а ў дадатак сунуць ногі ў чорныя на белай гумовай падэшве кеды: такі «прыкід» у старшакласнікаў лічыўся шыкоўным.

Але нават у гэтакім уборы, які ёй не вельмі падабаўся, у яе быццам выраслі крылы, узнёслая, яна гатова была імчаць насустрач невядомаму ёй жыццю ні аб чым не задумваючыся.

На вечар Юля прыйшла раней прызначанага часу, стаяла з сяброўкамі ў зале каля сцяны, глядзела, як праходзяць конкурсы — на самы арыгінальны касцюм, на лепшае выкананне песні, верша, на бег у мяшках.

Сустракалі Новы год, як і летась і пазалетась, традыцыйна, у актавай зале, дзе звычайна праводзіліся ўрачыстасці, канцэрты ў святочныя дні. Збітыя акуратнымі планкамі крэслы па пяць штук адсунулі да адной са сцен так шчыльна, што тры чвэрці памяшкання сталі свабодныя. Некалькі радоў крэслаў прысунулі да астатніх сцен. І калі пачаўся вечар, гэтыя месцы ля сцен занялі найбольш ціхмяныя дзяўчаты і хлопцы, самыя ж актыўныя былі ў цэнтры, вакол ёлкі, дзе весялілі гледачоў і ўдзельнікаў вечара Дзед Мароз і Снягурачка.

Намесніку дырэктара школы па гаспадарчай частцы дзядзьку Васілю пашчасціла знайсці ў лесе сапраўдную ёлку-прыгажуню — стройную, з негустымі і не рэдкімі пушыстымі галінкамі. На ёлцы віселі і старыя, даволі такі выцвілыя ад часу цацкі са шкла, але шмат было і новых, яркіх шароў з пластыку. Кідаліся ў вочы просценькія даўнія і сучасныя іскрыстыя гірлянды. Мігцелі мініяцюрныя рознакаляровыя лямпачкі.

Аднак дзяўчыне пакуль што было не цікава, як і многія старшакласнікі, яна чакала, калі пачнецца дыскатэка, чакала сустрэчы з Міхасём.

А час нібыта спыніўся, і мінуты паўзуць як чарапахі. Хваляванне расце, быццам там, у сярэдзіне, разварушаны мурашнік.

Нарэшце настаў час дыскатэкі, на ўсю моц уключылі магнітафон, ёлка замільгацела рознакаляровымі агеньчыкамі, пачаліся танцы пад аглушальную, быццам хтосьці б'е абухом па галаве, музыку. Юля агледзелася па баках, але нідзе Міхася на заўважыла. Дзе ж ён падзеўся? — з хваляваннем думала яна, усё больш сумуючы. Няўжо не прыйшоў?

Яна ўжо хацела пайсці адсюль, як нехта лёгенька дакрануўся да яе пляча. Юля азірнулася.

— Ты… Нарэшце. Дзе ж ты прападаў? Хутка вечар скончыцца, — папракнула хлопца Юля.

А Міхась, здаецца, пачырванеў. Што рабілася ў яго на душы, пра гэта яна магла толькі здагадвацца.

— Прабач. Мама выпісала камандзіроўку. Ездзіў да бабулі ў вёску, трэба было завезці нейкую дробязь — прадукты, лекі, — хлопец на імгненне вінавата апусціў вочы.

Погляды іх нарэшце сустрэліся, і Юля адчула, як у яе моцна затахкала сэрца. Неўзабаве аглушальная музыка змянілася, паліліся гукі вальса, Юля і Міхась выйшлі ў круг. Толькі скончыўся вальс, як адразу зноў затрашчалі аглушальныя рытмы, ды так, што ажно закладвала вушы. «Пайшлі адсюль», — сказала Юля, і яны падаліся да выхада.

Ідучы, Міхась думаў пра тое, аб чым ён будзе гаварыць, усё, пра што яму хацелася раней расказаць дзяўчыне, раптам падалося звычайным, банальным, таму ён рашыў спачатку памаўчаць, сабрацца з думкамі. Прысеўшы ў фае на нізкую лаву, ён успомніў учарашні вечар, калі дачытваў цікавую кнігу — Аляксандра Крона пра легендарнага падводніка, героя вайны Аляксандра Марынеску. Яго ўсхваляваў лёс знакамітага марака, і хлопец раптам пачаў дзяліцца з дзяўчынай думкамі аб прачытаным. Ён гаварыў пра тое, што ўвогуле захапляецца мужнасцю герояў вайны, многія з якіх былі ўсяго на два-тры гады старэйшыя за яго, і ўвогуле... Але далей, не знайшоўшы слоў, сумеўся:

— Зрэшты, навошта я табе пераказваю? Лепш прынясу кнігу, сама прачытаеш. Гэтая кніга з ліку тых, што кожнаму чалавеку трэба абавязкова прачытаць.

Каля іх праходзілі аднакласнікі, знаёмыя з паралельных класаў, у фае заходзілі і выходзілі настаўнікі, але Юля і Міхась, захопленыя сваім, нічога вакол не заўважалі. Нечакана каля іх нехта спыніўся, закашляўся, яны нібы абудзіўшыся ад свайго, убачылі Міколу Саковіча.

Падлетак быў апрануты ў паліто, зашпіленае на адзін, самы нізкі гузік. На нагах хлопец трымаўся няўпэўнена, яго хістала ў бакі.

— Мікола, ты што, выпіў? — жахнулася Юля, калі хлопец адкашляўся.

— К-канечне. А вы яшчэ не? Магу д-даць параду, там, за вуглом наліваюць. Шуруйце, яшчэ паспееце. Лёха Курыла ў маці бутэльку самагонкі стырыў, — паволі, старанна падбіраючы патрэбныя словы, расцягваючы іх і

заікаючыся, казаў хлопец. Ад холаду яго праціналі дрыжыкі, але паліто ён не зашпільваў.

— Ну ты даеш… — прамовіла Юля. — Няўжо праўду гавораць пра яблыню і яблык?..

— Не, толькі наліваюць, без ніякай закусі… Ніякіх яблык… — па-свойму зразумеў яе Мікола.

— Ідзі дамоў хутчэй. Тут жа Піявіна… Ты зусім п’яны…

— Ну і што? Усе п’юць… Падумаеш… Затое настрой выдатны. Ніякіх праблем. Я цяпер разумею тых, хто п’е. Жыццё цудоўнае. Можна гаварыць пра што хочаш. Вось ты яго любіш, а не мяне, — тыцнуў ён пальцам у Міхася. — Раней гэта мяне кранала, цяпер жа мне ўсё да лямпачкі. Я пачакаю, я цярплівы. Нават калі цябе ён кіне, нават калі ты пастарэеш, у цябе будуць дзеці, усё роўна я цябе буду чакаць, чуеш?

— Тады яна табе будзе не патрэбна, — заўважыў Міхась.

— Гэта чаму?

— Сап’ешся… Алкаголікам, ці як цяпер называюць, алканаўтам станеш.

— Зразумеў… Можа быць такое, цалкам згодзен. Ну, калі не стану, то ўспомні пра мяне, я буду чакаць.

— Мікола, ідзі дамоў, — зноў папрасіла Юля, — тут жа настаўнікі, заўважаць, будуць непрыемнасці.

— Ты даеш, Юлька… Цяпер тут самае цікавае, а ты кажаш ідзі дамоў. — Мікола няпэўнай хадой пакіраваў у залу, адкуль даносілася гучная музыка.

— Трэба яго затрымаць, вярнуць, — сказаў Міша. Ён ужо наважыўся пайсці ў залу, але ўбачыў, што Піявіна, падтрымліваючы за руку Міколу, выводзіць яго адтуль.

Заўважыўшы Юлю і Мішу, Піявіна амаль пракрычала.

— Юля! Ты бачыш, у якім стане твой таварыш? Герой, нічога не скажаш. Вылучыўся! Ад цвярозага абцугамі слова не выцягнуць, цяпер жа яму мора па калені… Цяпер гаварыць з ім няма сэнсу. Дапамажыце яму дабрацца дамоў.

Мікола заўпарціўся:

— Не трэба п-праважатых, сам дайду.

Піявіна на дзіва лёгка згадзілася з ім.

— Ну, як хочаш. Толькі, каб без глупства, глядзі мне.

Юля і Міша не ведалі, ісці ім праводзіць Міколу ці не.

А Мікола паслухмяна, няўпэўненай хісткай паходкай накіраваўся да выхаду.

— Вось і арганізуй ім вечар, а потым хвалюйся, каб хто не ўлез у якую непрывабную гісторыю, каб дадому дабрыў, не акалеў на марозе, — не ўтрымалася Піявіна. — Усё, хопіць дыскатэк, у школе павінны даваць веды!

Але, вядома, гэта ад яе не залежала.

## 10

У 9«В» ішоў урок літаратуры. Вольгу Міхайлаўну радавала, што бессмяротны твор Пушкіна «Яўгеній Анегін» вельмі зацікавіў вучняў. Пушкін яшчэ са школьных гадоў у Вольгі Міхайлаўны быў адным з самых любімых паэтаў.

Калі з’явіліся камп’ютары, мабільныя тэлефоны, кабельнае тэлебачанне са шматлікай колькасцю каналаў, дзеці, як лічылі настаўнікі з вялікім педагагічным стажам, страцілі цікавасць да чытання, ва ўсякім разе сталі чытаць

менш, чым раней. Чытанне кніг, як пісаў адзін паэт (і яна была з ім згодна), гэта праца душы, нястомная, стваральная, якая ў многім фарміруе характар. Чалавек, асабліва юны, які не чытае добрых кніг, калі не дэградуе, дык духоўна не развіваецца. Зрэшты, Вольга Міхайлаўна разумела, што праграмныя творы літаратуры многія вучні чыталі для таго, каб атрымаць добрую адзнаку. І толькі асобныя падыходзілі на перапынку да настаўніцы, пыталіся, што цікавага, не ўключанага ў школьную праграму, яна параіла б пачытаць.

А тут «Яўгеній Анегін», здаецца, зацікавіў усіх. Увогуле рамантычная гісторыя кахання Таццяны і Анегіна заўсёды хвалявала хлопцаў і дзяўчат такога ўзросту, як у яе вучняў — вядома ж, у такія гады чакаеш сваё першае каханне. Аднак ацэнкі нораваў часоў, якія даўно прайшлі, тагачасныя традыцыі жыцця грамадства звычайна выклікалі спрэчкі. Многія не маглі зразумець — чаму гісторыі кахання заканчваліся сумна, чаму людзі, якія кахаюць адно аднаго, расстаюцца.

— Вольга Міхайлаўна, падзеі ў рамане адбываліся даўно, час быў іншы. Таццяну прымусам аддалі замуж за нялюбага. Калі потым Анегін яе пакахаў, Таццяна не магла развесціся, грамадства яе асудзіла б, — так разумеў Віктар Зуеў адносіны паміж галоўнымі героямі твора.

Віктар нядрэнна вучыўся, мог стаць выдатнікам, але яму перашкаджалі складаныя адносіны паміж бацькамі. Некалькі разоў бацька пакідаў сям’ю, хаця хутка вяртаўся назад.

— Яна не магла здрадзіць мужу, — заступілася за Таццяну Юля.

— Але ж быць жонкай аднаго, у думках марыць пра іншага, гэта ж грэх, — сарамліва сказала Маша Краўчук. Дзяўчынка займалася ў нядзельнай школе, відаць, добра ведала Евангелле.

— А хіба сказана, што яна марыла менавіта так? — засумняваўся нават двоечнік Пакаціла, які абыякава адносіўся да вучобы, але шмат чытаў дэтэктываў, як айчынных, так і замежных аўтараў, меў неблагую бібліятэку твораў фантастыкі.

— Ну і норавы былі раней… У Спарце дзяцей кідалі са скалы, дзесьці, цяпер не памятаю дзе, нямоглых старых адвозілі ў горы паміраць галоднай смерцю, у нейкім грамадстве нельга было развесціся з нялюбай. Цяпер добра. Калі каханне скончылася, можна ціха, мірна, палюбоўна разысціся, стварыць другую, нават трэцюю сям’ю, ці ўвогуле жыць бабылём, — выказваў сваю думку Зуеў. — Пра гэта ўвесь час па тэлевізары паказваюць.

— Усё роўна — гэта не што іншае, як здрадніцтва, да мужа ці жонкі, а галоўнае — да дзяцей, — сказала Юля.

— Дарэчы, пра здрадніцтва. Мне трапілася ў рукі кніга французскага мысліцеля Жульена Бенды «Здрадніцтва інтэлектуалаў». Вельмі цікавая кніга, пачытайце, — прапанаваў таварышам Зуеў. — Справа ў тым, што ў пэўны час эліта, ці інтэлектуалы адмовіліся ад вышэйшых каштоўнасцей — справядлівасці, рацыянальнасці, палічылі, што імі можна ахвяраваць дзеля практычных інтарэсаў. Такая практыка існавала і існуе не толькі ў Францыі. Нават цяпер можна прывесці шмат прыкладаў падобнага здрадніцтва…

— У дзевятнаццатым стагоддзі ў другі раз жаніліся ці выходзілі замуж толькі пасля смерці мужа ці жонкі. Сям’я была непарушнай, — паведаміла настаўніца. — Так было прынята ў грамадстве, і мала хто мог адступіць ад гэтага правіла.

— Во, значыць, трэба было выбіраць сабе спадарожніка жыцця так, каб назаўжды, — зрабіў вывад Пакаціла. — І правільна, мы ж не ў якой Азіі, дзе прыдумалі гарэм.

— А я чытала, што калі муж і жонка шмат гадоў жывуць разам, дык іх пачуцці прытупляюцца, слабеюць, — сказала Маша Краўчук. — Ёсць нават тэрміны: прытупляльнасць ці прытупляемасць.

— Што яшчэ за прытупляемасць? — пацікавіўся Пакаціла.

— Ну, калі ўзяць чароўную кветку, скажам, ружу, самую пяшчотную з кветак. І няхай кожны адарве ад яе па адным пялёстку. Што застанецца ад кветкі? — Маша крыху памаўчала, агледзела клас, чакаючы адказу.

— Ну што? Тут усё ясна — не будзе ружы, — Пакацілу гэта было зразумела.

— Застануцца калючкі, — працягвала Маша. — Так і чалавек, калі ён ветраны, не пастаянны ў сваіх пачуццях, то ён няздольны пакахаць. Вялікае шчасце для чалавека, калі ён і яна сустрэнуцца. А бывае так, што другая палавінка жыве побач, на суседняй вуліцы. А ты і не ведаеш пра гэта…

— Вось пра гэта якраз і напісаў адзін наш вядомы паэт, — дадала Вольга Міхайлаўна і на памяць прачытала:

Як я жыў без цябе?
І не ведаў, што недзе
На свеце,
За глухімі лясамі,
За сотнямі ўзгоркаў і меж,
Не на дальнім сузор'і,
А ў нас, на планеце,
Ты ў зялёным і ціхім
Завулку жывеш.

Як я жыў без цябе?
А маглі ж не сустрэцца ніколі,
За паўкроку
Адно аднаго абмінуць,
Разысціся,
Як сцежкі расходзяцца ў полі,
І не знаў бы,
За страту каго папракнуць…

У класе, калі настаўніца скончыла чытаць, устанавілася цішыня, яна была нядоўгая, нібы напятая, мабыць, цяпер кожны вучань думаў пра сваё. Настаўніцу радавала, што раўнадушных не было.

— Будзем каменціраваць верш? — спытала Вольга Міхайлаўна, калі ў класе ўсчаўся лёгкі шумок.

— Сапраўдная паэзія не патрабуе каментарыяў, — упэўнена, як быццам для яе гэта даўно вядомая ісціна, прамовіла Юля. — Я ведаю, хто гэта напісаў. Сяргей Грахоўскі. Паэт з нялёгкім жыццёвым і творчым лёсам. І яшчэ я чытала, што сапраўднаму каханню заўсёды няпроста. Што датычыць гэтага верша, думаю, яго не трэба тлумачыць. Тут усё зразумела.

— Згодны. Але ў апошні час з'явілася шмат твораў, якіх без каментарыяў не зразумець, — заклапочана сказаў Зуеў.

— Постмадэрнізм, — коратка ўдакладніла Маша.

— Ну, пра постмадэрнізм як-небудзь пагаворым на класнай гадзіне, а цяпер, — настаўніца зірнула на гадзіннік, — канец урока, застаецца вам даць дамашняе заданне. Але перад гэтым я прачытаю вам верш яшчэ пра адно каханне:

Калісь, як я выходзіў з хаты айца,
Тры кветкі ў дарогу ўзяў для жыцця:
Ад маткі і брата дзве кветкі дастаў,
А трэцю найлепшы мне друг дараваў.

І покі не звянуць тры кветкі мае
Значыць, што тужаць усе тры па мне.

Хутка прабеглі дні шчасця, пацех, —
На слёзы і гора змяніўся мой смех.
Я глянуў на кветкі: аж братня звяла,
Шчырага друга пад плесняй ляжала;
Адна толькі кветка як сонца цвіла:
Бо крэпка любіла матуля адна…

— Ну, гэта пра святое. Пра матчыну любоў, — зноў першай загаварыла Юля. — Тут таксама не трэба каментарыяў.

— Малайчына! — амаль усклікнула Вольга Міхайлаўна. — Сапраўдная паэзія, дарэчы, як і проза — вечныя… Бачна, што ты шмат чытаеш.

Юля пачырванела.

— А па тэлевізары паказваюць — колькі выпадкаў, калі маладыя маці адмаўляюцца ад сваіх немаўлят, якіх здаюць у інтэрнат, каб іх дзяржава выхоўвала, — падняўся з-за парты Пакаціла.

— Пра матчыну любоў мы з вамі таксама пагаворым, — Вольга Міхайлаўна ўзяла са стала класны журнал, збіраючыся ісці. — А вам яшчэ адно заданне: даведацца — хто аўтар верша. Таму, хто даведаецца, гарантую дзесяць балаў па літаратуры.

## 11

У гэты дзень вечарам Вольга Міхайлаўна планавала прыбраць у кватэры, але ў дзверы пазванілі. Сяргей гуляў з Машай, Вольга Міхайлаўна мыла на кухні посуд.

— Мама, мабыць, Каця да нас прыйшла! — радасна крыкнула ёй Маша.

— Паглядзім, можа і Каця, — сказаў Сяргей і пайшоў да дзвярэй, адчыніў іх. У калідоры стаяў высокі прыгожы мужчына, у адной руцэ ён трымаў вялікую каробку цукерак, у другой — торт. Побач з мужчынам стаяла дзяўчынка, рукі яе таксама былі заняты: у адной букет руж, у другой — унушальны пакет.

— Добры вечар, — павітаўся мужчына і ўбачыўшы, што Сяргей пазірае на яго неўразумела, дадаў: — На жаль, мы з вамі асабіста незнаёмы… Я — Кацін бацька, — мужчына пяшчотна паглядзеў на дачку. — Вось… Мы вырашылі падзякаваць вам, Вользе Міхайлаўне за тое, што ў цяжкі для нас час, калі я хварэў, калі была патрэбна дапамога, ваша сям’я вельмі чула паставілася да нас. Вольга Міхайлаўна дома?

Тым часам Вольга Міхайлаўна, занепакоеная тым, што ніхто так і не зайшоў у кватэру, выйшла з кухні, убачыўшы нечаканых гасцей, сумелася: не ў час, яна вельмі ж не любіла, калі парушаліся яе планы. І разам з тым было прыемна бачыць, што прыйшлі не чужыя ёй людзі — Каця за апошні час стала блізкай і ёй, і Машы. Услед за маці ў прыхожую выбегла Маша, узрадавалася:

— Заходзь… Заходзьце… А што я казала? Каця і… яе тата, — яна пацягнула Кацю ў кватэру.

Сяргей адступіў ад дзвярэй, моўчкі вызваляючы праход гасцям.

— Вы, я бачу, са сваім пачастункам — з адценнем дакору сказала гаспадыня. — Але што з вамі зробіш, калі ўжо так. Ну, Маша сёння паласуецца…

— Вольга Міхайлаўна, гэта вам, — стаўшы сур’ёзнай, прамовіла Каця і працягнула настаўніцы ружы. — Вялікі дзякуй вам за ўсё, што вы зрабілі для нашай сям’і, для мяне…

— Вольга Міхайлаўна, Сяргей… — пачаў гаварыць Палунін.

— Іванавіч… — падказаў Сяргей.

— Сяргей Іванавіч, вы нас прабачце, мы, можа, і не ў час, але гэтую ідэю, прыйсці да вас, падказала мая мама, — быццам апраўдваўся Палунін не столькі перад Вольгай Міхайлаўнай, як перад яе мужам, краем вока пазіраючы на строгі, апушчаны ўніз позірк гаспадара.

— Ну што ж, маці, бацькоў, як вядома, трэба слухаць, — суха сказаў Сяргей. — Калі ўжо так атрымалася — праходзьце, не стаяць жа нам усім у парозе. Пап'ём чаю.

Вольга Міхайлаўна, паглядаючы на Палуніна, ветліва ўсміхнулася:

— Мне прыемна сказаць, што вы добра выглядаеце цяпер, пасля бальніцы.

— Дзякуй, — адчуваючы сябе няёмка, сказаў Палунін. Ён зразумеў, што іх нечаканы прыход з Кацяй паставіў гаспадароў у няёмкае становішча, яны былі разгубленымі. — Але, здаецца, мы не ў час…

— Нічога, нічога, усё ў час. Нам вельмі прыемна, што ў вас усё ў парадку. Здароўе — самае дарагое, што ёсць у чалавека. Адзначыць выздараўленне не грэх, — Сяргей, адчуваючы што гасцям таксама стала няёмка, паспрабаваў пераканаць Палуніна.

— Мужчыны, стаўце стол! — адразу загадала Вольга Міхайлаўна, адчуўшы, што між Сяргеем і Палуніным знікае халадок адчужанасці.

Пакуль мужчыны ставілі ў гасцінай раскідны стол, Вольга Міхайлаўна прынесла парэзаны на кавалкі торт, цукеркі, бананы, апельсіны, вінаград (як толькі паспела справіцца), Сяргей Іванавіч адкаркаваў бутэльку віна, наліў у бакалы.

— За вас, Максім Пятровіч, — па праву гаспадара сказаў Сяргей Іванавіч. — Каб не хварэлі, — ён падняў бакал з віном.

— Дзякуй. Буду старацца.

Прыгубілі. Паставілі бакалы.

— Якое цудоўнае віно, — усклікнула Вольга Міхайлаўна, не стрымліваючы здзіўлення і захаплення ад смаку і паху напою.

— Сапраўды, вельмі тонкі водар, прыемны смак, — падтрымаў жонку Сяргей, узяў у руку бутэльку, каб разгледзець этыкетку.

— Гэта сапраўднае бургундскае, — паведаміў Палунін.

— Прызнацца, ніколі не піла французскага віна, тым болей такога, як знакамітае бургундскае, — сказала Вольга Міхайлаўна. — Каньяк з назвай «Напалеон» даводзілася каштаваць, была некалі ў продажы такая арыгінальная бутэлька каньяку, а бургундскага…

— А я, трапіўшы ў бальніцу, рашыў болей спіртнога не ўжываць. Столькі гора яно прынесла ў нашу сям'ю… А вось прайшоў тыдзень, і я парушыў сваё абяцанне… Ды і мама мая настойвала, каб зайшлі да вас і проста па-чалавечы падзякавалі. Яна ж вельмі перажывала за тое, што тады ў палаце вам прапаноўвала. Кажа, што там, дзе яна жыве, без гэтага і кроку не ступіць.

— Нічога, — паспрабавала яго супакоіць Вольга Міхайлаўна. — Скажыце, каб не думала пра гэта. Як добра, што вы паправіліся, што ў Каці ладзіцца з вучобай. І наогул, і вы, і яна — малайчыны!.. Што тычыцца спіртнога, дык мы, настаўнікі, ведаем, колькі ад яго бед і бацькам і дзецям.

Дарослыя гаварылі аб розным і шмат, дзяўчаткі накінуліся на бананы і мандарыны, паспыталі цукерак з каробкі асарці, хутка адышлі ад стала, гулялі ў цацкі.

## 12

Праз тыдзень Вольга Міхайлаўна праводзіла бацькоўскі сход, трэці з пачатку навучальнага года. Сёння прыйшлі бацькі амаль усіх вучняў, што яе вельмі радавала. Увогуле ж лічылася нармальным, калі на яго збіралася крыху больш як палова. Тыя бацькі, якія не прыходзілі на сход, спасылаліся на занятасць. Звычайна клас наведвалі маці вучняў, рэдка з каторай сям'і бацька. А вось з сям'і Палуніных раней не прыходзіў ніхто.

Цяпер у цэнтры класа, уціснуўшыся паміж адкрытым вечкам парты і спінкай, сядзеў Палунін, уважліва слухаў настаўніцу, не зводзячы з яе вачэй.

Яго праніклівы і смелы позірк Вольгу Міхайлаўну адначасова і радаваў, і палохаў. Так на яе яшчэ ніхто не глядзеў.

Вольга Міхайлаўна разумела, што падабаецца яму, але вельмі баялася прызнацца сабе ў гэтым. На душы разам з тым радасна і хораша ад таго, што яна бачыць гэтага чалавека, што ён побач. Але ёй вельмі не хацелася, каб бацькі яе вучняў заўважылі гэта, старалася не глядзець туды, дзе знаходзіўся Палунін, і ўсё ж міжволі час ад часу пaглядала на яго. Ёй цяжка было стрымліваць сябе, душа была ўзрушана… Ёй вельмі хацелася адказаць гэтаму чалавеку такой жа пяшчотнай усмешкай на яго ўсмешку.

Такое з ёй здарылася ўпершыню. Ёй трыццаць тры, аднак цяпер адчуванне, як у дзяўчынкі. Так, мабыць, яна кахала ў юнацтве, але надта нейкім прэсным нешчаслівым каханнем. Сярод сяброўак яна, здаецца, нічым не вылучалася, таму і кавалераў мела няшмат. Тых, нешматлікіх юнакоў, якія да яе заляцаліся, яна цярпела толькі дзеля таго, каб сярод сяброўак не выглядаць больш няўдачлівай, чым яны…

Вольга Міхайлаўна, ледзь стрымліваючы хваляванне, расказала бацькам, як вучацца іх дзеці, прачытала з журнала адзнакі па галоўных прадметах.

— Ну, вось і ўсё, што я хацела вам сёння паведаміць, — нарэшце сказала яна і паглядзела на гадзіннік. — Калі ёсць пытанні, задавайце іх, ці можаце, хто хоча, застацца пасля сходу, абмяркуем пра нявысветленае індывідуальна.

Большасць бацькоў заспяшаліся да выхаду, некалькі чалавек падышлі да Вольгі Міхайлаўны, удакладнілі ацэнкі сваіх дзяцей, маўляў, не запомнілі. Яна пагаварыла з кожным, адказала на іхнія пытанні, і калі ўсе нарэшце пайшлі, у класе засталіся яна і Палунін.

— Вас, Максім Пятровіч, дома ніхто не чакае? — спытала Вольга Міхайлаўна, адчуваючы няёмкасць: яны ж удваіх.

— Каця чакае… Але я падвязу вас, нам па дарозе. Час позні, ісці не так і блізка…

— Як жа так? — здзівілася Вольга Міхайлаўна. — Вы ж жывяце не так і далёка ад школы.

— Раней жыў. Цяпер не. Ведаеце, Вольга Міхайлаўна, няма ўжо сілы, каб усё гэта бачыць. На вялікі жаль, мне давялося пераканацца, што мая жонка нават і не думае нічога мяняць у сваім жыцці. Таму мы з Кацяй перабраліся ў інтэрнат. І мая мама ўхваліла рашэнне…

— Зразумела… Інтэрнат хоць добры? — Вольга Міхайлаўна ўспомніла інтэрнат, у якім жыў Саковіч.

— Добры, сямейнага тыпу, у нас двухпакаёвая кватэра. Хочаце паглядзець? Можам заехаць.

— Не, у другі раз, — таропка яна сабрала паперы, узяла класны журнал. — Што ж, пойдзем, толькі я журнал занясу ў настаўніцкую.

Яны моўчкі прайшлі па пустым паўцёмным, з адной лямпачкай, калідоры. З настаўніцкай Вольга Міхайлаўна пайшла да выхада, парушыла доўгае маўчанне:

— Няўжо ўсё так кепска ў вашым жыцці? Няўжо нельга нічым дапамагчы, паправіць? Ёсць жа людзі, што спыняюцца на такім хісткім шляху, на які стала ваша жонка, вяртаюцца да нармальнага жыцця.

— Я гатовы пра ўсё забыць, прабачыць ёй разбэшчанасць, але ж яна, як казаў, сама не хоча нічога перайначваць. Ёй падабаецца толькі такое жыццё, якім жыве.

Яны падышлі да машыны. Рухавік БМВ лёгка завуркатаў, праз некалькі секунд яны выехалі са школьнага двара на вуліцу.

Гаварыць адно, а думаць пра іншае не хацелася, і Максім Пятровіч вырашыў, што часу хадзіць «кругом і навокал» у яго не будзе, ён, у рэшце рэшт, не падлетак, дарослы чалавек, таму трэба ўсё высветліць адразу.

— Вы, Вольга Міхайлаўна, мужа свайго любіце? Толькі чэсна… — спытаў ён.

Яна ўсміхнулася і зусім не здзівілася такому пытанню. Адказала спакойна, нават амаль абыякава.

— Скажам так: мае пачуцці былі роўнымі, даволі стрыманымі. Ён мне падабаўся. Мне было дваццаць восем, як вы разумееце, амаль цэйтнот, хацелася не адстаць ад сябровак, якія мелі сем’і, жылі сваімі інтарэсамі.

Максім не разумеў — жартуе яна ці гаворыць усур’ёз.

— А цяпер усё не так?

— Я бачу, што вы нераўнадушны да мяне. Можа, і я да вас. Але… — Яна змоўкла.

Машына спынілася ў двары, але не ля пад’езда, у якім жыла настаўніца, далей ад яго.

— Мусіць, позна што-небудзь мяняць,— са смуткам прагаварыла яна.

— Лепш позна, чым потым шкадаваць усё жыццё, што ў свой час не зрабіў рашучы крок, не паспрабаваў змяніць лёс.

Выйшлі з машыны адначасова, яна, быццам спрабуючы як мага хутчэй застацца адной, памкнулася прэч, ён — каб дагнаць, затрымаць яе.

— Вольга… — аклікнуў яе Максім. Яна спынілася і праз імгненне ён ужо трымаў яе руку у сваёй руцэ. — Вольга, — паўтарыў ён. — Якое цудоўнае імя…

Іх позіркі сустрэліся, і ўжо не патрэбны былі словы. Пацалунак для яго і яе быў жаданы, страсны; адарваўшыся ад вуснаў, ён цалаваў яе твар, рукі ў другі, трэці раз; яна пакорліва прымала яго пяшчоты. Нарэшце яна адхіснулася ад яго, нібы апамятаўшыся.

— Мне трэба ісці, — сум і адчай былі ў гэтых ціхіх, сказаных напаўшэптам словах.

— Я пазваню табе. На мабільны…

Яна не адказала, паволі пайшла да свайго пад’езда.

## 13

Назаўтра была субота.

Нягледзячы на цяжкую, вельмі насычаную падзеямі мінулую пятніцу, неспакойную, амаль без сна ноч, Вольга Міхайлаўна як ніколі хутка прыбрала ў кватэры, адчувала прыліў сілы; хутка згатавала сняданак. Некалькі разоў падыходзіла да мабільнага тэлефона, глядзела, ці няма прапушчаных

выклікаў. Яна адключыла званок, здаралася, муж іншы раз мог адказаць, калі тэлефанавалі Вользе Міхайлаўне.

Тое, што званкоў не было, яе засмуціла.

Вечарам настрой быў іншым. Які ж пераменлівы душэўны стан чалавека, які ж ён невытлумачальны… Перамена настрою прымусіла яшчэ напрыканцы дня адключыць мабільны тэлефон. А позна вечарам па звычайным пазваніла маці. Сіл, каб падбадзёрыць сябе, не засмуціць роднага чалавека, нетавала. Маці адразу зразумела, што з дачкой нешта здарылася, але адразу распытваць яна чамусьці не стала…

У маці незайздросна склаўся лёс, яна рана засталася ўдавой. Вользін бацька ўтапіўся, ратуючы суседскіх дзяцей, якія каталіся на слаба замёрзшым возеры і праваліліся пад лёд. Іх выштурхнуў на бераг, а сам не змог на яго выбрацца. Вольга дрэнна памятала бацьку. «Чужых выратаваў, а сваіх асіраціў» — сумныя словы маці, якія яна аднойчы пачула ў дзяцінстве, назаўсёды засталіся ў памяці.

Маці адна выхоўвала дваіх дзяцей, як кажуць, ставіла іх на ногі, выводзіла ў людзі. Калі ўтапіўся бацька, тады Вользе было ўсяго пяць гадоў, брату Віктару — восем. Маці працавала на заводзе, калі можна было, заставалася звышурочна, пра сябе быццам забылася, усё рабіла, каб дзеці ні ў чым не адчувалі нястачы, каб вывучыліся, атрымалі прафесію, былі добрымі людзьмі. І дзеці маці ніколі не падводзілі, стараліся добра вучыцца, дапамагалі дома. Калі Вольга ўслед за Віктарам паступіла ва ўніверсітэт, які быў за дзвесце кіламетраў ад роднага горада, маці засталася адна ў двухпакаёвай кватэры. Але на працы яна была сярод людзей, у прафкаме, заўважыўшы, як ёй цяжка маральна адной дома, прапанавалі бясплатную пуцёўку ў санаторый. Тая адмаўлялася, тады якраз у Вольгі былі канікулы і яна ўгаварыла маці паехаць на поўдзень.

Зрэшты, людзі праўду кажуць, што не ведаеш, дзе цябе чакае лёс. Добрага чалавека сустрэла там. Бедная матуля, зноў перажыванні: не ведала як пра гэта сказаць дзецям, і дарэмна — Вольга з Віктарам вельмі парадаваліся за маці. Ведалі, несалодкае было ў яе жыццё…

— Волечка, што здарылася? — нарэшце спытала маці.

— Усё нармальна, мама, не хвалюйся, у сям'і ўсё добра. Ніхто не хварэе, — паспрабавала супакоіць яе Вольга.

— Ну, значыць, нешта з табой, калі так кажаш, — сказала маці. — Што ж, калі не хочаш, не кажы, я не буду настойваць — і раптам: — А ты ў царкве даўно была? Да споведзі калі хадзіла? Схадзі. Бог дапаможа. Не думай, што сама справішся…

Вольга Міхайлаўна падпарадкавалася мамінай парадзе і таму ў нядзелю вырашыла схадзіць у царкву. Туды яна хадзіла нячаста, але заўсёды пасля наведвання храма адчувала на душы палёгку. Прыгажосць храмавага ўбрання, лікі святых на іконах, спевы, трапяткія язычкі полымя свечак, пах ладана супакойвалі яе. Ды і прыхаджане і прыхаджанкі, такія розныя і непадобныя людзі ў звычайным жыцці, тут перайначваліся, станавіліся ціхімі, лагоднымі, блізкімі.

Як ні спяшалася Вольга Міхайлаўна, усё ж спазнілася да пачатку службы: Машы таксама захацелася пайсці з маці ў царкву, і зборы зацягнуліся.

Яны ўвайшлі ў храм, калі стары бацюшка чытаў нядзельную казань. Быў ён аскетычны, хударлявы, добры і строгі, на твары можна было прачытаць пакорлівасць і лагоднасць. Ён чымсьці нагадваў манаха, якому было вядома многае, недаступнае ў гэтым жыцці простым смяротным. Прыхаджане любілі

і паважалі айца Іаана. Многія з іх, хаця і жылі ў другой частцы горада, дзе таксама была царква, прыходзілі менавіта ў гэты храм. Яго ўстановы, пропаведзі падабаліся і Вользе.

Сёння айцец Іаан гаварыў пра чалавечыя слабасці. Пра тое, як чалавек зноў і зноў паддаецца шматлікім спакусам. Цяпер чамусьці ён расказваў пра ўзаемаадносіны мужчын і жанчын. Вольга ўважліва слухала.

— Чалавек часта бывае сляпым і не бачыць свайго шчасця, — выдатна, нібы ў акцёра, пастаўлены голас айца Іаана ўладарна плыў у прасторы храма. — Святы князь Пётр спачатку быў звычайным чалавекам і не хацеў жаніцца на сваёй будучай жонцы Фяўронні. Яна вылечыла яго ад праказы, за гэта ён абяцаў жаніцца. Але вылечыўшыся, адмовіўся ад свайго слова. Толькі калі хвароба зноў вярнулася да яго, выканаў сваё абяцанне. У Пятра быў стражнік, якому вельмі падабалася Фяўронія, — казаў святар. — Аднойчы на караблі ён прызнаўся ёй у гэтым. У адказ яна падвяла яго спачатку да аднаго борта, потым да другога. «Ці ёсць розніца паміж вадой з розных бакоў?» — спытала яна. Ён адказаў, што няма. «Вось так і жаночая сутнасць аднолькавая ва ўсіх».

Гэтая казань нібы перавярнула ўсё ў душы жанчыны: дык вось яно што, думала яна, у маім становішчы трэба дзейнічаць разумна, разважліва, строга, каб нікога не абразіць, не пакрыўдзіць.

Тут, калі ўжо так, трэба ахвяраваць сваім. А гэта не проста.

Выходзячы з храма Вольга думала, што, нават нягледзячы на спазненне, з-за чаго не змагла пачуць усёй пропаведзі, усё ж атрымала адказ на свае сумненні. Гнятлівыя думкі зніклі, на душы пасвятлела, яна супакоілася, было такое адчуванне, быццам камень зваліўся з плеч, а з вачэй упала заслона. Цяпер Вользе ўсё стала простым і зразумелым: у яе ёсць муж, дачка. Гэта яе галоўная каштоўнасць, яе надзея і апора. А як усё гэта яна магла лёгка страціць, калі б не паслухалася розуму.

## 14

У настаўніцкай зранку было шматлюдна. Звычайна ў гэты час дырэктар часта наведваўся сюды, асабліва калі трэба было нешта аб’явіць, некага пабачыць, параіцца з настаўнікамі.

У гэтую раніцу ён зайшоў, каб пазнаёміць педагогаў з пісьмом, што прыйшло з міліцыі ў школу. Гэта быў адказ, які даслала міліцыя на зварот Тамары Васільеўны. У сваім звароце ў органы настаўніца скардзілася на «безобразие», «хулиганство», і прасіла пакараць вінаватага «по всей строгости». Афіцыйныя фразы паведамлялі, што паколькі пацярпелы не мае прэтэнзій да асобы, якая здзейсніла хуліганскі ўчынак, то і няма складу злачынства. А таксама, што нецэнзурная лаянка пацярпелага была наступствам стану афекту, да якога давялі вучня.

— Усё зразумела, — безнадзейна махнула рукой Тамара Васільеўна. — Гэтай маёй дакладной толькі стварылі нікому непатрэбныя праблемы. Відаць, там пашкадавалі малалетніх хуліганаў. Вырашылі, калі мы педагогі, дык самі і павінны адказваць за дзеянні сваіх вучняў, паколькі дрэнна іх выхоўваем.

— Так, Тамара Васільеўна. Мы павінны выхоўваць вучняў як след, а не толькі даваць ім веды, — сказаў дырэктар. — Мы ва ўсім перш за ўсё мусім разабрацца самі. Канечне, у школе з кожным годам ускладняюцца ўмовы нашай працы, значыць, мы павінны шукаць новыя, больш дзейсныя формы навучання і выхавання.

Усё, што казаў дырэктар, было вядома ўсім, як азбука. Але як быць з тым, што зараз, па меркаванні многіх вопытных педагогаў, якія прапрацавалі ў школе не адзін дзясятак гадоў, дзеці цяпер не такія паслухмяныя і дысцыплінаваныя, як раней?.. Да ўсяго, многім патураюць бацькі. Праца ж настаўніка стала зусім не прэстыжнай.

Дырэктар паклаў у канверт ліст з міліцыі, выйшаў з настаўніцкай, а педагогі, абураныя такім адказам, адчувалі сябе пакрыўджанымі. Вось і паскардзілася. Выходзіць, што ты ж і вінаватая.

Карына Людвігаўна, як заўсёды эмацыянальная, раптам абурылася:

— Усё, хопіць, дажыліся!.. Вы, паглядзіце, што робіцца. Злазьце ў інтэрнэт. Чаго там толькі няма! Сметніца чалавечага жыцця.

— Не скажыце, — нясмела запярэчыла ёй біёлаг Юлечка. — Я, напрыклад, усялякае глупства не гляджу. А вось на сайт аднакласнікаў заходжу. Ды і ад прагрэсу адставаць нельга. Цяпер увесь свет сядзіць у інтэрнэце. Сёння нельга жыць так, як жылі раней, — Юлечка, Юлія Дзмітрыеўна, цяпер ужо гаварыла ўпэўнена, нібы любуючыся сабой, маладая, прыгожая, з густам апранутая.

— Ой, дзяўчаткі, забылася сказаць! — усклікнула Карына Людвігаўна. — Я праз інтэрнэт з такім бізнесменам з Масквы пазнаёмілася! У яго свой дом у Італіі, а на Мальдзівах віла. Ён не ведае, што я ўсё не ўсур'ёз пачала, а дзеля забавы, гульні. Кліча ў госці, прапанаваў адпачыць за мяжой. Так што асвойвайце інтэрнэт, праз яго ў кожнай ёсць магчымасць знайсці сваё шчасце.

Мілена Сяргееўна, сама таго не жадаючы, стала сведкай гэтай размовы. Яна сядзела непадалёку, чакала Алу Барысаўну, каб дамовіцца вечарам наведаць аднаго вучня.

— Прабачце, што ўмешваюся ў размову, — не змагла ўтрымацца Мілена Сяргееўна. — Я выпадкова пачула пра што гаворка і хачу спытаць, Карына Людвігаўна, вы не баіцеся махляроў, іх жа столькі развялося… Ды і напісаць пра сябе можна што заўгодна. Іншы раз, размаўляючы з чалавекам, можаш даведацца пра яго ўсё. А бывае, што нічога не даведаешся, нават калі бачыш твар, вочы, чуеш інтанацыі голасу. Двудушнасць так завуаліравана, ёсць жа сапраўдныя артысты. А тут — звычайная перапіска.

— Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць, — самаўпэўненасць Карыны Людвігаўны была неабвержнай, хаця яе ніхто не падтрымаў, і ніхто ёй не запярэчыў. Маўляў, хай…

Тым часам Мілена ўбачыла Алу Барысаўну і накіравалася да яе. Сваімі паводзінамі, манерамі Ала Барысаўна нагадвала тыповага настаўніка савецкага часу. Звычайна, калі ў школу прыходзіў малады педагог і сустракаў Алу Барысаўну, адразу ж у думках параўноўваў гэтую немаладую жанчыну з непрыступнай сцяной, зрэшты, у нечым яна, вобразна кажучы, такой і была, у чым потым не раз пераконваўся навічок. І прозвішча да Алы Барысаўны прыклеілася адпаведнае — Браняпоезд, хаця магло быць і Скала. На прапанову Мілены разам наведаць вучаніцу ці вучня з класа Алы Барысаўны, яна звычайна адмаўлялася, спасылаючыся на самыя розныя прычыны. То казала, што сёння ў яе восем урокаў, а гэта азначае, што пасля апошняга яна будзе нібы выціснуты лімон, то ў яе рэпетытарства, то ўспаміналa, што трэба шукаць шпалеры — робіць рамонт, словам, прычыны заўсёды знаходзіліся. І сёння, мусіць, давядзецца, думала Мілена, ёй адной ісці да бацькоў дзяўчынкі.

Размова з Браняпоездам, як і меркавала, не дала жаданага выніку, і Мілена, зірнуўшы на гадзіннік, пашкадавала дарэмна змарнаванага часу, вырашыла схадзіць у свой клас.

Там было малалюдна, але дзверы не зачыняліся, у клас уваходзілі вучні, рыхтаваліся да наступнага ўрока. За сваёй партай гартала падручнік вёрткая, як яшчарка, староста класа Алеся Барнік. Яна падняла вочы, убачыла Міколу Саковіча, паклікала яго да сябе. Алеся добра ладзіла з аднакласнікамі. Яна магла ўгаварыць на справу, якую задумала, нават самага апошняга гультая і флегматыка, у дзяўчыны, здаецца, не было праціўнікаў, яе ўсе любілі і паважалі.

Алеся гаварыла з Міколам Саковічам, у чымсьці горача запэўнівала яго, але той слухаў яе няўважліва, час ад часу паглядваючы на Юлю Саніну, якая старанна вычэрчвала ў сшытку нейкія квадраты.

«Няўжо Юля спісвае заданне па матэматыцы?» — падумала Мілена Сяргееўна і падышла да дзяўчыны.

— Мілена Сяргееўна, я няправільна зрабіла чарцёж, ну і няправільна рашыла. Вось і хачу да пачатку ўрока выправіць памылку.

— Што ж, вельмі важна своечасова заўважыць і выправіць памылку, — пахваліла вучаніцу настаўніца.

Тым часам да яе з вінаватым выглядам падышла Лена Сазановіч.

— Мілена Сяргееўна, у мяне грошы, што збіралі на рамонт школы, прапалі.

Дрэнная навіна аказалася для настаўніцы нечаканай.

— Калі? Колькі?

— Учора. Сто пятнаццаць тысяч. Я дакладна не памятаю, толькі ведаю — чатыры чалавекі не здалі. Перад фізкультурай і фізікай грошы былі на месцы, яны ў мяне ў дзённіку ляжалі, разам са спіскам тых, хто іх здаваў. На ўроку фізікі я хатняе заданне не запісвала, таму толькі дома выявіла, што грошы зніклі. Няма ні дзённіка, ні спіска, ні грошай.

— Парадавалі вы мяне, — настаўніца так разгубілася, што не магла выразіць, як рэагаваць на гэтае нечаканае здарэнне.

— Уяўляеце, Мілена Сяргееўна, у класе завёўся злодзей, — з абурэннем гаварыла Алеся. — Гэта ж такі сорам, ганьба для ўсіх! Трэба ж так праславіцца… У школе даведаюцца, П’яўка пачне разбірацца…

— Алеся… Гэта што яшчэ за п’яўка? — абурылася настаўніца.

— Ой, прабачце, неяк вырвалася… Ганну Фёдараўну многія так называюць. Яна ж міліцыю выкліча, успомняць гісторыю з кашальком, тады пачнецца…

— Вось што зробім спачатку, — рашуча сказала Мілена Сяргееўна. — Пакуль не будзем нікому гаварыць, што зніклі грошы, скажам пра гэта класу, паспрабуем самі разабрацца. Яшчэ перадайце хлопцам і дзяўчатам, калі хто ведае, чыіх рук гэта справа, няхай падыдзе да мяне.

— Мілена Сяргееўна, ніхто нічога не скажа, нават калі і бачыў, — запэўніў Саковіч, які ўсё чуў. — Гэта будзе лічыцца даносам, а даносчыкаў у нас няма.

— Ну, калі так, калі даносам лічыцца сказаць праўду, тады мне давядзецца закласці свае грошы, — засмуцілася Мілена Сяргееўна. — У мяне заробак вялікі.

— Чаму вам? — сказаў Валодзя Макей, які таксама чуў гэтую размову, яму болей чым іншым стала шкада настаўніцы, у яе голасе ён адчуў крыўду: і ў тым, што яе абурае сам факт крадзяжу, і ў тым, што сказаць праўду — данос, і ў тым, што мае вялікі заробак. Ведаў, зрэшты, як і ўсе, што зарплата ў настаўнікаў не вельмі. — Няхай Лена закладвае, яна праваронiла. Гэта ж хапіла розуму пакінуць без нагляду столькі грошай. Тым болей для яе маці — гэта капейкі, дробязь. Яна ж у Лены прадпрымальніца. Зрэшты, а чаму гэта мы збіраем грошы, а не бацькі?

— Канечне, сума для кожнага, настаўніка, ці рабочага, ці ўрача немалая, — спыніла яго Мілена Сяргееўна. — Грошы проста так нікому не даюцца. І ты, Валодзя, дарэмна так… Усё ж давайце пакуль нікому нічога не будзем гаварыць. А раптам гэта нехта пажартаваў? — Настаўніцы вельмі хацелася, каб у яе вучняў, амаль ужо дарослых, не было прыкра на душы. Ёй хацелася даць шанц не лічыцца злодзеем некаму таму, хто, можа, і сапраўды ўзяў грошы. Яна думала пра тое, як часта юны чалавек можа ці бяздумна, ці наўмысна здзейсніць нейкі непрывабны ўчынак, пра наступства якога ён нават не здагадваецца. Але потым, праз гады, можа стацца так, што гэты ўчынак пачне смылець, гарэць у яго ў душы, няшчадна выпальваць яе. І ён, гэты чалавек, з крыўдай будзе ўспамінаць школу, аднакласнікаў, асабліва настаўнікаў, якія не маглі зразумець, чаму ён гэта зрабіў, не паспрабавалі даць яму магчымасць выправіцца. І ўвогуле, як яна лічыла — ні сярод дарослых, тым больш сярод дзяцей няма дасканалых людзей, якой бы справай яны ні займаліся. Яна і сама сябе лічыла, калі задумвалася, не дасканалай, і часта пакутавала, перажывала, калі каго абражала, ці да каго адносілася непрыязна. Ёй вельмі хацелася, каб той яе вучань, які ўзяў грошы, знайшоў у сабе мужнасць прызнацца ў гэтым. Няхай, каб не лічыцца злодзеем, сказаў, што пажартаваў, ёй хацелася, каб гэты ўчынак, нават калі наўмысны, не знішчыў у ім парасткі дабрыні і чалавечнасці: не можа юны чалавечак быць закончаным нягоднікам…

Яна паглядзела на вучняў, і калі б яны маглі неяк здагадацца, пра што яна думае, то адчулі б, што цяпер гэта яе самае вялікае жаданне.

Тым часам празвінеў званок, але ў класе было ціха. Настаўніца заўважыла, як некаторыя вучні з падазронай насцярожнасцю пачалі паглядаць на аднакласнікаў. Гэта было занадта. Ды і яна сама міжволі заўважала ў паводзінах многіх штосьці не зусім звычайнае.

— Я думаю, што ўсё ж тут нехта пажартаваў, — сказала Мілена Сяргееўна і выйшла з класа.

## 15

Яна пастаралася супакоіцца і вырашыла пакуль не рабіць ніякіх паспешных вывадаў, не прымаць неабдуманых рашэнняў. Сёння апошнім урокам будзе класная гадзіна, можа, на ёй і паспрабаваць больш грунтоўна пагаварыць з вучнямі. Проста, па-чалавечы, не чытаючы ніякай маралі. Інакш нічога не зменіцца, а непрыемнасцей не абярэшся. А галоўнае — той, хто ўзяў грошы ў класе, так нічога і не зразумее. А ў яго наперадзе жыццё, і зараз, мабыць, ад яе, настаўніцы, найперш залежыць, якім яно будзе.

Перад апошнім урокам у класе таксама было мала вучняў: нехта пабег у магазін, хтосьці ў сталоўку, хто яшчэ куды. Тыя, хто застаўся ў класе, калі туды зайшла Мілена Сяргееўна, сядзелі сцішаныя, задумлівыя, а то і паніклыя. Яна зразумела, што нешта здарылася такое, што па-свойму закранула кожнага.

— Мілена Сяргееўна, — сказала Лена Сазановіч, — грошы знайшліся.

Аказваецца, на ўроку фізкультуры ў раздзявалцы Мікола Саковіч адкрыў свой партфель і ўбачыў там грошы. Як яны трапілі туды, ніхто не мог растлумачыць. Хаця той-сёй казаў, маўляў, сам узяў, сам і знайшоў. Мікола ж, пачуўшы гэта, вельмі пакрыўдзіўся.

Цяпер, калі яна зайшла ў клас, Мікола падняўся з-за парты, нібы сам не свой, падышоў да настаўніцы, ціха прамовіў:

— Мілена Сяргееўна, некаторыя добраахвотныя следчыя падазраюць мяне. Кажуць: сам узяў, сам і вярнуў. Але я тут ні пры чым. Паверце, мяне нехта падставіў. Вы мне верыце?

Мілена Сяргееўна ўважліва глядзела на Міколу. Выгляд у яго быў вінавата-збянтэжаны, хлопец чакаў ад яе спагады, падтрымкі, і яна вырашыла, што цяпер якраз і настаў той момант, калі можна або растаптаць у чалавеку чалавечае, або падтрымаць, замацаваць яго.

Мілене Сяргееўне ўспомнілася, як прыходзіла да яго ў інтэрнат і як сорамна было зусім яшчэ тады хлапчуку за сваіх бацькоў, за тыя ўмовы, у якіх яму давялося жыць. У тыя моманты настаўніца асабліва адчувала пачуццё жальбы да яго. Горбячыся, ён згінаўся, быццам хацеў схавацца ад таго асяроддзя, у якім апынуўся па волі лёсу. Прыніжаны, з-пад ілба паглядаў на яе недаверліва і насцярожана.

Таго сораму, які адчуваў хлопчык, здаецца, хопіць яму на ўсё жыццё, дык ці вытрымае яго кволая душа яшчэ і той, які апальвае яе абвінавачваннем у крадзяжы?

— Я табе веру, Мікола, — сказала яна. — Я лічу, што гэта быў нейчы няўдалы жарт, — працягвала настаўніца, ужо звяртаючыся да ўсіх. — Вось толькі чамусьці той чалавек (яна знарок падкрэсліла гэта слова, не сказала, вучань або вучаніца) чамусьці не асмеліўся ў гэтым прызнацца. Але нічога, будзем лічыць, што ўсё стала на сваё месца.

— Але ж вярнулі не ўсе грошы, — сказаў нехта. — Толькі сто тысяч. Значыць, факт крадзяжу застаецца. Калі злодзея цяпер не спыніць, некалі ўсё для яго закончыцца кратамі.

— Я так думаю, гэта не першы выпадак. Можа, і кашалёк — справа яго рук…

Вучні зашумелі, гаварылі, перабіваючы адзін аднаго, кожны стараўся давесці сваё. І тое, што яны вельмі неабыякавыя да здарэння, было бачна, гэта нават радавала настаўніцу: не ўсё так і кепска.

— Не злоўлены — не злодзей, — сказала Юля Саніна. — Можа, і іншыя крадзяжы на яго павесім?

— Нешта ты, Юлечка, надта ж актыўна заступаешся за гэтага зладзюжку, — заўважыла Алеся Барнік.

— Во, во, я таксама гэта заўважыў, — з месца падняўся Пакаціла, хоць усе выказваліся седзячы. — Тут, няйнакш, не зусім чыстая справа. А што, можа, яна Сільвановіча па поўнай праграме раскруціла. Хлопец жыццём рызыкаваў, а яна, мусіць, чужую прэмію на марожанае патраціла. Але, можа, ёй спадабалася салодкае жыццё, а тут грошыкі скончыліся, дык яна Саковіча на крадзёж падбіла? — блазнаваў вучань.

— Што ты мелеш?! — абурылася Юля і замахнулася на аднакласніка падручнікам.

— Гэта ён ад зайздрасці. Дзяўчыны ў яго няма, як няма і грошай, вось і балбоча абы-што, — заступілася за сяброўку Марына Усава.

Тое, што за падазронага заступаецца сяброўка Саковіча, Мілене Сяргееўне таксама паказалася важным. «Няўжо Саковіч?» — думала яна, ёй успомніўся яго збянтэжана-вінаваты выгляд. Чамусьці вельмі не хацелася, каб злодзеем аказаўся ён. Яна сказала, што верыць яму. У хлопца і так незайздросны лёс, а тут… Ён з малазабяспечанай сям'і, бацькі п'юць… Але яна нібы спалохалася гэтай думкі, як жа так пра яго можна думаць? Ды і вярнуў грошы ніхто іншы, як Саковіч. Іх, несумненна, нехта, ведаючы ўсё гэта, падкінуў.

— А чаму ён грошы вярнуў? — не сунімаўся, усё яшчэ стоячы за партай Пакаціла.

— Чаму вярнуў? Пашкадаваў Мілену Сяргееўну. Вярнуў грошы пасля таго, як Мілена Сяргееўна сказала, што закладзе свае грошы, во, — разважаў Міша Краўчук. — Як бачыце, не такі ён ужо і прапашчы.

— Вечна ты, Міша, са сваімі прынцыпамі, — сказаў Пакаціла, які бачыў іншую прычыну ўчынку: — Спалохаўся, што раскрыюць яго гнілое нутро, усё ж сума немалая, маглі міліцыю выклікаць.

Мілена Сяргееўна маўчала. Ёй хацелася, каб вучні самі вызначыліся, як быць. Ёй таксама, а можа, найперш, было важна ведаць, вераць яны Міколу ці не. І наогул, ці ёсць у іх пачуцці спагады, даверу да аднакласніка, ці здольны яны дараваць, калі так?

— Мілена Сяргееўна, давайце сваё следства правядзём. Гэтыя пустыя размовы нічога не дадуць, — у гаворку ўключыўся Мікола Чарняўка, на выгляд звычайны падлетак, але на справе вельмі жвавы і непасрэдны. Як у класе, так і на вуліцы Чарняўка носіць акуляры, толькі мяняе іх. І адны і другія ў аднолькавых чорных аправах, і ў гэтых акулярах Мікола чымсьці нагадвае Гары Потэра. Але калі зазірнуць у вочы вучня, то можна заўважыць, што яны рознага колеру. Адно вока шэра-блакітнае, другое светла-карае, нават рудое. — У нашым дыспуце я не бачу нічога рацыянальнага. Можа, вам трэба паасобку, па чарзе пагутарыць з кожным з нас сам-насам. Калі хтосьці нешта бачыў, ведае, хай скажа.

— Не, Мікола, — сказала Мілена Сяргееўна. — Такое нам не падыходзіць. Хтосьці з вас сказаў, што гэта будзе данос. Трэба, каб сам той, хто зрабіў неабдуманы крок, набраўся адвагі і сказаў мне. Калі саромеецца сказаць адкрыта, няхай пазвоніць па тэлефоне. Тым самым ён зніме падазронасць са сваіх аднакласнікаў. Абяцаю, што яго імя застанецца ў тайне. Крадзеж, а я не хачу верыць, што гэта крадзеж, — сур’ёзнае злачынства. Калі мы самі не разбяромся, мне давядзецца паведаміць пра здарэнне і кіраўніцтву школы, і вашым бацькам. Зразумейце, я не маю права нічога ад іх утойваць. А цяпер ідзіце дадому, урок скончыўся, падумайце…

Мілена Сяргееўна апошняй выйшла з класа.

На вуліцы адчувалася набліжэнне вясны. Снег на ўзгорках раставаў, з’явіліся першыя праталіны.

Дамоў яна вырашыла прайсці пешшу, у які ўжо раз ёй хацелася пабыць у адзіноце і падумаць... Ішла яна паволі, не спяшаючыся, і не заўважыла, як неўзабаве яе дагнала Вольга Міхайлаўна.

— Вы дамоў? — спытала Вольга Міхайлаўна.

— Дамоў.

— Я таксама. Вясной як пахне.

— Сапраўды, з’яўляюцца прыкметы вясны, на сонцы можна пагрэцца, — Вольга Міхайлаўна, мабыць, заўважыла, што ў Мілены Сяргееўны нешта не тое на душы, асцярожна дадала. — Я бачу — набліжэнне вясны чамусьці не вельмі радуе вас. Што-небудзь здарылася?

— Але, — цяжка ўздыхнула Мілена Сяргееўна. — Здарылася. — А параіцца няма з кім, — сказаўшы так, яна раптам падумала, што з усіх настаўнікаў найбольш давярае менавіта Вользе Міхайлаўне. Давярае нібы інтуітыўна, хаця, здаецца, іх нішто не звязвае. — Я ў вас спытаю парады, як быць, можна? У вас вялікі вопыт, і дзяцей вы добра ведаеце.

— Ну, вопыт у мяне не такі ўжо і вялікі, але калі мая парада дапаможа вам, буду вельмі рада.

Мілена Сяргееўна не спяшаючыся, нібы стараючыся пераканаць сама сябе, што робіць правільна, расказала пра здарэнне Вользе Міхайлаўне, пра свае развагі, сумненні.

— Што вы параіце мне рабіць? — спытала яна. — Не афішыраваць жа гэты выпадак? Не хочацца, каб усе ведалі: тая ж Піявіна напіша ў міліцыю. Пачнецца следства, баюся, што некаму з дзяцей можам зламаць лёс. А ён ці яна, магчыма, учынілі такое выпадкова. Хаця, можа, так і няправільна, можа, калі зараз не спыніць чалавека, дык гэта падахвоціць яго да новых злачынстваў.

— Сапраўды, усё вельмі складана, — сказала Вольга Міхайлаўна. — Мне ў сувязі з гэтым успамінаецца выпадак, што застаўся ў памяці. Тады ў мяне практыкі амаль не было. Мне далі шосты клас. Хлапчукі, было іх такіх трое, адзін перад адным рысаваліся, вушлыя, гарэзы, свавольнікі. Дык вось, вырашылі яны, як дзяжурная адыдзецца, пакорпацца ў кішэнях аднакласнікаў. Аднаго паставілі за жанчынай сачыць, двое ўзяліся за справу. Наш завуч, не доўга думаючы, прынялася весці следства. Ды да таго давяла дзяцей, што той хлапчук, што на варце стаяў, узяў у сваіх бацькоў колькі мог грошай, і з сябрамі ўцёк з дому. На электрычцы хлапчукі дабраліся да Украіны, дзе іх і затрымалі. Уявіце становішча бацькоў… У маці аднаго з уцекачоў здарыўся сардэчны прыступ, яна трапіла ў бальніцу, нічога не ведала пра сына ажно шэсць сутак. Урачы ледзь яе выратавалі. Я пасля гэтага выпадку шмат кніг па дзіцячай педагогіцы і псіхалогіі перачытала. Аказваецца, дзіцячыя крадзяжы — не такая ўжо і рэдкая з'ява. Але гэта зусім не значыць, што з гэтых дзяцей абавязкова вырасце злодзей ці злачынца. Часам для іх гэта, як гульня, як жарт. Дарэчы, той хлопчык, што сачыў за дзяжурнай у гардэробе, вучыцца цяпер на інжынера-чыгуначніка. Цудоўны юнак. А тое, што вы папрасілі вучняў падумаць, як быць, дык гэта добра. Вы далі таму, хто гэта зрабіў, шанц, і тое, што здарылася, будзе яму ўрокам. Думаю, ён ацэніць дабро… А пятнаццаць тысяч… Няхай іх кампенсуе ўвесь клас. Для калектыву сума нязначная. Думаю, што ён на ўсё жыццё запомніць, што калектыў не захацеў, каб яго выкрылі, маўляў, памыліўся, хоць і пабаяўся прызнацца. Ды і кожны задумаецца, чаму пабаяўся? Значыць, не давярае асабіста мне, яшчэ некаму, усяму класу… Словам, кожнаму будзе пра што падумаць.

— Я так і зраблю, як вы сказалі. Думаю, гэтак будзе правільна. Дзякуй вам, — сказала Мілена Сяргееўна, адчуўшы палёгку на душы. І Мілена Сяргееўна, таксама нейкім інтуітыўным чуццём зразумела, што і ў Вольгі Міхайлаўны не ўсё ладзіцца, што яна нечым заклапочана, спытала: — А як вашы дзеці? Як Каця Палуніна? Нехта казаў, нібыта яе бацька пайшоў з сям'і, забраў з сабой Кацю.

— Так, пайшоў. Ён сам казаў мне — прыходзіў да нас з Каціяй у госці, як выпісаўся з бальніцы. Думаю, што перш чым пайсці, ён параіўся з Каціяй.

— Трэба схадзіць, паглядзець, ці ўсё там у іх нармальна.

— Думаю, хай самі, бацька з дачкой, вызначацца.

— Кажаце, прыходзілі да вас у госці? Мне няёмка вам гаварыць, даруйце, але я ўпэўнена, вы таксама павінны пра гэта ведаць — жанчыны ў настаўніцкай пра вас і Кацінага бацьку розныя чуткі распускаюць.

— Няхай, — абыякава, ні крышачку не здзіўляючыся, сказала Вольга Міхайлаўна. — Людзям языка не прывяжаш.

— І я так думаю, — Мілене Сяргееўне было цяжка сказаць пра гэта. — Ведаю, вы дапамагалі Каці і Палуніну. І гэта цудоўна. У нас жа чамусьці некаторыя нават такія, проста чалавечыя адносіны між мужчынам і жанчынай зводзяць вунь да чаго…

— Мабыць, праўду кажуць, што ніводная добрая справа не застаецца беспакаранай. Вы ж ведаеце, Каця ў мяне жыла, калі здарыўся інфаркт у яе бацькі…

— Ведаю, канечне.

— Было, падвёз мяне Палунін да дому пасля бацькоўскага сходу. Мы шмат пра што гаварылі. Ён добры бацька і неблагі чалавек. Мой муж таксама яго паважае.

— І толькі падвёз? — нібы сама ў сябе спытала Мілена Сяргееўна, мабыць, зноў успомніўшы, што жанчыны кажуць пра Вольгу Міхайлаўну і Палуніна.

— І толькі. У людзей шмат фантазіі. Любяць людзі складаць легенды, дадумваць, — сказала Вольга Міхайлаўна і заўважыла, што гэта абрадавала Мілену Сяргееўну, мабыць, не толькі таму, што зняла з сябе жаночыя падазрэнні, а і яшчэ таму, што, адчувалася, каляжанка мае нейкі, свой, асабісты інтарэс да Палуніна. Душой адчувала гэта. Ну і няхай! А што, была б някепская пара, калі б яна пакахала Палуніна, а ён яе… А яна, Вольга Міхайлаўна, ужо вызначыла для сябе, як жыць. Там, у царкве.

## 16

Мікола Саковіч адчуваў сябе загнаным у куток бедамі, што зваліліся на яго з усіх бакоў. Да таго, што бацькі п’юць, ён, здаецца, прывык. Зрэшты, ён і не памятаў таго часу, калі яны не пілі. Частыя застоллі ў доме сталі звычайнай з’явай. У яго сяброў, што жылі з бацькамі ў тым жа інтэрнаце, усё было інакш. Да іх ён збягаў, калі яго нецвярозыя бацькі пачыналі сварыцца. Спагадлівыя суседзі запрашалі хлопца разам з сабой абедаць, або вячэраць.

Але чым далей, тым больш Міколу станавілася невыносна жыць дома. Маці не працавала. І ніхто не мог на яе паўздзейнічаць, нікога яна не слухала. Мілене Сяргееўне, калі тая сустракалася з ёй і пытала, чаму яна не працуе, гаварыла, што ніяк не можа атрымаць санітарную кніжку, каб уладкавацца на працу ў гандаль. Настаўніцы было вядома, што ўрачы прапаноўвалі жанчыне спачатку лячыцца ад алкагалізму, а потым ужо афармляць санкніжку.

Ад лячэння Міколава маці адмаўлялася наадрэз. Не занятая ніякай працай, яна мела шмат часу, звязалася з такімі ж як сама жанчынамі, паступова спілася, і за спіртное магла аддаць усё, што толькі можна было знайсці дома. Гатаваць для сям’і яна лічыла справай непатрэбнай. Міколаў бацька спачатку спрабаваў змагацца з жонкай, адвесці яе ад п’янак, але праз нейкі час сам прыахвоціўся да шклянкі.

Паступова апускаючыся ўсё ніжэй і ніжэй, Міколавы бацькі сталі абыякавымі да сына, да свайго жыцця, яго будучыні. Свайго жытла ў іх не было, і планы атрымаць яго аддаляліся з кожным годам. Невялікі заробак мужа маці траціла на віно, нядаўна Мікола пачуў ад бацькі, што яго могуць звольніць, калі ён яшчэ раз з’явіцца на рабочым месцы ў нецвярозым стане. І што тады? Як яны будуць жыць? На бульбе і бураках, што прывозяць бацькі ад бабулі, бацькавай маці з вёскі?

Але, як лічыў Мікола, яго галоўная бяда — Юля, дзяўчынка, якую ён пакахаў даўно. Яна не звяртае на яго ўвагі. У апошні час ён не адзін раз бачыў, як яна вечарам, апранутая ў новенькае паліто, выходзіла са свайго пад’езда ў суправаджэнні гэтага франта Сільвановіча. Канечне, Сільвановічу добра жыць, у яго бацькі свая фірма. Ды і ён цяпер мае грошы, можа пасядзець у кафэ. Так, Сільвановіч герой, а Саковіч, па чутках, злодзей. Дык каго Юлька можа выбраць?..

Міколаў сусед па інтэрнаце, Міхась Леднік, яго аднагодак з іншай школы, нядаўна пахваліўся, што другі месяц у вольны час ходзіць на работу. Яго маці, якая раней працавала тэхнічкай у магазіне, звольнілася адтуль і пайшла да прыватніка, які вырошчвае ў цяпліцах агародніну. Зімой яна працуе ў цяпліцы, ёй дапамагае сын, Міколаў сябра, і зарабляе сабе на кішэнныя выдаткі, збірае грошы на камп'ютар. Мікола думаў, як бы і яму туды ўладкавацца, ён, як і Міхась, згодны працаваць за невялікую плату. Тады і ён зможа не толькі запрасіць Юлю ў кафэ, а і занесці ў клас тыя сто пятнаццаць тысяч, якія ён не браў. Ён проста аддасць іх, і тым самым зніме з сябе страшныя, крыўдныя, ажно жыць не хочацца, абвінавачванні.

Мікола яскрава ўявіў, як ён перад класам выйдзе да стала настаўніцы, пакладзе грошы. Зробіць ён гэта спакойна, без выкліку, скажа, што грошай не браў, але вось яны, ён іх зарабіў сумленнай працай. Гэта — яго ўклад на рамонт школы, скажа, каб не думалі пра яго дрэнна… Калі ж бацьку звольняць, ён пойдзе на пастаянную працу і будзе ўтрымліваць сям'ю, толькі строга-настрага забароніць бацькам піць…

Калі назаўтра Мілена Сяргееўна расказала класу, што яна думае наконт здарэння з грашыма, а да ўсяго папрасіла парады ў вучняў, як быць, нехта прапанаваў сабраць тыя пятнаццаць тысяч. Усе згадзіліся.

Настаўніца зразумела, што яе вучні пасталелі за адзін дзень, што яны многае абдумалі і ніхто не хоча больш нікога падазраваць, што ўсе згодны лічыць выпадак недарэчнасцю, а калі хто і ўкраў — хай будзе на яго сумленні: рана ці позна яно прачнецца.

Мілена Сяргееўна сказаўшы ўсім «Дзякую за разуменне», панесла грошы загадчыку гаспадарчай часткі. Той узяў, ні аб чым не пытаючыся, яна зразумела — нічога не ведае. Толькі яна выйшла з яго пакоя, як яе паклікалі да тэлефона ў настаўніцкую.

Званіла маці Славы Коцькіна.

Так атрымалася, што ўсім бацькам, апроч бацькоў Славы Мілена Сяргееўна сказала пра здарэнне. Але прасіла іх таксама маўчаць. Не раз набірала нумар тэлефона Слававага бацькі, але дазваніцца не змагла. Коцькін старэйшы працаваў у міліцыі, у аддзеле аховы, маці была адвакатам. Мілена Сяргееўна разумела, што яны людзі надзвычай занятыя, заўважала, што на выхаванне сына ў іх не хапае часу. Вячаслаў часта паводзіў сябе з выклікам, іншы раз грэбліва, звысоку паглядаў на аднакласнікаў, але адпетым хуліганам яго нельга было назваць. Аднак часам несур'ёзны, легкадумны, нявытрыманы. Чула, як ён неяк у размове з таварышамі заўважыў, маўляў, а навошта яму адукацыя, калі сыну бацькі і без дыплома знойдуць цёплае месцейка.

Нехта пажартаваў, маўляў, прыстрояць у турму, на што Коцькін сур'ёзна пагадзіўся — можна і ў турму, толькі ахоўнікам…

— Мілена Сяргееўна, што ў вас там здарылася? — адразу спытала ў яе маці Славы Коцькіна.

Мілена расказала пра ўсё, паведаміла, што ўсе бацькі пагадзіліся пакуль нікому староннямy не казаць пра выпадак, дамовіліся сабраць па тысячы рублёў, каб закласці нястачу. Сказала, што ўсе разумеюць — нехта з дзяцей мог проста памыліцца, пажартаваць, называй як хочаш, і ні ў якім разе нельга яго лічыць злодзеем. Нават калі і ўзяў наўмысна — трэба даць яму шанц адумацца.

Выслухаўшы яе, маці Славы сказала:

— Мілена Сяргееўна, вы ўсё ж дапусцілі сур'ёзную памылку. Гэта — звычайнае злачынства, хто б ён ні быў, такога чалавека неабходна спыніць, пакараць, і чым раней, тым лепш. Я працую ў праваахоўных органах, цудоўна

ведаю падобную катэгорыю гэтага электарата. Зразумела, я не настойваю, але, улічваючы свой багаты вопыт, параіла б давесці справу да лагічнага канца. Няўжо вы лічыце, што пра здарэнне не даведаецца адміністрацыя школы? Вас жа тады проста звольняць.

— Няхай, — сказала Мілена Сяргееўна. — Але я не магу інакш. Я не магу падвесці ніводнага з маіх вучняў. І той, хто гэта зрабіў, таксама мой вучань. Я не ведаю, хто ці што спакусіла яго: асабістае жыццё, рэчаіснасць, сквапнасць, гора… Але веру — спатыкнуўся, памыліўся, хто ж не памыляецца? Паглядзіце на сучаснае жыццё, колькі вакол спакус. Не кожны можа ўстрымацца.

— Так, не кожны. Але статыстыка паказвае, што такія правапарушэнні ўчыняюць дзеці з малазабяспечаных сем'яў. У вас у класе ёсць такія. Вось і занясіце іх у спіс падазраваемых.

— Не, ні ў якім разе! Гэта ж дзеці.

— Пераконваць вас я не буду, толькі раю добра падумаць, — сказала маці Славы і паклала трубку.

Што ж, яна, Мілена Сяргееўна, шмат думала пра гэтае здарэнне, яна раілася з Вольгай Міхайлаўнай як з каляжанкай, жанчынай, маці. Вольга Міхайлаўна яе падтрымлівае… І як гэта можна складаць спіс тых, хто падазраецца толькі з-за таго, што дзеці з так званых цяжкіх сем'яў? Што, выпаліць ім душу, паставіць пячатку — ты злодзей? Ні ў якім разе!

## 17

Здаецца, кіраўніцтва школы так і не даведалася пра здарэнне з грашыма. А можа, і ведала, ды маўчала, ці не хацела, каб пра непрывабную гісторыю ведалі «вышэй». Прайшоў тыдзень пасля той тэлефоннай размовы, усё быццам уляглося, пачало забывацца, новыя падзеі патрабавалі новых клопатаў. Але неяк у школу прыйшла маці Пеці Сініцы. Мілене Сяргееўне па-чалавечы было шкада гэтую жанчыну: без мужа выхоўвае Пецю і яго малодшую сястрычку. Тая ж нарадзілася слабой, хваравітай, у яе назіраліся адставанні ў развіцці. Але жанчына трымалася мужна, не скардзілася, на свой невялікі заробак і пенсію па інваліднасці дачкі ўтрымлівала сям'ю.

Пеця часта без уважлівых прычын прапускаў заняткі, вучыўся дрэнна, дома маці не дапамагаў, а маці яму патыкала: то мабільнік купіць на апошняе, то камп'ютар на пазыку. Яна старалася стварыць сыну не горшыя ўмовы, як у яго равеснікаў.

Мілена Сяргееўна са шкадаваннем глядзела на яе сціплы, вельмі не модны, шматгадовай даўнасці пацёрты касцюм. Маладая, прыгожая жанчына, здавалася, даўно паставіла крыж на сваім лёсе.

— Мілена Сяргееўна, я да вас вось па якой прычыне, — сказала яна, калі настаўніца спытала, што яе прывяло сюды. — Справа ў тым, што ў Пеці прапала дарагая флэшка. А здарылася гэта пасля таго, як прыходзіў Коцькін. Пеця саромеецца казаць яму, а я не стрымалася, вось, прыйшла…

— А Пеця ўпэўнены, што сам не згубіў флэшкі?

— Канечне, упэўнены. Не ведаю, як быць. Кажу Пеці, каб схадзіў, папрасіў аддаць, а ён ні ў якую!.. Самой прыйдзецца. Вось, можа, адрас Коцькіных скажаце, ці нумар тэлефона. Я пагавару з яго бацькамі, хай паўздзейнічаюць на сына.

— Не трэба, — сказала ёй Мілена Сяргееўна. — Я паспрабую сама…

На тым і пагадзіліся.

У той жа дзень Мілена Сяргееўна пазваніла Коцькінай, асцярожна, спакойна пераказала размову з маці Пеці Сініцы. Коцькіна доўга маўчала, потым папрасіла нікому нічога не казаць і пачакаць яе, ёсць не тэлефонная размова.

Мілена Сяргееўна, паклаўшы трубку, думала пра тое, што яна скажа Коцькінай, а тая ёй. Магчыма, будзе зневажаць яе, маладую настаўніцу. А можа, яна сама заўважыла, што з яе сынам не ўсё ладна, папросіць дапамогі, параіцца, як быць. Або наадварот, скажа, што ва ўсім вінаваты сам Пеця… Як бы там ні было, размова будзе не простай. І як зрабіць так, каб не зламаць тыя кволыя парасткі дабра, якія ж, вядома, ёсць і ў Пеці, і ў Коцькіна, незалежна ад таго, хто з іх вінаваты?

Пакуль Мілена Сяргееўна адказу на гэтае пытанне не ведала.

## 18

З прыходам вясны прыкметна пабольшала сонечных дзён, не было патрэбы раніцай уключаць электрычнае асвятленне, істотна пацяплела ў класах — пасля абеду рамонтнікі замянялі старыя вокны на новыя, выкананыя па сучасных тэхналогіях. Увогуле, у школе пасля непрацяглага перапынку, выкліканага эканамічным крызісам, калі зноў пачаўся рост эканомікі, пачалі выдзяляць сродкі на рэканструкцыю памяшканняў.

У гэты дзень перад пачаткам заняткаў, настаўнікі спачатку прыпыняліся ў фае, куды згрузілі прывезеную ўчора новую мэблю: шкафы, свяцільнікі, класныя дошкі; аглядалі, каменціравалі, радаваліся школьным абновам.

Мілена Сяргееўна таксама на момант спынілася ў фае, потым прывычна пакіравала да настаўніцкай. Павесіла ў шафе куртку, акінула позіркам калег. Яны раздзяліліся на групкі. Мужчыны разглядалі камп'ютары, якія не пакінулі ў фае, а прынеслі ў настаўніцкую. За сталом уважліва праглядвала сшыткі Вольга Міхайлаўна.

— Вольга Міхайлаўна, я вас так даўно бачыла, — са шкадаваннем прызналася яна старэйшай сяброўцы.

Вольга Міхайлаўна адсунула ад сябе сшыткі.

— Ну, калі дакладна, то і не так даўно, — не пагадзілася тая. — Усяго тры дні. Хварэла я, грыпам хварэла.

— А я не ведала.

— Захварэла ў пятніцу, у мяне гэты дзень свабодны, а наступныя два дні для ўсіх выхадныя. А ў вас якія навіны?

— Нічога асаблівага. Наведвала ўрокі старэйшых настаўнікаў. Вельмі цікава, — усміхнулася. — А ведаеце, Тэтчар пачала правяраць сшыткі. Уяўляеце, уваходзіць у клас, пытаецца: хто дзяжурны. Дзяжурны дакладвае, што ў класе ўсе. Настаўніца даручае раздаць сшыткі. Маўляў, раздай, што застанецца, можаш узяць сабе.

— Гумар — вялікая сіла, — пагадзілася Вольга Міхайлаўна.

— Учора правяла класную гадзіну, на тэму кахання і дружбы. Ага, успомніла, неяк вы расказвалі, што на адной класнай гадзіне чыталі вершы пра каханне, любоў, далі нават заданні. Ці хто адказаў?

— Адказалі, але няшмат вучняў справіліся з заданнем. Усяго пяць чалавек.

— І то добра. Саковіч зноў здзівіў усіх.

— Чым на гэты раз?

— Грошы прынёс. Роўна сто пятнаццаць тысяч. Паклаў на стол. Давялося ўгаворваць, каб забраў назад. Пагадзіўся толькі тады, калі я сказала, што ведаю — хто меў дачыненне да таго прыкрага выпадку.

— І хто ж іх узяў? — спытала Вольга Міхайлаўна.

— Не магу сказаць, я ж дала слова нікому пра гэта не гаварыць.

— Тады не трэба, правільна. Дзе ж Мікола ўзяў грошы? — пацікавілася настаўніца.

Ён у вольны час працуе ў аднаго прадпрымальніка, той вырошчвае кветкі і гародніну ў цяпліцах. Не паверыце, Мікола аднойчы нават пакрытыкаваў школьнага біёлага, што ў школьнай цяпліцы неэфектыўна выкарыстоўваецца плошча. Прынёс расаду кветак, гародніны.

— Гэта прыемная навіна, — сказала Вольга Міхайлаўна, — выходзіць, не дарэмна працуем. Ёсць зрухі, выпраўляем памылкі.

— Во-ой, а галоўнае, не сказала.

— Што ?

— Піявіна ў санаторый едзе.

— Сапраўды, важная навіна, — усміхнулася Вольга Міхайлаўна.

У настаўніцкую з заклапочаным выглядам на твары зазірнуў дырэктар, спыніўся, пашукаў некага вачыма, заўважыў завуча сярод мужчын.

— Тамара Сямёнаўна, урокі Карыны Людвігаўны болей не трэба замяняць, — паведаміў ён.

— Мне сказалі пра гэта.

— Ну вось, я ж гаварыла, што новае каханне гістарычкі гэтым скончыцца. І чаго ёй не хапала? Такога мужа кінула… Дзеля чаго? Дзеля ката ў мяшку? — не разумела Тамара Сямёнаўна.

— Ну, запатрабаванні маюць няўхільную тэндэнцыю да росту, — па-філасофску заўважыла Тамара Васільеўна.

— І ніякі ён не алігарх. Звычайны аферыст, — катэгарычна, з выклікам заявіла Тэтчар.

У час гэтай размовы настаўнікі не заўважылі, як у памяшканне вальяжнай паходкай увайшла Карына Людвігаўна. На яе паўднёвы загар і новы стракаты гарнітур нельга было не звярнуць увагу.

— Мае костачкі ўсё пе рамываеце? — яна з напускной абыякавасцю абвяла сваім прыжмураным позіркам калег.

— Ну што ты, мы шчыра спачуваем, — запярэчыла Тэтчар.

— А ведаеце, нягледзячы ні на што, гэтыя дні на Мальдзівах былі цудоўнымі. І алігарх ён самы сапраўдны.

— Чаму ж так хутка вярнулася? — не зразумела Тамара Васільеўна.

— Характары ў нас розныя. Мы па гараскопе не падыходзім, — з сумам і шкадаваннем патлумачыла гістарычка прычыну разрыву з алігархам.

Зазвінеў званок. Настаўніцы, нібы па камандзе, падыходзілі да шафы з класнымі журналамі, кожная брала патрэбны ёй. Розныя па ўзросце, па педагагічным стажы, па жыццёвых набытках ішлі ў класы да вучняў, таксама розных юных людзей, наперадзе якіх чакае жыццё са сваімі радасцямі і горасцямі, праўдай і няпраўдай, зрэшты, з усім тым, якімі яны ўвойдуць у яго, вядома ж, у многім залежала ад іх, настаўніц, толькі ці кожная з іх ведала, як і наколькі…

S



Міхась ПАЗНЯКОЎ

## РАДЗІМА

Сюды — усе дарогі,
Пакуль мне сіл стае,
І мары, і трывогі
Бясконцыя мае.

Сюды: да рэчкі Грэзы,
Да лесу і лугоў,
Што для мяне, гарэзы,
Былі — мая любоў.

Сюды: да роднай хаты,
Якую лашчыць бэз
І да якой кудлаты
Палын ужо пралез.

Сюды: у кут мой мілы,
Найдарагі да слёз,
І дзе бацькоў магілы
Між ліпаў і бяроз.

---

***Пазнякоў Міхаіл Паўлавіч*** *нарадзіўся 24 студзеня 1951 года ў вёсцы Заброддзе Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977). Працаваў настаўнікам у школе, навуковым супрацоўнікам у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, галоўным рэдактарам выдавецтва «Юнацтва», галоўным рэдактарам часопіса «Вожык», галоўным рэдактарам часопіса «Нёман», намеснікам дырэктара РВУ «Літаратура і Мастацтва». Цяпер — старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар кніг паэзіі «Колер радасці» (1989), «Час надзеі» (1991), «Любі і помні» (2006), «Святое правіла...» (2008), «Усміхаюцца зоры над хатаю» (2011) і інш., «Слоўніка эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы» (1988), многіх кніг для дзяцей, а таксама кнігі прозы «Паміж радасцю і болем» (2010).*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры (2009).*

Дзе вулка пахне мятай,
Мне кожны рад лісток.
Жыццю майго тут — свята
І залаты выток.

* * *

Праз сінечу блакіт праліецца,
Праз ружовасць прасочыцца барва.
І ліловае неба ўсміхнецца
І агучыцца песняю жаўра.

Расплывецца зіхценне заранак,
Чараты зашапочуць аб нечым.
Зразумееш у гэты світанак,
Што нідзе не бывае пустэчы.

* * *

Дзень добры, родны бор арганны!
Жывую музыку тваю
І хор птушыны несціханы
Яшчэ з малых гадоў люблю,

Калі ў грыбы прыводзіў тата,
А ты, дзівосны, чараваў,
І пад тваёй таемай шатаў
Я, паланёны, застываў,

А залатога сонца промні
Плылі па соснах з вышыні...
Дзень добры, бор, ты мне напомні
Яшчэ мацней пра тыя дні.

* * *

Звіні, пявучая крыніца,
Зімой і летам не змаўкай,
Не раз святла твайго напіцца
Мяне пакліча родны край.

І ты, пазвоньваючы міла,
Калі прыеду я дамоў,
Напоіш радаснаю сілай
Мяне, дзівосная, ізноў.

Спяеш і сэрца супакоіш
Сваім срабрыстым галаском.
І раны ўсе мае загоіш
Жывой вады адным глытком.

* * *

Патанулі ў тумане бярозкі,
Патанулі ў тумане сады
Саматлівай, закінутай вёскі,
Без якой я найбедны заўжды,

Без якой я жыцця не ўяўляю,
А прыеду — расчулы такі:
Ні стагоў на лугах майго краю,
Ні гусей, ні кароў ля ракі.

І ні хат, і ні градаў, ні люду,
І ні ластавак, і ні буслоў...
Я знямею, як вёску забуду,
Не пачую вячыстых жытоў,

Не сустрэну вяскоўцаў руплівых,
Што жылі кожны дзень з мазаля...
Ды замнога сягоння глумлівых,
Тых, каму не па сэрцы зямля,

Што пра рай балабоняць заморскі,
Чый дэвіз: абхітры, падмані...
Мы збяднеем, счарсцвеем без вёскі
І засушым свае карані.

## ГОРА МАЦІ

Горка плакала начамі,
Днём жа плакала мацней,
Сустракаючыся з намі,
Малалетнімі сябрамі
Пахаваных двух дзяцей.

І на святы ў магазіне
Выбірала цацкі ім
Ды на гораснай магіле,
Дзвюх яе крывінак мілых,
Пакідала як жывым.

Хоць з гадамі і астыла,
Слёзы выплакала ўсе,
Толькі ў святы да магілы,
Ачумелая, без сілы,
Цацкі новыя нясе.

* * *

Бягуць гады, як рысакі,
Не супыніць і не стрыножыць.

І позірк свой куды ні кінь —
Усё хвалюе і трывожыць.

І больш мінуламу ты рад,
І ўжо стамляешся ад тлуму,
І не наперад, а назад
Усё часцей сягаюць думы.

* * *

На балконе белая галубка,
За шырокім сонечным акном,
Ціхенька пастукала мне дзюбкай,
Прывітала трапяткім крылом.

Вочкам перламутравым зірнула,
Па парэнчы велічна прайшла,
Быццам бы за штосьці папракнула,
Позіркам дакорным апякла.

І нырнула ў ціхую сінечу,
Што гусцела прывідна ў акне.
Нагадала аб балючым нечым,
За сабой паклікала мяне.

## ЗАБЫТАЯ ПЕСНЯ

У парку забытая песня,
Кранаючы сэрца, гучыць...
І даўняй разлукаю весняй
Чамусьці гарчыць і гарчыць.

Навошта, навошта, скажы ты,
Душу ўскалыхнула мне зноў
Мелодыяй той паражытай,
Лірычнаю магіяй слоў?

Дарэмна, дарэмна, дарэмна,
Бо ветразі выела соль.
І яхта нібыта пад крэнам,
І дзева даўно не Асоль.

* * *

Разляталіся гракі,
Парк у гуле грачым.
Я іду каля ракі
І людзей не бачу.

На масточку над ракой
Пастаю, памрою.
Тут гулялі мы з табой
Залатой парою.

Пахаджу каля рабін
Гэткіх жа, здаецца,
І як быццам не адзін —
Так сагрэюць сэрца.

Ды хмурнее мой пагляд
І цяжэе неба.
І ніхто не вінават,
Што не ўсё як трэба.

* * *

«Besame mucho», — плакала пласцінка,
І заміраў, здавалася, сусвет:
У клубе з іншым танчыла дзяўчынка,
Якую юны пакахаў паэт.

«Besame mucho», — плавілася сэрца,
І нараджала музыка радкі:
«Я пакахаў адну цябе да смерці,
А можа, на бясконцыя вякі».

«Besame mucho», — праз дзесяцігоддзі
Хвалюе зноў вярэдлівы матыў,
Хоць боль, які і ў сны мае прыходзіў,
Даўно ў душы самотлівай застыў.

* * *

Я мроі ў вырай адаслаў
Дажджлівай восеньскай парою.
Я гэтак імі адпалаў,
Што не вярнуліся вясною.

Я закаханым толькі жыў,
Калі вакол усё спявала.
Я пад аблокамі кружыў,
Калі пяшчотаю ты ззяла.

* * *

Усё міне, усё міне...
І гэты звонкі дзень,
І бэзавая дзіўная завея...

Надыдзе час —
Забудзеш ты мяне,
І я табой перахварэю.

І не кажы дарэмных слоў,
І не аспрэчвай Саламона.
Няхай наіўная любоў
Чаруе нас сваім палонам.

Гані трывогі ўсе аб тым,
Што з намі будзе,
Што чакае.
Пакуль нам хараша двaім,
Пакуль мы
Сонечна кахаем.

* * *

Зноўку дома пеняцца сады,
Белы вэлюм ахінае хаты,
Вечарам ад рэчкі праз брады
Саванам паўзе туман кудлаты.

Разліваюць трэлі салаўі,
Гояць сэрца цнотнаю пяшчотай,
Месяц з перапоўненай сяўні
Цемру абсыпае пазалотай.

Мілая, радзімая зямля!
Дарагі, жывільны, дзіўны краю!
Толькі тут штоміг шчаслівы я,
Толькі тут душой адпачываю.

І таму і ў шчасці, і ў журбе,
Каб мяне прывеціў і расчуліў,
Я часцей тулюся да цябе,
Як, малы, калісьці да матулі.



Галіна ВАСІЛЕЎСКАЯ

# ПА СВАІХ ЗАКОНАХ

Быль

За год да пачатку Вялікай Айчыннай вайны адміністрацыя Мінскага медінстытута выселіла нашу сям'ю з пакойчыка інтэрната па Ленінградскай вуліцы, дом № 6, з цэнтра горада на ўскраіну, на Грушаўскі пасёлак. Мы, вядома, супраціўляліся як маглі. Успамінаю я пра гэта таму, што ў першыя дні вайны ў наш былы пакойчык у цэнтры горада трапіла фашысцкая бомба. Нас бы там усіх забіла.

Вось так бывае ў жыцці. Нехта з нас, відаць, быў шчаслівы.

На Грушаўцы мы трапілі зноў у інтэрнат: двухпавярховы дом, пасярэдзіне двух паверхаў — доўгі калідор, па абодва бакі якога знаходзіліся пакойчыкі на 2—3 студэнты. Наш пакойчык быў на першым паверсе побач з уваходам у дом. Заехалі мы туды аж шэсць чалавек: тата, Скрыпко Ануфрый Фёдаравіч — інвалід Грамадзянскай вайны, мама — Марыя Адамаўна, бабуля Мальвіна, брат Віталій, я і татава пляменніца — Тамара. Ацяпляўся інтэрнат дрывамі.

Яшчэ на першым паверсе была кухня з тытанам для гарачай вады і плітой, на якой студэнты гатавалі сабе ежу. Мы таксама карысталіся гэтай кухняй.

На лета студэнты раз'язджаліся па сваіх хатах, і дом заставаўся пусты. Мы станавіліся нібыта і вартаўнікамі гэтага дома.

Калі фашыстам удалося заняць горад Брэст, яны перш за ўсё адчынілі турму і выпусцілі ўсіх вязняў. Сядзелі там нават вязні ажно з Адэсы. Знаёмыя між сабой, яны адразу, атрымаўшы волю як падарунак лёсу, сабраліся разам, каб вырашыць, як жыць далей. І пастанавілі — ісці дадому. Былі гэта злодзеі і бандыты, на рахунку якіх не адно жыццё і адэсітаў, і гасцей горада.

---

***Васілеўская Галіна Ануфрыеўна*** *нарадзілася 15 студзеня 1927 года ў гарадскім пасёлку Клічаў. У 1932 годзе сям'я пераехала ў Мінск. Да вайны скончыла шэсць класаў сярэдняй школы. Пасля вайны экстэрнам здала экзамены за дзесяцігодку (1945). У 1950 годзе скончыла аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ. Працавала радыёжурналістам, літаратурным супрацоўнікам часопіса «Сельская гаспадарка Беларусі». З 1959 да 1977 года была рэдактарам аддзела часопіса «Работніца і сялянка», з 1977 года загадвала аддзелам нарыса, а з 1979 была адказным сакратаром часопіса «Полымя». З 1982 па 1988 гг. узначальвала бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР.*

*Выдала кнігі: «Маланка ўначы» (1963), «Малюнак на снезе» (1969), «Я еду на вярблюдзе» (1970), «Бывай, Грушаўка!» (1979), «Юныя назаўсёды» (1983), «Выбранае: аповесці і апавяданні» (1987), «Крылы, альбо Адзін год з жыцця Віталя Пятроўскага» (1987) і іншыя.*

Кіраўніцтва групай, у якую ўваходзіла больш як 20 чалавек, узяў на сябе нехта Фёдар — і злодзей, і бандыт. Было яму тады каля трыццаці гадоў. Голас меў гучны, камандзірскі, і яму адразу падпарадкаваліся ўсе: і дробная шпана, і больш прафесійныя злодзеі і бандыты, якія ведалі яго як свайго сур’ёзнага чалавека яшчэ па родным горадзе.

Рашэнне было прынята аднагалосна: рухацца паціху ўслед за немцамі. Так яны, крадучы курэй і гусей у вёсках па дарозе, дайшлі без прыгод ажно да спаленага, разбуранага ўшчэнт Мінска. Дакладней, да першай ускраіны горада, да Грушаўкі.

Грушаўку немцы не бамбілі. Але над пасёлкам ляцела мноства цяжкіх самалётаў бамбіць Мінск. Горад гарэў. У час пажару ўзмацняецца вецер. Да пасёлка ён даносіў гарачае, спякотнае паветра і чамусьці абрыўкі недагарэлых папер, якімі засыпаліся ўсе вуліцы Грушаўкі.

Убачыўшы пусты цэлы дом, былыя вязні вырашылі пераначаваць у ім. Нехта з маладзейшых збегаў па прадукты, вядома ж не ў магазін, бо магазінаў ужо ніякіх не было. Павячэралі, добра выспаліся, а раніцой вырашылі затрымацца тут, каб адпачыць, бо ўжо моцна прытаміліся. Так прапанаваў Фёдар, з ім усе згадзіліся.

Мінуў тыдзень, другі, а збірацца і зноў ісці пешшу многім не хацелася. Такім чынам, яны і засталіся ўсе жыць у студэнцкім інтэрнаце. Жылі проста: днём адпраўляліся на «работу» — гэта значыць, ішлі красці. Кралі ўсё, што траплялася на вочы: рэчы, адзенне, прадукты. Складвалі ў адным пакоі. Прыходзіў атаман, аглядаў усё, выбіраў лепшае і забіраў сабе. Жыў асобна, не ў інтэрнаце.

Ніхто не пярэчыў. Атаману ўсё дазволена, на тое ён і атаман. Такі быў закон. Часам Фёдар прыходзіў і паведамляў, дзе ёсць кватэра, гаспадары якой цэлы дзень на рабоце. Значыць, быў і наводчыкам, памагаў шайцы мець прыбытак.

* * *

Колькі б злодзеі ні «зарабілі» за дзень — за адну ноч усё прапівалася і з’ядалася. Зноў-такі быў у іх закон. Бо калі хоць што-небудзь пакінуць на наступны дзень — удача абміне іх. Бывалі дні няўдалыя. Тады ўсе галадалі і хадзілі злосныя.

Затое калі была ўдача — гулялі ўсю ноч, спявалі розныя блатныя песні і, больш правільна сказаць, не спявалі, а крычалі. Часцей за іншыя песні — «Гоп са смыкам». У мяне была добрая памяць, і я з часам ведала амаль усе 132 куплеты гэтай песні нумар адзін турэмшчыкаў. Хаця мама затыкала мне вушы ласкутамі, каб я не чула. Многа слоў я не разумела. Аднойчы спытала ў мамы, замест адказу яна ўзяла ў рукі рэмень.

Да нас заходзіць Фёдар усім забараняў. Акрамя адной жанчыны. Звалі яе Ганна Філатаўна. Была яна злодзеем вышэйшай катэгорыі — ускрывала і абкрадала дзяржаўныя банкі. Цяпер банкаў не было, і яна лічылася часова беспрацоўнай. З выгляду і не скажаш, што яна такая высокакваліфікаваная зладзейка. Звычайная жанчына гадоў сарака.

Усе сябрукі яе паважалі, незалежную. Калі прыходзіў Фёдар — перш за ўсё ён ішоў павітацца з Ганнай Філатаўнай, потым ужо з астатнімі. Ёй дазвалялася нават заходзіць да нас. Гэтым дазволам яна карысталася часта.

У нашым пакоі стаяла маміна швейная машына «Зінгер». Новых сукенак мама не шыла. А ў асноўным з дзвюх старых, падраных, умела рабіць адну новую. За гэта ёй плацілі прадуктамі. Хто прынясе за работу кавалак сала — гэта

была вельмі добрая плата. А часцей тутэйшыя жыхары пасёлка, хто меў свае агароды — прыносілі бульбу, цыбулю. Гэта не давала нам памерці з голаду.

Ганна Філатаўна любіла размаўляць з маёй мамай пра жыццё. Мне было чатырнаццаць гадоў і іх размовы мяне не цікавілі.

Я скончыла да вайны шэсць класаў. Брат Віця — сем. Дома былі яго падручнікі, і я іх чытала. «Каб зусім не здурнець», — гаварыла мая мама. Так я за тры гады акупацыі, седзячы дома, скончыла нібыта сёмы клас.

Вялікая праблема аказалася з паперай. Сшыткаў ніякіх не было. Злодзеі недзе ўкралі некалькі скруткаў шпалераў. Ганна Філатаўна аддала ўсё мне. З іх я зрабіла нешта падобнае на сшыткі. У іх пісала алоўкамі, яшчэ даваеннымі. Размовы мамы з Ганнай Філатаўнай мяне не цікавілі, і я ішла за шырмачку, якой у куточку быў прыкрыты ложак бабулі Мальвіны. Яна часцей за ўсё ляжала ў сваім закуточку на ложку. Я ведала, што думае яна там пра сваіх трох сыноў, лёс якіх ёй быў не вядомы.

Я любіла бабулю, любіла размаўляць з ёю пра яе жыццё з маім дзядулем Адамам, які памёр ад тыфусу ў год, калі нарадзіўся мой брат Віця. Ён нават убачыць яго не паспеў. Бабуля расказвала, які дзядуля быў разумны чалавек, як ён хораша вучыўся ў народнай школе, з якімі высокімі адзнакамі скончыў школу, што пан Незабытоўскі на свае грошы паслаў яго вучыцца на агранома, каб потым перадаць яму свой фальварак, свой вялікі дом у садзе, як прывёз яго да бацькоў бабулі, тады маладой дзяўчыны, у сваты. Як яны жылі душа ў душу, кахалі адно аднаго. Для бабулі гэта былі прыемныя ўспаміны. А я з найвялікшай цікавасцю любіла слухаць яе.

Прыходзіла да нас весялуха Нюрка без усялякага дазволу Фёдара. Яе ўсе любілі і не выдавалі атаману, што яна яго не слухаецца. Нюрка расказвала, як яна весялілася дома. Балкон кватэры яе бацькоў выходзіў на вуліцу Адэсы і навісаў над тратуарам, па якім гулялі людзі. Нюрка сядзела на балконе з бутэлечкай чарніла. Калі ішоў мужчына ў светлым касцюме, яна вылівала яму на касцюм чарніла. Потым лямантавала:

— Ой, што я нарабіла! Прабачце! Гэта ж у мяне з рук выскачыла бутэлечка з чарнілам. Як вам памагчы! Давайце я памыю ваш касцюм! — хаця сама выдатна ведала, што хімічнае чарніла нічым не адмыеш. А купляла яна толькі хімічныя для такой забавы.

Расказваючы, Нюрка рагатала ад харошых успамінаў.

А я была шакіравана тым, што чула. На хвіліну ўявіла сябе на месцы таго мужчыны, які быў у светлым касцюме. Быў сапсаваны не толькі касцюм, быў, можа, сапсаваны ўвесь адпачынак. Можа, ён доўга збіраў грошы на гэты касцюм. Можа, звязваў з ім не проста адпачынак у выдатным горадзе? Можа, звязваў з ім лёс свой? І ў адно імгненне ўсё рухнула, яго спадзяванні, надзеі…

— За свае жартачкі ты трапіла ў турму? — спытала мама.

— Не, мяне пасадзілі за крадзеж грошай.

— Дык ты яшчэ зладзейкай была?

— Стаць сапраўднай зладзейкай я не паспела. Пасадзілі ў турму. Вялікую суму грошай я ўкрала ў маёй лепшай сяброўкі па школе. Мы сябравалі з першага класа. А калі былі ў дзявятым класе — яна паказала мне, дзе ў шафе яе бацькі хаваюць грошы. Нешта важнае хацелі набыць сабе. Кватэра іх была на першым паверсе. Я аднойчы непрыкметна адчыніла засаўку на акне, а калі нікога не было ў іх дома, улезла праз акно і ўкрала грошы. Я не думала забіраць усе. Але калі ўзяла іх у рукі, пачула, што нехта адчыняе дзверы ключом. Я з пакетам у руках сiганула ў акно.

— У сяброўкі змагла ўкрасці? — здзівілася мама.

— А якая розніца ў каго? — смяялася Нюрка.

— Розніца вялікая. І як ты патраціла гэтыя грошы? Купіла сабе штонебудзь?

— Не-а, сабрала дзяцей жабракоў, якія нават марожанага ніколі не елі. Павяла чалавек дваццаць такіх абарванцаў у кафэ-марожанае. Заказала кожнаму па дзесяць порцый. Таму нас не выгналі. Во быў баль для іх! Паела малышня гэтае марожанае. А я ліха расплацілася. Нават на чай пакінула. Першы раз у жыцці так гуляла. Дзеці, канешне, усе пахварэлі. Бацькам толькі сіплым шэптам сказалі, хто іх так пачаставаў. Гудзела ўся Адэса.

Дайшло да бацькоў маёй сяброўкі. Яны напісалі на мяне заяву ў міліцыю, што я ўкрала ў іх многа грошай. Большую частку грошай ім вярнулі. Але сваю заяву яны не забралі. Такія былі на мяне злыя. І я апынулася ў Брэсцкай турме. Мне засталося дасядзець усяго два месяцы…

Яна замаўчала, потым падумала трохі і дадала:

— Восенню вярнуся зноў у дзявяты клас, яго не скончыла. Як мяне прымуць у новым класе пасля турмы?

— Прымуць, — сказала мая мама, — усё залежыць ад цябе. Як ты сябе павядзеш, так і прымуць.

— Я ж марыла пра вышэйшую адукацыю…

Такой сур’ёзнай я Нюрку раней не бачыла.

* * *

На вуліцу я выходзіла рэдка. Па пасёлку страшна хадзіць. На ўсіх платах вісяць аб’явы, якія заканчваюцца адным словам — расстраляны: хто хавае беглых ваеннапалонных будзе расстраляны, хто хавае зброю, боепрыпасы — будзе расстраляны, у каго знойдуць радыёпрыёмнікі — будзе расстраляны, хто выйдзе на вуліцу пасля ўстаноўленага часу — будзе расстраляны, хто не выканае ў тэрмін патрабаванні акупантаў — будзе расстраляны, хто своечасова не з’явіцца на рэгістрацыю — будзе расстраляны, хто ходзіць паблізу чыгункі — будзе расстраляны…

Унізе кожнай аб’явы вялікімі літарамі напісана адно гэтае слова — «расстраляны».

Але ўвесь час сядзець у маленькім душным пакойчыку невыносна. І я цішком, каб не заўважыла мама, выходжу з дому, іду на вуліцу.

Па вуліцах Грушаўкі немцы вадзілі палонных чырвонаармейцаў. Большасць з іх былі параненыя, у брудных старых бінтах. Бывала, і нярэдка, што якая-небудзь жанчына «пазнавала» свайго мужа. Тады немцы яго аддавалі гэтай жанчыне. Яны, відаць, лічылі — здаўся ў палон, значыць, ужо не вораг — я так думала.

Я была на вуліцы, калі зноў вялі палонных. Стаяла з краю тратуара. І раптам адзін палонны, ужо не малады, закрычаў:

— Дачушка, Надзенька, няўжо ты мяне не пазнаеш? Я ж твой тата! Надзенька!

Я паглядзела на тратуар, дзе тая дачушка яго стаіць? На тратуары я была адна. Палонныя амаль прайшлі каля мяне, пакуль я здагадалася, што гэта чалавек звяртаўся да мяне. А я адразу не здагадалася. Я пабегла даганяць палонных. Я закрычала:

— Тата! Дзе мой тата! Я цябе адразу не пазнала. Татачка, дзе ты? Прабач мяне…

З натоўпу выбіраўся мужчына, які клікаў Надзеньку. Я кінулася да яго з плачам. Ён абняў мяне, выбраўшыся з натоўпу.

Немец-канваір яго адпусціў адразу. І мы, абняўшыся, удваіх ціха-ціха пабрылі ў напрамку да інтэрната.

Мама нагрэла на кухні вядро вады, прынесла ў пакой, адгарадзіла мужчыну бабулінай шырмачкай, а мой сапраўдны тата пайшоў памагаць яму мыцца, пакуль мама на кухні гатавала ежу.

Праз некалькі дзён Віця са сваімі сябрамі правялі гэтага мужчыну ў напрамку лесу да партызан, якія там ужо збіраліся.

Я пішу пра гэта вельмі каратка, бо не стаўлю перад сабой задачу, каб яе вырашаць. Мая галоўная задача, галоўны герой — Фёдар-атаман…

* * *

Аднойчы Фёдар праходзіў міма нейкага дома і ўбачыў прачыненыя ўваходныя дзверы. «Можа вецер прачыніў? — падумаў. — Але чаму гаспадары не зачынілі?»

Пачаў хадзіць недалёка, непрыкметна назіраючы за прачыненымі дзвярыма. Ніхто не паяўляўся. Тады смела, як да сябе — увайшоў. Гэта быў прасторны пакой.

Першае, што трапіла на вочы — у куце валялася прыгожае паламанае крэсла. Тры цэлыя прынеслі днямі яго сябрукі. Ён нават адно ўзяў сабе. Значыць, тут яны пабывалі.

На ложку ляжала жанчына. Вельмі худая. Адны косці, абцягнутыя скурай. Твар белы як папера, вочы заплюшчаныя. Па абодва бакі ад яе віднеліся галоўкі дваіх дзяцей. Які ў іх узрост ён не ведаў, толькі бачыў, што малыя. Жанчына прыціскала іх рукамі да сябе.

Спачатку ён падумаў, што яна мёртвая. Дакрануўся да рукі — не халодная. Значыць, яшчэ жывая. Жанчына прыадкрыла вочы, паглядзела на чужога мужчыну і нічога не сказала. Відаць, у яе нават не было сіл гаварыць.

Ля дзвярэй стаяла вядро, Фёдар падышоў да яго, убачыў, што ёсць трохі вады. Набраў у кубак, прыўзняў галаву жанчыны, прыклаў кубак да вуснаў, сказаў — піце. Яна хоць марудна, але глытала. Папіўшы прашаптала: — Напаіце дзяцей, выратуйце.

Фёдар набраў у кубак крыху вады, напаіў малых. Яны прагна пілі.

Тады ён сказаў жанчыне:

— Я зараз схаджу дадому, прынясу што-небудзь паесці вам. У мяне нават трохі малака ёсць.

Жанчына нічога не адказала.

А ён не пайшоў, а пабег да свайго пакоя. Ён нават яшчэ не асэнсаваў, што з ім адбываецца. Чаму раней, не задумваючыся ні на хвіліну, Фёдар мог забіць чалавека і больш пра яго ніколі не ўспомніць. Нібыта гэта не ён вінаваты, што чалавека больш няма. Чужое жыццё не мела для яго ніякай цаны.

А тут — незнаёмая жанчына, можа, нават памерла ўжо, пакуль ён бегае па сваім пакоі і хапае ўсё, што трапляе пад рукі з прадуктаў. Толькі б паспець, застаць яшчэ жывую. Убачыў электраплітку з каструляй на ёй. Ведаў, у каструлі курыны булён і звараная палова курыцы. Усё паклаў у торбу разам з пліткай, асцярожна нёс яго да дома незнаёмай жанчыны.

Уключыў электраплітку і паставіў на яе каструлю з булёнам, каб пагрэўся. Жанчына не варушылася. Зноў падышоў як першы раз і памацаў руку. Рука была цёплая. Значыць, яшчэ жывая. Наліў паўшклянкі цёплага булёна, падышоў да жанчыны, прыпадняў галаву, да вуснаў прыклаў шклянку. Нахіліў. Жанчына пачала глытаць. Выпіўшы ўвесь булён расплюшчыла вочы і ўжо больш усвядомлена паглядзела на свайго ратавальніка.

— Ратуйце дзяцей, — сказала яна.

Фёдар спытаў:

— Ім лепей пагрэць малака, або даць булёну?

— Дайце булёну хутчэй.

Ён зноў падышоў да каструлі, што была на плітцы ля ўвахода. Напаіў спачатку аднаго, потым другога.

— Дзякуй, што вы ратуеце нас, — прашаптала жанчына.

— У вядры амаль няма вады. Дзе вы ваду бярэце?

— Праз квартал… калонка ёсць… на вуліцы.. Яе нават відаць з нашых дзвярэй, — гаварыла яна, прыпыняючыся амаль пасля кожнага слова.

Фёдар узяў вядро і пайшоў шукаць калонку.

Галава яго была нейкая пустая. Рабіў усё аўтаматычна, нібы невядома па чыім загадзе, нібы завадная лялька. Нібы нехта завёў яго, і ён усё робіць, не разумеючы чаму і ці трэба яму тое, што ён робіць.

Прынёс вады, яна спытала:

— Заўтра раніцай прыйдзеце?

Ён спалохаўся:

— Не, раніцай не змагу, мне ж на работу трэба.

Фёдар развітаўся з жанчынай і хуценька пабег дадому варыць сабе другую частку курыцы, бо быў галодны, забыўшы, што другой пліткі ў яго няма…

Пра свае подзвігі ў гэты дзень ён стараўся не думаць. Што на яго найшло? І нават прыняў катэгарычнае рашэнне: забыцца пра ўсё. Бо дома заўважыў, што акрамя сырой курыцы нічога няма. Нават лустачкі хлеба. Усё аднёс туды: бульбу, цыбулю, крупы і вядома ж — хлеб.

Доўга ён не мог заснуць галодны ў той вечар. Мімаволі падзеі канца дня самі ўсплывалі ў памяці: і страшэнная бледнасць жанчыны, і як змяніўся яе твар, калі выпіла ўсяго паўшклянкі булёну. Больш ён баяўся даць ёй, каб не зрабіць дрэнна.

Адкуль у Фёдара ўзнікла такое адчуванне, што больш ёй нельга нічога даваць есці? Можа, дзе што чуў калі-небудзь, і гэта пачутае зачапілася недзе ў памяці і ў патрэбную хвіліну ўспомнілася…

Раніцай ён зноў пайшоў займацца сваёй «работай», быць наводчыкам у злодзеяў. Хадзіў, глядзеў, запамінаў. Учарашнюю нечаканую сустрэчу выкінуў з галавы, як непатрэбную: навошта лішні клопат, калі і так няпроста жыць? Пастараўся ўсё забыць. І забыўся амаль на цэлых паўдня. Калі ж настаў час ісці да сваіх сябрукоў, Фёдар зноў успомніў учарашнюю прыгоду і падумаў, што было б нядрэнна здабыць малако для малых. Калі ж у яго сябрукоў малака не будзе, ён сходзіць да тых старажылаў пасёлка, у каго ёсць карова. Пагледзеў у кішэню ці ёсць грошы. Трохі было, на малако хопіць.

Фёдар і сам любіў замест вады выпіць шклянку малака. Але цяпер чамусьці ўспомніў пра малых, хаця яшчэ не ведаў, хто там у яе. Калі ў канцы рабочага дня ён зазірнуў у пакой маладой жанчыны, у яго мяшэчку было дзве бутэлькі малака і кавалак белага хлеба. Малыя былі памыты ўжо, хадзілі па пакоі, і па тым, як яны былі апрануты, зразумеў, што гэта хлопчыкі. І не аднагодкі.

— Давайце пазнаёмімся, а то ўчора не было сіл нават гэта зрабіць, — сказала жанчына, — мяне завуць Дар'я, а вас?

— А мяне Фёдар.

Жанчына ўсміхнулася:

— Як майго старэйшага сына. Ён таксама Фёдар.

— Мне прыемна, што маё імя для вас не чужое. А колькі яму гадоў?

— Тры годзікі. А меншы — Дзімачка, яму два годзікі. Ну вось і пазнаёміліся, — сказала жанчына.

Ён выняў з торбачкі дзве бутэлькі малака, хлеб, і паставіў на столік, які быў у пакоі.

— А вас я пачастую грэчневай кашай, якую зварыла да вашага прыходу, яшчэ гарачанькая. Вы ж пасля работы, відаць, не паспелі павячэраць?

— Сапраўды, не паспеў.

Яго любімая грэчневая каша была на дзіва смачная! У яго такая не атрымлівалася. А можа, гэта яму так здалося, бо прыгатавала яе гэта хоць і страшэнна худая, але з твару сімпатычная жанчына.

Пасля «работы» Фёдар стаў прыходзіць сюды кожны вечар і прыносіць прадукты, якія толькі мог здабыць. Дома ж у яго заставалася драбяза, каб раніцай можна было толькі перакусіць. Удзень, калі ён прыходзіў у інтэрнат, яго калі-нікалі частавала абедам Ганна Філатаўна. А начаваў заўсёды ў сваім пакоі.

Неўзабаве Фёдар заўважыў у сябе цікавыя змены. Так, калі ён зварочваў на маленькую вулачку, на якой жыла жанчына з дзецьмі, яму пачало здавацца, што нават у ясны дзень сонца нібыта пачынае свяціць больш ярка, грэць значна цяплей, што надвор’е мяняецца да лепшага. А калі дажджыла, то хмары змяншаліся, стараліся не замачыць яго. А толькі паспяваў зачыніць за сабой дзверы, як дождж павялічваўся. Паліваў зямлю больш шчодра.

А можа, яму гэта толькі здавалася?

* * *

Даша вельмі хутка папраўлялася і ператварылася ў сімпатычную жанчыну. І дзеці сталі бойкімі, непаседлівымі, гуллівымі. Усё цягнулі яго гуляць з імі. Яму і гэта падабалася. Фёдар адчуваў, што яму проста неабходна бачыць кожны дзень гэтую жанчыну і яе дзяцей.

Аднойчы яна спытала:

— Вы прыходзіце кожны вечар і нічога пра сябе не расказваеце. А начаваць ідзеце, відаць, да сваёй сям’і?

— Сям’і ў мяне няма і не было ніколі. Жыву адзін.

Убачыў, што яна ўзрадавалася.

— Дык перабірайцеся да нас жыць, месца ўсім хопіць. І дзеці прывыклі ўжо да вас. І ведаеце, што яны кажуць мне?

— Не, не ведаю.

— Яны пытаюцца: «А сёння тата прыйдзе, не пакіне нас?»

Ад слова «тата» ў яго сціснулася сэрца, быццам яму мала месца стала ў грудзях. «Яны мяне прынялі за свайго тату», — падумаў Фёдар. А можа, я падобны на яго?

І, нібы адказваючы на ягоныя думкі, яна сказала:

— Іх тата савецкі камандзір. Ваенны. У вас галасы падобныя, і манера гаварыць камандзірская. Ён пайшоў на вайну адразу ж, у першы дзень. Не ведаю — ці жывы. Ніводнага пісьма не прыслаў, — жанчына заплакала.

Яму захацелася прытуліць да сябе гэту бездапаможную жанчыну, якая, безумоўна, памерла б з голаду, як і яе дзеці, якія назвалі яго татам, іх татам.

— А я падобны на іх тату?

— Трошкі ёсць, — адказала яна.

— Ну, тады я перабяруся, раз яны гэтага хочуць.

— Я таксама хачу, каб мы жылі разам. — Перабірайцеся. Ваша імя грэе

маё сэрца. Не дарэмна, відаць, першынца так назвала. Перабірайцеся. Вельмі прашу… Цябе.

— Пайду збіраць рэчы. І можа, нават сёння ж вярнуся, калі паспею сабрацца.

Але ён не прыйшоў у той вечар. «Значыць не паспеў сабраць рэчы, — супакойвала сябе Даша, — буду чакаць заўтра».

Трывога, што раптам ён больш не прыйдзе, не пакідала яе ўсю доўгую ноч.

А ноч была страшэнная. Фёдар ішоў у свой пакойчык, а неба пакрылася чорнаю хмарай, суцэльнай, з краю ў край. Набліжалася навальніца з бясконцымі маланкамі і перунамі і з буйнымі кроплямі дажджу, якія пачалі падаць з чорнага неба. Апошнія крокі да свайго пакоя Фёдар ужо бег, каб за хвіліну не вымакнуць да ніткі.

Паспеў. Толькі ўбег у пакой, як за дзвярыма палілася з неба суцэльным патокам вада. Маланка бліскала бесперапынна, грымеў гром. Адначасова. Такой навальніцы Фёдар за сваё жыццё не памятаў.

А Даша прыціскала да сябе сваіх сыночкаў і думала — ці паспеў дабегчы да свайго жылля яе вызваліцель, ратавальнік яе сям'і. Хаця б паспеў. Хаця б маланка не забіла… — маліла яна неба.

* * *

А ён ляжаў на сваім ложку і думаў, успамінаў. У яго жыцці ніколі не было сям'і. Бо з самага юнацтва большасць гадоў для яго родным домам была турма, турэмныя нары: пад'ём, адбой і ніякага асабістага жыцця. Думаў заўсёды, што такі яго лёс да скону…

А тут раптам вайна прынесла не толькі волю, ад якой ён адвык, а яшчэ нешта большае.

А яшчэ лёс дорыць яму адразу гатовую сям'ю — прыгожую жанчыну і двух сыноў.

Яму чамусьці страшна было пачынаць зусім іншае жыццё. Ці зможа ён апраўдаць надзеі гэтай жанчыны? Ці зможа забыць мінулае, якое заўжды лічыў сваім лёсам. Назаўсёды лічыў. А тут раптам такі круты паварот.

Варочаецца ён на ложку, а сон не ідзе ад думак такіх. І не ведае, ці зможа жыць іншым жыццём, ці зможа апраўдаць яе надзеі, спадзяванні? Ці зможа?..

Раніцай яго разбудзіла сонейка. Рэчы, складзеныя яшчэ ўчора, ён пакінуў у сваім пакоі, зачыніў ключом дзверы і пайшоў на сваю звычайную «працу».

Паўдня мучыўся са сваімі сумненнямі, як быць з «работай»? І раптам яго асяніла выратоўчая думка: а навошта што-небудзь мяняць у ягоным занятку? Гэта ж работа! І няхай усё застаецца як ёсць. Толькі каб ягоныя «сябрукі» нічога не дазналіся. Трэба быць асцярожным яшчэ болей чым раней. І ўсё будзе чын чынам.

З такімі думкамі, з такім рашэннем Фёдар пайшоў у інтэрнат па сваю долю, долю атамана.

Канешне, яму хацелася ўзяць болей прадуктаў, чым браў раней. Але стрымаў сябе. Узяў як звычайна на аднаго чалавека. Адразу пайшоў да Дашы з асцярогай, аглядаючыся, ці не відаць дзе-небудзь сябрука. Нікога не ўбачыў і зайшоў. Аддаў прадукты. Даша, калі ўбачыла яго, уся ажно засвяцілася ад радасці. І хлопчыкі палезлі да яго абдымацца.

— Тата прыйшоў! Тата прыйшоў! — зазвінелі іх радасныя галасочкі.

А ў яго на вачах навярнуліся слёзы.

— Пайду, прынясу рэчы! Раніцай не паспеў.

— Паеш спачатку, — сказала Даша.

— Потым, — і выбег з дому…

Вярнуўся з рэчамі: адзін касцюм, некалькі сарочак, бялізна і абутак. Вось і ўсё яго дабро. І раней ніколі болей не было. Навошта? На волі ён быў заўсёды рэдкі госць.

Еў з апетытам, хваліў. Хацелася з'есці болей, бо было вельмі смачна: і суп, і каша. Еў і думаў: дзе яшчэ здабываць ежу. Ісці красці — не, нельга. Рызыкоўна. Раптам пападзешся. Ужо баяўся не за сябе, а за сваю сям'ю. Тады яны загінуць ад голаду без яго. І вырашыў ісці на таварную станцыю разгружаць немцам вагоны. На гэта ў яго сіла ёсць. А потым, можа, лёс што іншае прапануе.

З такімі думкамі ён правёў у Дашыным пакоі сваю першую ноч.

А Даша? Яна не разумела яго. Толькі бачыла, што нейкія цяжкія думы адольваюць яе выратоўцу. Ложак у пакоі быў толькі адзін. Шырокі. Леглі спаць. Спачатку яна ўклала асобна сыноў, потым легла побач з Фёдарам. Абняла яго, прытулілася, як некалі да свайго любімага мужа. Ён быў нібыта двайнік яе Паўла. Бывае ж, што зусім чужыя людзі сустрэнуцца першы раз у жыцці, а нібыта родныя.

Так і правялі яны сваю першую ноч абняўшыся, ён цалаваў яе твар з такім пачуццём, з якім не цалаваў яшчэ ні адну жанчыну ў сваім халасцяцкім жыцці…

Раніцай, снедаючы гарачай кашай, ён думаў, што трэба недзе здабыць хоць трошкі масла, каб хаця дзеці не елі пустую кашу. І пайшоў не на атаманскую вахту, а на таварную станцыю…

Цяпер у дзяцей паявілася новая гульня. Яны ставілі тату на падлозе на калені, садзіліся яму на спіну, і ён іх вазіў, быў паравозам. Гудзеў і пыхцеў як паравоз. Усе ад такой гульні былі ў захапленні…

* * *

Аднойчы адбылося нечаканае, яго сябрукі забаставалі.

— Ты закінуў сваю работу атамана, ходзіш на таварную станцыю зарабляць капейкі, каб карміць кралю, якая ў цябе паявілася. З двума гатовымі сынамі. Мы ўсё ведаем, і дзе вы жывяце, і што яна нічога не здагадваецца, хто ты на самай справе. Мы ёй усё пра цябе раскажам. Уяўляеш, у якім яна будзе захапленні, што яе каханы — ці не самы вядомы ў Адэсе бандыт. Паглядзіш, як яна ўзрадуецца, дазнаўшыся, хто ты на самай справе…

Гаворачы гэта, яны былі злыя. І Фёдар зразумеў, што яны гэта зробяць. Нічога не адказаў ім. Ведаў, прасіць іх нельга. Наадварот, гэта толькі ўскорыць развязку. Ён падняўся і моўчкі выйшаў. Доўга хадзіў па Грушаўцы, думаў. І надумаўся. Ёсць толькі адно выйсце зберагчы жыццё трох членаў яго сям'і і сваё каханне да гэтай жанчыны. Ён адчуваў, што яно нараджаецца. І ён зберажэ яго.

На наступны дзень Фёдар прыйшоў у інтэрнат калі «сябрукі» былі яшчэ на рабоце. Зайшоў толькі да Ганны Філатаўны, сказаў, каб заўтра яна вельмі рана выйшла з дому і вярнулася толькі позна вечарам. І пайшла далей ад інтэрната.

Яна не стала пытацца чаму? Сказала толькі адно слова:

— Добра.

Зайшоў да нас, папярэдзіў:

— Зачыніцеся на ключ і нікога не пускайце да сябе. Не выходзьце што б вы ні чулі і сядзіце ціха. Гэта мой загад!

Раніцай усе яшчэ спалі. Ганна Філатаўна выйшла з інтэрната. Куды пайшла — ніхто не ведаў і не пытаўся ў яе. Пайшла і пайшла. Яна была незалежная, хаця кармілі яе ўсе гуртам.

Праз нейкі час прыехалі на сваіх грузавіках, крытых чорным брызентам, немцы з аўтаматамі, абкружылі дом. Выгналі ўсіх з пакояў, загналі ў машыны. І павезлі ўсіх некуды. Нашу сям'ю не чапалі.

Гадзіны дзве прайшло і пачуліся аднекуль з поля аўтаматныя чэргі. Потым, хто жыў ля поля, расказалі: усіх прывезлі на поле, прымусілі капаць вялікую і глыбокую яму. Хто капаў у яме і застаўся, астатніх паставілі на краі і страчылі з аўтаматаў. Забілі ўсіх да аднаго.

Фашысты злодзеяў ненавідзелі.

Вечарам, як было дазволена, вярнулася Ганна Філатаўна. Убачыла пусты дом і ўсё зразумела…

Раніцай зайшла да нас развітацца. Хоча дабрацца да Адэсы. Пілі гарбату з лекавых траў, якія збірала і сушыла Тамара, татава пляменніца. Яе дзядуля быў траўнікам і прывучаў некалі ўнучку ведаць травы.

Мама дала Ганне Філатаўне з сабой увесь кавалак сала, які быў у нас і эрзац хлеба (хлеб з пілавіннем), які пяклі немцы спецыяльна для жыхароў горада. Яны разлічваліся гэтым хлебам за Віцеву работу. Ён разгружаў з сябрамі, такімі ж малалеткамі як і сам, вагоны з вугалем. Плата за ноч работы — буханка такога хлеба.

Ганна Філатаўна не хацела браць.

— Мы як-небудзь абыдземся, — угаворвала мама. — А вам у дарогу. Невядома яшчэ — якая яна будзе…

Вось і ўся гісторыя.

А мне было вельмі шкада Нюрку-рагатушку, якая марыла пра вышэйшую адукацыю… Аднойчы аступілася і заплаціла за гэта жыццём…

* * *

Прайшло некалькі гадоў. Скончылася вайна. Савецкі Саюз адсвяткаваў Перамогу над гітлераўскім фашызмам. Узнаўлялася краіна. Кожную вясну першага красавіка зніжаліся цэны на прадукты ў магазінах. Няхай не на многа, але кожную вясну.

Тата мой, Ануфрый Фёдаравіч, стаў зноў працаваць у сваім «Белпрампраекце» як да вайны, і нам далі для жыцця вялікі пакой па вуліцы Дабралюбава, якую потым праглынуў Камароўскі рынак. Заехалі мы ў гэты пакой без Віці — брата. Ён загінуў на фронце ў баі за Польшчу.

Аднойчы тата пайшоў на рынак купіць тытунь, з якога сам рабіў самакруткі. Вярнуўся дадому ў незвычайным настроі.

— Ведаеце, каго я сёння сустрэў на Камароўцы? — спытаў. — Ніколі не здагадаецеся, — Фёдара. Добра апрануты, дагледжаны, падышоў да мяне, павітаўся, запрасіў зайсці з ім у кафэ ля рынка выпіць піўка. Я згадзіўся. Мы ж з ім раней ніколі нічога не пілі разам. Не да гэтага было. А цяпер яму, відаць, захацелася мне паспавядацца, можа, нават пахваліцца…

Муж яго каханай Дар'і загінуў на фронце ў першыя дні вайны. Цяпер яна даўно — жонка Фёдара.

— Я працую на аўтазаводзе, — гаварыў ён, — набыў прафесію слесара. У мяне ўжо самы вышэйшы разрад, — пахваліўся, — зарабляю добра. Мая каханая жанчына нарадзіла мне цудоўнага, здаровага сына. Гадую трох сыноў. Яны мяне любяць. А я іх яшчэ болей люблю, усіх аднолькава. Вырастуць — будуць як у казцы, тры волаты, тры асілкі. Старэйшага завуць Фёдар. Яна назвала так як толькі ён нарадзіўся, сярэдні — Дзмітрый, а самы малодшы — Максім, як звалі майго бацьку. Я стараюся ўсё рабіць так, каб у маіх сыноў было шча-

слівае дзяцінства. І не толькі дзяцінства. Хачу, каб выраслі яны сапраўднымі людзьмі, каб я і іх маці маглі ганарыцца імі. У мяне ні дзяцінства, ні юнацтва не было. Мае бацькі заўсёды п'яныя сварыліся і біліся. Я тады думаў, што ўсе так жывуць: на вуліцы нібы сябры, а дома — лютыя ворагі.

— А як твая Даша жыве? — спытаў тата.

— Мая каханая, я інакш яе не называю, сваім прыкладам навучыла мяне быць добрым, пяшчотным. Нават не ўяўляю цяпер, як я жыў некалі без маёй сям'і. Маці ўсіх трох сыноў да гэтага часу не ведае майго мінулага. І я яго, мінулае, выкрасліў са сваёй памяці, са свайго жыцця.

— Знаеш, Фёдар, — сказаў тата, — я здзіўлены і бясконца рады і нашай сустрэчы, і ўсяму таму, што ты расказваеш. Слухаю, як казку. Павер мне.

— Я сам часам дзіўлюся, як яна змяніла ўсё маё жыццё. І мяне самога. Я цяпер зусім іншы чалавек, як быў тады, калі мы сустракаліся. Цяпер я разумею, што тая выпадковая сустрэча ў час вайны — не выпадковая. Гэта быў лёс. Ён так распарадзіўся, так звёў нас нечакана зусім розных людзей. Узяў і звёў. Так яму захацелася. Лёсу.

— Можа, ты і маеш рацыю. Хто ведае?..

— Я ведаю. Я бясконца люблю маю сям'ю. Ды што гаварыць многа, мая Даша самая прыгожая і добрая жанчына на свеце, сыны ў мяне выдатныя. Ну, а я — шчаслівейшы чалавек на зямлі. Але… — Ён на нейкі час задумаўся, нібы вырашаў, якімі словамі пачаць, як прыступіць да вельмі важнай часткі свайго маналога. — Разумееш, Ануфрый Фёдаравіч, многа ў мяне накапілася грахоў за маю шалапутную маладосць, за жыццё, асабліва — апошні масавы грэх вялікай цяжкасцю ляжыць на маёй душы. А што я мог іншага зрабіць, каб выправіць сітуацыю? Нічога! Маё мінулае забіла б чыстую душу гэтай жанчыны. Яна выбрала б лепей смерць сабе і сынам, чым быць з такім чалавекам, як я. Гэта я ведаў, адчуваў усім сваім нутром.

Я вымушаны быў зрабіць тое, што па нашых законах павінен рабіць атаман з бунтаўшчыкамі. У час вайны нашай роднай дзяржавы не было там, дзе мы жылі, у Беларусі. І я здаў іх акупантам. Я быў упэўнены, што іх усіх пасадзяць у турму, як было заўсёды. А фашысты іх забілі…

* * *

Шлюбы здзяйсняюцца на нябёсах. Так гаворым часта мы, людзі. Там, наверсе, свае законы, можа, пісаныя для нас у Бібліі.

А пра кожнага з нас там, наверсе, вядома ўсё, ад пачатку і да канца. Або амаль усё. Таму мы, людзі, кажам, што гэта лёс, які ад нас не залежыць. Бо лёсам кіруюць з нябёсаў.

Там, на нябёсах, было вядома, што менавіта гэты мужчына — Фёдар, — які амаль палову свайго жыцця правёў у турмах і фактычна нармальных чалавечых адносін не ведае, што ён, толькі ён, у той сітуацыі, якая склалася, у тых страшэнных абставінах вайны, калі жыццё чалавека ад яго не залежала, толькі ён можа выратаваць жанчыну і яе дзяцей ад галоднай смерці. А ім наканавана было жыць.

І што менавіта гэты чалавек калі пакахае, то каханне будзе на ўсё астатняе жыццё.

Таму, відаць, выбар Боскі і анёлаў паў на яго… Іншых кандыдатур там, на Грушаўцы, проста не было…

А я — апошняя сведка гэтай гісторыі.



## Мікола ЧАРНЯЎСКІ

### ГОРКІ ВЫРАЙ

***Памяці Анатоля Сербантовіча,***
***Хведара Чэрні, Анатоля Грачанікава***

Што ж вы, хлопцы,
Што сталася з вамі?
Прычакаўшы вясны, жаўрукоў,
Развіталіся раптам з сябрамі
Чарнастужнаю скрухай вянкоў.

Лёг на сэрца
журбы шэры камень.
Як мне скінуць яго праз гады?
Спеў, узняты ў зеніт жаўрукамі,
Абарваўся — і змоўк назаўжды.

Сакавік.
Сок пульсуе ў бярозах,
Каб спатоліць ім смагу маглі.
Вы ж, збялелыя, як ад марозу,
Слёзы свечак жывых пралілі.

---

***Чарняўскі Мікалай Мікалаевіч*** *нарадзіўся 16 студзеня 1943 года ў вёсцы Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1966). Працаваў у рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі», на Беларускім радыё, у часопісах «Бярозка» і «Вясёлка».*

*Піша для дзяцей і дарослых. Аўтар зборнікаў лірыкі, сатыры і гумару: «Чалавечнасць» (1971), «Трывога» (1988), «Лёкса ў люксе» (1993), «У трох соснах» (1996), «Сонечны кошык» (2009) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1995), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2001), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010).*

Жаўрукі прылятаюць,
Каб, звонячы,
Славіць раніцы, вёснаў красу.
Вы ж блакіт іх,
Празрысты і сонечны,
Спавілі — хоць і нехаця — ў сум.

Жаўрукі прылятаюць,
Каб песні
Рассыпаць ад нябёс да зямлі.
Вы ж нам восень вясною прынеслі,
Сэрцы смутку лісцём замялі.

Жаўрукі бачаць рунь, бераг родны,
Бор, атулены цёплай смугой,
Вы ж — туман, жвір магільны, халодны,
На зямлі, змалку вам дарагой.

Жаўрукі для сябе і для дзетак
Гнёзды ў травах звілі-завялі.
Вы ж вянкі з васількоў і санетаў,
Як прадбачыўшы, самі сплялі.

Жаўрукі прылятаюць —
                                        нядзеліць,
Несці звонкую радасць штораз.
Вы ж ад нас па адным адляцелі…
Ранні вырай ці ж, хлопцы, для вас?

Горкі вырай…
                    Вясной…
                                        Не запляміць
Той праменьчык, што ў сэрцы не згас,
Нам пакінуўшы ў ім
Толькі Памяць…
А яна — не кароткая ў нас.

## ТРЫЯЛЕТЫ

* * *

І ў сонца крыўда гэтаксама ёсць:
Сябе самога ў вышыні не бачыць.
Ды гэта не змушае, каб няўдзячыць.
І ў сонца крыўда гэтаксама ёсць.

Ды ёсць святло, цяпло ёсць, прыгажосць,
Што могуць свет, жыццё, настрой зыначыць.
І ў сонца крыўда гэтаксама ёсць:
Сябе самога ў вышыні не бачыць.

* * *

Вокны ў хаце — тыя ж вочы маці,
Можна ў іх, бы ў свет жывы, глядзець,
Як яны, журыцца, ясна днець.
Вокны ў хаце — тыя ж вочы маці.

Сонечна — смяюцца вокны ў хаце,
Дождж — заплачуць, то мацней, то — ледзь.
Вокны ў хаце — тыя ж вочы маці,
Можна ў іх, бы ў свет жывы, глядзець.

* * *

Трашчыць суччо, а быў жа час — шумела,
Гуло нясціхна кронамі ўгары,
Будзіла спевы птушак на зары.
Трашчыць суччо, а быў жа час — шумела.

Ці ссек тапор, ці бура праляцела:
«Ляжы ў лаўжы, збуцвей або згары!»
Трашчыць суччо, а быў жа час — шумела,
Гуло нясціхна кронамі ўгары.

* * *

Нішто ў жыцці нам лёгка не даецца.
А хіба ў гэтым шчасце — лёгка жыць,
Калі душу сваю не ўзварушыць?
Нішто ў жыцці нам лёгка не даецца.

Але адно даецца, мне здаецца:
Жыццё пражыць не так, як набяжыць.
Нішто ў жыцці нам лёгка не даецца.
А хіба ў гэтым шчасце — лёгка жыць?

* * *

У кожным успаміне — свята ёсць,
Бо гэты успамін — у храм вяртанне,
Дзе грэлі сэрцы мары, спадзяванні.
У кожным успаміне — свята ёсць.

Хіба не свята — наша маладосць,
Хіба не свята — першае каханне?
У кожным успаміне — свята ёсць,
Бо гэты успамін — у храм вяртанне.

* * *

Ціха падабралася зіма,
Як да стайні ў прыцемках ваўчыца.
Бляск халодны ў позірку мігціцца,
Ціха падабралася зіма.

Хоць, яе чакаўшы, не драмаў,
Не мінуць таго, што мусіць збыцца.
Ціха падабралася зіма,
Як да стайні ў прыцемку ваўчыца.

* * *

Сама сябе заўжды абараняе —
Такі ўжо ў кожнай ісціны закон.
Што б ні паставіў доказам на кон —
Сама сябе заўжды абараняе.

Што ўсё за ісцінаю — ісціна старая.
Падмогі не шукаючы спакон,
Сама сябе заўжды абараняе —
Такі ўжо ў кожнай ісціны закон.

а



Юлія ЗАРЭЦКАЯ

# А ГРЭХ ЖЫВЕ...

Апавяданне
(З цыкла «Дунілавіцкія былі»)

...Цяпер ён сядзеў на высокай шурпатай сасне і, хоць ад магілы аддзяляла метраў дзвесце, бачыў усё. Бачыў свежую зямлю каля ямы, безліч людзей, светлую драўляную труну... Яшчэ раней, хаваючыся ў негустым смалістым сасонніку, што туліўся да старых могілак, Раман пазнаў Фэльку з Васькам і Бронакам. «Вось каго ў далакопы пазвалі», — абыякава, нібыта яго гэта ніяк не тычылася, зазначыў хлопец. Мужчыны якраз збочвалі з уезджанай брукаванкі на нешырокую палявую дарогу, і боты іх увачавідкі пакрыліся рудаватым пылам. Ступіўшы на могілкі, яны перажагналіся, падняліся па звілістай сцежцы наверх і ўторкнулі рыдлёўкі ў зямлю. Фэлька як старэйшы, крыху памергаваўшы[1], узяўся загадваць дужа маркотнай работай. Капалі хутка, спраўна, і праз нейкай паўгадзіны Васька разагнуўся, сказаў нешта Фэльку і той згодна кіўнуў галавою. З торбы, якую сабралі далакопам на могілкі, Бронак выцягнуў бутэльку, вялікія лусты хлеба, каўбасу. Выпілі, не закусваючы; налілі яшчэ раз, крыху прыкусілі.

«Халера, есці хочацца, — з нейкім здзіўленнем падумаў Раман. Здавалася б, якая тут к чорту ежа, калі здарылася такое, але чалавек ёсць чалавек: пакуль жывы, мусіць задавольваць страўнік. — Хоць бы хлеба скібку ў зубы ўзяць. Ат, — ён крыва ўсміхнуўся, — позна. Ды і ўсё роўна цяпер…»

Мужчыны зноў узялі ў рукі рыдлёўкі, і неўзабаве галава Бронака схавалася за грудам магільнай зямлі. Раман сеў на траву. Позірк яго нібыта акамянеў, хлопец утаропіўся ў маладую сасонку побач: выцягні руку — адчуеш лёгкі колкі дотык. Іголкі маладыя, мяккія, яшчэ не зацвярдзелыя. Мала зім яны стылі на лютым марозе ды засыпáліся снегам, мала летаў паліваў іх дождж ды лашчыў цёплы ветрык. «Так і чалавек, — падумаў раптам хлопец, — калі малады, усё яму ў навіну, ён не баіцца перамен, душа чуллівая, спагадная. А калі састарыцца, сэрца яго скамянее, не дашукацца тады ні літасці, ні спагады…»

---

*__Зарэцкая Юлія Францаўна__ нарадзілася 8 студзеня 1978 года ў вёсцы Дунілавічы Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла Дунілавіцкую СШ (1995), філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка (2000). Працавала рэдактарам, загадчыкам аддзела фельетонаў і пісьмаў, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык». Цяпер — галоўны рэдактар часопіса сатыры і гумару «Вожык».*

*Аўтар кнігі «Шчаслівыя людзі» (2011).*

А як ён хацеў знайсці яе — тую спагаду! Каб зразумелі, каб успомнілі, што самі нядаўна былі маладымі, каб дазволілі!.. Не. Не зразумелі, не ўспомнілі, не дазволілі. Забыліся, што забаронены плод салодкі. Ой, які салодкі гэты плод — каханне!..

«Хіба ж я знарок? Хіба ж я выбіраў? Хіба ж гэта мая воля была? Убачыў яе — і ўсё. Сэрца сціснулася, замерла, потым затрапятала, ды позна ўжо — трапіла ў сіло. Сіло тое як быццам вялікае — ідзі куды хочаш, глядзі на каго хочаш, аднак — сіло. Няволя. І цяжка гэта, і салодка. Свет не мілы, пакуль не ўбачу яе, не загавару. Хіба ж гэта мая воля?» — маркоціўся Раман, шаптаў гэтыя словы ноччу, гледзячы ў бяссоннае зорнае неба. Бацькам так адкрыцца не мог: саромеўся. Ды хіба гэтага і так не відаць было?

Вядома, відаць. І бацькі, дзякуй богу, не сляпыя, не дурныя былі. Таму і заўпарціліся. Бацька — высокі, з сівымі скронямі, жылісты (з часам толькі крыху згорбіўся ды з'явілася лёгкая паўната ў целе) быў у мястэчку паважаным чалавекам. Да вядомага доктара Савіцкага ехалі і ішлі, цягнуліся і беглі заўсёды — і днём, і ноччу. Савіцкі лячыў усіх і ўсё. Бо адукаваны, разумны быў чалавек, ды і практыкаваўся потым, «набіваў руку» ў мясцовых вопытных урачоў, што навуку атрымалі яшчэ за царскім часам. А даўней, як вядома, не было ні тэрапеўтаў, ні стаматолагаў, ні акулістаў з педыятрамі — быў доктар. Адзін на ўсе хваробы. Прыйшоў да цябе чалавек са сваёй бядою — абавязаны дапамагчы. Інакш чаго вучыўся? На што бацькоўскія грошы змарнаваў? Таму і павага была адпаведная — доктар.

Восіп Савіцкі добры быў чалавек. Прынамсі, так людзі казалі. А вось пра жонку яго Альфрэду баялі іншае. «Халерная баба Альфрэда. Ой, халерная! Курыца на градзе лапаю раз грабяне — крыку ды ляманту на год будзе, — абуралася суседка Рэня. — А хіба ж ты ў гаспадарцы кожны хвост упільнуеш? Па-суседску трэба жыць, часам і змаўчаць. Я дык і яйкі ёй насіла, і малако, абы толькі не раўла!..» «А сквапная якая — не дай божа! Усё пад падушку ды ў кубел, у куфар ды за печ. Няўжо табе ўсё мала? — ківала галавою Анця. — Але і не дзіва. Яна ж і ў дзеўках такою была. Пойдзеш з ёй у лес па чарніцы — ледзь жывая вернешся. Туды Альфрэда зацемна яшчэ прэцца, кошыкамі абчапляўшыся, і назад — па цямну. Спіна, здаецца, вось-вось пераломіцца, здаецца, усё жыццё і будзеш так хадзіць, крукам сагнуўшыся, а яна збірае ды збірае. Ні стома яе не бярэ, ні камары не грызуць, ні рукі не баляць». «Дык чаго яна, бабы, і пайшла за яго замуж. Ды не пайшла, а бегам пабегла, — уставіць свае тры грошы і Стэпка. — Бо дохтур! Скеміла, што грошы будзе мець, багацце, пашану…»

І гэтыя кабеты — і павольная Рэня, і гультаяватая Анця, і зайздрослівая Стэпка — сапраўды мелі рацыю. Альфрэда была сквапнай, крыклівай, заможнай жанчынай. Сквапнай да работы: каб было што есці, на чым спаць, што апрануць, яшчэ дзяўчынкаю вучылася шыць, палоць, жаць, ткаць… Засвоіўшы простую ісціну: «Богу маліся, а сам працуй», гнула спіну і ў полі, і ў хаце, і ў лесе. Крыклівай была, бо ведала, што будзеш маўчаць — будуць таўхаць ды папіхаць. Толькі дай волю, толькі папусціся — у тваім гародзе стала прапішуцца не толькі суседскія куры, а, глядзіш, і каровы. Ніякай рады потым не дасі! Трэба ўмець пастаяць за сябе, інакш ніхто не пашкадуе і не заступіцца за цябе. Ну, а заможнай якая жанчына не хоча быць? Праўда, адно — хацець, а іншае — быць. Не кожнай гэта ўдаецца. У Альфрэды атрымалася. Бо парупілася.

Няхай сабе і не была першай прыгажуняй на вёсцы — невысокі рост, рыжыя, тонкія валасы, светлыя бровы, але зайздроснага жаніха здолела прывабіць. Потым плявузгалі, быццам Альфрэда прычаравала хлопца.

«Ат, зайздрасць бярэ, вось і плятуць абы-што!» — адмахвалася тая на ўсе плёткі мясцовых жанчын. А калі за руку не злавілі, дык і не злодзей...

На вяселлі іхнім, праўда, адна непамыслота адбылася. Злыя языкі, якіх хапае ў кожнай вёсцы, адразу пастанавілі: маладыя разам доўга не пажывуць. Прынамсі, залатога вяселля ім павек не прычакаць. Калі жаніх з нявестаю пасля вянчання пад'ехаў да бацькоўскай хаты на конях, запрэжаных у шляхецкую брычку з траскотнымі шархуткамі[2], яго сустрэла адна маці. Як на тое ліха, бацька менавіта ў гэтую хвіліну пайшоў у хлеў паіць карову. (Маўляў, вяселле вяселлем, а гаспадарку даглядаць мусіш — скаціна сама сябе не накорміць і не напоіць.) Праўда, ён хутка вярнуўся, кінуўся да маладых, ды, кажуць, ужо было позна: не быць ім разам. Але вяселле адгуло, пакацілася сямейнае жыццё. Неўзабаве нарадзіўся першынец — хлопчык. Восіп шчасліва ўсміхаўся: нашчадак. Альфрэда радавалася: дагадзіла.

Але прыкметы ўсё ж існуюць не так сабе, збоку прыпёку, яны мусяць спраўджвацца. Няхай сабе і не адразу. Пра тую вясельную непамыслоту з прывячаннем маладых вёска ўзгадала адразу, як толькі Альфрэда ў першую сусветную вайну збегла з нейкім рускім афіцэрам. Раману тады пайшоў восьмы гадок.

Маці Альфрэды штодзень галасіла: «Сурочылі маю дачушку! Розум адняўся! Здурнела!» Бацькі Восіпа маўчалі. Паміж сабою, дома, не-не ды гыркаліся: «Трэба было табе тую карову паіць!» — «Ды прычым тут Лысуха, дальбог?!» — «Бач ты яго, дбайны гаспадар: я гуляю, а ён карову поіць. Як яшчэ даіць не ўзяўся!» — «Не чапай ты Лысуху. Глядзі, не вытрываю, ды… » — «Напужаў варону верабʼём!..»

А Раман плакаў. Не на людзях, вядома. Усё ж мужчына. Бацька вунь не плача. Толькі ноччу, калі думае, што Раман заснуў, смаліць самакруткі ды разпораз уздыхае, і адзін уздых перакрывае другі, аж дых перахоплівае. Ад гэтага хлопчыку становіцца вельмі шкада бацьку — вялікага, моцнага, роднага чалавека. Шкада нават больш, чым сябе, і ён моўчкі плача, сціснуўшы кулачкі, жадаючы таму афіцэру ўсялякіх няшчасцяў, і цвёрда вырашае, што калі маці вернецца, ніколі не даруе ёй гэтых слёз. Вялікіх слёз маленькага мужчыны.

Мінуў год, другі, трэці… Да Восіпа спрабавалі падступацца спрытныя ўдавіцы і нават ладныя маладзіцы, але марна. Раман падрос, пачаў убірацца ў сілу — як-ніяк сустрэў ужо шаснаццатае лета, калі Альфрэда неспадзявана для ўсіх, але не для бацькі з сынам, вярнулася. Ці трэба казаць, што муж у той жа час прыняў аблудную жонку? Каханне… Ах, якім розным бывае гэта каханне! Жонка з-за кахання кідае мужа, муж з-за кахання чакае жонку…

Так што калі і спраўдзілася тая вясельная прыкмета, дык напалову: Восіп і Альфрэда пачалі зноў жыць разам, як муж і жонка. Падзівілася з гэтага вёска, памянціла языком ды перастала. Але не забылася. Сяды-тады кабеты прыпаміналі Альфрэдзе яе афіцэрскія любошчы. «Ат, кіньце зайздросціць, — звычайна адказвала Альфрэда, — і не балабоньце абы-чаго. Было — і сплыло. Муж у мяне ёсць і сын, сямʼя».

Мужу Альфрэда была ўдзячная. І за тое, што дараваў, і за тое, што не папікаў штодня, і за тое, што сына выгадаваў. Ні пра якія любошчы больш і не думала. Старалася мужу дагадзіць, да сына падлашчыцца. Раман, хоць і падрос, сваіх дзіцячых пякучых слёз ды бацькавых начных уздыхаў не забыўся, ад слоў сваіх пра тое, што маці не даруе, не адмовіўся.

Аднаго разу нават бацька, калі пасля лазні селі ўдвух за стол узяць па чарцы, папрасіў:

— Сын, я дараваў. Хоць балела мне і цяпер баліць. І ты даруй. Гэта ж маці твая.

— Маці, — кіўнуў Раман галавою. — Але даравацъ не магу.

— Пастарайся, сын. Ведаю, што цяжка, але пастарайся, — уздыхнуў бацька...

У Алену Раман закахаўся адразу, як толькі ўбачыў. Тоненькая, зграбная, з густой русай касой, вочы блакітныя, як само неба. Тадзік, з якім яны прыйшлі на вячоркі, і той прыкмеціў, як Раман утаропіўся ў Алену, і таўхануў яго ў бок: «Што, спрытная дзеўка?» Раман бліснуў на яго карымі вачыма: «Якая яна табе дзеўка?!» «Спрытная!» — гучна зарагатаў Тадзік і падміргнуў сябру.

На тых вячорках запрасіць Алену на танец Раман не адважыўся. Куды яму — цыбатаму, рыжаму, нехлямяжаму — да яе: прыгажуні з русай касой?

Падахвоціў яго той жа Тадзік:

— Ну, што глядзіш, нібы лунь, як яе другія хлопцы карагодзяць[3]? Вядзі ў танец!

— Надта ж пекная, — наіўна выдыхнуў сарамяжны кавалер. — Ёй іншыя патрэбны.

— Дурань ты! Няпекны, — чмыхнуў Тадзік. — З красы вады не піць. Твой бацька паважаны, заможны чалавек, доктар. А яе бацькі — галота. Ты — багаты, яна — бедная. Чаго баішся? Толькі свісні.

Але тут шматвопытны, біты Тадзік памыляўся. І Раман гэта адчуваў. Такой дзяўчыне «свіснуць» нельга. Пакрыўдзіцца. Трэба неяк іначай, каб не абразіць і каб спадабацца. «Калі ўсё ж асмелюся і запрашу на танец, то яна будзе побач. Я змагу абняць яе за стан, яна будзе дакранацца да мяне, а вочы, яе вочы будуць зусім блізка і я змагу зазірнуць у іх… Э-э, нябога, досыць марыць, ідзі дахаты», — абсек Раман свае прывідныя летуценні. Хлопец рэзка падхапіўся, крутнуўся і — ледзьве не збіў Алену з ног. Дзяўчына якраз праходзіла паўз тыя лаўкі, дзе сядзела моладзь. Раман кінуўся да яе, падтрымаў пад рукі, вінавата ўсміхнуўся. І ўбачыў яе вочы — зусім блізка…

— Глядзі, дачушка, каб не плакала потым, каб не было позна, — маці падціснула вусны, і куточкі іх апусціліся ўніз. — Не раўня ён табе. Табе б свайго хлопца, простага, як мы. А гэты адзін у сям'і гадаваўся, усё лепшае яму, спешчаны…

— Ой, мама, ну хто яго песціў? Як быццам забылася, што маці ягоная малым пакінула, бацька гадаваў. А якія ў мужчыны пяшчота і ласка? — расчырванеўшыся ад хвалявання, даводзіла Алена маці. — Ды і бацькі яго нашыя, мясцовыя. І дзядулі з бабулямі век багацеямі не былі, — і дзяўчына перасмыкнула худзенькімі плячыма. — Ды што я расказваю? Ты ж, матулька, усё лепш за мяне ведаеш.

Марыля ўсміхнулася:

— Ведаю, вядома. Небагата жылі Восіпавы бацькі, але ашчаджалі кожную капейку, шанавалі тое, што мелі. Затое і сына выправілі ў людзі, каб на доктара вывучыўся. Восіп, дарэчы, бацьку пасачыў[4] — спакойны, разважлівы, добры. А вось Альфрэдзіны бацькі напраўду былі бедныя, перабіваліся з хлеба на квас. Таму і пабегла Альфрэда замуж, аж пыл курэўся, за Восіпа — багацце, горы залатыя прывабілі.

— Ну, а яго тады што? — гарэзліва крутнулася Алена перад маці. — Нечым жа зачапіла.

— Зачапіла. Сэрца яго, відаць, закранула. Хіба ж не разумееш, дурасліўка? За тое і прабачыў ёй усё, назад прыняў пасля бадзянняў тых, хаця выгнаць быў павінен.

— Вось і я зачапіла! — узнялася Алена на дыбачкі.

— Не радуйся, дзеўка! Каханне не адну толькі радасць мае, але і горыч. Не дасць вам Альфрэда ў пары быць, не дасць…

Матчына сэрца слушна падказвала. Як толькі Альфрэда дазналася, што Раман узяўся карагодзіць Алену, дык адразу згубіла спакой. Ці корпалася ў градах, ці варочала сена, ці тэпала каля печы, а думкі ў галаве круціліся адны і тыя ж: «Глядзі ты, галадранка якая знайшлася! Каб з гразі — ды ў князі. А трасцы табе! Майму сыну раўня трэба, а то, можа, і паненка. Каб пра Савіцкіх слава як пра багацеяў грымела. Сама з галоты, ведаю, што гэта за шчасце. Дык няўжо я марна старалася, няўжо марна да варажбіткі бегала, Богу грашыла? Хіба гэта дзеля таго было, каб мой сын лёс свой з жабракамі звязаў? Не, не будзе гэтага павек!»

Але не ўсё ў нашым жыцці бывае так, як нам жадаецца. Ні матчыны крыкі, ні ўгаворы, ні пагрозы, ні слёзы не маглі разлучыць Рамана з Аленай.

— Бацька, чаго ты сядзіш, як пень? Трэба ж нешта рабіць, пакуль яны наўсягды не спляліся, як тыя сляпыя з Анкуд! — кідалася Альфрэда да мужа.

— А што тут можна рабіць? — зазвычай спакойна адказваў Восіп. — Разбягуцца, калі лёс такі, а суджана разам быць — ніякі бабскі язык іх не развядзе. Які лёс…

— Цьфу-ты, згінь-прападзі! — яшчэ больш злавалася жонка. — Лёс, лёс… Як захочаш, так і будзеш жыць. Парупішся багатую замуж узяць — возьмеш. Сам толькі не будзь дурнем.

Не, Раман ніколі не быў дурнем. Не дужа прывабны, ён меў вострый розум і добрую душу. Нос угору не задзіраў, але і падсмяцца ці пакпіць з сябе таксама не дазваляў. Бацькоўскі характар, атрыманы ў спадчыну, вымагаў ад яго спакою, развужлівасці, памяркоўнасці. І на матчыны шматслоўныя папрокі і прычытанні, хлопец, лічы, зусім не зважаў. Паслухае-паслухае, галаву апусціўшы, ды толькі злёгку ўсміхнецца. Маці ад гэтага яшчэ больш злуецца, а ён усё маўчыць.

Але аднаго разу так дапякла халерная Альфрэда свайго сына, так уквяліла[5], што той успыхнуў, зірнуў са злосцю на маці зверху ўніз і працадзіў скрозь зубы: «Замаўчы! Зачэпіш Алену — пашкадуеш». А кабета пасля гэтых слоў яшчэ больш узнялася, і калі назаўтра ўбачыла на вуліцы Алену, падляцела да яе, нібы каршун. Ганьбавала, казалі, на ўсё мястэчка. «Галадранка! Чаго чэпішся да майго сына? Ён табе не раўня. Касой сваёй трасі перад такімі ж галадранцамі, як сама!..» Столькі крыўднага і абразлівага накрычала Альфрэда дзяўчыне, так зняважыла, што тая, закрыўшы твар рукамі, каб ніхто не ўгледзеў яе пякучых слёз і чырвані, што, здавалася, навек апякла твар, з усіх ног кінулася прэч.

Хутка дазнаўся пра тую ганебную сустрэчу і Раман. Прыбег дахаты, кінуўся ў сенцы, затым на добрую палову хаты — няма нікога. Выскачыў на вуліцу, завярнуў за вугал хаты і ўбачыў бацькоў. Маці сядзела на лаўцы і ціха плакала, плечы яе раз-пораз уздрыгвалі. Бацька стаяў перад ёй і, супакойваючы, гладзіў па галаве, нібыта маленькую. «Я ж дабра яму хачу!.. Каб жыў не горш, а лепш за нас. Навошта ж тады ўсе высілкі былі?..» Раман павярнуўся і нячутнымі крокамі пайшоў назад…

А водарным вечарам, прыгарнуўшы любую і адчуваючы, як яна туліцца да яго, зразумеў, што нічога з сабой зрабіць не можа. Каханне было моцнае, неабсяжнае, як белы свет, вечнае… «Выходзь за мяне замуж, Алена. Я сватоў прышлю», — гледзячы ў дзявочыя вочы, скрозь напоўненыя блакітам, сказаў Раман. У адказ з гэтых вачэй пырснулі бліскучыя, няўцешныя слёзы: «Ніколі гэтага не будзе, Раманка. Бацькі твае нізашто не дазволяць…»

Дазволу Раман не пытаўся, адно абвясціў: «Буду сватацца да Алены. Не дазволіце ажаніцца — уцячом. Мне без яе жыцця няма». Бацька ўздыхнуў, адвёў ад сына вочы ўбок. Маці маўчала. Не крычала, не галасіла, не плакала…

Павярнулася і пайшла на двор. «Я, сын, не супраць. Калі яна табе любая — жывіце. Але вось маці… Не ведаю, як яе яшчэ можна пераканаць?» — вінавата прагаварыў бацька.

Але, цяпер пераканаць Альфрэду не мог ніхто. «Я табе пакажу замуж, я табе зраблю вяселле!.. Каханне ў іх! Ды з-за яго адны беды на свеце, адны горкія слёзы. Я таксама кахала таго вусача, усё кінула-рынула, сорам згубіла, паляцела за ім у белы свет, як семнастоўка[6]. І што займела? Прамяняў мяне на другую, на вуліцу выкінуў! Няма веры прыгожым. Яны злыя, жорсткія, нагуляюцца і кінуць цябе, як абрыдлівую ляльку. Не хачу, каб мой сын пакутаваў!.. Кончылася маё цярпенне! Клямка. Абняслаўлю на ўвесь свет!» — гнеўная, расхрыстаная, яна бегла па мястэчку да Аленінай хаты. Як на тое ліха (але ці можна мінуць ліха, калі яно табе наканавана?), Алена крочыла ёй насустрач… Той раз Альфрэда адцягала яе за касу, потым, падпільнаваўшы каля калодзежа, ганьбавала на чым свет стаіць Аленіных бацькоў, затым распусціла плёткі, быццам Алена дзеля грошай і дастатку прычаравала Рамана. Выходзіць на вуліцу дзяўчына баялася, залівалася слязамі, седзячы ў хаце. Альфрэда ж нібы ашалела. Ні слухаць нікога не хацела, не разумець.

А ў сэрцы Рамана тым часам расла чорная, атрутная злосць. Яе ўмацоўвалі матчыны непрымірымасць, зацятасць, варожасць. Мінаў дзень за днём, ноч за ноччу, але нічога не мянялася — маці Алену не прымала, не жадала бачыць у нявестках.

І Раман рашыўся. Прынамсі, так яму выдавала. Але рашучасць гэтая адразу раставала, як леташні снег пад вясновым сонцам, калі хлопец пачынаў уяўляць сабе ўсё да драбніц. «А калі маці раптам павініцца? О, каб жа так!.. Не, яна ад свайго не адступіцца. А што потым будзе?.. Ды гэта грэх! Страшны, смяротны грэх. Не будзе мне ніякай літасці, — тужліва думаў ён, рукі яго ўміг халадзелі, а на лобе выступалі кропелькі поту. — Але ж я кахаю яе, кахаю! Мне без Алены жыцця няма. Няхай і маці не будзе!..» Кожны нерашучы чалавек шукае сабе нейкай апоры, ад якой можна адштурхнуцца, якая надасць табе ўпэўненасці і пераканання ў тым, што нарэшце трэба дзейнічаць. Раман паклікаў у хаўруснікі хвацкага, легкадумнага Бахуса...

Маці стаяла спінай да сына, парадкавала апалыя яблыкі, але крокі пачула адразу. І плечы яе чамусьці нервова ўздрыгнулі, потым жанчына неяк баязліва згорбілася і азірнулася. Стрэл прагучаў імгненна. Рукі Рамана — халодныя, потныя — калаціліся, сэрца тахкала так, што аддавала ў вушах, але хлопец пацэліў. Маці, у вачах якой чыталіся спалох і нейкае сумнае здзіўленне, павалілася на зямлю. Глядзець на яе сын не мог. Машынальна сунуў пісталет у кішэню (зброю ў той час — пасля ваенных ліхалеццяў — знайсці было няцяжка: лічы, валялася пад нагамі) і, злёгку пахістваючыся, пайшоў ад хаты…

«Маці! Я забіў родную маці!» — абхапіўшы галаву рукамі, ён сядзеў каля кладкі і глядзеў на ваду. Рэчка цякла неглыбокая. Дно яе было спрэс услана жоўтым жвірам, бліжэй да берага цвілі жоўтыя гарлачыкі, выгіналіся доўгія, цёмна-балотнага колеру водарасці. «Хоць касу з іх пляці, — чамусьці падумалася хлопцу і ён уздрыгнуў. — Як у Алены — густая, прыгожая. Прыгожая… А маці ўсё дзяўбла, што, маўляў, няма веры прыгожым, што яны заўсёды падманваюць, — ён страсянуў галавою, як быццам праганяючы нядобрыя думкі. — Алена ж не такая. Яна мяне кахае і я яе кахаю». Раман глядзеў на ваду, што блішчэла пад сонцам, і паціху супакойваўся. Галава пачынала яснець, думкі не мільгацелі і не блыталіся, паступова ўпарадкаваліся. «Вада цячэ — гады ідуць. Усё мінаецца, — з дзіўнай яснасцю, якой неставала раней, падумаў Раман і як быццам упершыню за ўсё жыццё ўсвядоміў, што сапраўды

ўсё знікае. — Жыццё мінаецца. А што ж тады каханне? Няўжо і яно таксама згасне?.. Маці ўвесь час казала, што пройдзе, што з-за яго адны гора і слёзы. Значыць, і яно праміне. І нічога пасля яго не застанецца, — шаптаў хлопец, усё больш даючы веры матчыным словам. — А я… А я забіў маці. Дзеля таго, што неўзабаве мінецца, пройдзе — і следу не застанецца! Навошта?! Бацькі мяне нарадзілі, выгадавалі, бацькі — гэта на ўсё жыццё. А Алена? Ці будзе яна заўсёды са мной? Ці будзе гэта прыгажуня кахаць мяне вечна? Не ведаю… Эх, дурань ты, ёлупень! Ну, пакрычала б яшчэ троху маці — і супакоілася. Пажаніліся б… Ды што пра гэта цяпер казаць? Позна… Што ж цяпер будзе? Са мной, з бацькам, з Аленай?.. Мяне ж у турму забяруць, — як быццам цяпер толькі ўцяміў Раман. — Бацьку ганьба на ўсё жыццё. Будуць казаць, што забойцу нарадзіў, у свет пусціў. А Алена… А Алена будзе жыць. Хіба яна мяне чакаць будзе? Кавалеры цугам будуць да яе цягацца. Не агледзішся, як замуж выскачыць — і ўсё. А я… Эх, дурань!» — ускочыў хлопец на ногі, матлянуў галавою, нібы адганяючы тлумны дурман, і кінуўся праз кладку на той бок ракі. Ціха ступаў на зямлю зажураны вечар…

Пад векавечныя таполі, што былі маўклівымі сведкамі ўсіх іх чаканых спатканняў, салодкіх пацалункаў, моцных абдымкаў, Алена прыйшла і ў той вечар. «Раман маці забіў! Раман маці забіў!» — страшная вестка хутка абляцела мястэчка і не прамінула Аленінай хаты. Маці спалохана завохкала: «Божа ж мой! Загубіў маці! Як рука паднялася?» Бацька сказаў, як адрэзаў: «Усё, няма больш твайго Рамана». Алена слухала і не чула, нічога не магла зразумець… «Як гэта забіў? Хіба Раман можа некага жыцця рашыць? Не, не можа гэтага быць! Не разабраліся людзі, наблыталі, увялі ў зман… І чаму? Няўжо з-за мяне? — жахнулася дзяўчына. — Няўжо з-за таго, што маці ягоная мне жыцця не давала? Не. Пакрычала-пакрычала — і супакоілася б. Усё роўна мы з Раманам пажаніліся б. Чаму тады? Ды і чым?.. — яна міжволі прыгадала, што апошнім часам Раман быў нейкім засяроджаным, пра нешта увесь час думаў. — Не, няпраўда гэта, няпраўда! — Алена прагнала гэтыя жудасныя думкі. — Не забіваў! Пайду на наша месца. Раман павінен прыйсці, расказаць мне ўсё, патлумачыць».

Алена пазнала каханага па кроках — глухіх, насцярожаных. «Раманка, навошта ты…» — кінулася дзяўчына да яго, каб дазнацца ўрэшце, чаму ён забіў маці, чаму маўчаў, чаму не адкрыў ёй душу, яна б супакоіла, адгаварыла б, але дабегчы не паспела. Пачуўся стрэл. Спуджана зашумелі таполі…

Дзе ён туляўся гэту бясконцую, цягучую ноч, як праляцеў наступны дзень, Раман памятаў слаба. Ён то сядзеў, то ляжаў непадалёк ад кладкі ў густых кустах вольхі, што абступілі звілістую і плыткую раку. Глядзеў на ваду, паступова акунаючыся ў трывожнае забыццё. Яму мроілася Алена. Каса яе была сплецена з водарасцей, яна журботна глядзела на Рамана сваім бяздонным блакітам вачэй і штораз пыталася: «Раманка, навошта ты…» Хлопец прачынаўся, вусны яго былі салёныя… Ён зноў назіраў за імклівай рачной плынню, правальваючыся ў пакутлівы, цяжкі сон. І бачыў маці. Яна была ціхаю, спакойнаю, але яе погляд, той здзіўлены погляд працінаў Рамана наскрозь. Ён уздрыгваў і зноў расплюшчваў вочы. У гэтым стане паўзабыцця хлопец раптам адчуў штуршок, неяк канчаткова прачнуўся і ясна ўсвядоміў, што парушыў усе зямныя законы. Свет ніколі не будзе для яго такім жа добрым і чыстым, згублена каханне, парушана моцная сям'я…

«Я павінен развітацца з ёю. Пабачыць яшчэ раз хаця б здалёку», — Раман рашуча ўстаў, крыху пачакаў і, ледзь пераступаючы нагамі, пайшоў... Крадучыся, нібы воўк, ён наблізіўся да хаты, прагна прыпаў да акна. Алена, апра-

нутая ў доўгую белую сукенку, ляжала ў труне. Мармурова-белы, без адзінай крывінкі, твар, на якім навечна застыў спакой, заплюшчаныя вочы, сашчэпленыя тонкія пальцы… Слёзы затуманілі погляд, хлопец затросся ўсім целам, стараючыся прыглушыць даўкія рыданні…

Калі ён ачомаўся і зноў знайшоў сілы, каб паглядзець у акно, то міжволі адзначыў, што ў хаце шмат людзей. Каля самай труны — маці Алены: счарнелы, адчужаны твар, патухлыя вочы, з якіх тоненькімі ручайкамі, не прыпыняючыся ні на імгненне, сцякаюць слёзы. Трохі воддаль — бацька. Ён стаіць, прыхінуўшыся да сцяны, і ўсё глядзіць і глядзіць на дачку, не адводзячы маркотнага позірку. Здаецца, хоча наглядзецца на яе на ўсё жыццё, захаваць у памяці нават маленькія дробязі: як ляжаць рукі, якія чаравічкі абуты, які выраз твару… Побач суседка, выцірае ражком хусткі мокрыя вочы, маўкліва стаяць мужчыны, спалохана, насцярожана соўгаюцца дзеці…

І раптам — твар. Знаёмы да драбніц твар, які мільгануў і схаваўся за нечыю спіну. «Хто гэта быў? Нехта вельмі-вельмі знаёмы, — трывога напоўніла сэрца Рамана, яно затухкала, як шалёнае. — Хто гэта? Пакажыся яшчэ раз!» — прасіў ён у думках, спехам слізгаючы позіркам па тварах аднавяскоўцаў і імкнучыся як мага хутчэй адшукаць твар, які так яго расхваляваў. І нечакана каля труны паказалася жанчына. Раман глядзеў на яе, міргаў чырвонымі ад бяссоння вачыма і ніяк не мог уцяміць. «Маці! Гэта ж мая маці! — ледзьве не закрычаў ён, адчуваючы, як на галаве зашавяліліся валасы. — Жывая!» — і, прыхіліўшыся спінаю да сцяны, марудна асунуўся на дол.

Хвіліна мінула ці гадзіна, Раман не ведаў. Ён нават не ўяўляў, гэта тая самая ноч ці ўжо прайшоў дзень і зноў наступіў змрок. Да яго даляцелі чалавечыя галасы, і ён напружыў слых, каб хоць нешта пачуць. «Бедная Алена! Няма яму прабачэння… Не дазволіў Бог, каб… засталася жывая. Не забіў… самлела са страху…» — данесліся да яго абрыўкі нечыёй размовы. «Не пацэліў. Прамазаў, значыць, — прашаптаў Раман, ціха хістаючыся з боку ў бок. — Маці жывая. Алена — нябожчыца», — нехта як быццам жалезнымі абцугамі сціснуў горла, і больш з вуснаў хлопца не зляцела ніводнага слова…

А цяпер ён сядзеў на высокай шурпатай сасне і хоць ад магілы яго аддзялялі метраў дзвесце, бачыў усё. Як душыўся слязамі над Аленаю бацька, як страшна галасіла маці, як доўгаю чарадою цягнуліся да магілы жыхары мястэчка, каб у апошні раз зірнуць на дзяўчыну, прыгажосць якой дзівіла ўсіх навакольных хлопцаў, і кінуць па звычаі жменю пяску на дамавіну. Развіталіся цяжка, доўга… Але бацькоў урэшце адцягнулі ад грудка зямлі, што навек схаваў пад сабою іх любую дачку. Бедная, яна валодала адным толькі скарбам — прыгажосцю, і гэты небяспечны набытак каштаваў ёй жыцця.

Цёмнай ноччу, калі ўсе добрыя людзі спяць, калі спачывае сама прырода, прагучаў яшчэ адзін, апошні стрэл. І, нібыта чакаючы гэтай хвіліны, заскавыталі сабакі, працяжна заслуголілі адзін за адным. На Аленінай магіле нерухома ляжаў Раман. Сырая магільная зямля хапатліва ўбірала ў сябе яшчэ адну грэшную кроў…

***Слоўнік да публікацыі:***

[1] Памергаваць — падумаць.
[2] Шархуткі — бомы, званочкі.
[3] Карагодзіць — абходжваць, заляцацца.
[4] Пасачыць — быць падобным на некага.
[5] Уквяліць — узлаваць, разгневаць.
[6] Семнастоўка — маладая, наіўная дзяўчына.



Аляксей ЯКІМОВІЧ

# ЗАЙЗДРАСЦЬ

## Містычнае апавяданне

За акном ліў халодны асенні дождж, буйныя кроплі барабанілі па шыбе.

Мікіта Раманюк у чорным спартыўным трыко ляжаў на ложку і глядзеў перад сабою. Сёння яму надакучыла ўсё: і тэлевізар з ягонымі баевікамі, навінамі і рэкламай, і газеты з жахамі і цяжкімі здарэннямі, і нават кнігі, якія звычайна любіў чытаць.

Ужо тры гады ён жыве адзін у невялікай, але ўтульнай двухпакаёвай кватэры. Раней жыў з маці. Ды яна раптоўна памерла, патухла, як свечка пад парывам шалёнага ветру. Ад яе застаўся фотаздымак на сцяне ў самаробнай вішнёвай рамцы. Сухенькая, вастраносенькая, яна дзень і ноч глядзіць на яго вялікімі добрымі вачыма і ледзь прыкметна, таемна ўсміхаецца, як бы хоча штосьці сказаць.

«Тук-тук», — хтосьці два разы стукнуў у дзверы.

Мікіта ўстаў з ложка і выйшаў на калідор.

— Адчыніце, калі ласка! — пачуўся за дзвярыма тоненькі дзявочы галасок. Да Мікіты, здаралася, заходзілі знаёмыя мужчыны, каб пазычыць грошай, а вось дзяўчаты ягоную кватэру абміналі, з імі ён не сябраваў.

— Адчыніце! Прашу вас!

— Ну і ну! — прагаварыў Мікіта і, шчоўкнуўшы замком, адчыніў дзверы.

Каля парога стаяў незвычайны звярок ростам з пакаёвага сабачку. Падобнага Раманюк ні разу не бачыў. Хвост як у ката, замест поўсці іголкі, бы ў вожыка, на пярэдніх лапах не кіпцюры, а пальцы, сам увесь чорны.

Разумнымі вачыма-пацеркамі звярок паглядзеў на Мікіту і прагаварыў чалавечым голасам:

— Пусціце ў кватэру. Калі ласка!

---

*__Якімовіч Аляксей Мікалаевіч__ нарадзіўся 15 кастрычніка 1949 года ў вёсцы Парэчча Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1973). Настаўнічаў на Слонімшчыне: у Кастровіцкай і Дзеравянчыцкай васьмігадовых, Жыровіцкай і Касцянёўскай сярэдніх школах.*

*Аўтар кніг для дзяцей і падлеткаў «Гордзіеў вузел», (1987), «Эльдарада просіць дапамогі», (1989), «Сакрэт тунгускага метэарыта» (1993), «Пастка для пярэваратня» (1997), «Залатая дзіда» (2001) і іншых. Выступае і як драматург: шэраг яго п’ес для дзяцей пастаўлены тэатрамі рэспублікі.*

Твар у Раманюка выцягнуўся, а вочы акругліліся, сталі як два шарыкі.

Звярок, а гаворыць як чалавек! Бываюць дзівосы на свеце, але не такія ж.

— Вы вельмі не здзіўляйцеся. Я не кот і не сабака. Я Зайздрасць.

— Тая самая, што, бывае, людзям спакою не дае, прымушае іх нервавацца і вар'яцець? — не паверыў Мікіта.

— Тая самая. Не бойцеся мяне. Свайго гаспадара я не пакрыўджу. Хоць пераначаваць пусціце. Сёння мяне чамусьці ніхто да сябе не пускае, а на двары дождж лье як з вядра.

«Пушчу на адну ноч небараку. Будзе з кім слоўцам перакінуцца, вечар пройдзе цікавей», — разважыў Раманюк і запрасіў Зайздрасць:

— Заходзь, раз прытулку не маеш.

Мікіта лёг на ложак, а Зайздрасць села пад сталом.

— Я цябе не такой уяўляў, — пачаў Мікіта, з цікавасцю разглядваючы гэтую дзіўную істоту.

— А якой жа? — запыталася Зайздрасць.

— Чорнай, калматай, страшнай.

Зайздрасць высунула кончык ружовенькага язычка і аблізнулася.

— Я чорная!

Мікіта яшчэ раз уважліва паглядзеў на госцю.

— Вочы ў цябе добрыя.

— Я бываю і злою, калі давядуць мяне, — прызналася Зайздрасць і пазяхнула, паказаўшы вастранькія зубкі.

— Зубкі ў цябе вострыя, як у шчупака! — заўважыў Мікіта.

— Адзін жывеш? — на «ты» перайшла Зайздрасць.

— Адзін! — развёў рукамі Мікіта. — Нават сваякі не заходзяць. Яны ў іншых гарадах жывуць. Цяжка даехаць ім да мяне.

— У беднага, слабага і хворага сваякі заўжды далёка, — па-філасофску адзначыла Зайздрасць і пацікавілася: — Цябе як зваць?

— Мікіта Іванавіч, — важна прамовіў Раманюк.

У гэты вечар ён доўга прагаварыў з Зайздрасцю, успомніўшы і родную вёсачку, і студэнцкія гады ва ўніверсітэце, і былыя радасці і няшчасці. А напрыканцы, кладучыся спаць, сказаў Зайздрасці:

— Пажыві ў мяне, калі жадаеш.

Раніцай Мікіта заўважыў, што на крэсле вісяць адпрасаваныя нагавіцы, белая кашуля і гальштук. Гальштук Раманюк ніколі не надзяваў, ён у яго заўжды вісеў на вешалцы ў шафе.

— Зайздрасць, дзе ты? — паклікаў, кулаком працёршы сонныя вочы.

Зайздрасць з кухні прыбегла.

— Добрага дня табе, Іванавіч!

Мікіта пакруціў галавою і, тыцнуўшы кулаком, паказаў на крэсла.

— Хто гэта мае нагавіцы так старанна адпрасаваў?

— Я, — завіляла хвастом Зайздрасць. — А яшчэ на тваіх туфлях глянец навяла. Сачы за сабою, Іванавіч. Ты яшчэ не стары чалавек.

— Сорак мне! — каб паказаць, хто ў хаце гаспадар, гучна сказаў Мікіта і, устаўшы з ложка, надзеў кашулю і нагавіцы.

— Гальштук надзень, — напомніла Зайздрасць.

— Даражэнькая, я яго зроду не надзяваў! — заўпарціўся Раманюк.

Зайздрасць натапырыла іголкі.

— А сёння надзенеш!

«Бач, якая настырная! З ёю асабліва не паспрачаешся», — падумаў Мікіта і надзеў гальштук.

— Іванавіч, поспехаў табе на працы! — пажадала Зайздрасць, любуючыся гаспадаром.

— Не ўспамінай пра поспехі. У будаўнічым упраўленні эканамістам працую, стараюся, а нават граматку не заслужыў, — паскардзіўся Мікіта.

— Сёння атрымаеш Ганаровую грамату, — сказала Зайздрасць і часта засапла, высунуўшы кончык свайго ружовенькага язычка.

Каля пад'езда на лаўцы сядзеў Мікітаў сусед Апанас. Адслужыўшы дваццаць пяць гадоў у войску, ён выйшаў на пенсію і звычайна аціраўся каля піўнога бара.

— Мікіта Іванавіч! — са здзіўленнем усклікнуў Апанас. — Аб твае стрэлкі на нагавіцах муха парэжацца!

— Стараемся! — адказаў Раманюк і пакрочыў, высока паднімаючы ногі ў наглянцаваных туфлях.

На калідоры будаўнічага ўпраўлення Раманюка запыніла сакратарка начальніка Людміла Рыгораўна. Мікіта чамусьці саромеўся і чырванеў, калі сустракаўся з гэтай прывабнай жанчынай, і таму стараўся хутчэй прашмыгнуць каля яе і схавацца ў сваім кабінеціку, на паўдня засеўшы там за стол.

Людміла Рыгораўна ўважліва паглядзела на Мікіту і ветліва сказала:

— Мікіта Іванавіч, вас Эдуард Францавіч да сябе выклікае.

— Цяпер? — Раманюк адчуў, як страх пракрадаецца ў душу.

— Цяпер, — ласкава ўсміхнулася яму сакратарка.

Эдуард Францавіч сядзеў на высокім мяккім крэсле за бліспчастым паліраваным сталом. Ён ужо даўно быў на пенсіі, хварэў, але начальства яго цаніла і таму не адпускала на адпачынак.

Мікіта застыў каля дзвярэй, выцягнуўшы рукі па швах.

— Выклікалі мяне, Эдуард Францавіч?

Начальнік прыўзняў акуляры.

— Грамату табе хачу ўручыць.

— Мне? — ледзь не папярхнуўся Мікіта.

Эдуард Францавіч сагнуўся над сталом і стаў кашляць. На ягоных шчоках выступілі сіняватыя жылачкі. Як жывыя, яны бегалі пад бляклай старэчай скурай і дрыжалі.

— Падыдзі бліжэй! — перастаўшы кашляць, не прагаварыў, а праскрыпеў Эдуард Францавіч і дастаў з сейфа глянцавую Ганаровую грамату.

Раманюк ступіў некалькі крокаў і кончыкамі пальцаў узяў доўгачаканую ўзнагароду.

— Дзякуй вам, Эдуард Францавіч!

— Ідзі, — кіўнуў галавою начальнік. — У маёй сакратаркі прэмію атрымаеш.

— Ну, як ён? — сустрэла Раманюка Людміла Рыгораўна.

— Вельмі кашляе, — паведаміў Мікіта і заўсміхаўся, ашчаслівлены неспадзяванай ласкай начальніка.

— Вось тут, у ведамасці, за прэмію распішыцеся, — тыцнула пальчыкам сакратарка. Пальчык быў прыгожы, дагледжаны: наманікюраны, тоненькі, гнуткі і крыху ружовенькі, як язычок у Зайздрасці.

— Людміла Рыгораўна, як мне вядома, вы з мужам даўно развяліся. Я таксама адзін жыву. На кубачак кавы запрашаю вас да сябе, — прагаварыў Мікіта і зніякавеў. Ён зусім не збіраўся запрашаць гэтую мілую жанчыну да сябе ў госці. Яго быццам хтосьці за язык пацягнуў.

— Распішыцеся! — паўтарыла сакратарка.

Раманюк узяў са стала ручку і распісаўся ў ведамасці. Рука здрадліва задрыжала і ў канцы подпісу замест прыгожага хвосціка вывела нейкую крывую лінію.

Людміла Рыгораўна працягнула Мікіту канверт з грашыма.

— Вы сапраўды мяне ў госці запрашаеце? Вы не жартуеце?

Мікіта паклаў на стол ручку, узяў канверт і пачырванеў.

— Канешне, не жартую!

У Людмілы Рыгораўны, як і ў Мікіты, шчокі пачырванелі, і яна яшчэ больш папрыгажэла, расцвіла.

— Я прымаю ваша запрашэнне. У дзевяць гадзін вечара чакайце мяне, Мікіта Іванавіч.

Раманюк ляцеў дамоў як на крылах. У адной руцэ ён нёс поліэтыленавы пакет з шампанскім і шакаладнымі цукеркамі, а ў другой трымаў перад сабою каробку з тортам.

Каля пад’езда сядзеў Апанас. Ад яго несла вінным перагарам.

Пачуўшы Мікітавы крокі, ён падняў галаву.

— Мікіта Іванавіч, з якой нагоды торт купілі?

— Ганаровую грамату і прэмію я атрымаў! — пахваліўся Мікіта.

У калідорчыку Раманюка сустрэла Зайздрасць.

— З узнагародай цябе, Іванавіч! — урачыста, як на сходзе, павіншавала яна.

— Ты ведаеш, што я атрымаў прэмію і Ганаровую грамату? — здзівіўся Мікіта.

— Ад сарокі пачула. На хвасце мне прынесла, — усміхнулася Зайздрасць.

«Падслухала, як я Апанасу пахваліўся», — здагадаўся Раманюк, але не сказаў пра гэта Зайздрасці. Зайшоў на кухню, дастаў з пакета цукеркі, шампанскае, разам з тортам схаваў у халадзільнік, а потым з партфеля выняў грамату, падумаўшы пра сябе: «Здаецца, звычайны кавалачак паперы, а сілы прыбаўляе і галаву кружыць, як ад шампанскага».

Зайздрасць стала на заднія лапы і Ганаровую грамату языком лізнула.

— Іванавіч, яна друкарскай фарбай пахне.

Мікіта зайшоў у пакой і паставіў Ганаровую грамату на стол каля крышталёвай вазы, да партрэта маці яе павярнуўшы, пасля чаго звярнуўся да Зайздрасці:

— Даражэнькая, сёння да нас прыйдзе цудоўная жанчына Людміла Рыгораўна — сакратарка майго начальніка.

— Іванавіч, ты малайчына! — пахваліла гаспадара Зайздрасць.

Пасля сямі гадзін вечара Мікіта прыкметна захваляваўся. Ён раз-пораз падыходзіў да акна і пазіраў у яго, вымаўляючы ў роспачы:

— Няма! Не прыйдзе!

— Прыйдзе, Іванавіч, — супакойвала Раманюка Зайздрасць.

— Не, не прыйдзе. Ёй толькі трыццаць, а мне ўжо сорак. Застары я для яе.

— Не застары. Ты прыгожы і дужы, — старалася пераканаць Зайздрасць.

А палове дзявятай Мікіта сеў на крэсла і падпёр шчаку кулаком, час ад часу ўздыхаючы. А роўна ў дзевяць гадзін зазвінеў электрычны званок.

Мікіта ўскочыў з крэсла і павярнуўся да Зайздрасці.

— Яна?

— Яна! — страсянула вушамі Зайздрасць.

— Можа, ты адчыніш ёй? — папрасіў Раманюк.

Зайздрасць паказала востранькія зубкі.

— Хочаш, каб я напалохала яе?

Мікіта паправіў на грудзях гальштук і адчыніў дзверы.

Нафарбаваная, нарумяненая, Людміла Рыгораўна ўсміхнулася Мікіту, як каралеўна.

— Прашу вас! — тулячы руку да сэрца, прамовіў ён.

Маладзіца зайшла ў пакой, села на канапу і заўважыла Зайздрасць, якая ляжала пад сталом.

— Мікіта Іванавіч, у вас нейкі незвычайны звярок жыве!

— Гэта не звярок, а Зайздрасць. Яна ўчора прыбілася да мяне, — чырванеючы, растлумачыў Мікіта. Ён ужо шкадаваў, што прытуліў да сябе Зайздрасць. Людміла Рыгораўна, чаго добрага, спалохаецца і ўцячэ, пакінуўшы ў кватэры тонкі пах сваіх духоў.

Зайздрасць вылезла з-пад стала і завіляла пушыстым хвастом.

— Мне вельмі прыемна пазнаёміцца з вамі, Рыгораўна!

У Людмілы Рыгораўны тоненькія бровы-дужкі прыўзняліся ўгору.

— Яна гаворыць, як і мы?

Раманюк цяжка ўздыхнуў і панура сказаў:

— І гаворыць, і тэлевізар глядзіць, і газеты чытае.

— І мастацкія кнігі, — дадала Зайздрасць.

Госця аж рукамі пляснула.

— Няўжо цэлую кнігу ты ўжо прачытала?

Зайздрасць заморгала разумнымі вочкамі-бусінкамі.

— Прачытала. Раман пра каханне.

— І што ж табе спадабалася ў гэтым рамане?

— Жаночая і мужчынская вернасць.

— Я таксама цаню жаночую і мужчынскую вернасць, — каб не маўчаць, уставіў сваё слова Раманюк.

Неўзабаве Людміла Рыгораўна, Зайздрасць і Мікіта разгаварыліся як добрыя даўнія знаёмыя. Людміла Рыгораўна і Мікіта адно аднаго на «ты» сталі называць. Час праляцеў непрыкметна.

У адзінаццаць гадзін вечара Мікіта і Зайздрасць правялі маладзіцу дамоў, а яна ім паабяцала, што заўтра зноў прыйдзе ў госці.

Усхваляваны сустрэчай, Раманюк доўга не мог заснуць.

— Хто быў тваім апошнім гаспадаром? — пацікавіўся ён у Зайздрасці.

Зайздрасць лапай пачухала бародку і адказала:

— Рабочы з маслазавода.

— Чаму ж ён прагнаў цябе на вуліцу? — запытаўся Мікіта.

Зайздрасць лапамі падняла коўдру з падлогі і накрыла ёю гаспадара.

— Іванавіч, хутка сам даведаешся.

Раніцай Раманюка зноў сустрэў каля пад’езда Апанас.

— Мікіта Іванавіч, у вас учора, як мне здаецца, дамачка была!

«Усё-ткі падгледзеў. Не спіцца табе, паўночніку», — падумаў Мікіта і з абурэннем сказаў:

— Гэта не дамачка, а сакратарка майго начальніка Людміла Рыгораўна!

Апанас пакруціў носам-порхаўкай.

— Ці не яна паспрыяла, каб вам Ганаровую грамату з прэміяй далі?

— А ідзі ты віно піць! — узлаваўшыся, вылаяўся Мікіта і таропка пакрочыў.

На працы Мікіту чакала яшчэ адна непрыемнасць. Як і ўчора, на калідоры яго сустрэла Людміла Рыгораўна і паведаміла:

— Эдуард Францавіч цябе выклікае. Зайдзі да яго.

Раманюк заўважыў, што вочы ў каханай заплаканыя. Ён узяў яе за руку.

— Людачка, ты плакала?

Людміла Рыгораўна адвярнула галаву.

— Эдуард Францавіч чакае! Ідзі, Мікіта.

Сёння вочы ў Эдуарда Францавіча былі халодныя, шчупачыныя.

Ногі ў Мікіты пацяжэлі, але ён стараўся трымацца спакойна.

— Выклікалі, Эдуард Францавіч?

Начальнік пагладзіў далонню потную лысіну і пачаў крычаць, пырскаючы слінай на паліраваны стол.

— З маёй сакратаркай распустай заняўся? Думаеш, што табе ўсё можна?.. Мне патэлефанавалі!

Эдуард Францавіч хацеў яшчэ штосьці дадаць, але з ягонага рота выпаў на стол пратэз з белымі зубамі. Раманюк застыў у здзіўленні, а начальнік імгненна схапіў пратэз, усунуў яго ў рот і прамармытаў:

— Вон!

— Лаяўся? — пацікавілася Людміла Рыгораўна, калі Мікіта выскачыў з кабінета.

— Так крычаў, што пратэз з рота выпаў! — прамовіў Раманюк і хацеў узяць каханую за руку.

— Не трэба! — уздрыгануўшы, сказала яна.

«Усё скончана. Гэтая слаўная жанчына больш не прыйдзе да мяне», — падумаў Мікіта і, шоргаючы падэшвамі, як стары, па доўгім вузкім калідоры пацягнуўся ў свой кабінет.

На гэты раз Апанас стаяў воддаль ад пад’езда. Убачыўшы Мікіту, ён гукнуў:

— Сёння без торта, Мікіта Іванавіч? Мабыць, граматку вам не ўручылі?

Раманюк з пагардай паглядзеў на Апанаса.

— Дзякуй за званок, адстаўнік!

— Я не тэлефанаваў да твайго начальнікі, — стаў апраўдвацца Апанас.

— А ідзі ты віно піць! — як і зранку, вылаяўся Мікіта і пайшоў у пад’езд.

Раманюк ляжаў на ложку, закінуўшы рукі за галаву, а Зайздрасць сядзела каля стала.

— Зусім раскіс ты, Іванавіч!

— Я ж толькі акрыяў, можна сказаць, жыць стаў, а яны мяне адразу ў гразь! — выказаў крыўду Мікіта.

Зайздрасць наблізілася да ложка.

— Цяпер ты зразумеў, чаму мяне гаспадары выганяюць?

— Ведаю, чаму Апанас мне пазайздросціў. Ён п’яніца, а я ў адпрасаваным касцюмчыку хаджу, — разважаючы, прагаварыў Мікіта. — А Эдуарду Францавічу чаго яшчэ трэба? Сорак год начальнікам сядзіць!

— Эдуард Францавіч тваёй маладосці пазайздросціў, — ціха азвалася Зайздрасць. — Іванавіч, ты мяне на двор выганіш і будзеш жыць, як раней жыў?

Раманюк зірнуў на партрэт маці. Яна ўсміхнулася яму і прагаварыла:

— Сумуеш, сынок?

На вачах у Мікіты выступілі слёзы.

— Вельмі сумую, мамачка!

— Сынок, я кожны дзень гляджу на цябе і ўсё больш сваю віну адчуваю.

— Чаму? — запытаўся Мікіта.

— Мабыць, не так выхоўвала цябе. Старалася, каб рос добрым, спагадлівым, сумленным. Ты добры, спагадлівы, паслухмяны, сумленны, так, але ўсё адзін. Мая душа баліць за цябе.

— Мама, твая душа больш не будзе балець! — Раманюк устаў з ложка і звярнуўся да Зайздрасці: — Ты лічыш, што Людміла Рыгораўна чакае майго званка?

Зайздрасць заморгала вачамі-бусінкамі.

— З нецярпеннем чакае, Іванавіч!

— Я патэлефаную да яе, — сказаў Мікіта і падняў тэлефонную трубку.

Людміла ІКОННІКАВА

# ХРЫСЦІЯНСКІЯ МАТЫВЫ Ў ТВОРЧАСЦІ ГЕОРГІЯ МАРЧУКА

Пісьменнікі ва ўсе часы ў той ці іншай ступені імкнуліся ўвасобіць герояў, якія праходзяць выпрабаванне высокай духоўнасцю. Біблейская тэматыка, хрысціянскія вобразы і сімвалы, пераасэнсаванне евангельскіх і старазапаветных сюжэтаў заўсёды з'яўляліся адной з невычэрпных крыніц паглыбленага мастацкага адлюстравання з'яў рэчаіснасці і крытэрыем мастацкага ідэалу. У свой час выдатны рускі мысліцель І. А. Ільін выказаў думку пра тое, што карані сапраўднага мастацтва заўсёды маюць духоўна-рэлігійны характар [6]. Апошнія дзесяцігоддзі XX стагоддзя ў гэтым сэнсе сталі ў нечым наватарскімі: менавіта ў дадзены перыяд часу літаратура вяртаецца ва ўлонне спрадвечнай духоўнасці, адбываецца «рэабілітацыя» не толькі нацыянальнай, але і хрысціянскай ідэі. У выніку з'яўляецца цэлы шэраг мастацкіх твораў новай тэматыкі, прадметам пазнання якіх становіцца душа чалавека. Гэта прыводзіць да асэнсавання часу ў новым ракурсе, да іншага ўспрымання эпохі, што, у сваю чаргу, спрыяе спазнанню тайных Боскіх асноў светабудовы.

Асабліва значная актуалізацыя хрысціянскай праблематыкі і вобразнасці адбывалася ў 80-я гады мінулага стагоддзя. Гэта звязана з крызісам і ідэалагічнай тупіковасцю ў савецкім грамадстве. Літаратура пачынае шырока закранаць пытанне духоўных каранёў свайго народа, у ёй больш частым і плённым становіцца зварот да мінулага. У такім рэчышчы працуе і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1996 г.) Георгій Марчук.

Ён родам з палескага мястэчка Давыд-Гарадок. Рана застаўшыся сіратой, будучы пісьменнік цягнуўся да сяброў, да прыроды, браў удзел у мастацкай самадзейнасці, выступаючы ў ролі чытальніка, танцора, канферансье. Свае першыя п'есы пісаў для школьнага гуртка, адначасова выступаючы як рэжысёр, афарміцель спектакляў, з поспехам выконваў галоўныя ролі. Станаўленню творчай асобы вельмі спрыяла кіраўніцтва драматычным гуртком пры давыд-гарадоцкім Доме культуры, супрацоўніцтва з газетай «Навіны Палесся», вучоба на завочным аддзяленні Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута і праца асістэнтам рэжысёра на «Беларусьфільме».

Першым друкаваным творам Г. Марчука лічыцца аднаактовая п'еса «Выкраданне Алены» (1971 г.), што ўвайшла ў кнігу «Ад поўначы да світання». Творы зборніка характарызуюцца скрупулёзным адборам матэрыялу і моўных сродкаў, добрай распрацаванасцю сістэмы персанажаў, імкненнем да ўскладнення простага сюжэта шляхам выкарыстання вобразаў-сімвалаў, што будзе ўласціва і шматактовай драматургіі пісьменніка. Сярод найбольш вядомых п'ес Г. Марчука можна назваць «Люцікі-кветачкі», «Вясёлыя, бедныя, багатыя», «Муж, жонка і целаахоўнік», «Гарбата з вярблюдам», «Пеўчыя 41 года», «Кракаўскі студэнт».

Надзвычай плённа працуе ён і ў прозе, распрацоўваючы праблемы, аб'яднаныя вакол тэмы роднага краю, яго гісторыі і сучаснасці. У 80—90-я гады выходзяць раманы «Крык на хутары», «Прызнанне ў забойстве», «Кветкі правінцыі»,

«Без ангелаў», «Сава Дым і яго палюбоўніцы», «Вочы і сон», кніга навел «Хаос». Творам Г. Марчука ўласцівыя напружанасць сюжэта, глыбіня псіхалагічнага спасціжэння ўнутранага свету чалавека, часам дэтэктыўнасць у разгортванні падзей, філасафічнасць. Пісьменнік выкарыстоўвае шырокі спектр сродкаў паэтыкі: сімвалізацыя побытавых рэалій і традыцыйныя культурныя сімвалы, алегорыя, тонкі псіхалагізм. Значнае месца ў яго творчасці займаюць рэлігійныя тэмы і матывы, якія дазваляюць выйсці да агульначалавечых праблем, да больш адэкватнага разумення шляхоў і паваротаў нацыянальнай і сусветнай гісторыі.

Мастацкае даследаванне Г. Марчуком маральна-этычнай праблематыкі рэчаіснасці знаходзіцца ў рэчышчы эстэтычных пошукаў беларускай літаратуры ўвогуле, адной з самых значных задач якой з’яўляецца вывучэнне і аналіз развіцця свядомасці сучасніка. Аналізуючы праблемы духоўна-маральнага кшталту, пісьменнік адлюстроўвае дыялектыку грамадскіх інтарэсаў і зацікаўленасцей асобы. Сучаснасць дае аб сабе знаць у пастаноўцы актуальных пытанняў, што праецыруюцца на духоўны свет чалавека, у пошуку новых каштоўнасных арыенціраў, у раскрыцці ўнутраных матываў, учынкаў і дзеянняў. Нават у творах гістарычнай накіраванасці выразна прасочваюцца маральна-духоўныя рэаліі сённяшняга дня. У пісьменніка няма такога твора, дзе б ні закраналіся этычныя праблемы. Кожны твор — гэта лёс пэўнага тыпу людзей, якія абралі свой, хоць іншым разам і памылковы, накірунак.

Творчасць Г. Марчука абапіраецца на хрысціянскую мараль. Глыбокая вера ў Бога самога аўтара знаходзіць сваё адлюстраванне на старонках твораў розных родаў і жанраў. Дэкларацыя хрысціянскіх ідэй адбываецца на двух узроўнях. Першы — адкрыты, выяўляецца праз стварэнне галерэі вобразаў святароў, ксяндзоў, духоўных прапаведнікаў. Прычым многія персанажы інтэртэкстуальна суадносяцца з героямі больш позніх твораў розных жанраў, дзе яны з’яўляюцца пад іншымі імёнамі. Другі ўзровень — схаваны, адчуваецца ў распрацоўцы такіх літаратурна-хрысціянскіх матываў, як пакаянне, пакутніцтва, хрысціянская любоў, дараванне, выкараненне зла, святло і цемра.

Ужо ў ягоным першым рамане «Крык на хутары» прысутнічаюць прадстаўнікі асноўных накірункаў хрысціянства. Вобразы святога айца Андрэя і ксяндза Вікенція, праўда, распрацаваны недастаткова, яны статычныя, пазбаўленыя руху. Аднак на іх ускладваецца значная сэнсавая нагрузка для разумення ідэйнай накіраванасці твора. Ксёндз паказаны ў адным і тым жа асяродку. Значнай характарыстыкай яго як асобы з’яўляецца маўклівасць, якая сведчыць пра заглыбленасць духоўных інтэнцый асобы, філасофскае стаўленне да быцця. Насуперак тэндэнцыям у еўрапейскай і рускай літаратурах гэты вобраз станоўчы.

Не атрымаў псіхалагічнага развіцця і святар Андрэй, які загінуў у час пажару ў царкве. Яго смерць служыць імпульсам да разваг іншых герояў пра самаахвярнасць чалавека, яго ролю ў жыцці. Свядомы адыход не можа быць расцэнены як ахвяраванне ці гераізм. Наадварот, гэты ўчынак сведчыць пра слабасць асобы, на што звяртае ўвагу і стары Лятун: «Святы, калі ты ўжо сапраўды святы, будзь прыкладам для людзей, прымай пакуты ад Бога і цярпі на вачах у люду. О як! Андрэй знік лёгка, і назаўтра ўсе забудуць… Карпей сярод людзей, калі ты святы» [10, с. 111]. Ксёндз у падобных умовах паводзіць сябе кардынальна супрацьлегла: у пачатку вайны і ў час пагрозы хуткага прыходу рускіх Даменік застаецца побач са сваёй паствай, што сведчыць пра яго веліч і духоўную сілу.

Больш увагі пісьменнік надае адвентысту Варфаламею. Ён паўстае духоўным павадыром, прапаведуе асноўныя прынцыпы хрысціянскай этыкі. Аднак на справе выяўляецца дваістасць і супярэчлівасць ягонай маралі, што спрыяе ўзвышэнню сапраўдных агульначалавечых ідэалаў ксяндза Вікенція і айца Андрэя. Імкненні Варфаламея далёкія ад таго, што ён гаворыць, бо прагне не столькі духоўнага спакою і раўнавагі, колькі мірской славы, добраўпарадкаванага жыцця. Характэрна такое яго прызнанне: «І хаця я глыбока паважаю нашых пракакаў,

якія так многа зрабілі для адвентызму, будзь мая воля, я заснаваў бы сваю секту… варфаламееўцаў, якая б вучыла і несла народу галоўнейшую з запаведзей — не зайздросці» [10, с. 67]. І гэта не пустыя словы. Адвентыст узяў грошы, каб пераправіць частку паствы ў Аргенціну. Такім чынам, аўтар яшчэ раз звяртае ўвагу на тое, што не словы, а ўчынкі гавораць за чалавека. Пры абмалёўцы вобразаў служыцеляў веры Г. Марчук выкарыстоўвае прыём скрытага кантраснага супрацьпастаўлення: на фоне адвентыста, які шмат гаворыць пра Бога, духоўнае хараство веруючага чалавека, дабрыню і спагаду, маласлоўнасць ксяндза Вікенція і айца Андрэя дазваляюць убачыць чысціню сапраўднай веры.

У рамане «Крык на хутары» матыў пакаяння, звязаны з вобразамі Змітра Летуна, Мікіты, Улі. Ён рэалізуецца праз аповед пра жыццёвыя перыпетыі і духоўнае станаўленне згаданых персанажаў. У рамане ж «Прызнанне ў забойстве», які разам з папярэднім творам стварае дылогію, гэты матыў набывае больш выразныя адзнакі, што звязана з духоўна-эмацыянальным сталеннем герояў, пераасэнсаваннем імі сваіх учынкаў.

Адметнае месца ў «Крыку на хутары» нясе вобраз Мані, якая ахвяравала сваім жыццём дзеля ўратавання сястры. Маня — прастамоўны варыянт імені Марыя. Гэты персанаж на інтэртэкстуальным узроўні звязваецца з Дзевай Марыяй.

У згаданым рамане ўпершыню ў творчасці Г. Марчука з'яўляецца вобраз-сімвал згарэлай царквы. І. Багдановіч, даследуючы вобраз святыні ў беларускай паэзіі, сцвярджае: «Храм як духоўны сімвал нацыянальнага адраджэння стаў шырокай культурнай метафарай беларускага шляху ХХ ст.» [3, с. 53]. Даследчыца заўважае, што «ў развіцці гэтай метафары можна вылучыць дзве ідэйна-стылёвыя дамінанты, якія рэалізаваліся на працягу ХХ стагоддзя ў паэзіі: храм як сімвал духоўнага ўзвышэння над заземленым матэрыяльным бытам і храм як канкрэтная святыня, апаэтызаваная з мэтай падкрэсліць яе асаблівае гісторыка-пазнаваўчае альбо культурна-эстэтычнае значэнне» [3, с. 53]. Аднак такія дамінанты прасочваюцца і ў прозе. У рамане «Крык на хутары» рэалізоўваецца першая дамінанта ў сваім супрацьлеглым значэнні. Алегарычнасць гэтага вобраза-сімвала падкрэсліваецца ўсім дзеяннем твора.

Найбольш глыбока праблема маральнага выбару вырашаецца Г. Марчуком у драме «Пеўчыя 41 года», напісанай да 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Існуюць дзве рэдакцыі гэтага твора: адна надрукавана ў першым выпуску зборніка «Беларуская драматургія» ў 1994 годзе; другая змешчана ў № 6 часопіса «Полымя» за 2010 год (на рускай мове ў часопісе «Няміга» за 1999 год). Мы спынімся на другой рэдакцыі, бо першая з'яўляецца сцэнічным варыянтам, які зрабіў рэжысёр тэатра «Вольная сцэна» Мікалай Дзінаў. Такі варыянт твора не задаволіў пісьменніка, таму што была зменена канцоўка, скарочана колькасць дзеючых асоб (з 16 да 11), якія адыгрывалі важную сэнсавую ролю для разумення ідэйнай накіраванасці драмы. У аснову п'есы пакладзены канкрэтны факт, падзеі, якія мелі месца ў раёне Крычава.

Пятро Васючэнка сцвярджае: «Праблемы маральнага стану чалавека, псіхалагічнай арыентацыі ў жорсткіх умовах акупацыі працягваюць заставацца актуальнай тэмай для літаратуры. Мяжа паміж маральнасцю і злачынствам у ваенных варунках далёкая ад канчатковага вызначэння. Памяць пра былое захоўвае безліч сітуацый, настолькі складаных, што ўражвае перад усім заблытанасць чалавечых лёсаў» [4, с. 70]. Г. Марчук не ідзе пратаптанай сцежкай даследавання маральна-псіхалагічных праблем, а закранае новыя грані і шукае вырашэнне ў небывалым тандэме «армія — рэлігія». Дарэчы, уплыў біблейскай маралі на асобу ва ўмовах ваенных дзеянняў паказаны і ў драме «Радавыя» (1984) А. Дударава. Абодва аўтары «адмовіліся ад аднамернасці і прамалінейнасці ў паказе «сваіх» і «чужых». Калі А. Дудараў распрацаваў і псіхалагічна пашырыў тэму «дыялектыкі душы» савецкага салдата напрыканцы вайны, то Г. Марчук у аснову сваёй драмы паклаў тэму маральна-рэлігійнага ўспрыняцця падзей і асаблівасцей жыцця людзей

на акупіраванай ворагам тэрыторыі роднай Беларусі ў самым пачатку вайны» [1, с. 10], — адзначае Т. Аўдоніна.

Падзейны рад драмы «Пеўчыя 41 года» наступны: айцец Вікенцій вяртаецца са ссылкі і аднаўляе свой царкоўны прыход, а па загадзе нямецкай улады стварае хор з ваеннапалонных, якія ў канцы твора ідуць у партызаны. Кожны з герояў павінен зрабіць выбар: стаяць да апошняга за свае перакананні, за краіну ці, баючыся за ўласнае жыццё, перайсці на бок ворага. Адныя, як Генадзь, выяўляюць бескампрамісную пазіцыю ў адносінах да акупантаў, іншыя чакаюць зручнага моманту (Арсеній, Марыя, Нестар, Прохар), паводзіны ж некаторых характарызуе неадназначнасць, двайная гульня (Варвара, Ілья, Сямён).

Георгій Марчук скіроўвае ўвагу на душэўны стан сваіх персанажаў і дае магчымасць кожнаму самому рабіць высновы, асэнсоўваць, ацэньваць падзеі адпаведна сваёй адукаванасці, інтэлекту і духоўнай сталасці. Аўтар адмовіўся ад рытарычнасці і чыстай публіцыстычнасці, што «значна выбівае яго п'есу з кола драматургічных зацікаўленасцей у 70—80-я гады XX стагоддзя, калі панавала агульная тэндэнцыя да гераізацыі вобразаў і падзей мінулай вайны» [1, с. 13]. У 90-я гады ў прозе і драматургіі адбываецца новае асэнсаванне гістарычнага шляху савецкага народа, выяўляюцца істотныя адрозненні мастацкіх твораў пра Вялікую Айчынную вайну ад літаратуры на ваенную тэматыку папярэдняга перыяду, што «адлюстравалася ў больш дэтальным даследаванні маральна-псіхалагічных і рэлігійных праблем, ва ўзаемаадносінах асабістага і грамадскага» [1, с. 13]. Для разумення сутнасці нацыянальнай гісторыі пісьменнік злучае духоўны і патрыятычны пачаткі. Пытанне веры і здрадніцтва ў драме «Пеўчыя 41 года» магістральнае.

Драматург паказвае двух прапаведнікаў — рэлігійнага (айцец Вікенцій) і духоўнага (гаўрэднэр Фадзей Робертавіч), жыццёвая пазіцыя якіх супрацьпастаўлена. Як і іншыя персанажы, айцец Вікенцій таксама мусіць зрабіць свой выбар. Спачатку ён не ўсведамляе, як паяднаны паміж сабой царква і вайна, прамаўляе біблейскія ісціны, не разумеючы ролі рэлігіі ў гэты страшны час: «Царква і вайна — паняцці несумяшчальныя. Ісціна царквы толькі мір — вось яе сімвал, любоў да бліжняга — яе арэол. Я не змагу агітаваць людзей на забойства, не змагу спяваць заздраўную забойцу» [7, с. 9]. Аднак расстрэл ваеннапалонных становіцца імпульсам для пераасэнсавання. Першая пропаведзь айца Вікенція набывае новае гучанне. Гэта заклік да ўсведамлення ўласнай ролі ў гістарычных падзеях, да міласэрнасці, да захавання сваіх традыцый. Ён займае пазіцыю патрыёта, і ў гэтым, як адзначае Т. Аўдоніна, «сіла вобраза святара, калісьці гнанага ўладай, адрынутага атэістычна настроенымі суайчыннікамі» [2, с. 100]. Ён працуе дзеля людзей, якім неабходна духоўная падтрымка. Айцец Вікенцій — складаны характар, у якім цесна пераплялося духоўнае і свецкае жыццё. У розных сітуацыях ён выяўляе той або іншы бок сваёй існасці. Назіраючы душэўныя пакуты, цяжкасці і нястачу людзей у час акупацыі роднай краіны, Вікенцій, адпаведна свайму грамадзянскаму абавязку, прымае рашэнне аб перапраўцы царкоўнага скарбу за лінію фронту на патрэбы абароны Айчыны.

Можа падацца, што і Фадзей шчыра выступае за свой народ, за веру: «Бо калі мы паспрабуем усё ж знайсці аб'ектыўную ісціну, дык раней ці пазней прыйдзем да Бога» [7, с. 8]. Але такія выказванні не што іншае, як уменне знайсці падыход да чалавека, якога неабходна ў нечым пераканаць. Фадзей — тонкі псіхолаг, сапраўдны знаўца людской душы. Ён можа доўга насіць маску і прыкідвацца, аднак цягам часу выяўляе сваё сапраўднае аблічча. Айцец Вікенцій дае трапную характарыстыку Фадзею: «Іван без роду! Дух мой незалежны, і не табе кіраваць маёй душою, халуй!» [7, с. 20]. У адной фразе, укладзенай у вусны персанажа, Г. Марчук высвечвае дамінуючыя рысы ў характары прапагандыста, «духоўнага правадыра новага парадку» [7, с. 8]: падхалімства і прыслужніцтва. На яго фоне паказваецца незалежнасць, нязломнасць моцнага духу святара Вікенція і велічнасць праваслаўнай маралі.

Пісьменнік не прыпыняе пошукаў не толькі ў тэматычна-змястоўным плане, але і ў формаўтваральным аспекце, пра што сведчыць «драматычнае апавяданне» «Дарога ў Іерусалім». Асаблівасць твора выяўляецца ў эпічнасці п'есы, «якая хутчэй разлічана для чытання, а не для пастаноўкі на сцэне» [11, с. 88]. Адметным з'яўляецца месца дзеяння — Іерусалім — горад трох рэлігій: іудаізму, хрысціянства і ісламa. Таму і героямі становяцца людзі гэтых канфесій, што, у сваю чаргу, дазваляе пісьменніку заглыбіцца ў даследаванне шляхоў да Бога. Разважанні дзеючых асоб вызначаюцца філасафічнасцю і глыбінёй. Асноўная ідэя твора ўкладваецца ў вусны рабіна Мардзехая. Гэты чалавек нікога не асуджае, клапоціцца пра іншых і імкнецца прымірыць людзей, бо не бачыць розніцы паміж рэлігіямі, галоўнае — гэта чалавечая душа, якая верыць у Бога, жыве па агульначалавечых законах: «И почему все ищут то, что нас разъединяет, и не видят иль видеть не желают то, что может нас объединить?» [8, с. 100]. Мардзехай не прымае жорсткі тэрор. «Ён даволі неадназначна ўспрымае законы продкаў і па-філасофску разважае пра дылему: ці ваяваць са зброяй у руках за свабоду і незалежнасць, ці чакаць, калі нехта прынясе іх як дарунак» [11, с. 89]. Яго пазіцыя выяўляецца ў словах, звернутых да свайго вучня мастака Аарона, які выбраў шлях тэрарызму: «Ты, Аарон, из рода первосвященника Аарона. Удел твой не винтовка, а Аггада, Аггада и Талмуд. Лечить людей, их души, укреплять их веру ты должен не пролитой кровью — словом. Ты помнишь основателя Давида? И что Господь тогда ему сказал? «Давид, желание твое поставить Храм на Храмовой горе я одобряю, но положи на место первый камень. Пусть Храм построит сын твой Соломон» [8, с. 82].

Праваслаўная манахіня Алена па сваіх перакананнях блізкая да рабіна. Яна не можа пакінуць чалавека ў бядзе і не бачыць розніцы, якога ён веравызнання: «Я христианка и не делю людей на лучших и на худших» [8, с. 93]. Для больш паглыбленага раскрыцця вобраза паслушніцы Г. Марчук супастаўляе яе з ігуменняй Еўдакіяй, выяўляючы пры гэтым дыяметральную супрацьлегласць поглядаў жанчын. Еўдакія гаворыць: «В монастыре ты новичок и знать не можешь обычаев всех местных и о вечной, меж арабами и иудеями, вражде. Мы христиане. И следуем мы своему пути к спасенью. Пусть ищут за воротами и выясняют истоки своей веры и права на храмы и столицу» [8, с. 86].

У драме знайшлі сваё адлюстраванне такія асноўныя хрысціянскія матывы. Твор надзвычай асацыятыўны, напоўнены імпліцытным сэнсам. Сімвалам выступае сам горад Іерусалім, а рабін на падтэкставым узроўні звязваецца з вобразам вечнага Жыда, легенда пра якога ўведзена ў п'есу. Важная сэнсавая нагрузка для інтэрпрэтацыі зместавага ўзроўню твора ўкладзена ў яго назву. Дарога ў Іерусалім — гэта шлях да ўнутранай раўнавагі, духоўнасці і сапраўднай веры.

Праблема талерантнасці ў адносінах да веравызнанняў узнімаецца і ў драме «Хрэсны ход». Г. Марчук не дзеліць людзей па канфесійным прынцыпе на праваслаўных і каталікоў, таму што бачыць шлях выратавання толькі ў веры ў Бога. Менавіта таму яго персанажы мірна суіснуюць: католікі паважаюць царкву і абраднасць праваслаўных. Паказальны ў гэтым плане вобраз Эльжбеты Яблонскай. Чарговы раз узнікае вобраз-сімвал спаленай царквы, які набывае новыя канататыўныя значэнні ў параўнанні з раманам «Крык на хутары». Адмоўная сэнсавая нагрузка гэтага вобраза паглыбляе адчуванне духоўнага заняпаду грамадства. Калі ў папярэднім творы мы мелі справу з выпадковасцю (незразумелыя прычыны пажару), то ў драме — гэта наўмысны ўчынак.

Адметнае месца ў творчасці Г. Марчука займае цыкл дзесяці літаратурна-філасофскіх эсэ «Давыд-гарадоцкія каноны», кожны з якіх насычаны развагамі пра сэнс існавання чалавека на зямлі. Першым ідзе «Канон Богу», у якім непасрэдна раскрываецца тэма сакральнага, святога ў жыцці чалавека. Пісьменнік не імкнецца растлумачыць догматы царквы, а паказвае псіхалагічны партрэт

местачкоўца, асаблівасці далучэння асобы да Бога, указвае на непарыўную еднасць Бога, людзей, хат, вуліц. «Канон Богу» — гэта развагі пісьменніка пра ролю рэлігіі ў жыцці, пра прысутнасць сакральнага сэнсу ў існаванні чалавека. Робіцца выснова пра неабходнасць рэлігіі, бо яна — «грандыёзны, надзейны метад заспакаення трагічных сумненняў чалавека аб бессэнсоўнасці жыцця» [9, с. 383—384].

Такім чынам, хрысціянскія матывы паглыбляюць анталагічныя даследаванні асобы, пашыраюць магчымасці мастацкага выяўлення псіхалогіі індывіда, спрыяюць актуалізацыі твораў. Вобразы святароў канцэнтруюць лепшыя агульначалавечыя якасці: чалавечнасць, гуманнасць, вера, самаахвярнасць. У творах Г. Марчука замацаваліся асновы новага гуманістычнага светабачання, якое вызнае безумоўную вартасць і каштоўнасць асобы кожнага чалавека, права на свабоду выбару сваіх учынкаў паміж дабром і злом. Паэт В. Жуковіч падкрэсліў, што «феномен гэтага творцы (Г. Марчука. — **Л. І.**) — у тым, што ўся яго творчасць скіравана на выхаванне ў душах людскіх любові да ўсяго жывога, здольнасці спачуваць (сострадать) слабому і пакрыўджанаму, здольнасці абараніць дабро перад злом» [5, с. 7].

Хрысціянскія матывы ў творчасці Г. Марчука маюць шэраг спецыфічных асаблівасцей. Па-першае, яны не толькі аўтарскія матывы, бо за імі — пэўныя хрысціянскія паняцці і багаслоўскія тэрміны, якія ўжо існуюць у хрысціянстве. Па-другое, у гісторыі мастацкай літаратуры склаўся рад устойлівых хрысціянскіх матываў. Па-трэцяе, багаслоўскія паняцці, калі ўваходзяць у прастору мастацкага тэксту і падпарадкоўваюцца яго эстэтычным законам, з сакральнага ўзроўню пераходзяць у сферу псіхалагічную, бытавую. Адбываецца рэдукцыя, ступень якой можа вар'іравацца да страты першапачатковага сэнсу. Тым не менш, набліжаючыся да агульначалавечых архетыпаў, хрысціянскія матывы маюць дастаткова выражаныя сэнсавыя абертоны. Эксплікацыя дадзеных матываў па законах розных літаратурных жанраў (раман, навела, драма, «драматычнае апавяданне») сведчыць пра разнастайнасць мастацкага метаду пісьменніка. А зыходзячы з таго, што матыў — гэта адзінства формы і зместу, можна казаць пра хрысціянскую накіраванасць творчасці Г. Марчука.

## **Літаратура**:


1. Аўдоніна, Т. В. За веру і Айчыну: да праблемы «армія — вера — здрада» (па п'есах «Радавыя» А. Дударава і «Пеўчыя 41 года» Г. Марчука) / Т. В. Аўдоніна // Известия Гомельского государственного университета имени Ф. Скорины. — 2006. — № 1 (34). — С. 10—14.

2. Аўдоніна Т. В. …Калі рэлігія была «опіумам для народа»… (тэма святарства ў драме Г. Марчука «Пеўчыя 41 года») / Т. В. Аўдоніна // Культура праз прызму духоўнасці: Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай XV Міжнароднаму фестывалю духоўнай музыкі «Магутны Божа» / Уклад. Яшмеццеў А. В., Сердзюкоў А. В. — Магілёў: УК «Магілёўскі АМЦ НТ і КАР», 2007. — С. 95—105.

3. Багдановіч, І. Шлях да святыні. Вобраз святыні ў беларускай паэзіі / І. Багдановіч // Наша вера. — 2000. — № 4. — С. 46—53.

4. Васючэнка, П. Сучасная беларуская драматургія. Дапаможнік для настаўнікаў / П. Васючэнка. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2000. — 158 с.

5. Жуковіч, В. Лад і ўлада мастацкага слова: Да 50-х угодкаў Георгія Марчука / В. Жуковіч // Настаўніцкая газета. — 1996. — 21 снежня. — С. 7.

6. Ильин, И. А. Собрание сочинений: В 10 т. Т. 6: Кн. 1 / И. А. Ильин / Сост. и коммент. Ю. Т. Лисицы. — М.: Русская книга, 1996. — 560 с.

7. Марчук, Г. В. Пеўчыя 41 года / Г. В. Марчук // Полымя. — 2010. — № 6. — С. 3 — 35.

8. Марчук, Г. Дорога в Иерусалим / Г. Марчук // Нёман. — 1997. — № 12. — С. 78 — 106.

9. Марчук, Г. Кветкі правінцыі: Раман, навелы, афарызмы / Г. Марчук. — Мінск: Маст. літ., 2004 — 416 с.

10. Марчук, Г. Крык на хутары. Кветкі правінцыі: Раманы / Г. Марчук. — Мінск: Юнацтва, 1998 — 494 с.

11. Штэйнер, І. Ф. Сусвет, убачаны здалёк: Творчасць Георгія Марчука: Манаграфія / І. Ф. Штэйнер. — Гомель: УА «ГДУ імя Ф. Скарыны», 2003. — 95 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 13 верасня 2011 г.

## Людміла Іконнікава
## «Хрысціянскія матывы ў творчасці Георгія Марчука»

### Рэзюмэ

Аўтар артыкула аналізуе хрысціянскія матывы і вобразы ў творчасці Георгія Марчука, іх дынаміку і ступень выяўлення ў розных літаратурных жанрах. У цэнтры ўвагі знаходзяцца вобразы духоўных айцоў. Даследчык выяўляе спецыфічныя асаблівасці хрысціянскіх матываў у творчасці пісьменніка.

## Lyudmila Ikonnikava
## «Christian themes in the works of George Marchuk»

### Summary

The author analyzes Christian themes and imagery in the works of George Marchuk, their dynamics and manifestations in different of literary genres. The focus is on images of the spiritual fathers. The researcher defines the specifics of Christian themes in the works of the writer.

T

# ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ АЭС

*Беларуская АЭС, як ужо вядома, будзе пабудавана на Астравецкай пляцоўцы да 2017 года. У дзеянне ўступяць два энергаблокі, якія значна павялічыць напружанне дзеючай электрасеткі нашай краіны, а таксама дадуць магчымасць экспартаваць лішкі таннай электраэнергіі ў многія краіны Еўропы.*

*21 кастрычніка 2011 года ў Інфармацыйным цэнтры АЭС дзяржаўнай установы дырэкцыі будаўніцтва атамнай электрастанцыі адбыўся ўрок радыелагічнай бяспекі для вучняў Астравецкай гімназіі № 1, у якім прынялі ўдзел галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Мікола Міхайлавіч Мятліцкі, начальнік аддзела адукацыі Астравецкага райвыканкама Віктар Віктаравіч Млечка і кіраўнік групы па інфармацыйнай рабоце цэнтра Эдуард Іванавіч Свірыд.*

*Рэдакцыя часопіса прапануе чытачам рубрыкі «Школьныя далягляды» своеасаблівы ўрок радыяцыйнай бяспекі, падрыхтаваны па матэрыялах Інфармацыйнага цэнтра Беларускай АЭС.*



*Начальнік аддзела адукацыі Астравецкага райвыканкама В. В. Млечка і кіраўнік групы па інфармацыйнай рабоце цэнтра Э. І. Свірыд з вучнямі Астравецкай гімназіі.*

## АЭС — проста пра складанае

Атамная электрастанцыя (АЭС) — складаны комплекс, які фарміруецца з вялікай колькасці будынкаў, тэхналагічна з'яднаных між сабой. Прызначэнне АЭС — выпрацоўка электраэнергіі. Для гэтага трэба зрабіць многа складаных тэхналагічных аперацый, забяспечыць бездакорную і бяспечную працу складанага абсталявання.

Асноўным элементам АЭС з'яўляецца энергаблок, у якім зманціраваны ядзерны рэактар — «атамны кацёл», які грэе ваду, і турбагенератар, які выпрацоўвае электраэнергію. Паслядоўнасць працэсаў наступная: цепланасіцель першага контуру прапампоўваецца праз рэактар чатырма цэнтрабежнымі цыркулярнымі помпамі, вада ў рэактары грэецца і перадае сваё цяпло вадзе другога контуру ў парагенератарах, нагрэтая вада ў парагенератарах ператвараецца ў пару, якая круціць турбіну. Турбіна, у сваю чаргу, круціць ротар-магніт. Электрычны ток выпрацоўваецца дзякуючы вядомай з курса школьнай фізікі з'яве электрамагнітнай індукцыі —узнікненню электрарухаючай сілы ў замкнутым праводзячым контуры пры змяненні магнітнага патоку, які працінае гэты контур. Пры вярчэнні ротара-магніта ў вітках статара, які абкружае яго, з'яўляецца электрычны ток. Застаецца толькі «зняць» напружанне з абмотак і перадаць электраэнергію знешнім спажыўцам. Аднак за ўяўнай прастатой гэтага апісання канструкцыі энергаблока хаваецца вялікая колькасць выпрацоўваючых, кантралюючых, кіруючых установак, прыбораў, механізмаў, якія дакладна, прадумана і эфектыўна аб'яднаны ў адзіны энергетычны ланцужок.

Натуральна, для работы гэтай вялікай колькасці механізмаў і ўстановак патрабуюцца пэўныя затраты электраэнергіі, і на гэта выдаткоўваецца частка электраэнергіі, якую выпрацоўвае станцыя. Калі ўсе энергаблокі спыняюцца, агрэгаты АЭС могуць сілкавацца электраэнергіяй ад знешніх энергакрыніц — ліній электраперадач, такіх ліній тры. Для падстрахоўкі, для таго, каб забяспечыць у кожнай сітуацыі бесперапыннае электразабеспячэнне абсталявання АЭС, і, у першую чаргу, абсталявання сістэм бяспекі, маюцца рэзервовыя дызель-генератарныя электрастанцыі (па тры на кожны энергаблок) і дадаткова — акумулятарная батарэя для сілкавання сістэм кіравання і аховы (СКА). Для работы энергаблока абавязкова патрабуюцца помпавыя станцыі, якія забяспечваюць водазабеспячэнне вузлоў АЭС. Патрэбны газазборнікі-рэсіверы, у якіх збіраюцца і ачышчаюцца газы. Жыццёва неабходна сховішча свежага паліва, у якім адбываецца падрыхтоўка свежага паліва для далейшай загрузкі ў рэактар. Патрабуецца вялікая колькасць іншых механізмаў, прыбораў і прыстасаванняў, работа якіх скаардынавана, наладжана і падпарадкавана адной мэце — забяспечыць эфектыўны працэс выпрацоўкі электраэнергіі ў цалкам бяспечных для чалавека ўмовах. Гэта значыць, атамная электрастанцыя на самай справе з'яўляецца сапраўдным дасягненнем сучаснай навукова-тэхнічнай думкі, цэласным арганізмам, надзейная праца якога забяспечваецца мноствам складаных элементаў.

Як і жывому арганізму, атамнай станцыі патрабуецца падача сілкавання — загрузка паліва, і забеспячэнне нармальнага «страўвальнага» працэсу — за рэжымам работы рэактарнага аддзялення і ўсіх дапаможных установак арганізаваны пільны нагляд і кантроль усіх тэхналагічных працэсаў. На выпадак якой-небудзь «хваробы» прадугледжаны ўсе неабходныя «лекі» ў выглядзе шмат разоў прадубліраваных хуткадзейных сістэм кіравання і аховы, а таксама аварыйных сістэм. Вадкія, газападобныя і цвёрдыя адыходы «жыццядзейнасці» арганізма АЭС старанна збіраюцца, перапрацоўваюцца і захоўваюцца ў бяспечнай для чалавека форме. Чысты ж прадукт — электраэнергія — праз размеркавальныя сістэмы выводзіцца за межы АЭС.

## Як арганізаваны энергаблок?

Галоўным будынкам АЭС з'яўляецца энергаблок. У яго склад уваходзяць: рэактарнае аддзяленне, машынная зала, дэаэратарная этажэрка (там пастаўлена абсталяванне, прызначанае для выдалення газаў з цепланасіцеля другога контуру), памяшканні электратэхнічных прыбораў. Энергаблок праектуецца і будуецца як самастойны аб'ект, які адпавядае ўсім патрабаванням забеспячэння надзейнай, бездакорнай і бяспечнай працы зманціраванага ў ім энергетычнага і дапаможнага абсталявання.

«Сэрца» атамнай станцыі — ядзерны рэактар — размешчаны ў герметычнай ахоўнай абалонцы рэактарнага аддзялення, якая засцерагае яго ад знешніх уздзеянняў і перашкаджае пранікненню ў навакольнае асяроддзе радыенуклідаў у выпадку аварыі. Там жа, у герметычнай ахоўнай абалонцы, размешчана і ўсё абсталяванне галоўнага цыркуляцыйнага контуру. Рэактар і галоўны цыркуляцыйны контур разам ствараюць замкнёны аб'ём для цепланасіцеля першага контуру.

Акрамя абсталявання першага контуру ўнутры гермаабалонкі знаходзяцца: абсталяванне шахт рэвізіі ўнутрырэактарных прыбораў, машына перагружвання паліва, палярны кран, абсталяванне бетоннай шахты рэактара, якое змяшчае шэраг біялагічных і тэмпературных ахоўных сродкаў, басейны перагрузкі і вытрымлівання паліва.

Ахоўная гермаабалонка абапіраецца на жалезабетонную пліту таўшчынёй 2,4 метра на вышыні 13 метраў. Праект АЭС прадугледжвае вырашэнне сістэмы герметычнай засцярогі ў выглядзе падвойнай жалезабетоннай абалонкі. Прастора паміж абалонкамі падключана да вентыляцыйнай сістэмы, якая забяспечвае разраджэнне і ачыстку асяроддзя. Таўшчыня ўнутранай абалонкі: цыліндрычная частка — 1200 мм, сферычная частка — 1000 мм; таўшчыня знешняй абалонкі: цыліндрычная частка — 800 мм, сферычная частка — 600 мм; шчыліна паміж абалонкамі 1800 мм. Гермаабалонка абцягнута сістэмай тросаў, якія знаходзяцца ўнутры сцен, з узмацненнем нацяжэння да 1200 тон на кожны трос, што забяспечвае выключную трываласць канструкцыі. Сістэма тросаў падчас унутранага выбуху не дазволіць ахоўнай абалонцы «раскрыцца», як кветцы. Раўнамернасць абцяжкі ахоўнай гермаабалонкі кантралюецца сістэмай убудаваных у яе датчыкаў, увесь час ажыццяўляюцца маніторынгавыя работы з мэтай вызначэння і ацэнкі геаметрыі гермаабалонкі і параметраў яе змен, а таксама ўсе змены планава-вышыннага становішча будаўнічых элементаў і іх частак. Да таго, як запусціць энергаблок, ажыццяўляецца праверка трываласці і герметычнасці ахоўнай гермаабалонкі ўнутраным празмерным ціскам 5 атмасфер. Пры гэтым нагрузка на ўнутраную паверхню гермазоны складае каля 600 000 тон.

Знешняя абалонка прызначана для выканання функцыі аховы сістэм АЭС ад знешніх прыродных і тэхнагенных уздзеянняў:

— ураганаў, смерчаў;

— экстрэмальных метэаралагічных і кліматычных уздзеянняў (паводка, снег і г. д.);

— знешняй паветранай выбуховай хвалі (выбух і г. д.);

— падзення самалёта.

Унутраная абалонка прызначана для:

— лакалізацыі (ізаляцыі) рэактарнага абсталявання ва ўмовах усіх прадугледжаных праектам рэжымаў работы АЭС;

— біялагічнай абароны.

Прастора паміж знешняй і ўнутранай ахоўнымі абалонкамі стварае кантралюемы аб'ём, які прызначаны для збору радыеактыўных уцечак праз унутраную абалонку ў аварыйных рэжымах работы АЭС.

Недастатковая шчыльнасць (працечка) першай ахоўнай абалонкі не пераві-

шае 0,3 працэнта ад яе паветранага аб'ёму ў суткі пры максімальным разліковым аварыйным праектным ціску.

У аббудове, што знаходзіцца вакол гермаабалонкі рэактара, змяшчаецца блочны пункт кіравання рэактарам (у якім ажыццяўляецца кантроль і кіраванне ўсімі працэсамі, якія адбываюцца на энергаблоку), абсталяванне сістэм кіравання, кантролю і аховы энергаблока, механізмы вентыляцыі, фільтры, проціпажарнае і іншае абсталяванне. У падмурку аббудовы размяшчаюцца сістэмы аварыйнага ахалоджвання, цеплаабменнікі і частка абсталявання прамежнага контуру, сістэмы насычэння-прадзімання. З аббудовай рэактарнага аддзялення злучаецца будынак машыннай залы і дэаэратарнага аддзялення. У машыннай зале размешчаны паравая турбіна і электрагенератар.

Будаўнічыя канструкцыі энергаблока адпавядаюць усім самым строгім патрабаванням надзейнасці. У прыватнасці, абсталяванне і корпус будынка разлічаны і ўзведзены так, што могуць без парушэнняў вытрымаць землятрус у 7 балаў.

## Цеплавая схема

Цеплавая схема энергаблокаў з вода-вадзянымі рэактарамі змяшчае два контуры цыркуляцыі цепланасіцеля. Першы контур з'яўляецца замкнутым, радыеактыўным і прызначаны для адвядзення цяпла ад рэактара і перадачы яго вадзе другога контуру. Ён складаецца з рэактара, паравога кампенсатара ціску і чатырох аднолькавых петляў ахалоджвання, якія змяшчаюць галоўныя цыркуляцыйныя помпы, трубаправоды, парагенератары, іонаабменныя фільтры. Цепланасіцелем першага контуру з'яўляецца вада вельмі высокай чысціні, якая знаходзіцца пад высокім ціскам у 162 атмасферы, што перашкаджае яе кіпенню. У ваду першага контуру дадаецца раствор борнай кіслаты, якая з'яўляецца моцным паглынальнікам нейтронаў, для плаўнага рэгулявання магутнасці рэактара.

Галоўнымі цыркуляцыйнымі помпамі вада прапампоўваецца праз актыўную зону рэактара, дзе яна награваецца з 298 да 330 градусаў Цэльсія за кошт цяпла, якое выдзяляецца ў выніку ядзернай рэакцыі ў актыўнай зоне рэактара. Кожная з чатырох помпаў прапампоўвае за гадзіну 22 000 кубаметраў вады. Вада першага контуру перадае сваё цяпло вадзе другога контуру праз металічныя сценкі цеплаабменных трубак у парагенератары і вяртаецца ў рэактар. Такім чынам, створаны бар'ер на шляху радыеактыўных элементаў, якія знаходзяцца ў вадзе першага контуру і не могуць трапляць у другі контур.

Другі контур прызначаны для выпрацоўкі пары і перадачы яе на турбіну. Ён таксама замкнуты, але не радыеактыўны, і мае парагенератары, параправоды вострай пары, турбагенератар з кандэнсацыйнай установкай і сістэму рэгенерацыі цяпла. Парагенератары выдаюць насычаную пару пад ціскам 70 атмасфер, якая падаецца на паравую турбіну, што рухае ротар турбагенератара. Адпрацаваная пара ахалоджваецца ў кандэнсатарах і ператвараецца ў ваду, якая зноў з дапамогай помпы трапляе ў парагенератар. Першы і другі контуры ахалоджвання замкнутыя.

## Як працуе «сэрца» АЭС?

«Сэрцам» атамнай электрастанцыі з'яўляецца вода-вадзяны энергетычны рэактар. Чаму ён называецца «вода-вадзяным»? Справа ў тым, што ў рэактарах гэтага тыпу вада з'яўляецца не толькі цепланасіцелем, але і замаруджвальнікам хуткіх нейтронаў, што неабходна для яго работы, зыходзячы з фізічных заканамернасцей. У ядзерным рэактары ажыццяўляецца кіруемая ланцуговая рэакцыя дзялення ядраў урану, якая суправаджаецца выдзяленнем энергіі. Вядома, што

магутнасці ў 1 МВт адпавядае ланцуговая рэакцыя, у якой за 1 секунду адбываецца 3x1016 актаў дзялення.

Рэактар складаецца з 14 канструкцыйных элементаў, і змяшчае: корпус, покрыўку, верхні блок з прыводамі сістэмы кіравання і аховы, унутрыкорпусную шахту, выгарадку, блок ахоўных труб, электраабсталяванне, узорысведчанні і іншае тэхналагічнае абсталяванне. Агульная вага рэактара каля 800 тон.

Корпус рэактара дыяметрам 4,5 метра зроблены з нержавеючай сталі і разлічаны на высокі ціск. У ніжняй яго частцы, якая называецца актыўнай зонай, знаходзіцца ядзернае паліва, стрыжні рэгулявання, адбівальнік нейтронаў. Менавіта тут, у актыўнай зоне, адбываецца перадача цяпла ад паліва да цепланасіцеля — вады першага контуру, якая падаецца галоўнымі цыркуляцыйнымі помпамі. Над герметычна злучанай з корпусам покрыўкай рэактара размешчаны прыводы сістэм кіравання і аховы. Агульная вышыня рэактарнай устаноўкі каля 20 метраў.

Паліва змяшчаецца ў актыўнай зоне рэактара ў выглядзе 163 паліўных зборак, у кожнай з якіх маецца 312 цеплавыдзяляльных элементаў — ЦВЭЛаў. ЦВЭЛ — герметычна завараная трубка дыяметрам 9 мм з цырконіевага сплаву, у якой знаходзяцца таблеткі спечанага двухвокісу ўрану. Трэба адзначыць, што ў паліве ўтрымліваецца прыкладна 4 працэнты ізатопа ўрану U-235, які можа дзяліцца на два «асколкі» пры захопе нейтрона і падтрымліваць ланцуговую рэакцыю дзякуючы таму, што падчас дзялення яго ядраў акрамя прадуктаў дзялення ўтвараюцца дадатковыя нейтроны.

Цяпло ў рэактары выдзяляецца за кошт ланцуговай рэакцыі дзялення ядраў урану U-235 пры паглынанні імі запаволеных нейтронаў. Прадукты дзялення — «асколкі» ядраў — маюць вялізную хуткасць, і іх кінетычная энергія ператвараецца ў цеплавую падчас тармажэння ў рэчыве паліўнай таблеткі. У час работы рэактара тэмпература ўнутры ЦВЭЛаў дасягае 1600°С.

У адрозненне ад урану, прадукты дзялення, сярод якіх ёсць і цвёрдыя рэчывы, і газы (ксянон, крыптон), маюць надзвычай высокую радыеактыўнасць, таму паліва і захоўваецца ў герметычных цырконіевых абалонках, якія перашкаджаюць пападанню асколкаў дзялення ў цепланасіцель першага контуру.

Паліва знаходзіцца ў актыўнай зоне рэактара 3 гады. За гэты час нязначная частка ЦВЭЛаў можа страціць герметычнасць у выніку ўзнікнення мікрашчылін у цырконіевых абалонках. З-за гэтага ў цепланасіцель першага контуру могуць трапляць прадукты дзялення, у асноўным газападобныя. Акрамя таго, пад уздзеяннем нейтронных патокаў у актыўнай зоне рэактара адбываецца актывацыя цепланасіцеля, г. зн. з’яўленне ў ім новых радыеактыўных ядраў. Асноўны ўклад у наведзеную радыеактыўнасць робяць актываваныя дамешкі цепланасіцеля (солі, прадукты карозіі, прадукты зносу рухомых частак абсталявання) і кісларод. У выніку ўсіх гэтых працэсаў цепланасіцель мае даволі высокую радыеактыўнасць, хоць і нашмат меншую за апраменена паліва ў ЦВЭЛах. Гэтыя факты добра вядомыя, менавіта таму ў сістэмах бяспекі рэактара прадугледжаны неабходныя меры для таго, каб цепланасіцель не мог апынуцца ў кантакце з людзьмі ці атмасферай. Акрамя таго, ажыццяўляецца няспынная ачыстка цепланасіцеля першага контуру ад дамешкаў, каб не дапусціць павышэння яго радыеактыўнасці звыш вызначанай мяжы.

Кіраванне і ахова ядзернага рэактара ажыццяўляецца праз рэгуляванне інтэнсіўнасці патоку нейтронаў пры перамяшчэнні па вышыні актыўнай зоны стрыжняў, якія паглынаюць нейтроны. Стрыжні зроблены з карбіду бору, рэчыва, якое моцна ўбірае нейтроны, і перамяшчаюцца ў спецыяльных накіравальных каналах, змешчаных паміж ЦВЭЛамі ўнутры паліўных зборак. Чым глыбей уведзены стрыжні ў актыўную зону, тым больш нейтронаў паглынаецца. Пры невялікіх перамяшчэннях стрыжняў уверх ці ўніз ланцуговая ядзерная рэакцыя будзе або

развівацца, або затухаць, г.зн. магутнасць рэактара будзе або ўзрастаць, або змяншацца. Пры глыбокім увядзенні стрыжняў ланцуговая рэакцыя цалкам спыняецца з-за моцнага паглынання нейтронаў. Перамяшчэнне стрыжняў ажыццяўляецца дыстанцыйна з пульта кіравання рэактарам.

Акрамя сістэмы кіравання і аховы, заснаванай на перамяшчэнні ўбіраючых стрыжняў, уздзеянне на нейтронны паток у актыўнай зоне ажыццяўляецца таксама з дапамогай борнага рэгулявання, г. зн. зменай канцэнтрацыі борнай кіслаты ў першым контуры. Пры высокай канцэнтрацыі борнай кіслаты ў актыўнай зоне адбываецца гэткае моцнае паглынанне нейтронаў, што ланцуговая рэакцыя спыняецца.

Размяшчэнне ўбіраючых стрыжняў унутры актыўнай зоны рэактара вызначаецца паводле вынікаў разлікаў і вымярэнняў нейтронных палёў. Звычайна, для кіравання магутнасцю рэактара і забеспячэння сіметрычнасці нейтронных палёў у актыўнай зоне рэактара дастаткова 10 працэнтаў кіруючых стрыжняў, а астатнія 90 працэнтаў знаходзяцца над актыўнай зонай і пры неабходнасці могуць быць выкарыстаны для экстраннага спынення рэактара аўтаматыкай ці аператарам з блочнага пункту кіравання. Пры аварыйным спыненні рэактара стрыжні звальваюцца ў актыўную зону за 1,2—4 секунды, што вядзе да спынення ланцуговай ядзернай рэакцыі.

Забеспячэнне бяспечнай эксплуатацыі ядзернай энергетычнай установкі грунтуецца на глыбокіх ведах пра ядзерныя, цеплавыя, хімічныя і механічныя працэсы, якія адбываюцца ў ёй, і высокім узроўні тэхнічнага забеспячэння.

Гарантаванню бяспекі эксплуатацыі атамнай станцыі, павышэнню надзейнасці і эфектыўнасці яе работы служаць і планавыя прафілактычныя работы, якія праводзяцца штогод на кожным з працуючых энергаблокаў. Гэтыя прафілактычныя работы, якія называюцца планава-папераджальным рамонтам (ППР), з'яўляюцца абавязковым этапам вытворчай дзейнасці ўсіх атамных электрастанцый. Мэты ППР — абследаванне і рамонт абсталявання для выяўлення і ліквідацыі схаваных дэфектаў; перагружванне ядзернага паліва; замена вузлоў і агрэгатаў, якія выпрацавалі рэсурс, мадэрнізацыя абсталявання. Адзін раз у чатыры гады дзеючы энергаблок выводзіцца ў капітальны ППР з суцэльнай выгрузкай ядзернага паліва з актыўнай зоны рэактара. У час капітальнага ППР робіцца абследаванне тэхнічнага стану і выпрабаванне ўнутрыкорпусных механізмаў, а таксама выпрабоўваецца трываласць корпуса рэактара.

## Карыстанне ядзерным палівам

Ядзерным палівам, «пажыткам» для ядзернага рэактара з'яўляецца рэчыва, у якім магчыма ланцуговая рэакцыя дзялення ядраў. Існуе толькі адно прыроднае ядзернае паліва — уран, дакладней, яго ізатоп U-235, які можа дзяліцца нейтронамі і падтрымліваць ланцуговую рэакцыю (ядзернае гаручае). Паліва, якое выкарыстоўваецца ў рэактарах тыпу ВВЭР, павінна мець прыкладна 4-4,5 працэнта ізатопу U-235, але колькасць гэтага ізатопу ў наяўным прыродным уране складае толькі 0,7 працэнта, астатнія 99,3 працэнта — ізатоп U-238. Таму спачатку прыродны ўран «узбагачаюць», павышаючы працэнтную колькасць U-235. Тады на заводах-вытворцах ядзернага паліва прасуюцца і спякаюцца таблеткі з двухвокісу ўрану з дадаткам неабходных кампанентаў, і вырабляюцца ЦВЭЛы, з якіх робяць цеплавыдзяляльныя зборкі (ЦВЗ).

Свежае паліва паступае на АЭС у выглядзе ЦВЗ, якія можна перавозіць зусім бяспечна — гэтыя зборкі перавозяць у транспартных кантэйнерах, распрацаваных у адпаведнасці з нормамі Міжнароднага агенцтва па атамнай энергетыцы (МАГАТЭ) спецыяльна для перамяшчэння ЦВЗ з завода-вытворцы на АЭС. У канструкцыі кантэйнераў прадугледжана ахова ад усіх магчымых аварыйных

сітуацый на транспарце. Натуральная радыеактыўнасць свежага паліва ў ЦВЗ дастаткова малая — ні апраменьванне людзей, ні значнае забруджванне мясцовасці нават у выпадку транспартнай аварыі немагчымыя. Агульная маса паліва ў выпадку поўнай загрузкі актыўнай зоны рэактара — каля 80 тон.

Карыстанне палівам, асабліва апраменeным, прадугледжвае асаблівыя меры бяспекі. На атамнай станцыі дзейнічае спецыяльная сістэма транспарціроўкі і захоўвання свежага і адпрацаванага паліва. Асноўныя аперацыі з ядзерным палівам наступныя:

— прыём, захаванне і падрыхтоўка свежага паліва да загрузкі ў рэактар;
— перагружванне паліва ў рэактар;
— захаванне адпрацаванага паліва;
— адпраўка адпрацаванага паліва з тэрыторыі станцыі.

Кожны пункт у гэтай паслядоўнасці аперацый выконваецца з дакладным захаваннем часавага і тэхналагічнага рэжымаў, правілаў тэхнікі бяспекі.

На атамнай станцыі свежае паліва знаходзіцца ў сховішчы свежага паліва. Тут ажыццяўляюцца ўсе аперацыі з ядзерным палівам да моманту яго загрузкі ў рэактар: прыём паліва, уваходны кантроль, захаванне (у спецыяльных чахлах), падрыхтоўка свежых ЦВЗ да загрузкі. Дастаўка ў рэактарнае аддзяленне ажыццяўляецца ў засцерагальных чахлах на спецыяльнай унутрыстанцыйнай платформе.

Адпрацаванае паліва (АЯП) мае высокую радыеактыўнасць, таму ўсе аперацыі па замене адпрацаваных ЦВЗ на свежыя, перастаноўцы ЦВЗ унутры актыўнай зоны рэактара выконваюцца з дапамогай спецыяльнага механізма — перагрузачнай машыны пад слоем вады, якая засцерагае персанал ад гама-выпраменьвання. А захаванне адпрацаваных паліўных зборак ажыццяўляецца ўнутры герметычнай абалонкі рэактарнага аддзялення ў стэлажах басейна вытрымлівання пад ахоўным слоем вады, якая змяшчае раствор борнай кіслаты. Гэта забяспечвае неабходную радыяцыйную ахову і ахалоджванне цеплавыдзяляльных зборак.

АЯП вытрымліваецца на АЭС не менш як тры гады, пры гэтым увесь час ажыццяўляецца кантроль узроўню і тэмпературы вады ў басейне вытрымлівання і канцэнтрацыі ў ёй борнай кіслаты. Пасля гэтага АЯП вывозяць на прадпрыемства па рэгенерацыі паліва ў спецыяльных транспартных кантэйнерах ТК-13, якія гарантуюць надзейную бяспеку падчас транспарціроўкі чыгуначным транспартам нават у выпадку чыгуначных аварый. Вываз паліва ажыццяўляецца спецыяльным эшалонам, у складзе якога ёсць некалькі вагонаў-агрэгатаў з транспартнымі кантэйнерамі.

АЯП з'яўляецца каштоўнай сыравінай, у выніку перапрацоўкі якой большая частка вылучаных элементаў будзе зноў выкарыстана, а аб'ём радыеактыўных адыходаў значна зменшыцца. Безумоўна, каб захаваць нормы бяспекі, усе аперацыі з адпрацаванымі ЦВЗ, у тым ліку і загрузка транспартных кантэйнераў, адбываецца толькі пад ахоўным слоем вады ў басейне вытрымлівання.

## Бар'еры бяспекі

Найважнейшым патрабаваннем прынцыпу глыбокаэшаланіраванай абароны з'яўляецца арганізацыя фізічных бар'ераў бяспекі. На шляху распаўсюджвання радыенуклідаў у навакольнае асяроддзе ствараецца цэлы комплекс незалежных перашкод — бар'ераў бяспекі, якія дзейнічаюць незалежна ад умяшальніцтва чалавека. Іх асноўная задача — максімальна ўтрымаць радыеактыўныя прадукты там, дзе яны стварыліся (у ЦВЭЛе, тэхналагічным контуры), не дапусціць пападання радыеактыўных рэчываў у навакольнае асяроддзе ў небяспечных для чалавека канцэнтрацыях.

Першым з такіх бар’ераў з’яўляецца непасрэдна спрасаванае ў таблеткі і спечанае да стану керамікі ядзернае паліва — «паліўныя матрыцы». У іх знаходзіцца асноўная колькасць нуклідаў, якія ствараюцца ў працэсе дзялення ядраў.

Другім бар’ерам, які перашкаджае пападанню прадуктаў дзялення ў цепланасіцель першага контуру, з’яўляецца трубчастая цырконіевая абалонка ЦВЭЛаў. Аднак і скрозь яе нукліды могуць у малой колькасці трапляць у цепланасіцель, бо ў абалонках ЦВЭЛаў могуць быць мікрадэфекты.

Трэцім бар’ерам бяспекі з’яўляюцца сценкі абсталявання і трубаправодаў першага контуру. Каб пазбегчы магчымага далейшага пападання нуклідаў у атмасферу, уся сістэма арганізацыі і кантролю якасці мантажу і функцыянавання першага контуру забяспечвае немагчымасць кантакту цепланасіцеля з атмасферай і персаналам. Для гэтага, напрыклад, перад пачаткам эксплуатацыі на першым контуры ажыццяўляюцца гідраўлічныя выпрабаванні з мэтай вызначэння трываласці і герметычнасці ўнутраным ціскам 250 атмасфер.

Чацвёртым бар’ерам з’яўляецца сістэма лакалізацыі наступстваў аварыі. Яна складаецца з герметычнай ахоўнай абалонкі, унутры якой размешчаны ўсё абсталяванне і трубаправоды першага контуру з радыеактыўным цепланасіцелем, і спрынклернай сістэмы. Уся ўнутраная паверхня абліцавана сталёвымі лістамі таўшчынёй 8 міліметраў, якія ўтвараюць цалкам герметычны аб’ём. Канструкцыя герметычнай абалонкі дазваляе вытрымліваць усе магчымыя знешнія ўздзеянні — землятрусы сілай да 7 балаў, смерчы, ураганы, пыльныя буры, паветраныя ўдарныя хвалі (напрыклад, падчас выбухаў). Праектам прадугледжана, што не будзе пашкоджанняў ахоўнай абалонкі падчас падзення самалёта з параметрамі: хуткасць 100 м/сек і масай 5,7 тоны.

Пятым бар’ерам з’яўляецца біялагічная ахова. Біялагічная ахова — комплекс канструкцый і матэрыялаў, якія абкружаюць ядзерны рэактар і яго вузлы, прызначаны для аслаблення радыеактыўнага выпраменьвання да біялагічна бяспечнага ўзроўню. Біялагічная ахова — гэта бар’ер для прадухілення ці абмежавання радыяцыйнага ўздзеяння на персанал пры нармальнай эксплуатацыі, парушэннях нармальнай эксплуатацыі, у тым ліку пры праектных аварыях.

## Як выкарыстоўваць радыеактыўныя адыходы

Вядома, што тэхналагічны працэс на атамнай станцыі суправаджаецца ўтварэннем вадкіх і цвёрдых радыеактыўных рэчываў і матэрыялаў. Напрыклад, у час работы ядзернага рэактара робіцца радыеактыўнай частка абсталявання першага контуру, а ў цепланасіцелі першага контуру назапашваюцца радыеактыўныя элементы — прадукты дзялення ядзернага паліва, а таксама актываваныя ў нейтронным патоку дамешкі і прадукты карозіі канструкцыйных матэрыялаў.

Да ліку цвёрдых радыеактыўных адыходаў належаць элементы абсталявання першага контуру з наведзенай радыеактыўнасцю, якія падлягаюць замене пры рамонце, напрыклад, датчыкі нейтроннага патоку, а таксама забруджаныя спецвопратка і старызна, фільтры сістэм газаачысткі. Да вадкіх радыеактыўных адыходаў належаць адпрацаваныя смолы іонаабменных фільтраў і канцэнтраваныя салявыя растворы сістэм спецводаачысткі.

На АЭС распрацаваны і дзейнічаюць тэхналагічныя схемы выкарыстання радыеактыўных адыходаў, якія цалкам выключаюць іх бескантрольнае пападанне ў навакольнае асяроддзе.

Цвёрдыя радыеактыўныя адыходы (ЦРА) збіраюць у спецыяльныя кантэйнеры ў месцах іх утварэння. Адначасова з загрузкай у кантэйнеры адбываецца сарціроўка ЦРА ў адпаведнасці з узроўнем актыўнасці. Для памяншэння аб’ёму

гаручыя ЦРА спальваюць у спецыяльных печах, абсталяваных фільтрамі, якія не дазваляюць выкідаць радыенукліды ў навакольнае асяроддзе разам з дымавымі газамі. Негаручыя ЦРА здрабняюць і прэсуюць. Пасля гэтай перапрацоўкі ЦРА змяшчаюць у сталёвыя ёмістасці і заліваюць цэментавым растворам. У такім звязаным выглядзе радыеактыўныя адыходы трапляюць у ячэйкі сховішча ЦРА, якія таксама знаходзяцца на тэрыторыі АЭС.

Ёмістасці ячэек сховішча разлічаны на захаванне ЦРА на працягу ўсяго часу работы АЭС. Ячэйкі сховішча зроблены з жалезабетону, дно ячэек знаходзіцца вышэй узроўню грунтовых вод, мае гідраізаляцыю зверху будаўнічых канструкцый і паддон з нержавеючай сталі. Над сховішчам адыходаў зроблены дах і перакрыцце, якія выключаюць пападанне атмасферных ападкаў у ячэйкі для захавання ЦРА. Сховішча знаходзіцца пад строгім дазіметрычным кантролем. Для кантролю ўцечак са сховішча ВРА па перыметры будынка зроблены назіральныя свідравіны, з якіх для аналізу на наяўнасць радыеактыўных рэчываў рэгулярна бяруцца воды. Асноўную частку агульнага аб'ёму ЦРА — каля 98 працэнтаў — складаюць нізкаактыўныя адыходы. ЦРА высокай і нізкай ступені радыеактыўнасці захоўваюцца асобна.

Можна ўпэўнена сказаць, што тэхналогія выкарыстання цвёрдых радыеактыўных адыходаў цалкам выключае іх кантакт са знешнім светам і ўплыў на чалавека, забяспечваючы ахову навакольнага асяроддзя і насельніцтва.

Вадкія радыеактыўныя адыходы (ВРА) утвараюцца ў выніку ачысткі цепланасіцеля першага контуру і іншых вадкасцей, у якіх маюцца радыенукліды. Для зніжэння актыўнасці (памяншэння колькасці радыенуклідаў) і падтрымання заўсёднага хімічнага саставу цепланасіцеля частка яго ўвесь час адводзіцца на фільтры ўнутрыконтурнай ачысткі ў блок спецводаачысткі. У якасці фільтруючых матэрыялаў выкарыстоўваюцца іонаабменныя смолы. Перыядычна іх замяняюць свежымі, адпрацаваныя смолы фільтраў спецводаачысткі збіраюць у ёмістасці прамежкавага захоўвання, які знаходзіцца ў спецкорпусе. Пасля вытрымлівання цягам пэўнага часу, каб паспелі распадацца радыенукліды з кароткім тэрмінам паўраспаду, гэтыя ВРА са стану напаўвадкага шламу пераводзяць у цвёрдую фазу — змешваюць з цэментам і заліваюць у сталёвыя бочкі. Пасля з імі абыходзяцца гэтаксама, як і з цвёрдымі радыеактыўнымі адыходамі.

Іншыя радыеактыўныя вадкасці — гэта дэзактывацыйныя і прамывачныя растворы, якімі апрацоўваюць абсталяванне, вада басейнаў вытрымлівання і перагрузкі паліва, вада бакаў аварыйнага запасу борнай кіслаты і гэтак званыя трапныя воды — выпадковыя працечкі цепланасіцеля і абмывальныя воды і растворы, выкарыстаныя для дэзактывацыі знешніх паверхняў абсталявання, а таксама падлогі, сцен і столі памяшканняў. Нават з вадой ад умывальнікаў, пральні і душавых, якая не лічыцца радыеактыўнай з-за вельмі малой колькасці радыенуклідаў, абыходзяцца, як з радыеактыўнай вадкасцю. Воды, вельмі забруджаныя механічнымі дамешкамі і хімічнымі злучэннямі, напрыклад, трапныя, падлягаюць упарванню. Іх аб'ём змяншаецца ў сотні разоў, а салявы канцэнтрат (кубавы астатак), які ўтвараецца ў выніку перапрацоўкі і ў якім маюцца ўсе радыеактыўныя дамешкі, застаецца ў якасці вадкіх радыеактыўных адыходаў. Гэты кубавы астатак мае кансістэнцыю вельмі вадкага кісялю. Яго запампоўваюць у спецыяльныя ёмкасці з нержавеючай сталі для вытрымлівання цягам 2-3 гадоў, пакуль не распадаюцца радыенукліды з кароткім тэрмінам паўраспаду, якія ствараюць асноўны радыяцыйны фон. Пасля вытрымлівання гэтыя ВРА накіраўваюць на дадатковае выпарванне, а тады цэментуюць у сталёвых бочках і надалей абыходзяцца, як з цвёрдымі радыеактыўнымі адыходамі. Дыстылят, які ўтвараецца пры ўпарванні трапных вод і іншых ВРА, пасля ачысткі на іонаабменных фільтрах вяртаецца ў тэхналагічны цыкл АЭС.

Арганізацыя перапрацоўкі, захавання і кантролю за станам вадкіх радыеактыўных адыходаў на атамнай станцыі дазваляе цалкам выключыць пападанне гэтых адыходаў у паверхневыя і грунтовыя воды. АЭС у дачыненні да навакольнага асяроддзя можна з поўнай падставай лічыць бяспечнай вытворчасцю.

## Гарантаванне бяспекі

Безумоўна, пытанням бяспекі на АЭС надаецца максімальная ўвага.

Трэба разумець, што «бяспека» кожнай складанай сістэмы, як і кожнага чалавека, кожнай супольнасці, краін і Зямлі ўвогуле з'яўляецца адносным паняццем і не можа быць абсалютнай. Тэрмін «бяспека» неабходна разглядаць як сістэму мер па абароне ад небяспекі, як здольнасць прадбачыць і прадухіліць небяспечныя сітуацыі.

Бяспека атамнай станцыі — гэта ўласцівасць забяспечваць ахову персаналу, насельніцтва і навакольнага асяроддзя ад радыяцыйнага ўздзеяння АЭС ва ўсіх рэжымах яе эксплуатацыі і ў любых аварыйных сітуацыях, абмяжоўваючы гэта ўздзеянне дапушчальнымі межамі. Выкарыстоўваючы ваенныя тэрміны, можна сказаць, што бяспека АЭС гарантуецца за кошт паслядоўнай рэалізацыі канцэпцыі глыбокаэшаланіраванай абароны. Яна заснавана на выкарыстанні сістэмы фізічных бар'ераў на шляху распаўсюджвання іанізіруючага выпраменьвання і радыеактыўных рэчываў, а таксама сістэмы тэхнічных і арганізацыйных мер па абароне гэтых бар'ераў, захаванні іх эфектыўнасці і мер па абароне персаналу, насельніцтва і навакольнага асяроддзя.

Канцэпцыя глыбокаэшаланіраванай абароны ажыццяўляецца на ўсіх этапах, пачынаючы з выбару пляцоўкі размяшчэння АЭС і яе будаўніцтва. Прыярытэтнай пры гэтым з'яўляецца стратэгія прадухілення неспрыяльных падзей падчас эксплуатацыі.

## Уздзеянне на навакольнае асяроддзе

Пры вывучэнні канструкцыі і функцыянавання атамнай станцыі асаблівая ўвага надавалася пытанням забеспячэння безаварыйнай эксплуатацыі і выключэння радыяцыйнага ўздзеяння на людзей і навакольнае асяроддзе. Зразумела, што рэальна ацаніць інтэнсіўнасць гэтага ўздзеяння на прыроду і чалавека можна толькі пры параўнанні з натуральным радыяцыйным фонам. Прыродны радыяцыйны фон прысутнічае ў кожнай мясцовасці заўсёды, а яго велічыня змяняецца ў залежнасці ад пары года, атмасферных умоў, актыўнасці Сонца і шмат якіх іншых фактараў, якія не залежаць ад дзейнасці чалавека.

У трыццацікіламетровай зоне назірання вакол АЭС прыродны радыяцыйны фон вар'іруецца ад 0,06 да 0,14 мікразіверт у гадзіну (мкЗу/г), за год атрымліваецца прыкладна 1 мілізіверт (мЗу/год) — гэта вынікі шматгадовых і рэгулярных вымярэнняў (зіверт — спецыяльная адзінка вымярэння эквівалентнай увабранай дозы выпраменьвання ў біялагічнай тканцы). Сярэдняя велічыня натуральнага радыяцыйнага фону ў розных раёнах Зямлі вар'іруецца ад 1 да 8 мЗу/год.

У адпаведнасці з сучаснымі навуковымі данымі доза радыяцыйнага апраменьвання цягам жыцця не назапашваецца і не выяўлена ўплыву радыяцыі на чалавека пры дозах меншых/ за 100—200мЗв нават пры аднаразовым (больш жорсткім) уздзеянні. Тым не менш, дзеючыя нормы радыяцыйнай бяспекі, прынцыпова распрацаваныя з вялікай перастрахоўкай, прадугледжваюць, што дадатковае апраменьванне насельніцтва, якое жыве паблізу ад атамных электрастанцый, не павінна перавышаць 1,0 мЗв у год, г. зн. не больш за ўзровень існуючага вакол

АЭС натуральнага прыроднага фону. Гэта надзвычай малая і цалкам бяспечная для чалавека велічыня. Шмат у якіх раёнах Зямлі натуральны радыяцыйны фон істотна вышэйшы і можа складаць да 280 мЗв у год (!), людзі жывуць у гэтых мясцінах тысячы гадоў, але ніякага негатыўнага ўплыву павышанага фону на здароўе насельніцтва ў гэтых раёнах не назіраецца. Дарэчы, для персаналу атамных станцый дазволена дадатковая сярэднегадавая доза да 20 мЗв — таксама даволі строгае абмежаванне.

## Усё ўлічана ў праекце

У праекце Беларускай АЭС улічаны асаблівасці інжынерна-геалагічных, гідрагеалагічных, структурна-тэктанічных і сейсмічных умоў пляцоўкі АЭС, прыняты тэхнічныя рашэнні і распрацавана шырокая сістэма мерапрыемстваў, якая зніжае ці выключае ўздзеянне станцыі на навакольнае прыроднае асяроддзе да экалагічна дапушчальнага і бяспечнага ўзроўню пры будаўніцтве і эксплуатацыі.

Якія ж гэта рашэнні і мерапрыемствы? У першую чаргу, да іх належыць выбар прамысловай пляцоўкі АЭС у такой мясцовасці, каб не адбывалася падтапленняў, а для паверхневых вод быў забяспечаны добры сцёк — усе паверхневыя воды старанна збіраюцца. Прадугледжаны і неабходныя меры для прадухілення ўцечак сцёкавых вод.

У канструкцыі АЭС ужыты неаднаразова правераныя тэхналогіі, вузлы і тэхнічныя сістэмы, быў улічаны вопыт эксплуатацыі шматлікіх энергаблокаў з рэактарамі аналагічнага тыпу, пабудаваных у Расіі і ў іншых краінах.

На пляцоўцы АЭС прадугледжаны сістэмы каналізацыі:

— гаспадарча-бытавая каналізацыя зоны свабоднага доступу;

— гаспадарча-бытавая каналізацыя зоны кантралюемага доступу;

— вытворча-дажджавая каналізацыя незабруджаных сцёкаў;

— вытворчая каналізацыя сцёкаў, забруджаных нафтапрадуктамі.

Гаспадарча-бытавыя сцёкі цалкам ачышчаюцца механічна і біялагічна. Ачышчаныя сцёкі зоны кантралюемага доступу пасля радыяцыйнага кантролю, у залежнасці ад паказчыкаў, накіроўваюцца альбо на ўстаноўку спецводаачысткі для іх перапрацоўкі, альбо на паўторнае выкарыстанне. Сцёкі вытворча-дажджавой каналізацыі АЭС адводзяцца ў сістэму тэхнічнага водазабеспячэння, а сцёкі, забруджаныя нафтапрадуктамі, ачышчаюцца ад іх і накіроўваюцца ў сістэму хімводаачысткі.

На АЭС створаны дзве сістэмы гаспадарча-бытавой каналізацыі — асобна для зоны свабоднага доступу і зоны кантралюемага доступу. Бытавыя сцёкі ад будаўнічай пляцоўкі адводзяцца ў каналізацыю зоны свабоднага рэжыму. Сцёкі пры гэтым цалкам біялагічна ачышчаюцца і абеззаражваюцца. У каналізацыю зоны кантралюемага доступу адводзяцца сцёкі санвузлоў рэактарнага аддзялення, будынка перапрацоўкі адыходаў, душавыя воды санпрапускнікоў пасля іх дазіметрычнага кантролю.

Сцёкі ад тых частак механізмаў, якія круцяцца, забруджаныя масламі і нафтапрадуктамі, ад гідрапрыбірання машынных залаў, памяшканняў дызельгенератараў, кацельнай спачатку ачышчаюцца ад нафтапрадуктаў на спецыяльнай устаноўцы. Чыстая іх кампанента вяртаецца на паўторнае выкарыстанне.

Пры парушэнні нармальнай работы ці пры няправільных дзеяннях персаналу станцыі адразу ж пачынаюць аўтаматычна дзейнічаць сістэмы бяспекі — як толькі адбудзецца змена тэхналагічных параметраў, на якія запраграмаваны сістэмы бяспекі.

Усе гэтыя сітуацыі прадугледжаны ў правілах абслугоўвання ўстановак атамнай станцыі і нормах тэхнікі бяспекі. Дарэчы, пажар на АЭС толькі ўмоўна можна

аднесці да экстрэмальных сітуацый. Лакалізацыя і тушэнне пажару ажыццяўляюцца пасіўнай і актыўнай супрацьпажарнай аховамі.

Дзеянні аператыўнага персаналу ў такіх выпадках дакладна абумоўлены; у залежнасці ад ступені важнасці аб'екта, які загарэўся, ацэньваецца магчымасць працягваць работу рэактарнай устаноўкі ці неабходнасць яе спынення.

## Параўнанне цеплавой і атамнай станцыі

Многа і падрабязна абмяркоўваецца ў літаратуры пытанне пра тое, як адаб'юцца на рабоце абсталявання атамнай станцыі розныя ўнутраныя і знешнія фактары. Мэтай гэтага абмеркавання была дэманстрацыя дакладнай прадуманасці і завершанасці праектных рашэнняў АЭС, надзейнасці і бяспекі яе эксплуатацыі. Ці ёсць рызыка і якая яна для насельніцтва, якое жыве ў раёне знаходжання станцыі?

Цеплавыя электрастанцыі, якія працуюць на арганічным паліве, выкідаюць у наваколле вялікую колькасць таксічных рэчываў — вокіслаў серы і азоту, якія не толькі могуць выклікаць захворванні верхніх дыхальных шляхоў, але і выпадаюць пасля на вялікіх тэрыторыях шкоднымі кіслотнымі дажджамі, а таксама дробнадысперсны лятучы попел, які мае прыродныя радыенукліды і цяжкія металы (нікель, хром, кадмій), якія могуць выклікаць анкалагічныя захворванні. Падчас работы вугальнай электрастанцыі ў атмасферу трапляе ў 2,5 раза болей радыенуклідаў, чым ад АЭС той самай магутнасці.

Параўнальная ацэнка магчымай шкоды для здароўя чалавека, нанесенай у выніку работы электрастанцый на ядзерным і вугальным паліве, паказвае, што шкода здароўю ад выкідаў ЦЭС у сярэднім у 500—700 разоў вышэйшая за выкіды АЭС, якая нармальна функцыянуе. Прычына гэтага — у нашмат больш небяспечным уздзеянні хімічных канцэрагенаў, якія ўтвараюцца ў час работы цеплавых электрастанцый (ЦЭС), уключаючы і попел арганічнага паліва. Вынікі атрыманы пасля доўгатэрміновых даследаванняў захворванняў і смяротнасці насельніцтва, што жыве ў рэгіёнах, дзе даўно дзейнічаюць ЦЭС і АЭС аднолькавай магутнасці. Акрамя таго, вынікі гэтых даследаванняў сведчаць, што дадатковая колькасць выпадкаў смерці ад раку для АЭС складае 0,5, тады як для звычайнай і, здавалася б, звыклай і небяспечнай цеплавой электрастанцыі — 200!

«Хвасты» выкідаў ЦЭС распаўсюджваюцца на сотні кіламетраў у адрозненне ад выкідаў АЭС — проста таму, што аксіды і попел, якія выкідаюцца, досыць лёгкія. Так што цяжка знайсці тэрыторыю, куды не дабіраецца дым ЦЭС.

Тут выкарыстаны некаторыя ўмоўныя адзінкі. Аднак параўнанне відавочна паказвае, што атамная станцыя, якая нармальна працуе, не стварае ніякай сур'ёзнай рызыкі для здароўя насельніцтва, якое жыве паблізу.

Выснова: правільна спраектаваная, якасна пабудаваная атамная станцыя, якую эксплуатуюць належным чынам, з'яўляецца надзейнай і бяспечнай вытворцай электраэнергіі. Пры гэтым АЭС выкідае ў навакольнае асяроддзе такую малую колькасць радыяцыі, што яе ўздзеянне на чалавека і прыроду практычна немагчыма выявіць.

## Заключэнне

*Відавочна, што чалавецтва не збіраецца спыняцца на дасягнутым і будзе працягваць свой рух наперад — да новых высокіх тэхналогій, новага ўзроўню вытворчасці, больш высокага ўзроўню жыцця. Магчымасці далейшага развіцця зямной цывілізацыі ў значнай ступені вызначаюцца яе энергаўзброенасцю. Суцэльнае энергетычнае забеспячэнне чалавецтва — гэта мэта, дасягнуць якой*

*наўрад ці людзі здолеюць у XXI стагоддзі. Гэта стагоддзе, відаць, зробіцца часам вострых палітычных і эканамічных крызісаў, абумоўленых недахопам энергетычных рэсурсаў, стагоддзем пошуку і бурнага развіцця альтэрнатыўных крыніц энергіі, якія дапаўняюць і замяняюць цеплавую энергетыку, заснаваную на выкарыстанні арганічнага паліва. Важнае месца ў гэтым працэсе займае ядзерная энергетыка — і традыцыйная на цеплавых нейтронах, і ядзерная энергетыка на хуткіх нейтронах, якая інтэнсіўна развіваецца і дазволіць зняць пытанне абмежаванасці запасаў сыравіны для ядзернага паліва.*

*Непазбежнасць развіцця ядзернай энергетыкі ў XXI стагоддзі зрабілася зразумелай для вялікай колькасці людзей, якія вызначаюць далейшыя накірункі развіцця чалавечай супольнасці — лідараў дзяржаў, палітыкаў, бізнесменаў, навукоўцаў. Нават тыя з іх, якія раней былі рашучымі праціўнікамі ядзерных тэхналогій, цяпер вымушаны прызнаць неабходнасць іх развіцця. Сам заснавальнік зялёнага руху Грынпіс англійскі прафесар Д. Лаўлок у 2006 годзе заклікаў адмовіцца ад «памылковага супрацьстаяння» ядзернай энергетыцы: «У нас няма часу эксперыментаваць з прывіднымі крыніцамі энергіі. Цывілізацыя ў небяспецы, і нам трэба выкарыстоўваць атамную энергію — адзіную бяспечную і даступную крыніцу энергіі. Ці пакутаваць ад болю, які ўжо неўзабаве нам прынясе зняважаная планета».*

*Для гарантавання энергетычнай бяспекі Беларусі сёння АЭС проста неабходная. Адказ на пытанне — якой зробіцца Беларусь XXI стагоддзя? — у вялікай ступені залежыць ад яе энергетычнага патэнцыялу, а, значыць, шмат у чым ад магутнай, эфектыўнай і бяспечнай ядзернай энергетыкі.*

***Пераклад з рускай***
***Ірыны КАЧАТКОВАЙ.***

Т

Таццяна ШАМЯКІНА

# МУЖНАСЦЬ І АДКРЫТАЯ ШЧЫРАСЦЬ

Анталагічна важнае, вызначальнае, душэўна глыбокае, найбольш хвалюючае ў чалавечым і творчым лёсе Алеся Савіцкага — яго ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне, адчуванне сябе, людзей свайго пакалення Пераможцамі, тымі волатамі, хто адолеў сусветнае зло, хто самую галоўную справу ў сваім жыцці зрабіў па-сапраўднаму годна. Загартаваны ў агні вайны, Савіцкі застаўся верны ідэалам юнацтва, сам, са сваім жыццёвым лёсам, сваім высакародствам з'яўляючыся своеасаблівым увасабленнем незабыўнага для народа часу. У адным з ягоных раманаў («Памерці заўсёды паспееш») героі-ўдзельнікі змагання з ворагам разважаюць пра сваіх сучаснікаў, якія пасля самай жахлівай, нябачанай у гісторыі вайны, бясспрэчна, будуць зусім іншыя. Сапраўды, пераможцы прынеслі ў мірнае жыццё асаблівае да яго, жыцця, стаўленне, іншае разуменне каштоўнасцей і чалавечага шчасця. Як правіла, ветэраны — людзі асаблівага гарту, неардынарнага характару. Савіцкі і ў свае сталыя гады заставаўся шчырым, выключна праўдзівым, бескампрамісным чалавекам. Паэт Браніслаў Спрынчан пісаў пра сябра: «Колькі ведаю пісьменніка Алеся Ануфрыевіча Савіцкага, не перастаю захапляцца яго аптымізмам, маладой, напорыстай энергіяй, што не паддаецца часу. Іншы ў такую жыццёвую пару або спачывае на лаўрах, або раздражнёна скардзіцца на тое, што дзеецца вакол, і ладзіць сваё існаванне выключна на бытавой глебе. Белавалосы, паджары, хуткі ў хадзе, ён нібы ўвасабленне неўтаймаванай энергіі і на знакамітай Лысай гары, дзе пісьменніцкія дачы, і тут, у Мінску. Сустрэнеш мімаходзь — і адразу бачыш: да ўсяго яму ёсць справа, ні да чаго ён не абыякавы. Як пісьменнік і як чалавек. І ў друку, і на радыё выступае з выразнай грамадзянскай пазіцыяй, і ў Саюзе пісьменнікаў не змаўчыць, калі пытанне трэба ставіць рубам, а не прымаць сумніўныя заявы скопам, хаваючыся адзін за аднаго».

Мужнасць і адкрытая шчырасць — той маральна-этычны фундамент, на якім трымаецца і мастацкі свет кніг А. Савіцкага. Таму яго творчасць неабходна ацэньваць не з пункту гледжання яе «камерцыйнасці», «упісанасці ў рынак», а як частку драматычнага і гераічнага летапісу часу. Пры гэтым усведамляючы, што і на час, асабліва савецкі, сёння з'явілася звычка глядзець толькі ў адным ракурсе, які выпрацоўваецца пэўнымі структурамі і асобамі, зацікаўленымі ў захаванні сваіх прывілей і маёмасці, нахабна нарабаванай у народа. Але савецкая гісторыя — не аднамерна-негатыўная, як ужо ўкаранілася ў свядомасці абывацеляў і моладзі; яна, гісторыя, надзвычай складаная ва ўсіх сваіх плюсах і мінусах, і ўспрымаць яе неабходна дыялектычна, хоць дыялектычны падыход, на жаль, усё больш страчваецца нават у навуцы.

Вырасла цэлае пакаленне літаратуразнаўцаў, філолагаў, якія гісторыю грамадства, гісторыю літаратуры, асобу і творчасць пэўных аўтараў разглядаюць з пазіцый модных стэрэатыпаў, аднабаковых падыходаў, поўнай або частковай культурна-інфармацыйнай летаргіі. У сапраўднасці ўсё было не так, як нам імкнуцца сёння прадставіць. Рэгрэсу, які ўсё больш сцвярджаецца ў жыцці і ў навуцы, неабходна супрацьпаставіць контррэгрэс. Ім можа быць толькі сапраўдная літаратура — літаратура як сведка часу, яго захавальнік у слове, шчырая,



*Алесь Савіцкі.*

мужная, праўдзівая, прасякнутая верай у дабро. Кнігі Савіцкага выкліканы да жыцця прагай творцы да мастацкага пазнання рэчаіснасці і імкненнем выказацца пра яе, выхаваць або абудзіць у чытачу грамадскае нераўнадушша. Творчы лёс А. Савіцкага — гэта пастаяннае супраціўленне энтрапіі — усеагульнай дэградацыі і распаду: элементам хаосу і ўпадку ён імкнецца супрацьпаставіць святло народных каштоўнасцей, гармонію прыроды і чалавечых адносін.

У лёсе Алеся Савіцкага бачыцца ўвасабленне высокага і драматычнага лёсу беларускай інтэлігенцыі ў XX — пачатку XXI ст.

Нарадзіўся будучы пісьменнік 8 студзеня 1924 года ў старажытным беларускім горадзе Полацку ў сям'і рабочага. Там жа правёў маленства. З восені 1939 года вучыўся ў сярэдняй школе ў Гродне. Як сам піша: «Да вайны я закончыў восем класаў, а ў 1942 годзе ўжо быў у партызанскім атрадзе «Смерць фашызму» пад Полацкам...» У 1943—44 гг. Савіцкі — камандзір падрыўной групы атрада «Бальшавік» Ветрынскага раёна на Віцебшчыне. Пасля вызвалення Беларусі знаходзіўся ў дзеючай арміі, удзельнічаў у баях за Польшчу, за ўзяцце Берліна. Быў тройчы паранены.

Дэмабілізаваўшыся ў канцы 1945 года, Савіцкі восем гадоў працаваў у рэдакцыі полацкай газеты «Бальшавіцкі сцяг». Адначасова з'яўляўся старшынёй Полацкага літаратурнага аб'яднання. Успамінаючы пасляваенныя гады, Алесь Ануфрыевіч піша: «З першага студзеня сорак шостага пачалася мая праца ў газеце. На першым часе ў рэдакцыі я быў мала і камандзіроўкі ішлі бясконца. Расоны і Дрыса. Глыбокае і Ушача. Асвея і Ветрына. Я бачыў вёскі, што не адбудоўваліся і вуліцы якіх зараслалі альхоўнікам — усіх жыхароў фашысты знішчылі. Бачыў жанчын, якія басанож па вясновай слоце неслі на сваіх плячах мяшэчкі з насеннем са станцыі, — а да станцыі той кіламетраў сорак! Бачыў, як гэтыя жанчыны, запрогшыся па чатыры ў плуг, аралі поле. Я сам цягаў гэты хамут. Я бачыў, як моршчыўся дзябёлы, добра ўкормлены амерыканец (амерыканская дэлегацыя была на Асвейшчыне ўлетку сорак шостага), адліваючы з кацялка ў бутэлечку крыху шчаўніку, чорнага, як зямля, нічым не запраўленага. Тады ў калгаснікаў не толькі Асвейшчыны была такая ежа. Я бачыў слёзы маці, горкія слёзы, калі сястра абярнула чыгунок з капустаю. Чыгунок быў ладны — ежа на ўвесь дзень! — і капуста тая была прыпраўлена маленькімі, як касячкі мядзяныя, кавалачкамі сала. Абярнуць такі чыгунок! Хіба прыдумаеш горшую бяду!.. Бачыў мізэрныя кавалачкі хлеба па картках, бачыў ордэры, па якіх давалі тры метры чорнага сукна на год. Такі ордэр у пачатку сорак шостага выдалі і мне. Быў цэлы савет у хаце: што з ім зрабіць... І калі цяпер я заходжу ў магазіны, дзе поўна ўсялякага дабра, я міжвольна прыгадваю той ордэр».

У 1958 годзе Савіцкі скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве, а ў 1961 годзе — аспірантуру пры гэтым інстытуце. Працяглы час з'яўляўся вучоным сакратаром Літаратурнага музея Якуба Коласа. У 1969—1973 гады — загадчык сектара літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ. Узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, Славы III ступені, Вялікай Айчыннай вайны I ступені, медалямі «Партызану Вялікай Айчыннай вайны», «За вызваленне Варшавы», «За ўзяцце Берліна», «Знакам Пашаны». Ганаровы грамадзянін горада Полацка.

Першы верш «На смерць сябра» напісаў у 1943 годзе ў партызанскім атрадзе. Першае апавяданне «Рыбацкае шчасце» апублікаваў у 1948 годзе ў полацкай газеце «Бальшавіцкі сцяг». Аўтар шматлікіх зборнікаў апавяданняў і аповесцей, раманаў. Творы Савіцкага выходзілі ў перакладах на рускую, украінскую, узбекскую, армянскую, чэшскую мовы.

Алесь Савіцкі — лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1970) за аповесць «Самы высокі паверх», прэміі Саюза пісьменнікаў СССР і ВЦСПС (1972) за лепшы твор мастацкай прозы аб савецкім рабочым класе — дакументальную аповесць «След пракладае першы» («Сверяю жизнь по времени»), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (2002) за дзіцячую трылогію «Дзівосы Лысай гары», у якую ўвайшлі раней выдадзеныя аповесці-казкі «Радасці і нягоды залацістага карасіка Бубліка», «Прыгоды Муркі» і «Яўгенка, Лінда і Рык», літаратурнай прэміі Расіі «Прохараўскае поле» (2010) за раман «Верасы» і трылогію «Дзівосы Лысай гары».

У творчасці А. Савіцкі — рэаліст у лепшым значэнні гэтага слова. Часам дзіўна чуць ці чытаць у аўтараў нават з навуковымі ступенямі і званнямі, што рэалізм — толькі «адлюстраванне рэчаіснасці», і адсюль грэблівае, асабліва ў маладых крытыкаў, да яго стаўленне як да нечага аджыўшага, струхнявелага, нямоднага. Між тым, рэалістычная літаратура не адлюстроўвае рэчаіснасць, а стварае іншую, паралельную сапраўднай, рэальнасць, не зліваючыся з ёй. Прычым да сапраўднай рэальнасці ва ўдумлівага аўтара ўзнікае шмат пытанняў, для якіх зусім не заўсёды знаходзяцца адказы ў створанай новай рэальнасці. Ды і самі пытанні не ставяцца «ў лоб», а раствораны ў дэталях, вобразах, выяўленчых сродках. Пісьменнік збірае іх у нейкую сістэму сэнсаў, не парушаючы магіі мастацкасці. Але ўдаецца гэта толькі сапраўды таленавітаму аўтару. Такому, як Савіцкі, размова пра творы якога непазбежна ўступае ў зону самой рэчаіснасці — ваеннага і пасляваеннага жыцця Беларусі.

Звычайна маладыя аўтары пачынаюць з апавяданняў. У сваіх ранніх апавяданнях, сабраных у зборніку «Белы гарлачык» (1965), Савіцкі закранае тэмы, якія потым шырока разгорнуцца ў яго аповесцях і раманах. Адна з іх — самае чалавечае і самае вечнае з пачуццяў — каханне.

У апавяданні «Сезоннікі» расказ вядзецца ад першай асобы — маладога лесаруба, які ў калектыве іншых, больш вопытных калег, працуе зімою ў леспрамгасе на лесанарыхтоўках. Як у апавяданні М. Горкага «Дваццаць шэсць і адна», так і ў творы Савіцкага штодня з'яўляецца да хлопцаў у барак, нібы сонейка, абаяльная дзяўчына — камсамолка Веля, якой даручана праводзіць сярод лесарубаў выхаваўчую работу і ў якую закаханы адзін з рабочых — Яўген. Але сітуацыя ў Савіцкага складваецца супрацьлеглая той, што апісваецца ў дарэвалюцыйным горкаўскім апавяданні. Веля — тонкая, далікатная, душэўная, Яўген — грубы, просталінейны, не пазбаўлены не толькі недахопаў, але і заган. Адносіны паміж маладымі людзьмі няпростыя. Драматызм узрастае, калі ў брыгадзіра лесарубаў у палонцы гіне жонка, і Веля бярэцца даглядаць яго дзяцей-сірот. Рэўнасць Яўгена, якую ён не можа, ды і не жадае хаваць, канчаткова раскрывае вочы дзяўчыны на яго чалавечую сутнасць.

Цяжка і іншай гераіні — Васіліне з апавядання «Белы гарлачык», што дало назву зборніку, — зразумець іншага чалавека і, значыць, знайсці свой лёс. Яна лічыць сябе непрыгожай, а таму не ўдзельнічае ў звычайных зборах моладзі. Выпадкова знаёміцца з Віцькам, які падабаецца ёй. Але яго грубасць і нястрыманасць адштурхоўваюць дзяўчыну. І толькі калі Віцька даказаў, што зразумеў сваю памылку, калі прынёс у пакой Васіліны белыя гарлачыкі — сімвал іх рамантычнага знаёмства, — Васіліна паспакайнела, прыняла хлопца такім, які ён ёсць, і вызначылася ў сваёй жыццёвай дарозе.

Вялікае ўзрушэнне перажывае сталы ўжо чалавек Васіль Гарнавы, аграном калгаса «Партызан», калі да іх у калгас прыехала інспектар з міністэрства, якая аказалася яго былой, яшчэ са студэнцкіх гадоў, каханай (апавяданне «Вольга прыехала»). У свой час яна ўзяла шлюб з іншым, больш «перспектыўным», а калі развялася, вырашыла вярнуцца да Васіля, ужо жанатага. Васіль бачыць, што Вольга, не саромеючыся, літаральна палюе на яго. Спачатку «Васілю было прыемна адчу-

ваць, што Вольга, тая самая Вольга, што некалі так бесцырымонна адкінула яго сяброўства, цяпер сама дамагаецца гэтага сяброўства, змагаецца за яго, хоча, каб ён быў з ёю». Успамін пра першае каханне, жаночая прыцягальнасць Вольгі, ды і мужчынскі гонар моцна парушаюць душэўны спакой Васіля. Але сардэчнасць і пяшчота яго жонкі Марылі разбураюць насланнё, вяртаюць упэўненасць у сабе і разуменне, дзе і з кім яго сапраўднае шчасце.

Сумленне і вернасць перамагаюць і ў душы гераіні апавядання «Мітуліца» Ганны. Раз'ехаўшыся з мужам Раманам, яна пачынае сустракацца з Васілём. Убачыўшы недахоп у Васілю душэўнай далікатнасці, Ганна прымае рашэнне — і дзеля сына, і дзеля вылатавання запіўшага Рамана — вярнуцца да мужа. Праз пэўны час Савіцкі вернецца да той жа ці падобнай сітуацыі ў творах, якія зрабіліся шырокавядомымі і папулярнымі ў чытачоў, — рамане «Толькі аднойчы» (1979) і аповесці «І нічога ўзамен» (1971).

У першых ужо апавяданнях Савіцкі выбраў манеру нетаропкага, але ўнутрана драматычнага аповеда, насычанага шматлікімі мастацкімі падрабязнасцямі, дэталямі побыту, пейзажу, аналізам псіхічнага жыцця герояў. Пісьменнік, не баючыся замаруджвання дзеяння, смела ўводзіць, нават у невялікія апавяданні, другарадных персанажаў, дае ім характарыстыкі, паказвае іх стасункі з галоўнымі героямі. Яго цікавяць і абставіны працы людзей, і іх быт, і нават адзенне. Фактура твораў ёмістая, багатая на рэаліі часу. А тое, што найбольш важным для людзей з'яўляецца каханне, сведчыць, пры ўсіх матэрыяльных цяжкасцях пасляваеннага часу, пра жыццяздольнасць ладу і ўпэўненасць людзей у будучым.

Паралельна з апавяданнямі Савіцкі ствараў і буйныя творы. У 1960 годзе ў Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшла яго аповесць «Кедры глядзяць на мора», напісаная пісьменнікам яшчэ ў 1956 годзе Аповесць не на беларускім матэрыяле — на сібірскім: пра будаўніцтва Брацкай ГЭС. Савецкае грамадства жыло тады грандыёзнымі — у Сібіры, на Волзе — будоўлямі магутных электрастанцый, дзякуючы таннай электраэнергіі якіх хутка ўзнялася прамысловасць СССР.

Сюжэт аповесці нязвыклы, нават экзатычны, улічваючы месца дзеяння, для тагачаснай беларускай літаратуры: хлопец з Полаччыны Пятрусь Каваль, які з-за памылкі маладосці адседзеў тры гады ў турме, прыязджае на вялікую будоўлю Сібіры, каб пачаць новае жыццё. Спачатку ўладкоўваецца простым рабочым, хоць марыць аб машыне, бо лічыць сябе, ды і сапраўды з'яўляецца, нядрэнным шафёрам. Цяжкая і непрэстыжная праца, жыццё ў палатцы, сібірскія маразы не палохаюць Каваля: работы ён не баіцца, да суровых умоў прызвычаіўся, калі адбываў тэрмін зняволення на Поўначы. Больш хвалююць хлопца стасункі з рознымі людзьмі і асабліва — з інжынерам Палінай, да якой з першай сустрэчы адчуў вялікую прыхільнасць. Розныя нюансы пачуцця Каваля да Паліны — той псіхалагічны стрыжань, які ў многім трымае фабулу. Савіцкі паказвае Каваля чалавекам складаным — яшчэ з нявыпрацаванымі ў поўнай меры тымі рысамі сапраўды мужчынскага характару, якія самога Пятра захапляюць, скажам, у яго старэйшым калегу Стаеве: «Пятрусь палюбіў Стаева за чуласць, шчырасць і спакойную ўпэўненасць, з якой той рабіў любую справу». Каваль яшчэ па-хлапечы зухаваты, нешта ў сабе дэманструе і пры гэтым любуецца сам сабою: «... буяла ў сэрцы магутнае пачуццё ад сваёй велікадушнасці, што вось ён, Каваль, дараваў ёй і грубасць, і крыўду...» Сапраўды, Паліна пры першай сустрэчы, не жадаючы таго, пакрыўдзіла хлопца — ён надзвычай балюча ўспрымаў напамін аб сваім турэмным мінулым.

Каваль урэшце атрымоўвае машыну і наладжвае адносіны з Палінай. І ўсё ж гарачая, няўрымслівая натура, пастаянная нецярплівасць, каб усе яго жаданні хутчэй спраўджваліся, яшчэ не раз прыводзіць хлопца да непаразуменняў з калегамі і начальствам, да этычных і этыкетных памылак у розных сітуацыях. Але Пятрусь не толькі горнецца да лепшых людзей — Паліны, Стаева, але і бярэ з іх прыклад, выпрацоўвае волю: «... кожны раз, калі ён вырашаў што-небудзь канчаткова і

цвёрда, усё атрымліваецца так, як наважыў». Змяняецца чалавек і пад уплывам кахання: пачынае паводзіць сябе з нечаканай нават для яго самога далікатнасцю і сціпласцю. Жаданне зрабіць любімаму чалавеку нешта прыемнае, сумленне ў адносінах з дзяўчынай, вялікай працаўніцай, развівае ў ім пачуццё шчырасці да работы — паступова выпрацоўваецца ў хлопцу проста арганічная немагчымасць хлусіць, крывадушнічаць, парушаць закон.

Аўтар імкнецца паказаць, што добрыя ўчынкі і праца над уласным характарам і разумова развіваюць чалавека. Каваль пачынае задумваецца над сэнсам жыцця, сваім лёсам: «Галоўнае ў жыцці... Раней ён не думаў пра гэта. Падзеі ў яго жыцці набягалі адна на адну, сутыкаліся, віравалі, і не было ні часу, ні жадання разважаць і шукаць тое істотнае, што прыносіць задавальненне і адчуванне ўласнай годнасці. А можа, ён гэту годнасць страціў назаўжды: чалавеку, які прайшоў турму, нельга разлічваць на тое, на што можа разлічваць чалавек з біяграфіяй чыстай, які ідзе правільным шляхам з самага маленства? Раней, сам таго не заўважаючы, ён адцягвае свае думкі ад такіх пытанняў; яны існавалі ў яго душы некранутыя. Усё тое, што адбылося з ім у апошні час, разварушыла тую патаемную схованку: трэба і разважаць, і прымаць нейкія пэўныя рашэнні».

Вечны боль за сваё ганебнае мінулае не толькі прыгнятаў, але і прымушаў шукаць магчымасці самасцвярджэння. Пятрусь прагнуў нейкай асаблівай працы, геройства, якое б узняло яго і паставіла на адзін узровень з паважанымі ім людзьмі. З той жа Палінай. У надзвычай цяжкіх прыродных умовах канца зімы, калі раставаў лёд і на рацэ стала небяспечна, Каваль з рызыкай для жыцця працаваў на адсыпцы перамычкі. Дзякуючы шафёрскаму майстэрству і волі ён выходзіць пераможцам з неверагоднай сітуацыі, як бы пацвярджаючы словы Паліны: «той, хто можа трымаць сябе ў руках, мацнейшы за таго, хто стварае гарады». Але было нешта, што ставіла яго, мужнага мужчыну, намнога ніжэй за Паліну. Адукацыя. Заклік дзяўчыны пачаць вучыцца ў школе рабочай моладзі не вельмі быў даспадобы ганарліваму Кавалю. А вымова і карыкатура на яго ў газеце і зусім вымусілі збегчы з будоўлі. Прызнацца, гэты ход аўтара не зусім псіхалагічна абгрунтаваны, магчыма, ён патрэбны для стварэння эфектнай метафары — параўнання характару чалавека з бурлівай ракой. Перабраўшыся з правага берага Ангары, дзе ішла будоўля плаціны, на левы, у стары гарадок Брацк, Каваль перад тым, як сесці на параход і паплыць невядома куды, сузірае магутны рачны парог — Падун, які, уласна, людзі і намераваліся пакарыць. Міжволі Каваль (прозвішча нагадвае на неабходнасць «каваць» свой лёс) параўноўвае сябе з Падуном: «Ён лічыў сябе гарачым чалавекам, чалавекам буйнай і парывістай натуры, адкрыта ён дараваў сабе, а ўпотай — ганарыўся. Але гэта проста памылка. Нічога такога ў яго натуры няма! Ён быў тады проста слабы і бязвольны чалавек. І Паліна праўду казала яму тады: не хапае чалавеку вытрымкі, умення трымаць сябе ў руках. Вось ён, грымучы Падун, сляпая стыхійная сіла — што каму можа даць яна, калі не ўтаймавана і крышыць усё на сваім шляху? Быць падобным да яе і ганарыцца гэтым? Благая справа, благая...»

Каваль вяртаецца на будоўлю і ўдзельнічае ў рашучым штурме — перакрыцці ракі. Ён адчувае ў сабе магутную сілу, бо ў яго паверылі, і ён, каб апраўдаць давер, гатовы на гераічныя ўчынкі. Пісьменнік сам, дарэчы, быў на перакрыцці Ангары, і таму яго апісанне набывае значэнне не толькі мастацкай з’явы, але і гістарычнага дакумента.

Ці былі ў той час падобныя да Каваля асобы? У тым і справа, што былі. Менавіта такія, як быццам звычайныя, не пазбаўленыя недахопаў, юнакі і дзяўчаты перакрывалі рэкі, узводзілі плаціны і велізарныя прамысловыя аб’екты, робячы з СССР магутную сацыялістычную дзяржаву, другую па індустрыяльным патэнцыяле ў свеце. Сустракаліся, натуральна, і іншыя людзі — і яны мільгаюць на старонках аповесці — прыстасаванцы, тыя, хто ехаў у Сібір толькі па доўгі рубель. Заўсёды і ўсюды ёсць розныя асобы, і справа ў тым, хто перамагае. Ад

гэтага залежыць нават лад грамадства. Праўда, пра лад, дзяржаву, палітыку героі А. Савіцкага тады не думалі абсалютна і не гаварылі. Людзі, якія нарадзіліся ў савецкай дзяржаве, успрымалі яе як адзіна магчымую і найбольш прагрэсіўную, а партыйна-камуністычную пануючую ідэалогію, натуральна, накіраваную, перш за ўсё, на забеспячэнне справядлівасці. Між тым, з хрушчоўшчыны пачалася дэградацыя наменклатуры, пераўтварэнне яе ў эгаістычны квазікпас, клас для сябе, які не толькі разбэшчваў сваім адмоўным прыкладам грамадзян, але і прывёў, урэшце, да развалу СССР. У канцы 50-х, нават у 60-я гады, гэта яшчэ, калі і заўважалася, то сур'ёзна не ўспрымалася: дзейнічала інерцыя Перамогі, панаваў усеагульны энтузіязм, ажыццяўляліся велізарныя, кансалідуючыя грамадства праекты, савецкія людзі яшчэ мелі сілы супрацьстаяць дэградацыі — стваралася ўражанне, што дзяржава на ўздыме. Пісьменнікаў тады хвалявала не палітыка, а менавіта станаўленне новага чалавека, фарміраванне яго ў неверагодна імклівай стваральнай дынаміцы, выхаванне ва ўмовах сацыялістычнай рэальнасці. А грандыёзныя індустрыяльныя будоўлі — якраз рэаліі сацыялізму. Што і дэманструе дастаткова яскрава ранняя аповесць А. Савіцкага.

Прыблізна ў той жа час (пазначаны 1962 годам) Савіцкі піша свой першы раман — «Жанчына». Назва не з самых удалых: ёсць у ёй нешта прэтэнцыёзнае, хоць задача аўтара высакародная — стварэнне вобраза сапраўднай савецкай жанчыны, як ён разумеў яе. Гераіня — маладая жонка, студэнтка-завочніца, рабочы чалавек. Кахае свайго мужа Міхася, але вымушана пакінуць яго, не вытрымаўшы яго п'янства і мяшчанскіх памкненняў. Сітуацыя ў прынцыпе тыповая, прычым менавіта ў савецкай рэальнасці, калі жанчына пачала адчуваць сябе самастойнай, матэрыяльна і сацыяльна незалежнай ад мужа. Стэфа жыве адна на прыватнай кватэры, нараджае дзіця, сама гадуе, калегі па рабоце дапамагаюць. Жыццёвыя выпрабаванні змяняюць погляды маладой жанчыны, прымушаюць яе інакш паглядзець на свае адносіны з Міхасём. Яна задумваецца над тым, што «сапраўднае каханне зусім не ў тым, каб зрабіць нешта прыгожае для чалавека каханага, а здольнасць і ўменне прыняць ад яго самае горкае, крыўднае, магчыма, нават несправядлівае». Гераіня не цярпіць спажывецкага стаўлення не толькі да рэчаў, але і да людзей, у прыватнасці, да жанчын, таму ўсімі сваімі ўчынкамі імкнецца сцвердзіць у сабе чалавечую годнасць: «Няхай я жанчына... Слабая жанчына... Але я чалавек!» Праходзіць некалькі гадоў, Стэфанія працягвае кахаць мужа, які ганяе плыты па Дзвіне. Урэшце яны сустракаюцца, і яна, нікому нічога не сказаўшы, аказваецца з Міхасём на плыце, як бы перажываючы наноў на працягу двухтыднёвай рачной вандроўкі маладое рамантычнае каханне. Пасталеўшая гераіня прыходзіць да высновы, што каханню неабходна вучыцца. «А калі вучацца — тады і падаюць, і разбіваюць насы, і бывае балюча і непрыемна, калі адчуваеш, што зрабіў не так, як трэба. Каб быць моцным і перамагчы, трэба мець сілы адкінуць ад сябе тое, што перашкаджае ісці да мэты. І, відаць, ніхто не можа ўведаць гэтую важную навуку жыцця без болю і змагання са сваімі слабасцямі...» Стэфа зразумела сваю памылку ў адносінах з мужам: маладушна збегла, замест таго, каб змагацца за чалавека. Яна разумее, што шчасце прыйдзецца будаваць, і гэта будзе няпроста, улічваючы характар і жыццёвыя ўстаноўкі Міхася. Але загартаванай у жыццёвых нягодах Стэфаніі і не патрэбна простага мяшчанскага шчасця, не заваяванага ўласнымі намаганнямі. Слушныя думкі аўтара, выказаныя яго разумнай і душэўнай гераіняй, разгортваюцца ў шматлікіх вобразах і сітуацыях рамана, правяраюцца ў мастацкіх аргументах.

Заўсёды, ва ўсе эпохі, усе філасофскія, рэлігійныя вераванні, маральныя кодэксы зыходзілі з катэгарычнага імператыву — якім павінен быць чалавек. Уяўленні пра ідэальнага чалавека, безумоўна, былі розныя, але ва ўсіх вучэннях падкрэслівалася неабходнасць асобы працаваць над сабой. Няхай не ўсё ўдавалася Савіцкаму ў першых творах — можна, скажам, прад'явіць яму прэтэнзіі за другарадных персанажаў, якія не нясуць істотнай мастацкай нагрузкі, за спрошча-

ныя, як бы зададзеныя, фіналы, — але непарушнай заставалася яго ўпэўненасць у неабходнасці для чалавека гартаваць сваю душу. Прычым найлепш гэта ўдаецца ў калектыве — або працоўным, або сямейным. Сёння, у сучасных нам, маладзейшых за Савіцкага, пісьменнікаў, якія грэбліва, звысоку, іранічна паглядаюць на папярэднікаў, імпульс самастварэння проста адсутнічае, ва ўсім праглядае спажывецтва і сібарыцтва. Многія героі модных аўтараў (гэта менавіта тэндэнцыя), у адрозненне ад герояў Савіцкага, зусім задаволеныя станам сваёй душы, не прымушаюць яе працаваць; крытыкуюць толькі жыццёвыя ўмовы, якія далёка не заўсёды забяспечваюць сцверджаны тэлевізійнымі стандартамі камфорт. А па гэтай прычыне — калі душы і так добра — знішчаюцца забароны і маральныя табу: прынцып свабоды ва ўсім робіцца, пачынаючы з 90-х гадоў, важнейшай жыццёвай устаноўкай шмат якіх, прычым часта вядомых у грамадстве, асоб.

Пісьменнікі пакалення Савіцкага свабоду разумелі ў зусім іншым сэнсе, ды і не яна іх хвалявала, калі на вайне, у сапраўды неверагодных абставінах, яны ведалі толькі адну свабоду — уласнае сумленне. Абсалютнай свабоды ўвогуле не існуе — яна заўсёды павінна быць абмежаваная, іначай — хаос. У савецкі час была свабода ў тых межах, якія ўстанавіла эпоха. Мысляры гэта разумелі і адчувалі, таму паняцце свабоды не стала вызначальнай каштоўнасцю ў старэйшай плеяды пісьменнікаў (акрамя В. Быкава). Самае каштоўнае ў пакалення ветэранаў — імкненне да духоўнага прарыву. Прычым разам з усім грамадствам. І не іх віна, што магутная народная энергія разышлася, развеялася ў прасторы дарма — яна аказалася непатрэбнай уладарам СССР. Імкненні ж, у тым ліку ў інтэлігенцыі, былі высокія.

У 1964—1968 гадах А. Савіцкі, захоплены ідэяй неабходнасці хуткага аднаўлення краіны, піша яшчэ адну аповесць пра будаўнікоў — «Самы высокі паверх», якая была адзначана прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі. Аповед у творы вядзецца ад першай асобы — спачатку маладога будаўніка, затым маладога інжынера Лявона (у аповесці дзве часткі, аддзеленыя прамежкам часу ў пяць гадоў). Дзеянне адбываецца ў адным з раённых гарадоў на Дзвіне.

У першай частцы герой поўніцца радасцю жыцця, удаласцю ў працы, ён кахае Валянціну, шчыра сябруе з калегам Казімірам і будучым пісьменнікам Барысам. Ён непрымірымы да чалавечых заган: «... не магу і не буду раўнадушным, калі бачу хітраватае гультайства». Абураны, здзіўлены, пакрыўджаны, сутыкнуўшыся з першай у жыцці здрадай — сябра Віктара. І справа не ў тым, што Віктар паступіў у інстытут у Маскве, а сам Лявон застаўся ў родным горадзе, хоць паступалі разам: «Крыўда ў іншым: паміж намі не будзе ніколі ранейшай таварыскасці, поўнага даверу да канца, ва ўсім, як самому сабе... Вядома, сяброўства не павінна быць эгаістычнае. Але чаго варта сяброўства, калі яно рассыпаецца, як камяк падсохлага пяску, ад першага выпрабавання?..» У аповесці даследуецца, як жыццёвыя сітуацыі і розныя людзі загартоўваюць характар юнака, і кожны сваім прыкладам нібы ўносіць пэўную лепту: хто адданасцю справе, як Барыс, хто настойлівасцю, як Валя, хто мужнасцю, як Казімір, хто мудрай разважлівасцю, як людзі сталага веку — бацька Валянціны і брыгадзір будаўнікоў. Уласна, акрамя будаўніцтва дома з рознымі вытворчымі праблемамі, падзей у творы няшмат — хіба што затрыманне Казімірам злодзеяў, якія кралі на будоўлі пліты. Уся аповесць — плынь звычайнага для таго часу, хоць імклівага жыцця, і роздумы маладога героя аб ім. Гэта багата рэфлексуючая асоба, юнак, які шмат разважае аб сабе і аб тых людзях, хто з ім побач. Аналіз іх учынкаў дазваляе самому Лявону лепш разумець сябе і выпрацоўваць характар. Так, ён пакутуе на сумленне, што адмовіўся дзяжурыць на будоўлі, сцерагчы злодзеяў, бо захацеў паехаць на вёску да сваёй Валянціны, у выніку рабаўнікі паранілі Казіміра: «Я захацеў быць дужа шчаслівым і выбраў для свайго шчасця самую лёгенькую сцяжынку. А да сапраўднага шчасця няма лёгкіх дарог. Чалавек не можа быць шчаслівы і спакойны, калі ведае, што ягоны спакой здабыў ён не сам асабіста, што ён не заваяваў сваё

шчасце ў змаганні, а выштукаваў яго, выкруціўся неяк ад цяжкасцей і добра ўладкаваўся толькі сам...» Як бачым, Лявон паўтарае думкі Стэфы з рамана «Жанчына», хоць выкліканы яго меркаванні іншымі абставінамі.

У другой частцы аповесці Лявон, ужо шчасліва жанаты з Валяй, закончыў інстытут у Маскве і размеркаваўся ў свой родны горад, трапіўшы пад начальства былога сябра Віктара. Спружына дзеяння — барацьба Лявона з махлярствам кар'ерыста і прыстасаванца Віктара, які настойвае на парушэнні праекта новага дома, каб большым камфортам дагадзіць сваім начальнікам, маючым намер атрымаць кватэры ў прэстыжным доме. Стаяць да канца, вытрымаць выпрабаванне ў цяжкай барацьбе з бюракратыяй, ужо загартаванай у ашуканстве дзяржавы, аказваецца для героя самым складаным у жыцці. Не парушыўшы пад уціскам Віктара праект і напісаўшы смелы артыкул у газету пра хітруганаў-прайдзісветаў, герой адчувае сябе пераможцам: «І гэты дом — яшчэ адзін паверх, самы высокі паверх, у маім асабістым жыцці... Я адолеў яго. І цяпер дакладна ведаю, што ў нашым будзённым жыцці, у нашай паўсядзённай працы заўжды трэба быць шчырым і мужным. Інакш нельга. Калі ты быў шчыры і мужны ў дробязі сёння — заўтра ты будзеш шчыры і мужны ў вялікім».

Абаяльнасць аповесці А. Савіцкага — у дакладнасці мастацкага мадэлявання адзінкавага, непаўторнага, індывідуальнага павароту жыцця, выяўленага праз цікавую асобу і пэўную, тыповую для таго часу, сітуацыю. Змаганне з бюракратыяй — адна з актуальных тады літаратурных тэм, менавіта злабадзённая праблема: інтуітыўна пісьменнікі ўлавілі тое, што сапраўды пагражала самай страшнай небяспекай — будучым разбурэннем дзяржавы і прафанацыяй закона справядлівасці, галоўнага заваявання працоўных за ўсе вякі існавання цывілізацыі.

Характар і развражанні героя Савіцкага цяжка не параўнаць з характарамі і развражаннямі некаторых герояў сучаснай прозы. Апошнія, бясспрэчна, нашмат большыя інтэлектуалы, чым простыя рабочыя ці нават інжынеры прозы 60-х гадоў. Нельга аспрэчваць, што сённяшнія аўтары падаюць думкі і адчуванні сваіх персанажаў больш тэхнічна, выкарыстоўваючы ўсе прыёмы пруставускай і джойсаўскай плыні свядомасці. Ды толькі іх перажыванні зусім не накіраваныя на самавыхаванне — калупанне ва ўласнай душы не прыносіць ніякіх вынікаў, бо, па вялікім рахунку, іх нічога і ніхто, акрамя сябе, не цікавіць, ва ўсім — хата з краю. Інакш у Савіцкага, які ўласныя рысы байцоўскага характару і пасіянарнага тэмпераменту ў многім перадае сваім любімым героям. Усе яны — людзі дзеяння, якія знаходзяць у сабе сілы на значныя, сумленныя ўчынкі. Акрамя таго становучы герой Савіцкага, як і герой яго сяброў, паплечнікаў, калег — І. Мележа, І. Шамякіна, І. Чыгранава, І. Пташнікава — яшчэ дакладна ўпісваецца ў выразную, стагоддзямі народам выверaную сістэму каардынат, дзе абсалютна зразумела, у чым дабро і ў чым — зло. Ужо ў 80-я гады гэтая сістэма паспяхова пэўнымі сіламі размываецца, а канчаткова пераблытваюцца ўсе маральныя і эстэтычныя нормы ў «ліхія 90-я».

Дарэчы, баявітасць пісьменніку не даравалі — палітычная барацьба, вельмі завуаліраваная, глыбокападводная, ішла і ў савецкі час. А калі Савіцкі «верна служыў рэжыму», як гаварыла паміж сабою «эліта», значыць, крытыкі пра яго проста не пісалі, піяра, няхай і праз адмаўленне, ніхто прынцыпова не ствараў. Замоўчванне — лепшы спосаб барацьбы з «не сваім». Такія адносіны не дужа падабаліся пісьменніку, але ён не камплексаваў, а працягваў працаваць; ішоў паступовы, арганічны працэс назапашвання вопыту і мудрасці.

У 1967 годзе выйшаў яшчэ адзін, пасля «Жанчыны», вялікі раман пісьменніка «Палын — зелле горкае», не заўважаны, як і шмат якія іншыя творы Савіцкага, сур'ёзнай крытыкай. Між тым, раман цікавы і ў плане станаўлення таленту самога пісьменніка, і як паказчык пэўных сацыяльных працэсаў, і як наватарскі твор у галіне формы. У цэнтры ўвагі аўтара — вобраз старшыні беларускага калгаса «Партызан» Антона Корбута. Падрабязна і з веданнем справы малюецца

яго самаадданая праца як кіраўніка сельскагаспадарчага калектыву. Некаторымі рысамі Антон нагадвае Сяргея Тутарынава — героя рамана Сямёна Бабаеўскага «Кавалер Залатой Зоркі» (1947) — твора, у наш час абсалютна забытага, зняслаўленага і прызнанага адыёзным — лакіроўкай рэчаіснасці. Аднак у 50-я і нават у 60-я гады многія пісьменнікі, якія апісвалі сельскае жыццё, знаходзіліся пад уплывам знакамітага рамана расійскага аўтара. Сёння, перачытваючы раман Бабаеўскага, бачыш, што ён сканцэнтраваў увагу не столькі на цяжкасцях пасляваеннага аднаўлення гаспадаркі (а цяжкасці паказваюцца праўдзіва, хоць гаворка ідзе пра заўсёды багатую Кубань, дзе сама прырода спрыяе працаўніку), колькі на энтузіязме людзей — ветэранаў-пераможцаў, гатовых і здольных паднімаць суайчыннікаў на пераадоленне гэтых цяжкасцей. Тое ж можна сказаць і пра твор А. Савіцкага, але са значнымі карэктывамі. Па-першае, гаворка ідзе ўсё ж пра Беларусь, прычым пра самую неўрадлівую яе вобласць — Віцебшчыну, яшчэ і прайшоўшую ў вайну праз блакады, калі ворагі вынішчалі цэлыя вёскі, па-другое, час асноўнага дзеяння рамана — канец 50-х — пачатак 60-х гадоў, калі шмат зроблена ўжо да Корбута — яго папярэднікамі, праўда, стваральнікамі і разбуральнікамі ці не ў роўнай ступені. У тым і справа, што Антон — сёмы пасляваенны старшыня калгаса «Партызан». На гэтым лічбавым (ледзь не сакральным) кодзе будуецца структура твора, які ўяўляе сабою па сутнасці раман у рамане (нагадаю, што «Майстар і Маргарыта» М. Булгакава апублікаваны ў часопісе «Масква» ў тым жа годзе, што і твор А. Савіцкага, значыць, пра запазычанне структуры гаворка не ідзе). Асноўная лінія — работа і асабістае жыццё Антона — перарываецца час ад часу дзённікавымі запісамі нязменнага рахункавода калгаса Васіля Бялькевіча, які апісвае дзейнасць шасці папярэдніх старшынь, пачынаючы літаральна з Дня Перамогі. Запісы Бялькевіча, па аб'ёме роўныя сюжэту асноўнай лініі, — і ёсць самае цікавае ў творы, бо даюць, па сутнасці, асноўныя тыпы старшынь калгасаў таго часу, а галоўнае — зусім няпростыя працэсы ў пасляваеннай вёсцы. Але не менш прыцягальны ў творы — вобраз самога Васіля. Выключнае працалюбства, высокая адказнасць за справу, тонкае разуменне людзей, некаторая, ледзь заўважная, іронія да пэўных асоб, але і самаіронія, робяць вобраз Бялькевіча надзвычай абаяльным і таму запамінальным. Праўда, яго запісы не пазбаўлены рытарычнасці, голай інфармацыйнасці, паспешлівасці, але ж гаворка ідзе пра дзённік, які пішацца для сябе. Акрамя таго, стыль запісаў героя нечакана аказваецца надзвычай лаканічна-сучасным. Ён пазбаўлены галоўнага «недахопу» ўсіх твораў А. Савіцкага — іх багатай фактуры (якая сёння не цэніцца), перагружанасці шматлікімі падрабязнасцямі.

Вялікую сімпатыю Бялькевіча выклікае першы пасляваенны старшыня калгаса — былы партызан і вайсковец Лявон Крайко. Рахункавод апавядае пра разумныя, з клопатам пра людзей, крокі Крайко па аднаўленні гаспадаркі: пасадку садоў, бульбы, якая дасць гарантаваны ўраджай. Найбольш займальнае для сённяшніх чытачоў у Дзённіку — рэаліі пасляваенных гадоў, бясспрэчна, праўдзівыя, бо яшчэ ва ўсіх, у тым ліку ў самога аўтара, трывала жылі ў памяці. Адна з такіх яскравых рэалій — славутая, неаднаразова з праклёнамі асуджаная ў сённяшніх прабуржуазных СМІ, адсутнасць пашпартоў у калгаснікаў і немагчымасць выехаць ім з вёскі. Між тым, уведзеныя ў пачатку 30-х гадоў пашпарты ў горадзе — зусім не партыйны дыктат, а надзённая неабходнасць для гарадскіх улад рэгуляваць жыццядзейнасць складанай гарадской структуры, — у тагачасных невялікіх вёсках гэта было проста непатрэбна. Дык вось як выдаваліся даведкі для выезду з вёскі: «...я тую даведку цішком і падпісаў. Перад прозвішчам старшыні рыску паставіў. Хто яе, тую рыску, прыкмеціць? А Уладку вучыцца, думаю, трэба, бо хлопец з галавой». Такім манерам з вёсак выехалі не адзінкі, не тысячы — мільёны будучых гараджан, найперш маладых. Ужо тады людзі разумныя, як Бялькевіч, разумелі: «... навошта, калі падумаць, тыя даведкі ўвогуле? Хіба яна ўтрымае чалавека?... Як чалавек што надумаў, яго ніякай даведкай не прывяжаш...» Гэта наконт таталітарызму...

Калгас «Партызан» літаральна за год паднімаецца. На агульным сходзе пастанавілі: «выдаваць тым, хто працуе на лугах, пятую частку ад убранага і застагаванага» — кармы патрэбныя таму, што амаль на кожным двары завялася худоба — кароўкі, авечкі. Дарэчы, міжволі звяртаеш увагу на калгасную дэмакратыю — усе пытанні вырашаюцца калегіяльна (праўда, з падачы старшыні), і рашэнне калектыву — асноўны довад нават ужо ў 60-я гады для таго ж Антона Корбута ў яго барацьбе з раённай наменклатурай.

Пры ўсіх выдатных арганізатарскіх уласцівасцях Крайко і працалюбстве калгаснікаў, якія не выклікаюць сумнення, усё ж з Дзённіка застаюцца не праясненымі вытокі неверагодна хуткага, адразу пасля вайны, пад'ёму калгаса: адкуль саджанцы, насенне, будаўнічы матэрыял, каб ставіць новыя дамы за кошт дзяржавы? Справа, відаць, у тым, што ў раён, перажыўшы нямецкія блакады і інтэнсіўныя дзеянні франтоў на яго тэрыторыі, цэнтралізавана выдзяляліся дадатковыя сродкі. Ці справядліва гэта было ў адносінах да іншых, каму падымацца без знешняй дапамогі аказалася намнога цяжэй? Відаць, усё ж справядліва, улічваючы каласальныя страты і кашмар перажытага беларусамі (пазней яскрава паказанага ў ваенных раманах А. Савіцкага).

І ўсё ж галоўнае — самі людзі, іх талент, спрыт, уменне, іх прагнае жаданне хутчэй аднавіць мірнае жыццё. Пры гэтым і аддаваць дзяржаве патрэбна зусім нямала. Таму галоўны канфлікт рамана — па сутнасці, канфлікт калгаснікаў з раённай бюракратыяй, якая — дзеля ўласных прэмій і кар'еры — выбівала з калгасаў нарыхтоўкі намнога большыя, чым патрабавалася па планах. Так і калектывізацыя раней праводзілася, і, уласна кажучы, усе сельскагаспадарчыя кампаніі. Наконт аднаго з такіх «выбівал» ідэйны Васіль піша: «... ведаем, што дзяржаўнае заданне не выканаць нельга. Але ж навошта нас гэтак гнаць? Хіба мы не разумеем, што сваёй дзяржаве гэты хлеб вязём? Разумеем. І Крайко разумее. І кожны разумее. Таму і працавалі так старанна, і людзі спявалі на працы, і кожны хацеў зрабіць як мага больш і лепш — любата глядзець было, як завіхаліся. А гэты прыехаў, накрычаў і паехаў, бы вельмі важную работу выканаў. А што добрае ён зрабіў? Да нічога. Толькі настрой людзям папсаваў». Тады толькі настрой. Але за гады, дзесяцігоддзі крыўды працаўнікоў на ўлады раслі, множыліся, таму ў выніку і не пашкадавалі простыя людзі пра разбураны ў 1991 годзе СССР. Пашкадавалі пазней, калі прыйшлі іншыя дзеячы — намнога больш хціўыя і нахабныя, чым раённыя інспектары.

А добрыя людзі гінулі і рана паміралі. Старшыня падарваўся на снарадзе, што застаўся ад вайны, — тады гэта была звычайная з'ява. Крайко некалькі дзён не дажыў да Пастановы Саўміна СССР «Аб мерах па ліквідацыі парушэнняў Статута сельскагаспадарчай арцелі ў калгасах». Значыць, ведалі тады наверсе пра парушэнні і імкнуліся ліквідаваць іх як мага хутчэй. Эфектыўнасць улад якраз і вызначаецца веданнем імі абстаноўкі і ўменнем на яе рэагаваць. Але было ўсё ж шмат і дурноцця. Так, пры наступным старшыні Сімацкім раптам паступіла заданне ад вышэйшых улад на вырошчванне кок-сагызу. Што гэта — ніхто не ведае, кажуць, выгадная культура. Але выгадная дзе? Як яна будзе расці на нашых землях? — задае пытанне Бялькевіч. Сам ён незадаволены чарговым інфармацыйным шумам, лічачы, што неабходна больш пісаць пра аднаўленне нашых вёсак. Заўвага аўтара вуснамі Бялькевіча надзвычай слушная: гэта і было адным з асноўных недахопаў савецкай інфармацыйнай палітыкі — шумець пра другаснае і не ўмець (ці не жадаць) сказаць пра сапраўдныя дасягненні.

Новы старшыня аказаўся кар'ерыстам і прыстасаванцам: «Нешта ж дужа сіліцца ён выставіць сваю асобу ў выгадным святле, пнецца, каб прыкмецілі, пахвалілі і заўважылі». Сімацкага забралі ў райвыканкам, ён працягвае ціснуць калгаснікаў па кок-сагызу, але Бялькевіч, які заўсёды выконваў абавязкі старшыні паміж чарговымі іх прызначэннямі, разам з праўленнем вырашае засяваць поле гароднінай, і, бясспрэчна, цвярозы сялянскі розум у выніку перамагае. Наступны

старшыня Зябіч дзейнічае па-вайсковаму, смела і напорыста. Загадаў будаваць гасцініцу, лазню. Пры ім, трэцім старшыні, у канцы 40-х гадоў, правялі поўную электрафікацыю і радыёфікацыю сяла. Згадвае ў сваіх дзённіках Бялькевіч і некаторыя лічбы, узятыя з газет: у 1949 годзе Саюзны ўрад выдзеліў беларускім МТС 3000 трактароў, 220 грузавых аўтамашын, вялікую колькасць аўтаперасоўных майстэрань, тысячы плугоў, сеялак... Чытаючы ўсё гэта, можна сказаць, як пра раман С. Бабаеўскага, — кан’юнктура і лакіроўшчына. Але ж Савецкі Саюз надзвычай хутка аднавіў пабураную вайной гаспадарку, значыць, разважаючы лагічна, поспехі ўсё ж былі. Былі і добрыя калгасы, і старшыні, і выдзеленыя Беларусі машыны і матэрыялы. Тое, што жыццё паляпшалася даволі хутка, павінны памятаць людзі старэйшага ўзросту. Іншая справа, што не ўсе жадаюць памятаць. Таму і працінае жаль, які неаднаразова гучыць, дарэчы, і са старонак Дзённіка Бялькевіча: «Чалавек хоча лепшага. І правільна. Але чаму ён так хутка забывае мінулае?..»

Наступны старшыня Ліннік — былы партызан і культпрасветработнік. Інтэлігентны, ветлівы, цудоўна разбіраўся ў людзях. Цікавіўся найперш музычнымі калектывамі, клубам, шмат зрабіў у плане культуры і ўрэшце сам папрасіўся са старшынь у загадчыкі клуба, што яму было больш даспадобы. Пры ўсім раўнадушшы старшыні да сельскагаспадарчай працы калгас занеслі на абласную дошку гонару, бо шмат чаго было напрацавана раней, усё кацілася па звыклых рэйках, ды і кваліфікацыя ў таго ж Бялькевіча расла — многія рашэнні ён прымаў самастойна.

Пяты старшыня Маркман аказаўся чалавекам з выдатнымі камерцыйнымі здольнасцямі — як бы правобраз пазнейшых «прадпрымальнікаў». Ён арганізаваў у калгасе надзвычай выгодную справу: сеткай лавіць у Дзвіне рыбу і прадаваць яе ў горадзе на рынку. Іншымі відамі сельскай гаспадаркі старшыня цікавіўся толькі з пункту гледжання іх продажу, напрыклад, дастаткова прыбыткова гандляваў і торфам. У той жа час павялічваўся знешні ўціск: ад улад у пачатку 50-х гадоў штодня ішлі «тэлефанаграмы, папярэджанні, загады, патрабаванні». Натуральна, што з месцаў у адказ — усё больш прыпісак і хітрыкаў. Рэальная справа паступова замянялася папяровай — віртуальнай.

Шостага старшыню Валько цікавіла толькі будаўніцтва ўласнага дома. Бюракратычны стыль яго працы раздражняў Бялькевіча. «Згодзен я з ім толькі ў адным: трэба ўмацоўваць працоўную дысцыпліну...» Але як гэта рабіць, акрамя крыку, кіраўнікі тыпу Валько не ведалі. Паказальна іншае: калі адразу пасля вайны людзі працавалі шчыра і аддана, фактычна без прымусу, цяпер усё больш расхалоджваліся — вось ужо і ў добрым калгасе неабходна ўмацоўваць дысцыпліну...

Малады Антон Корбут — сёмы старшыня — дзейнічае іншымі, чым Валько, метадамі. Людзі яго прымаюць і давяраюць яму. Але ў яго разгараецца канфлікт з раённым начальствам. Антон просіць: «Вы мне калгас даверылі? Даверылі. Дык дайце свабодна дыхнуць, папрацаваць, паказаць, што можа даць зямля, што можна зрабіць з гаспадаркаю. Але толькі не тузайце, не падпіхвайце, не хадзіце за мной па полі і не торкайце пальцам...» На няшчасце, старшынёўства Антона прыйшлося на часы валюнтарыста Хрушчова, калі і нізавыя чыноўнікі дзейнічалі ў духу гарластага і хлуслівага партыйнадзяржаўнага кіраўніка. Антона знялі з работы і выключылі з партыі за «сабатаж у вырошчванні кукурузы». Калектыў пад кіраўніцтвам Бялькевіча абараніў Корбута, і вышэйшыя ўлады аднавілі яго на працы. Шчасліва-сентыментальны канец твора — тая прэтэнзія, якую можна прад’явіць аўтару. Але ці парушыў ён праўду жыцця? Як ні дзіўна, у той час можна было апеляваць да абкама і ЦК і дасягаць поспеху. Тым больш у Беларусі, дзе ў кіраўніцтве — былыя партызанскія важакі і вайскоўцы: склад яшчэ не сапсаванай прывілеямі наменклатуры тады кардынальна адрозніваў нашу рэспубліку ад іншых.

Разам з Брэжневым савецкая дзяржава ўваходзіла ў фазу ўстойлівасці і росквіту, адначасова страціўшы працоўны энтузіязм і пафас змагання. Прычым твор-

цы яшчэ аказаліся здатныя «трымаць удар»: імкліваму пашырэнню абывацельскай псіхалогіі яны супрацьпастаўляюць дух мужнасці і барацьбы. Невыпадкова з сярэдзіны 60-х гадоў у грамадстве ўзрастае разуменне значэння подзвігу народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Шмат якія беларускія пісьменнікі — ветэраны — на новым этапе, умудроныя жыццёвым вопытам і часавай дыстанцыяй, звяртаюцца да свайго ваеннага мінулага.

Алесь Савіцкі пачынаў партызаніць падлеткам. Памяць аб тых агнявых гадах назаўсёды засталася ў сэрцы. Прыйшоў і для яго час ацаніць свой лёсавызначальны этап жыцця. У 1975 годзе ён піша невялікую аповесць «Узаранае поле». У аснове сюжэта — прыватны эпізод з дзейнасці прыдзвінскага партызанскага атрада, для якога адной з галоўных праблем тады была — накарміць не толькі саміх партызан, але і насельніцтва, змучанае акупацыяй. Партызанскі райкам пастанавіў кожнаму атраду заняцца пасяўной. Маладога партызана Алега накіроўваюць у гаспадарчы ўзвод — саджаць бульбу. Падлетак, які лічыць сябе ўжо вопытным разведчыкам, абураны і пакрыўджаны. Ён па-юнацку яршысты, гарачы, камандзір жа з ім — паблажлівы і тактоўны.

Большая частка аповесці — плынь свядомасці, аформленая няўласна-простай мовай: успаміны Алега пра даваеннае мінулае — як сеяў бульбу з бацькам, як напісаў лепшае ў школе сачыненне, прыгадванне ўжо і ваенных эпізодаў, хлапечы гонар: «Ён жа, Алег, там, за Дзвіною, кожную сцежку ведае, кожную ручаінку, кожны пагорачак... Ён жа заўжды, калі яму даводзілася ісці з баявымі групамі да гравійкі ці чыгункі, выводзіў іх і добра, і ўдала...» Пісьменніка цікавяць псіхалагічныя дэталі, нюансы, ментальныя пераліві ў духоўным свеце падлетка, і перадае ён іх шчодра, тонка, любуючыся сваім юным героем.

Разам з вопытным, мудрым партызанам Гонтам Алег засявае поле, усё лепш усведамляючы важнасць сваёй задачы: «Садзіць бульбу пад самым, як гаворыцца, носам у немцаў! Гэта і смела, і дзёрзка! Гэта ўжо сапраўдная справа! І рызыкоўная!»

Справа, сапраўды, аказалася — як усё на вайне — надзвычай рызыкоўная. З процілеглага берага Дзвіны немцы заўважылі партызан-сейбітаў, пераправіліся і акружылі іх. Абараняючыся, Гонта суцяшае хлопца: «Свой бой, братачка, мы выйгралі. І вялікую справу зрабілі. І людзі гэтае поле памятаць будуць».

Партызан забіваюць. Гінуць два вялікія найбагацейшыя светы перажыванняў, мар, пачуццяў, думак, назапашанай мудрасці, жыццёвага вопыту, дзіцячай уражлівасці. Усё гэта ўкладзена ў невялікі па аб'ёме тэкст.

У 1984 годзе Савіцкі зноў вяртаецца да будняў партызанскага юнацтва ў аповесці «Белая знічка». Тут падлетак Міхась і стары Ахрэм едуць разам, каб знайсці некалі, у пачатку вайны, зробленую Міхасём у лесе схованку зброі. Калі напароліся на немцаў, Ахрэм выратоўвае Міхася і сам гіне. Успаміны пра сумесную з Ахрэмам працу ў гаспадарчым узводзе, пакуты сумлення за смерць старэйшага сябра, каханне да медсястры Ірмы, адносіны з іншымі людзьмі — самыя розныя аспекты псіхалагічнага жыцця хлопца робяцца аб'ектам пільнай увагі аўтара.

Часам узнікае ўражанне, што Міхась, як і Алег у папярэдняй аповесці, думае, разважае, адчувае залішне па-даросламу. Але ў тых абставінах — калі кожная хвіліна жыцця пад пагрозай — дзеці сталелі рана. Неабходнасць аналізу і ацэнкі любой з'явы вымагалася пастаянна зменлівымі сітуацыямі: успамінай, думай, узважвай — інакш не выжывеш. Вялікую ролю ў фарміраванні характару маладога чалавека (калі мець на ўвазе біяграфію самога пісьменніка) ці ў стане адлятаючай у нябыт душы (Савіцкі заўсёды надзвычай падрабязна апісвае смерць сваіх герояў), мелі людзі, якія ў тых найскладанейшых умовах аказваліся побач з героем-падлеткам. У аповесці «Узаранае поле» сталы Гонта здолеў унушыць хлопцу важнасць яго місіі, каб перад тварам смерці Алег адчуваў: «...яны з Гонтам ужо вышэй бяды, яны для яе недасягальныя ў тым сэнсе, што нікому ўжо не суджана змяніць і перарабіць тое, што яны пакідаюць пасля сябе — абсеянае, урobленае поле». Поле як сімвал пражытага недарэмна жыцця.

Разуменне свайго абавязку перад людзьмі дапамагае і Міхасю прыняць важнейшае для выратавання партызанскага атрада рашэнне. Падлетак разважае сам з сабою: «Двойчы ты, дружа, уцякаў ад бяды. Дзе ж уцякаў! Цябе другія ратавалі! Ахрэм на тым пагорку ахвяраваў сабой, даючы табе магчымасць уцячы... У другім выпадку Лёнік табе дапамог, галёкнуў, на сябе кулямётныя чэргі адцягнуў... Цяпер твая чарга, дарагі дружа! Твая чарга надышла ратаваць сяброў». Міхась скіроўвае на міны групу немцаў, якія прымусілі яго весці іх да месца дыслакацыі партызанскага атрада. Гіне і сам.

Пісьменнік даследуе здольнасць звычайнага чалавека да здзяйснення гераічных учынкаў. Інтэрв'ю ў газеце з нагоды свайго 85-годдзя Савіцкі недарэмна назваў «Зразумець вытокі мужнасці...» Усёй мастацкай сістэмай сваіх твораў ён сцвярджае, што на подзвіг здатныя людзі, выхаваныя ў пастаянным адчуванні пляча іншага чалавека і таму адказныя перад ім — іншым. Ад сябе скажам, што такое магчыма ва ўмовах сялянскай цывілізацыі (менавіта цывілізацыі), хоць ёсць у Савіцкага аповесць пра падлеткаў мірнага часу, прытым гарадскіх («Скажы мне праўду»), дзе таксама вырашаецца праблема фарміравання пачуцця таварыскасці. Бясспрэчна, у згаданых ваенных аповесцях мела месца і юнацкая рамантычная прага подзвігу, можа быць, некаторая нават рысоўка падлетка, гульня перад самім сабой. Але высокая гульня. У многіх іншых выпадках выток подзвігу — страшэнная нянавісць да ворагаў, прага помсты — нават цаною ўласнага жыцця. А таксама любоў. Савіцкага найперш хвалюе любоў маці, якая спраўджвае подзвіг дзеля дзяцей і будучага жыцця. Маці і дзіця — святы для сусветнага мастацтва сюжэт. Ён — адзін з галоўных у Савіцкага, які — у духу народных уяўленняў — працягвае высокія традыцыі хрысціянства з яго ідэалам Маці — Божай Маці. Маці ў творах Савіцкага — жанчына з вопытам, добрая, шчырая, працалюбівая, надзеленая дарам міласэрнасці і ўменнем разумець сваіх дзяцей, іх рашэнні. Дзеля дзяцей маці і сама ідзе на нетрывіяльныя ўчынкі, што яскрава выявілася ў ваеннай прозе Савіцкага.

Раман «Зямля не раскажа» (1980) уражвае сілаю праўды, з якой аўтар апісвае пакуты мірнага насельніцтва ва ўмовах акупацыі. Пачынаецца твор з першых тыдняў вайны, са сцэн эвакуацыі пад бамбёжкамі насельніцтва аднаго з беларускіх гарадоў на Віцебшчыне. Жонка вайскоўца, які даўно на фронце, Рэната з дзецьмі спазняецца на апошні эшалон, што вывозіў бежанцаў (подлы чалавек, будучы паліцай Смаль, высаджвае сям'ю з машыны пасярод лесу). Бадзяючыся па лесе, Рэната сустракае рэшткі аднаго з першых арганізаваных у мясцовасці партызанскіх атрадаў, дзе аказаўся яе старэйшы сын Генадзь, які на яе руках памірае ад ран. З вайскоўцамі, якія выходзяць з акружэння пад кіраўніцтвам Лагуціна, знаёмага Рэнаты, ідзе другі яе сын Алесь. З дачкой-падлеткам Валяй і маленькім Данікам Рэната вымушана вярнуцца ў акупіраваны горад. Цяжкасці жыцця ў зямлянцы, голад, смерць павешанага немцамі адзінага блізкага чалавека, які дапамагаў ёй, — старога суседа Бохача, немагчымасць атрымаць праўдзівыя звесткі пра сітуацыю на фронце — усе рэаліі таго жахлівага часу Савіцкі ўзнаўляе надзвычай падрабязна.

Пасля перамогі Чырвонай Арміі пад Масквой актывізуюцца гарадское падполле і партызанскія атрады. У сваёй зямлянцы Рэната і Валя вылечваюць параненага Лагуціна. Успыхвае каханне паміж Лагуціным і Валяй — яны ўпотай сустракаюцца. Рэната вымушана змірыцца з ісцінай, што дачка вырасла, стала дарослай, што разам з каханым бярэ ўдзел у смяротна небяспечнай барацьбе. Рабаванне немцамі агародзіка — адзінай надзеі Рэнаты на выжыванне, а галоўнае, хвароба Даніка, у якога немцы, як і ў іншых беларускіх дзяцей, бралі кроў для сваіх параненых салдат, вымагаюць Рэнату пайсці ў партызанскі атрад, дзе ваююць Алесь, Валя, Лагуцін. У атрадзе ёй даручаюць пячы хлеб для партызан. Місію сваю яна ўспрымае з вялікай адказнасцю. Аднак у 1942 годзе становішча партызанскіх атрадаў яшчэ надзвычай цяжкае, іх часта бралі ў асаду. Рэната

загінула ад катаванняў, не сказаўшы паліцаю Смалю і немцам, дзе схаваны партызанскі харч.

У сціслым пераказе сюжэта рамана немагчыма перадаць драму чалавечага існавання пад прыгнётам чужынцаў, трагізм існавання народа, і асабліва — жанчын, дзяцей, старых. Страта блізкіх, голад, адсутнасць лекаў, псіхалагічны ўціск з боку акупантаў і паліцаяў, вечны страх за дзяцей — пакуты Рэнаты невыносныя. Але трымаецца яна мужна і ў любой, самай кашмарнай, сітуацыі не губляе галавы. Моц маці — усіх беларускіх маці — пафас твора. Савіцкі піша: «Яна з дзецьмі — на сваёй зямлі. І гэтая зямля, гэтае паветра, прапахлае водарам лугавых траў, належыць ёй з дзецьмі, а не ім, гэтым праклятым чужынцам, якія ўварваліся ў яе, Рэнаціну, бацькаўшчыну». Зямля Радзімы робіцца адным з галоўных вобразаў рамана, які напоўнены любоўна апісанымі беларускімі краявідамі. Маці — зямля — гэтую сувязь у народзе адчувалі і ведалі спакон веку. Пісьменнік даследуе не міфалагічнае, а зусім рэальнае іх адзінства — зямлі і маці. І жыццё ў зямлі (зямлянцы), і гародніна, што выратоўвае ад голаду, і лясы, якія ратуюць дзяцей...

Усё гэта, як і пранікліва намаляваны вобраз маці — Марылі — уваходзіць таксама ў ваенную трылогію А. Савіцкага, якая складаецца з раманаў «Верай і праўдай» (1976), «Літасці не чакай» (1982), «Памерці заўсёды паспееш» (1983). Сябра-калега Алеся Ануфрыевіча — Іван Шамякін — піша ў прадмове да двухтомніка Выбраных твораў Савіцкага: «У цэнтры трылогіі — сям'я старога рабочага-палачаніна Елісея Крупні, даволі тыповая для нашага грамадства сям'я, і чытач знаёміцца з ёю таксама ў даволі тыповай з'яве даваеннага жыцця: у бацькоўскім доме, на сямейнай урачыстасці — ваенную Акадэмію Елісееў Ягор скончыў! — сабраліся амаль усе. Захар — дырэктар школы, Пахом — майстар на ліцейна-механічным заводзе, Ціхан — сакратар абкама. У братоў ёсць свае сем'і, у старога Елісея і жонкі шмат унукаў. І кожнага з іх не абміне вайна. І кожны з іх будзе мужна бараніць родную зямлю ад чужынцаў. Пісьменнік вядзе сваіх герояў ад першага дня вайны да партызанскага парада на вызваленай зямлі, на прыдзвінскай лугавіне ля Полацка, паказвае патрыятызм і масавы гераізм...» Расказаўшы фабулу трылогіі і акрэсліўшы кола галоўных герояў, Шамякін адзначае характэрную для Савіцкага манеру пісьма, калі разам з глыбокім псіхалагічным аналізам аўтар шырока выкарыстоўвае публіцыстычныя фарбы, «не баючыся нават і крута загусціць іх».

Разам з тым нельга не сказаць пра яшчэ адну яскравую асаблівасць стылю Савіцкага: яго выключную ўвагу да падрабязнасцей пейзажу і побыту, асабліва пейзажу — сваёй творчасцю ён назаўсёды занатаваў у свядомасці беларускіх чытачоў прыроду роднай Полаччыны, густыя лясы, магутную Дзвіну, якая любоўна згадваецца літаральна ў кожным творы. Устаноўка аўтара: сцвердзіць праз слова, захаваць у слове ўсё для беларуса дарагое і любімае. Бясспрэчна, апісанні замаруджваюць сюжэтнае дзеянне. Вось чаму і бывае патрэбная, каб «разбавіць» слоўны жывапіс, «голая» публіцыстычнасць. І. Шамякін, як можна меркаваць, меў на ўвазе імкненне сябра выказваць набалелае не столькі ў аб'ектыўна-пластычнай вобразнай форме, колькі ў прамых развагах герояў, дзе заўсёды чуваць і аўтарскі голас. Але логіка рашэння надзённа важных праблем для Савіцкага — і жыццёвая логіка, вобразы ў яго не аддзеленыя ад ідэі. Ці можна асуджаць пісьменніка-ветэрана за ідэйнасць творчасці, калі ён крыві сваёй не шкадаваў менавіта за ідэі — гуманізму, патрыятызму, справядлівасці?

Што тычыцца эстэтычнага боку твораў, то Савіцкі, хоць і любіць часам літаральна і надзвычай скрупулёзна фіксаваць ход падзей, але найперш перадае іх прычынна-выніковыя сувязі. Удаюцца яму і дыялогі. Надзвычай часта для перадачы думак сваіх герояў ён па-мастацку выверана карыстаецца няўласна-простай мовай, а гэта — адзін з самых складаных літаратурных прыёмаў. У раманах трылогіі пісьменнік ужывае і структурную форму, ужо апрабаваную ім ў рамане «Палын — зелле горкае»: уводзіць у асноўны сюжэт запісы немца Ромеля, які,

знаходзячыся ў гітлераўскім войску, шчыра служыў партызанам. «Блакнот Ромеля», хоць ён і намнога карацейшы за Дзённік Васіля Бялькевіча, цікавы, перш за ўсё, нязвыклым ракурсам погляду на падзеі чалавека з іншым, чым у беларусаў, менталітэтам і перакананнямі. Тым не менш і для яго галоўнымі каштоўнасцямі аказваюцца каштоўнасці чалавека-працаўніка: «... гадаваць дзяцей... спаць пад дахам свайго ўласнага дома, дзе ёсць хлеб і табе, і жонцы, і дзецям і які ты зарабіў сваім мазалём. Усё ж астатняе — падман і лухта!» Такіх, як Ромель, якія слалі праклён Гітлеру, было, відаць, нямала ў гітлераўскай арміі, і тут зноў-такі Савіцкі не адступае ад жыццёвай праўды. Людзі па абодва бакі фронту страшэнна стаміліся ад вайны. Калі ў першых двух раманах трылогіі аўтар канцэнтруе ўвагу на каласальным напружанні, з якім жылі і арганізоўвалі партызанскую барацьбу героі, то ў апошнім рамане «Памерці заўсёды паспееш» з яго атмасферай набліжэння фронту і хуткага вызвалення, асноўнае пачуццё ў партызан і насельніцтва — менавіта стомленасць, псіхалагічна як бы апошнія рэзервы змагання. У той жа час — усё большая адказнасць кіраўнікоў (скажам, камісара атрада Захара) за людзей і за сітуацыю ў цэлым, калі прыходзіцца мабілізоўваць увесь розум і ўвесь вопыт, за які ўсе гэтыя цяжкія гады «прыходзілася плаціць часам плату высокую і жахлівую».

У ваеннай трылогіі Савіцкага мноства герояў і безліч розных сітуацый, у якіх пераплятаюцца лёсы персанажаў. Такое неверагодна складанае счапленне жыццяў ва ўмовах самай страшнай вайны ў гісторыі толькі і мажліва паказаць у рамках жанру рамана — больш за тое, трылогіі (у той час стваралі цыклы раманаў і іншыя вядомыя пісьменнікі Беларусі). Пры гэтым важна ўсведамляць, што энергію жанру ў цэлым і канкрэтнаму твору заўсёды надавалі значныя асобы, якімі і былі як простыя партызаны, так і кіраўнікі змагання — будучыя кіраўнікі Беларусі. Ужо ў 90-я гады І. Шамякін, адзін з пладавітых і вядомых беларускіх раманістаў, тлумачыў, чаму ён пераключыўся з рамана на аповесць — не стала асобы, не стала ў самім, наскрозь камерцыялізаваным, жыцці прыкладаў для выхавання ў чытачоў чалавечых і грамадзянскіх пачаткаў. Толькі ў творы ваеннай тэмы такая асоба аказвалася ў цэнтры сюжэта і інтэнсіўна рухала яго. Акрамя таго, у 60—80-я гады, калі Савіцкі працаваў надзвычай плённа, у грамадстве яшчэ жыла цікавасць да кожнага чалавека з яго непаўторным унутраным светам (сёння такая цікавасць страчана), адсюль і пільная ўвага пісьменнікаў да псіхалагічнага жыцця герояў. Асабліва гэта заўважна ў адным з лепшых раманаў Савіцкага — «Верасы» (1985).

З вялікім майстэрствам вопытнага раманіста Савіцкі аб’яднаў у творы аўтарскі аб’ектыўны аповед з ракурсам погляду і ацэнкі падзей галоўнай гераіні — Насты. Студэнтка чацвёртага курса Маскоўскага медінстытута, яна летам 1941 года гасцявала на канікулах у маці ў Полацку. Адстала ад эшалона падчас эвакуацыі. Сустрэлася з некалькімі савецкімі вайскоўцамі на чале з Грачам, якія выходзілі з акружэння. У невялікім атрадзе аказаліся цяжкапараненыя. Грач па законах ваеннага часу мабілізуе Насту даглядаць іх. Зрабіўшы схованку ў гушчары лесу, маленькі атрад робіць неверагодныя намаганні, каб выжыць і выратаваць параненых. Паміж Грачам і Настай успыхвае каханне. Але Грач з ацалелымі ваярамі прымае рашэнне дагнаць фронт, не ведаючы, што ён надзвычай хутка адкаціўся пад Смаленск, і дайсці сотні кіламетраў да сваіх ва ўмовах акупацыі практычна немагчыма. Наста застаецца з трыма параненымі, кожны з якіх — няпросты па характары, жыццёвых перакананнях і сваёй уласнай думцы аб выжыванні.

Праблемы Насты — не толькі ў неабходнасці даглядаць параненых, рабіць перавязкі, карміць, але і даставаць ежу, а таксама здабываць інфармацыю пра сітуацыю на фронце, бо жыць без звестак аб магчымым лёсе маці і Грача — найбольш невыносна. Мясцовыя жыхары — сталая калгасніца і Хведар, якія памкнуліся дапамагаць Насце, жорстка пакараныя акупантамі. Становішча Насты настолькі драматычнае, што яе нярэдка ахоплівае адчай: і ад нявыкарыстанай магчымасці выратаваць Хведара, і ад няведання абстаноўкі, і ад адзіноты, ад

неабходнасці пастаяннай думкі пра іншых, ад таго, што Грач пакінуў яе адну: «Яму, Грачу, лёгка! Наабяцаў, разварушыў душу і знік. А ёй адно толькі і пакінуў: рызыку, працу і чаканне. Дык што ж, сто гадоў ёй тут чакаць, блукаць па вёсках, цягаць гэтую паклажу, абліваццa потам, калаціцца ад жаху?» Пачуцці маладой нявопытнай дзяўчыны, на якую нечакана звалілася каласальная адказнасць, пачалавечы зразумелыя і выклікаюць у чытача моцнае суперажыванне. Але Наста не дае пякучай болі авалодаць яе душой: сумленне, пачуццё адказнасці перамагае, калі яна думае, як зможа паглядзець у вочы бацькоў параненых салдат у выпадку, калі пакіне іх, бездапаможных. Успамінае дзяўчына і пра прафесійны абавязак — збіралася ж прысвяціць жыццё хворым людзям, і, значыць, нельга перакрэсліць мэту жыцця. Ды і параненыя, якіх яна да канца жніўня ўжо практычна паставіла на ногі, прызнаюцца ёй, што яе воля аказалася мацнейшай за іх волю і веру і шмат на што раскрыла ім вочы: «Ад тваe веры нешта добрае і нам перадавалася». Учатырох яны, выбраўшыся з балаціны, ідуць за фронтам. Але, аказаўшыся перад нямецкім штабам, вырашаюць знішчыць хоць колькі немцаў: «Хопіць, адседзеліся ў лесе! Трэба нішчыць гэтую погань фашысцкую, якая прынесла на Насціну зямлю гэтулькі бяды, крыві і гора! Трэба нелюдзяў гэтых нішчыць, што зламалі, скруцілі Насцін лёс!» Аднак напад аказаўся няўдалым — Насту смяротна параніла. У трызненні перад смерцю ёй бачацца любімыя людзі і як бы прайграюцца магчымыя сітуацыі, якія не спраўдзіліся: гэта якраз і ёсць голас сумлення, што не ўсё яна зрабіла так, як трэба. Хоць бывае, што сіла абставін мацнейшая за чалавека. Вечарам таго дня, калі дзяўчыну пахавалі, вярнуўся Грач, які ўзначаліў спецыяльную разведвальна-дыверсійную групу і таксама, як Наста пра яго, думаў пра Насту. Але ў вайну каханне рэдка заканчвалася шчасліва. Савіцкі ўзнаўляе праўду першапачатковага, надзвычай драматычнага, перыяду вайны, калі акружэнцы і мясцовае насельніцтва яшчэ толькі пачыналі ўсведамляць неабходнасць партызанскай барацьбы з ворагам.

Мужнасць і адкрытасць праўды, пафас чалавечнасці — той маральны фундамент, на якім трымаецца мастацкі свет Савіцкага ва ўсіх яго ваенных творах. Пры гэтым раман «Верасы» выявіў найбольш моцныя бакі Савіцкага-мастака. Чалавек і свет тут разглядаюцца на мяжы дзвюх стыхій — быцця і быту. Быццё — жыццё прыроды, адзінай абаронцы групы людзей, якія апынуліся ў неверагодна складанай сітуацыі, а таксама і каханне як самае прыгожае з чалавечых пачуццяў, што разгортваецца на фоне роднай прыроды. Быт — імкненне людзей выжыць, нягледзячы ні на што, а значыць, неабходнасць клапаціцца пра ежу, зброю, жыллё. У сваёй звычайнай манеры Савіцкі падрабязна апісвае тое прасторавае кола, у якім разгортваецца дзеянне. Цэнтр кола — гушчар лесу, балаціна, па радыусах — вёска, бровар, чыгунка, уласна, тыя маршруты, па якіх прыходзілася перасоўвацца героям твора, асабліва Насце. Маршруты апісваюцца самым падрабязным чынам, прычым з усімі дробнымі дэталямі — згадваецца літаральна ўсё, што бачыць гераіня па дарозе і што адчувае. Такая дэталёвасць кантактаў дзяўчыны з прыродай якраз і ўводзіць Насту ў сферу быцця, пры ўсіх яе самых будзённых і вельмі канкрэтных клопатах. Тут, у гэтай сферы, часцей за ўсё ў адзіноце, толькі і магчыма зразумець сваё прызначэнне, адчуць голас сумлення. У фетышызме дробязей думкі гераіні плывуць непасрэдна разам з рухам фізічнага перасоўвання, у дарозе, аб'ядноўваючы быццё і быт. Як ні ў адным з ранейшых твораў тэма прыроды — як быцця ў вечнасці — служыць у рамане для праяснення сэнсу, нясе важную канцэптуальную нагрузку. Гэтую сваю знаходку Савіцкі працягне ў наступных творах.

У ваенных кнігах А. Савіцкага шмат трагічных эпізодаў, і ўсё ж яго творы хвалявалі гонарам за беларуса, падтрымлівалі веру ў лепшае, сцвярджалі моц самага звычайнага чалавека. Сам Алесь Ануфрыевіч, не згаджаючыся з агульнапрынятымі стэрэатыпамі, у тым ліку абрыдлымі літаратурнымі шаблонамі, мае асабістую думку пра ваенную літаратуру. Ён лічыць, што «лейтэнанцкая проза» (Быкава, Астаф'ева, Някрасава) не ва ўсім вызначае праўду пра вайну. Ды, урэшце, і не яны былі пер-

шыя: «У той жа «Глыбокай плыні» Івана Шамякіна паказаны і здраднікі, і цёмныя бакі вайны... <...> Гаварылі, што ў першых пасляваенных творах ёсць лакіроўка, што патрэбна «акопная праўда»... Але я скажу: не было на вайне праўды генерала і праўды салдата. Было адно: ці ты заб’еш акупанта, ці ён цябе; ці ты будзеш рабом, ці свабодным; ці ты абароніш свой дом, ці яго спаліць вораг. Так, былі выпадкі, калі слабасць брала верх над чалавекам, і ён падымаў рукі і здаваўся ў палон... Але задача літаратуры, на мой погляд, убачыць у гэтым кашмарным пекле тое светлае і чыстае, што падтрымлівала чалавека. А яно было — я сведка. Немагчыма выдумаць тое, што вытрымлівалі на вайне. <...> Так, літаратура «акопнай праўды» здзіўляла аголеным болем, падрабязнасцямі страшнай працы забойства. Але ў літаратуры пра вайну ўсё ж галоўныя — іншыя старонкі. Пра мужнасць народа». У гэтых словах — ідэйная ўстаноўка А. Савіцкага і сутнасць яго твораў на ваенную тэму. Калі глянуць на творчасць пісьменніка цалкам, нельга не заўважыць, што любімыя героі Савіцкага, прайшоўшы праз ланцуг жыццёвых выпрабаванняў, у канцы кожнай кнігі абавязкова аказваюцца хоць на прыступку маральна вышэй, чым мы бачылі іх на першых старонках. Для многіх сучасных людзей вертыкальным стрыжнем, які вымагае дзейнічаць, «круціцца» ў жыцці, сталі грошы. У савецкі час прымушалі вертыкальна трымацца і нават цягнуцца ўверх іншыя стрыжні. Пра іх і гаворка ў творах А. Савіцкага, які ствараў свае кнігі з ясным усведамленнем: калі не напішу я, з маім унікальным ваенным вопытам, то хто напіша?

Разам з ваеннай тэмай хвалюе няўрымслівага творцу і сучаснасць. З пачатку 70-х гадоў пісьменнікі, ды і грамадства ў цэлым, усё больш пачыналі адчуваць не толькі вычарпанасць канкрэтнай сацыялістычнай савецкай мадэлі, але і вычарпанасць увогуле цывілізацыйнай мадэлі, у якой Усходу пастаянна неабходна даганяць Захад, і ў гэтай гонцы канкрэтны чалавек усё больш пачувае сваю нікчэмнасць і непатрэбнасць. Кантрапунктам для асобных пісьменнікаў стала сфера прыватнага жыцця, у якой таксама раскрываецца чалавек, як і ў ваенных творах, хоць, магчыма, з іншых бакоў. У рамане «Толькі аднойчы» (1971—1978) Савіцкі з быційных элементаў — прыроды і кахання — стварае свой уласны космас і ў ім жыве. Такі прыватны сусвет даваў некаторую аптымістычную надзею ў атмасферы настрою ўсё большага грамадскага песімізму: чаканні 60-х гадоў, калі дзяржава адбудавалася пасля вайны і можна было, нарэшце, заняцца культурай, уласнай душой, не спраўдзіліся, пайшлі ў пясок.

Але адыход ва ўнутраны свет чалавека — зусім не здрада рэалізму, свайму пісьменніцкаму абавязку. Наадварот. Французскі пісьменнік Андрэ Маруа, якраз тады папулярны ў савецкай інтэлігенцыі, пісаў: «Сапраўдны знешні свет — гэта сапраўдны ўнутраны свет» (хоць на самай справе пра тое ж гаварыў яшчэ Л. Талстой). Савіцкі імкнецца адкрыць шлях у сапраўдны ўнутраны свет, бо ад яго залежыць знешні — насуперак сцвярджэнням марксісцкай ідэалогіі.

У рамане «Толькі аднойчы» пісьменнік звяртаецца да тэмы кахання, якая, уласна, прысутнічае ў кожным яго творы, але цяпер робіцца адзінай і галоўнай, што даволі нязвыкла для беларускай прозы. Перадавік-экскаватаршчык з невялікага прыдзвінскага горада Дзяніс Сушко, ён жа капітан-трэнер спартыўнай каманды грабцоў каноэ, аказваецца на спартакіядзе ў нядаўна пабудаваным пансіянаце «Юнацтва» на Мінскім моры. Тут ён сустракае жанчыну з экзатычным імем Гіта, да якой у яго адразу ўспыхвае магутнае, якое бывае толькі раз у жыцці, каханне. Сустрэчы двух людзей — мужчыны і жанчыны, іх гутаркі, паездкі ў Хатынь, на Курган Славы, у Мінск, на параходзіку па вадасховішчы, у лес — вось фон, на якім адбываецца паступовае і зусім няпростае, паколькі жанчына — замужам, збліжэнне. Яшчэ ніхто з пісьменнікаў-калег Савіцкага так падрабязна, крок за крокам, не апісваў усе этапы разгортвання такога глыбокага пачуцця, якое поўнасцю бярэ ў палон чалавека. Кожнае слова, кожны рух аднаго выклікае ў адказ адчуванне і думку другога. «Сушко адчуваў, што яна зрабілася для яго яшчэ даражэйшая, разумеў, што лёс падараваў яму дзень цудоўны і дзі-

восны, мажліва, самы найшчаслівейшы дзень. І таму ён, Сушко, павінен быць цяпер асабліва мудры і прадбачлівы, каб якім-небудзь неасцярожным словам не сапсаваць гэтую дзівоснасць, не спалохаць, а ўберагчы радасць, захаваць даверлівасць і цеплыню і быць бясконца ўдзячным гэтаму дню». Фіксуючы душэўныя рухі ў працэсе дыялогу, аўтар зноў вяртаецца да вымаўленых слоў і пачуццяў ужо ва ўспамінах герояў, калі яны сам-насам з сабою: «Была, аднак, яшчэ адна думка, якая ўвесь ранак жыла ў ім, і ён сіліўся адкінуць яе, але ніяк не мог саўладаць з сабою, нават сабе не прызнаваўся, што нічога не можа з той думкаю парабіць, не прызнаваўся нават, што яна існуе ўвогуле. Гэта была думка пра сына Гіты». Кожнае імгненне праведзеных разам дзён глыбока, назаўсёды западае ў памяць: «...адчуваў, што нават у любы дзень свайго будучага жыцця ён зможа аднавіць у памяці, аднавіць у сэрцы ўсе колеры і ўсе гукі гэтага дня, аднавіць і трывогу, і нясмеласць, і радасць, і ён ведаў, што мог ісці ў любым іншым месцы, апынуцца не ў лесе, а на полі, на беразе мора, і гэтыя адчуванні ўсё роўна былі б, былі б таму, што побач з ім Гіта, а гэта яе прысутнасць робіць яго і баязлівым і смелым, і на сэрцы трывога, і адзінае, што яго, Сушко, непакоіць, дык гэта тое, што ён ніяк не можа саўладаць з сабою, ніяк не можа ўзбіцца на звычайную гаворку, вясёлую, жартоўную, дзе кожнае слова можна прыняць і ўсур'ёз і ў жарт і няма ніякай патрэбы нешта прыдумляць і тлумачыць». Складанасць і супярэчлівасць адчуванняў у кожную сумесна праведзеную хвіліну якраз гаворыць пра глыбіню пачуцця, а не проста інтрыжку ў камандзіроўцы. Больш за тое, раман выразна падзяляецца на дзве часткі: адна з іх — падзеі вачыма Сушко, другая — тыя ж падзеі ва ўспрыняцці Гіты, запісаныя ёю на магнітафонную стужку і пакінутыя каханаму перад ад'ездам. І яшчэ адно робіць раман Савіцкага адметнай з'явай у беларускай літаратуры: глыбіня пачуццяў герояў была б немагчымая без іх знаходжання на прыродзе: «Няхай непаўторны міг — ён застанецца ў душы, будзе жыць у сэрцы. Усё жыццё будзе ў іх менавіта вось з гэткіх дзён і складацца, з дзён, якія сатканы з цеплыні сонца, плёскату вады ля борта лодкі, пахаў маладых сасонак і чабору, тужліва-радаснага крыку белых чаек». Тонкасць успрыняцця прыроды адгукаецца тонкасцю ў пачуцці да іншага чалавека. І яно ж высвечвае характар кожнага — тактоўнасць, далікатнасць, душэўнасць у ім.

У разважанні герояў пра каханне ўкладзены думкі самога аўтара, і з іх, думак, можна было б скласці невялікі трактат, як у Платона ці У. Салаўёва. Напрыклад: «... нейкай абстрактнай любові няма, ...гэтае пачуццё жыве ў нашых сэрцах і не можа існаваць адарвана ад іншых нашых думак, клопату, спадзяванняў...» Або: «Каханне не церпіць аніякіх парад, аніякай умоўнасці. Гэта — прыгажосць душы. Як чалавек кахае — гэта і ёсць чалавек. І хвіліны шчасця не суджана ніколі закрэсліць — ні розумам, ні сэрцам... Каханне — інтымнасць, чужога вока не церпіць... Але вось прызнавацца ў тым, што я кахаю, што мяне кахае жанчына, чалавек павінен з гонарам. Так, так! З гонарам! Бо тое, што мы хаваем, абавязкова нешта важнае траціць... І сэрца нешта важнае страчвае, калі свае пачуцці хаваеш». Ці такая — канцэптуальная для твора ў цэлым — заўвага: «Прыходзіць сапраўднае каханне і высвятляе ўсё жыццё, усе ўчынкі, усе словы, кожны крок на зямлі».

Захапляе шчырасць герояў, але і шчырасць аўтара, які вынес на публіку свае запаветныя думкі. Дарэчы, лёс рамана быў зусім няпросты. Вядомы беларускі крытык А. Марціновіч у прадмове да Выбраных твораў А. Савіцкага сцвярджае, што твор — пасля апублікавання ў «Полымі» пад назвай «Тры непражытыя дні» — каштаваў пісьменніку пасады загадчыка сектара мастацкай літаратуры ЦК КПБ. Асобнай кнігай раман быў апублікаваны толькі ў 1979 годзе На думку А. Марціновіча, «наўрад ці была патрэба знімаць у ім асобныя эпізоды», бо з пункту гледжання нашых сённяшніх уяўленняў, у рамане «нічога крамольнага і не было. Падумаеш, галоўныя героі свабодна выяўляюць свае пачуцці. І зусім не ханжы яны, а звычайныя людзі, якім хочацца чалавечага шчасця, узаемнасці, якіх палохае адзіноцтва». Нас, сённяшніх, ужо, сапраўды, прывучылі да ўсяго. І ўсё ж аўтар, відаць, меў

рацыю, калі ў выданні кнігі выкрасліў асобныя сцэны. Не ў тым справа, што яны залішне «смелыя», а ў тым, што разбуралі агульную, надзвычай пяшчотную, па-беларуску пяшчотную, атмасферу твора, зніжалі яго пафас.

Сушко, галоўны герой рамана, хоць і сталы ўжо чалавек, аказваецца ў сваіх марах і спадзяваннях даволі наіўным. Гіта адмаўляецца звязаць з ім жыццё, бо ў яе ёсць сын і муж, праўда, яна яго ніколі не любіла. Але яна не можа даць сваймау сыну замест бацькі — айчыма, няхай і добрага чалавека. Абавязак маці перамагае. А з болем страчанага асабістага шчасця ёй прыйдзецца змагацца адной.

Тэму жаночага абавязку Савіцкі працягвае ў аповесці «І нічога ўзамен», напісанай тады ж, калі пачаты і папярэдні раман — у 1971 годзе. Зусім невыпадкова змешчаны яны разам — у першым томе Выбраных твораў, выдадзенага, дарэчы, тады, калі шчырасць і тонкасць пачуццяў зусім не віталіся, наадварот, ад іх упарта адвучалі, — у 1995 годзе. Можа, таму выдаўцы і не палічылі мэтазгодным — тэмы ў Савіцкага нямодныя — выдаваць другі том з двухтомніка Выбранага. З’ява, характэрная для 90-х гадоў з іх прыніжэннем пісьменніка, з адкінутай, як непатрэбнай у спажывецкім грамадстве, мастацкай літаратурай... Але ў пачатку 70-х гадоў пачуцці герояў яшчэ зразумелыя чытачу. Студэнтка Мінскага медінстытута, а затым малады ўрач у далёкім леспрамгасе, Галіна кахае жанатага чалавека Валеру. Яе каханы з жонкай даўно не жыве, а да Галіны прывязаўся, відаць, шчыра. Яна ж гатовая аддаць усю сябе любімаму чалавеку, больш за тое, яго думкі робяцца яе жыццёвым перакананнем: «Кожны чалавек павінен звяршыць свой подзвіг, бо ў гэтым — сэнс жыцця. Адзін робіць яго ў вялікім, другі — у малым. І калі чалавек хоча зрабіць свой подзвіг — ён павінен забыцца на сваё асабістае «я». Так і ў кахання. Кахаць — гэта значыцца адкінуць сваё асабістае, эгаістычнае «я», аддаваць сябе цалкам, усяго, да апошняй драбніцы. І нічога не патрабаваць узамен. Нічога ўзамен!» Галіна не выказваецца так пафасна, як Валера, і ўвогуле пазбягае рыторыкі (чалавек справы), але менавіта так жыве, хварэючы душой за нягоды каханага. Ён прыязджае да яе, іх сямейнае шчасце поўнае, але гераіня адмаўляецца ад яго, лічачы, што Валера павінен вярнуцца да сям’і, бо нельга яго малой дачцэ аставацца сіратою пры жывым бацьку. Сама сябе Галіна папракае: «Украла бацьку, а хоча быць дабрадзейкаю. Не, я не буду ёю! Я буду пакутаваць, я, можа, і жыць доўга не змагу, але чужое шчасце я красці не буду!»

Пазней, недзе на мяжы стагоддзяў, будаваць сваё шчасце за кошт іншага не будзе лічыцца амаральнасцю. Чаму ж адбыліся такія страшныя трансфармацыі ў грамадстве ў той час, як пісьменнікі выхоўвалі народ у зусім іншым духу? Апошнія дзесяцігоддзі А. Савіцкі пакутліва разважае над праблемай страты грамадствам спрадвечных каштоўнасцей, якія толькі і робяць жыццё нармальным. Вынік яго роздумаў і хваляванняў — раман «Пісьмо ў рай», які выйшаў у часопісе «Полымя» ў 2003 годзе.

Галоўны герой твора — пісьменнік і журналіст Алесь Смоліч. Лёс яго склаўся няпроста: гібель бацькі ў гулагаўскіх засценках, партызанскае юнацтва, страта двух братоў, здрада дзяўчыны — першай каханай, няўдалы шлюб з жанчынай, якая імкнулася толькі да задавальнення матэрыяльных патрэб, праблемы падчас навучання ў інстытуце... Але як узнагарода за ўсе страты і пакуты — пасланыя Небам жонка, дзеці, унукі, лёс якіх найперш хвалюе сталага Смоліча.

Герой Савіцкага — чалавек, які нягледзячы на ўсе цяжкасці жыцця, здолеў захаваць гонар і сумленне, які шчыра імкнецца неяк цывілізаваць грамадства, прыўнесці ў яго гуманнасць, справядлівасць, дабрыню. Яму застаюцца дарагімі тыя каштоўнасці, якія засвоіў у дзяцінстве і юнацтве. Найпершае з іх — дабро. Дабро як свет, што стварае ўмовы для ўсялякай гармоніі: трэба імкнуцца да яго, каб пераадолець зло — як у душы сваёй, так і ў Сусвеце. Зло — адхіленне ад нормы, разбурэнне прыгажосці і гармоніі, смерць, голад, пакуты. Самым вялікім злом у свеце з’яўляецца для героя вайна. Яе жахі ён бачыў на ўласныя вочы — Смоліч усю вайну правёў у партызанскім атрадзе, быў паранены, назаўжды развітаўся з бацькам, хаваў аднаго за адным сяброў-паплечнікаў. Забыць перажытае герой

не ў стане. На яго думку, жывыя перад светлай памяццю загінуўшых продкаў павінны кожны дзень несці адказнасць за свае здзяйсненні, несці «вечны праклён вайне», усведамляць жыццё як вышэйшую каштоўнасць. Смоліч звяртаецца да жывых з заклікам спасцігнуць увесь трагізм, увесь жах вайны, каб не паўтараць горкі вопыт мінулага. Вахта памяці — гэта і ёсць клопат пра лёс нашчадкаў.

Дабро як вышэйшая каштоўнасць не аддзеленае ў Савіцкага ад тэмы любові да Радзімы. Залішняй пафаснасці тут аўтар не баіцца. Алесь Смоліч звязвае клопат пра Бацькаўшчыну — патрыятызм — не толькі з абаронай сваёй зямлі са зброяй у руках падчас вайны. Патрыятызм — гэта вернасць усяму роднаму, вечная народная памяць, культ продкаў, жыццё ў адпаведнасці з агульначалавечымі законамі, захаванне нацыянальных ідэалаў.

Яшчэ адзін маральны арыенцір, у адпаведнасці з якім імкнецца жыць Алесь Смоліч, — справядлівасць. Паняцце, якое ў савецкі час лічылася як бы само сабой зразумелым, а ва ўмовах будаўніцтва капіталізму для большасці людзей набыло літаральна сакральны сэнс. Таму і хвалюе яно пісьменніка. У мастацкім плане барацьба яго героя за справядлівасць — гэта імкненне даказаць невінаватасць бацькі. Ён піша ліст за лістом самому Сталіну. Але ў выніку яго бацька гіне ў лагеры пры загадкавых абставінах. «...Ліставанне іх напалохала... Сябе ратуючы, яны татку пад абух і кінулі...» А ў Алеся потым пачаліся праблемы ў інстытуце. Сапраўды, змагацца за справядлівасць заўсёды цяжка...

Па ходзе дзеяння герою ў рамане даводзіцца сустрэцца з вандалізмам сваіх сучаснікаў: знявечаным мемарыялам партызанскай брыгады непадалёку ад Полацка. Такіх вандалаў ён называе пацукамі і спрабуе разабрацца, адкуль яны бяруцца. Урэшце прыходзіць да высновы, што мы самі іх выхоўваем: «У большасці сваёй гэта нашы, айчынныя вандалы, пацукі нашае ўласнае гадоўлі, і раскашуюць яны з нашае ласкі, з нашае дабрыні, неабачлівасці, лагоды». Змена сістэмы каштоўнасцей патрабуе цвярозай, аб’ектыўнай ацэнкі. Тое, што старэйшае пакаленне не спрацоўвае ў плане выхавання моладзі, у пісьменніка не выклікае сумнення. Ва ўмовах націску агрэсіўных СМІ, перш за ўсё тэлебачання, напамін пра мінулае павінен, на думку Савіцкага, быць больш мэтанакіраваным і пастаянным. А яшчэ праца і ўсведамленне важнасці сям’і. Гэтаму таксама прысвечаны ў рамане многія старонкі. Не голадэкларацыйна, а праз паказ выхавання ў сям’і Алеся Смоліча.

Раман прасякнуты вялікім гуманістычным, жыццясцвярджальным пафасам. Сцвярджэнне жыцця — як і ў папярэдніх творах — адбываецца як сцвярджэнне дабра, прыгажосці, міру, кахання, сям’і, працы, любові да сваёй зямлі — тых самых каштоўнасцей, якія маюць універсальны характар і з’яўляюцца ўмовай выжывання роду чалавечага. Уласнае шчасце чалавек павінен бачыць не ў тым, каб шмат чым валодаць, а ў тым, каб шмат чым быць. Укараненне такой жыццёвай мудрасці праз мастацкую літаратуру заўсёды лічыў сваёй галоўнай місіяй пісьменнік-патрыёт Савіцкі.

Пяру Алеся Ануфрыевіча належыць і маштабны дакументальны твор, які сам аўтар называе раманам, — «Обаль». Уласна, створана кніга па ўсіх законах раманнага жанру, але апавядаецца ў ёй пра рэальныя падзеі — дзейнасць обальскага падполля ў гады Вялікай Айчыннай вайны, і паказаны рэальныя людзі — падпольшчыкі: Зіна Партнова, Фруза Зянькова, Мікола Зянькоў, Аркадзь Барбашоў і шмат іншыя. Твор выйшаў у 1989 годзе, аднак у час суцэльнага бязладдзя — так званай «перабудовы» — кніга не была ацэнена належным чынам, аказалася незаўважанай, як і многае іншае добрае тае пары. І толькі прайшоўшы праз развал Савецкага Саюза, страшныя сваім амаралізмам і як бы ўсеагульным ачмурэннем 90-я гады, паступовае вяртанне псіхічнага здароўя ў нулявыя, на фоне пастаянных лакальных войнаў, якія распачынаюць, уласна, тыя ж сілы, што штурхалі на Усход і Гітлера, мы (хоць яшчэ не ўсе) лепш зразумелі цану сапраўдных каштоўнасцей, з якіх адной з галоўных з’яўляецца Перамога. Сімптаматычна, што ў год 70-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны Саюз пісьменнікаў Беларусі і грамадска-мастацкі часопіс «Полымя», старэйшы з тоўстых часопісаў

у Беларусі, наладзілі гаворку па рамане «Обаль» з вучнямі 10—11 класаў гімназіі № 25 горада Мінска імя Рымы Шаршнёвай. Выступленне Савіцкага перад вучнямі на сустрэчы — гэта не толькі аповед аўтара пра свой твор, але і выклад жыццёвага, творчага крэда — крэда ваяра, прайшоўшага праз самыя трагічныя перыпетыі ваеннага ліхалецця, крэда пісьменніка, які праз усё жыццё пранёс адчуванне сваёй задачы — будзіць сумленне нацыі, кожнага асобнага чалавека, выхоўваць мужнасць, паколькі мужнасць неабходная для вырашэння любой жыццёвай задачы. Алесь Ануфрыевіч гаварыў: «З тых людзей, што на ваеннай фотакартцы, уцалеў толькі я адзін. Відаць, небам было так наканавана. Маўляў, няхай гэты застанецца жывым, стане пісьменнікам, раскажа людзям, што такое вайна. Раскажа, як гэтая страшная бяда ламала людзей слабых і як загартоўвала моцных, як у душы чалавека вырастала любоў да свайго краю, сваёй Радзімы. І гэта было адзінае, што мацней за кулю, за снарад — мужная душа чалавека. Сёння яна вельмі нам патрэбна». Савіцкі сам як асоба паўставаў перад дзецьмі — пакаленнем новага тысячагоддзя — чалавекам абавязку, які не толькі мужна абараняў свет ад фашызму, але і лічыў неабходным, паколькі валодаў пісьменніцкім талентам, распавесці нашчадкам пра ўсіх, хто пайшоў у нябыт, «здзейсніўшы самае важнае, што можа зрабіць чалавек у сваім жыцці — подзвіг у імя незалежнасці сваёй зямлі, свайго народа, сваёй Радзімы». Не толькі ўласным прыкладам, але і словамі — сваёй галоўнай зброяй — Савіцкі імкнецца данесці да дзяцей важнасць для кожнага ўсведамлення свайго жыццёвага прызначэння (ён — аўтар шэрагу цікавых дзіцячых твораў); а ў прамовах ён шукае аргументы, узгадвае гістарычныя факты, лёс выдатных людзей, звяртаецца да паэтычнай спадчыны класікаў і сучаснікаў — каб дастукацца да сэрцаў маладых, пераканаць іх у важнасці, перш за ўсё, душы чалавечай. Гэта тое, што найперш хвалюе пісьменніка: «Перадаць глыбіню пачуццяў, як складваецца характар чалавека, як ён робіцца мужным — гэта настолькі вялізная і глыбінная духоўнай праца, калі чалавек прыходзіць да думкі, што інакш ён не можа, а вось павінен зрабіць так. У вашым школьным, вучнёўскім жыцці таксама бываюць сітуацыі, калі трэба сказаць штосьці суровае, смелае. Гэта выходзіць адтуль, з душы...»

Яшчэ ў часы вайны выдатны рускі пісьменнік Андрэй Платонаў пісаў: «Вайна — гэта змаганне «адухоўленых людзей» з «неадушаўлёным ворагам». Менавіта так і паказваў вайну А. Савіцкі, і яго імкненне пранікнёнымі словамі (ён не баіцца і пафасу, бо тэма такая) закрануць стрункі душы маладых людзей не праходзіць дарма. Вось як адгукнуўся вучань 11 класа Багдан Рамазанаў на кнігу Савіцкага: «Раман не можа пакінуць раўнадушным ніводнага чалавека, ніводнага патрыёта сваёй зямлі, ніводнага беларуса. Бо ў творы зроблены акцэнт на ўнутраны свет галоўных герояў. Іх думкі, пачуцці, словы... Чытаючы раман, нібыта ўваходзіш у стан галоўнага героя. Ён, я лічу, вельмі актуальны на сённяшні час. Бо часта сучаснай моладзі задаецца пытанне: «Калі б зараз на нашу суверэнную Беларусь напаў вораг, ці змагалася б так моладзь?» Ці можа хто дакладна адказаць? Я лічу, калі малады беларус, малады патрыёт прачытаў раман «Обаль», даведаўся, аб чым думала моладзь у тыя страшныя часы, вызначыла яе каштоўнасці, то многія сказалі б: «Так. Гатовы. Гатовы ахвяраваць сваім жыццём дзеля роднай зямлі». Алесь Савіцкі адкрыў людзям вочы. Расказаў пра сапраўдных герояў. Паказаў грамадзянскую сталасць. Падняў пытанне чалавечай годнасці. Паказаў бескарыслівае, добраахвотнае ахвяраванне не за славу, не за медалі, а за Радзіму, за родных, блізкіх людзей». Словы маладога чалавека сведчаць, што калі з юнакамі гаварыць шчыра, то іх душы адгукаюцца на гэтыя словы. Душы новага пакалення па-ранейшаму жывыя, не зачарсцвелі пад уплывам бездухоўнага тэлебачання. Магчыма, менавіта таму, што яшчэ жывая памяць — і на сямейным узроўні, і на дзяржаўным. Захаваць памяць свайго пакалення, данесці яе да ўсё новых пакаленняў беларусаў — такі свой патрыятычны і чалавечы абавязак пранёс праз жыццё пісьменнік-грамадзянін Алесь Ануфрыевіч Савіцкі.

Наталля МІЦКЕВІЧ

# ДОЎГАЯ ДАРОГА*

(ад дома Янкі Маўра
да дома Якуба Коласа)

## У сваёй хаце

Пасля смерці Канстанціна Міхайлавіча наш дом значна апусцеў, меней стала наведвальнікаў, але тым не менш прыходзілі і прыязджалі пісьменнікі, знаёмыя Коласа. Дзесьці ў канцы 1956 года праездам з зімовых Алімпійскіх гульняў завітаў у нашу хату вядомы паэт, аўтар Гімна Савецкага Саюза Сяргей Міхалкоў. Ён падзяліўся сваімі ўражаннямі аб паездцы, аб убачаным. Скрозь яго аповед прасочвалася крыўда: на невялікую групу турыстаў з СССР, нягледзячы на іх званні, рэгаліі, ніхто не звяртаў увагі. Калі ж з'яўляўся «мех з грашыма» — усе слаліся перад ім. У нашых турыстаў грошай бракавала, а адчуваць сябе без павагі і пашаны людзям, якія прывыклі да яе, было не па сабе. І ўсё ж Міхалкоў тое-сёе прыдбаў у часе паездкі. Нам ён прадэманстраваў кепку, што спадабалася яму, якую можна было вывернуць, і яна зноў станавілася кепкай, толькі другога колеру.

Завітаў у хату Якуба Коласа вядомы рускі пісьменнік Веньямін Каверын са сваёй сям'ёю і братам. Было вельмі прыемна пазнаёміцца з аўтарам, творамі якога я так захаплялася. Брат яго — Леў Зільбер — вядомы мікрабіёлаг, акадэмік Акадэміі медыцынскіх навук. Вельмі цікавымі былі яго погляды на паходжанне ракавых захворванняў. Ён прытрымліваўся тэорыі віруснага паходжання гэтай страшнай хваробы. Ён жа раней адкрыў вируснае паходжанне клешчавага энцыфаліту і выдзеліў яго вірус. Бываючы ў Мінску на адпаведных канферэнцыях, наведваў нас і пазней.

Аддаць даніну памяці Коласу да нас завітала група латышскіх пісьменнікаў на чале з Юліусам Ванагам. Асобныя творы Коласа яны перакладалі на сваю мову. Некаторыя з пісьменнікаў з'яўляліся ўдзельнікамі інтэрнацыянальнай брыгады ў Іспаніі. І яны захавалі ў сваім ужытку гімн сваёй брыгады. Як хараша яны спявалі яго, як ён магутна гучаў!

Сустрэчы адбываліся і з былымі аднакласнікамі, якія завітвалі ў Мінск і якіх воляй лёсу закінула далёка ад роднага горада, тут заставалася яшчэ некалькі сяброўак. Аднойчы я сустрэла нашу класную кіраўніцу — Рэвеку Гіршаўну. Канешне, разгаварыліся, настаўніцу цікавілі лёсы вучняў яе групы, з некаторымі яна перапісвалася. Сказала, што ёй прыслаў пісьмо Валянцін Сямёнаў, ён атабарыўся ў Адэсе, прасіў перадаць яго адрас аднакласнікам, калі каго-небудзь з іх здарыцца сустрэць. Так я даведалася яго адрас, ён адпісаў мне, што ажаніўся, вучыцца ў меліярацыйным інстытуце. А праз год ці два прыехаў у Мінск са сваёй аднакурсніцай на практыку. Іх накіравалі на балоціны за Ашмяны. А пакуль прыйшлося размясціць іх у нас. Ён пасябраваў з Зарынаю, а таксама з Міхасём — у іх былі аднолькавыя захапленні: паляванне, стрэльбы, сабакі. Міхась трымаў англійскага сетэра, суку, якая павінна была ашчаніцца. Валянцін папрасіў пакінуць яму

---

* Працяг. Пачатак у № 3, 4, 5, 7, 8, 2011 г.



*Каля бацькоўскага дома.*

шчанюка, якога ён пасля забярэ. Вырас прыгожы кабель, Міхась даў яму мянушку «Валька», года паўтара мы яго трымалі, а Валянцін не змог яго забраць. Я збіралася ў Крым у Кактэбель, куды бацька ўзяў пуцёўкі для мяне і Сяргея. Міхась наадрэз адмовіўся туды ехаць, бо год назад ён паехаў са мною, прабыў там тыдзень і ўзвыў — няма чым заняцца, прыйшлося вярнуцца, хаця ўладкаваліся на ўсім гатовым на палове веранды гаспадыні хаты. У суседнім пакоі адпачывала з сынам акцёрка Людміла Цалікоўская, мілая і сціплая жанчына. Мне там адпачывалася добра. Перад маім ад'ездам Валянцін паведаміў мне, якую аферу ён рыхтаваў некалькі год таму, калі быў праездам праз Мінск. Ён не мог змірыцца з тым, што я выйшла замуж. Ён даў Міхасю тэлеграму, каб той адпусціў мяне на сустрэчу на вакзале. Цягнік стаяў хвілін сорак. А ехаў Валянцін на Сахалін, куды, ратуючы яго, выслаў бацька пасля страшэннага скандалу ў рэстаране, які ўчыніў сынок. А бацька… быў камендантам Кёнігсберга. Валянцін са сваім сябрам купілі білеты на ўсё купэ, разлічваючы, што я зайду да іх. Яны падрыхтавалі снатворнае, якое павінны былі ўкінуць у бакал з шампанскім, і такім чынам адвезці мяне далёка ад Мінска, а Міхасю паслаць тэлеграму, што я пагадзілася ехаць на Сахалін. Валянцін спадзяваўся, што калі нават я ўцяку, то Міхась мне гэтага не даруе. Але я прыйшла на вакзал з маленькім сынам на руках. І яго план праваліўся, бо звезці чужую жонку з дзіцём ён не мог...

Я ж яму расказала, якія непрыемнасці абрынуліся на мяне ў Адэсе пасля круіза вакол Еўропы. Я ахвяравала развітальнай вячэрай, якая ладзілася ў гатэлі, дзе нас размясцілі. Я хацела наведаць яго, доўга шукала дом, але Валянцін, па сутнасці, адмовіў мне ў прыёме, матывуючы гэта тым, што бацька цяжка хварэе, а маці неадлучна знаходзіцца каля хворага. А можа, ён не хацеў знаёміць мяне са сваёю жонкаю? Мала таго, што я засталася галоднаю, рэстаран, калі я вярнулася, быў зачынены, а галоўнае — я не атрымала пашпарта. Дырэктар гатэля раздаў пашпарты турыстам на вячэры. Я ж не ведала і ніхто мяне не папярэдзіў. А назаўтра на золку разам з групай масквічоў я выехала ў Маскву. Грошай у мяне не было. Добра што ў Маскве была Люся Левітан, прыйшлося пазычыць грошы ў яе на тэлеграмы ў Адэсу, каб выслалі на галоўны паштамт мой пашпарт, і Міхасю, каб выслаў трохі грошай. Але ні перавод, ні канверт з пашпартам не выдавалі. Патрэбен быў пашпарт. Прыйшлося ісці да начальніка паштамта і тлумачыць, што ў канверце і чаму так здарылася. Пасля доўгіх угавораў начальнік ускрыў канверт, і я атрымала пашпарт.

Наведвалі нас блізкія, знаёмыя. Іншы раз мы запрашалі кагосьці на вячэру. Аднойчы мы з Зарынаю дамовіліся запрасіць Анатоля Качэргіна і Ліду Бяссмерт-

ную — удзельнікаў круіза вакол Еўропы. Сваіх мужчын мы доўга ўпрошвалі, каб не было ніякіх выбрыкаў з іх боку. Пакоі чысцілі, мылі, каб хата мела добры выгляд. Анатоль прыйшоў адзін — яго сяброўка, чароўная дыктарша тэлестудыі Люся Сакалова павінна была прыйсці пазней. Ліда завітала з мужам і з прыяцелем, музыкантам Барысам Пагосавым. Пакуль чакалі Люсю ішла жывая гаворка, у якую актыўна ўключылася Зарына. Праз некаторы час Ліда ўсхапілася, пачала збірацца — забылася, што сёння дзень нараджэння яе родзічкі. «Будзе так недалікатна, калі я не наведаю яе». «Чаго ж ты раней не падумала?» — стараліся адгаварыць яе, але яна ўпарта адмаўлялася застацца. Міхась не стрымаўся і са смехам сказаў, што першы раз сустракае такіх «далікатных» гасцей, але калі трэба, то хай ідуць. Мы адчувалі сябе вельмі няёмка. Аднак хутка з'явілася Люся, і мы весела правялі вечар. Як пасля здзекаваліся з нас Даніла і Міхась, якіх «далікатных» гасцей мы запрасілі! Анатоль з Люсяй з'ехалі ў Маскву, Ліда больш не заходзіла, а з Пагосавым праз некалькі год мы сустрэліся. З часам здагадаліся, што паслужыла прычынаю паводзін шалапутнай Ліды. Яе спадарожнік Барыс стаў занадта заглядацца на Зарыну, што вывела з раўнавагі музыкантшу.

З пераездам у пабудаваны дом мы працягвалі жыць адной сям'ёй. Дом быў разлічаны на дзве кватэры з дзвюма кухнямі і адным агульным вялікім пакоем. Мы з Зарынаю гаспадарылі то на адной, то на другой кухні, пакуль не выгараў балонны газ. Нашы дзеці выхоўваліся разам. Пры гэтым ні я, ні Зарына не ўмешваліся ў іх узаемаадносіны і не звярталі ўвагі на скаргі аднаго на другога. Свае справы яны павінны былі вырашаць самі. Па ўзросце дзеці нязначна адрозніваліся — Маша была старэйшай за Андрэя на пяць месяцаў. А старэйшы сын Сяргей адрозніваўся ад Машы на чатыры гады. Малеча расла як двайняты — заўсёды разам, але Андрэй па ўсіх пытаннях слухаўся сваёй стрыечнай сястры, якая ў яго вачах карысталася найвышэйшым аўтарытэтам. Аднойчы Зарына запыталася ў свайго сына, чым ён так заняты. «А мне Маша сказала»... і Зарына са смехам прагаварыла: «Ну, калі Маша сказала рабіць гэта, то рабі».

Паколькі Зарына і Даніла не так часта бывалі дома, то даглядаць дзяцей часцей даводзілася мне. Дзеці звалі мяне «мама Наташа», але былі яшчэ «мама Зарына», «папа Даніла» і «тата Міхась». І гэта прыводзіла да забаўных выпадкаў. Так, аднойчы я павяла дзяцей на прагулку на праспект, уздоўж якога толькі-толькі адгарадзілі акадэмічны парк. Дзецям вельмі захацелася пахадзіць па фундаменце агароджы, трымаючыся за яе. І я па чарзе падымала то аднаго, то другога, а яны патрабавалі — «мама, цяпер мяне», «мама, цяпер мяне вазьмі». Побач праходзіла незнаёмая жанчына, спынілася, цікуючы за забаваю малечы. І раптам запыталася ў мяне: «Гэта вашы двайняты? Колькі ж ім гадкоў?» Я адказала, дзяўчынцы два гадкі, а хлопчыку скора будзе паўтара. Яна не сумнявалася, што гэта мае дзеці, бо абодва звярталіся да мяне «мама», «мама». Але каб нарадзіць другое дзіця праз 6 месяцаў пасля першага? Вылупіўшы вочы і нічога не адказаўшы мне, яна махнула рукой і пайшла сваёй дарогай.

Дома час ад часу мы вялі размовы, як важна вучыцца, колькі новага, невядомага адкрываецца школьніку. І, відаць, на Машу гэтыя размовы ўздзейнічалі больш, чым на Сяргея, якому былі накіраваны. Калі Сяргей пайшоў у школу і рыхтаваўся да ўрокаў, яна пільна сачыла за яго работай. І непрыкметна для нас навучылася чытаць. А потым стала вучыць чытанню свайго малодшага брацікa. Аднойчы Зарына прыйшла дамоў і бачыць: Андрэй ляжыць на дыване, пад носам у яго буквар. Ён водзіць пальчыкам па радочках і паўтарае: «Рама, мама, мама, рама». «Што ты робіш?» — запыталася маці. А ён адказвае: «Вучу ўрок, які задала мне Маша». Так стала вядома, што наша малеча самастойна навучылася чытаць. Дзіцячых кніг трохі было і дзеці самастойна пачалі чытаць. І да гэтага Маша так дакладна запамінала тэкст, што здавалася — яна чытае. Але Міхась падлавіў яе — два ці тры словы з дзвюх старонак казкі прапусціла. Але ж якая ўчэпістая памяць у дзяцей! Ну, а, напэўна, талент настаўніка ў яе абудзіўся рана. Ці спрыяла

ёй тое, што абодва дзяды былі сапраўды выдатнымі настаўнікамі ў маладыя гады, сказаць цяжка. Цяпер, калі Марыя ўжо сама стала бабкаю, яна працягвае выкладаць матэматыку ў Акадэміі кіравання. Ёй, як і мне, матэматыка давалася вельмі лёгка, таксама лёгка ёй даваліся і мовы, дый усё, за што б ні бралася.

Сваёй дачы ў Канстанціна Міхайлавіча не было, таму дзяцей на лета адвозілі ў вёску — паблізу ад Радашковіч, пасля — ад Ракава. Калі ж Міхась набыў аўтамабіль, мы аблюбавалі для адпачынку вёсачку Беразянка, дзе да вайны адпачывала сям'я Коласа. Немцы спалілі гэтую вёску. Людзей сагналі ў канюшню і падпалілі яе. Людзі былі ў паніцы. Дачка Зосі Шчэрбы Оля ўзлезла на бочку, якая стаяла пад маленькім акенцам, выбіла яго і крыкнуўшы: «Мама, будзем ратавацца!», выскачыла. Маці падняла малога сына Колю і выкінула яго, а сама скінула ватнік і ледзьве-ледзьве пралезла праз гэта акенца. Такім чынам і яе сястра Саша выкінула свайго малога хлопчыка і ўратавалася сама. За канюшняй пачынаўся лес, карнікі пачалі страляць, але ці то не папалі, ці стралялі ўверх — бачылі ж, што бягуць малыя дзеці і жанчыны. А ў канюшні згарэла сорак тры чалавекі. Доўга ўцекачы блукалі па лесе. Усё спалена: ні хаты, ні жывёлін не засталося. Не было і заступнікаў — мужчын. У роспачы ўцекачы вырашылі скончыць жыццё самагубствам — пайшлі тапіцца ў рацэ. Недалёка ад рэчкі сустрэлі сялян і тыя адгаварылі іх ад гэтага жудаснага ўчынку. На працягу многіх год у Дзень Перамогі каля брацкай магілы замардаваных сялян збіраліся блізкія, родныя. Пасля вайны тыя беразянцы, якія неяк уратаваліся ад смерці, адбудавалі хаты, толькі вёсачка парадзела больш, чым на палову. З вайны вярнуўся муж Зосі — Лёня, без рукі, перанёс цяжкія аперацыі. Уладкаваўся працаваць лесніком, адбудаваў на старым месцы дом, а поруч пабудавала дом Саша. Мы спыніліся ў доме Лёні Шчэрбы, у 1939 годзе ў яго хаце летаваў Колас са сваёй сям'ёй. На лета я брала з сабой пляменніка Андрэя. К гэтаму часу фактычна адбыўся разрыў паміж Данілам і Зарынай. Зрэдку Данік адзін, ці з кім-небудзь са сваіх сяброў наведваў сына, але ні разу нічога не прывёз дзецям. Зарына ў Беразянку ні разу не заглянула, у яе нарадзілася дачка Алёна і ёй было не да сына. Адбыўся разрыў і паміж Фёдарам і Нінай. Страшэнна заняты сваёй працай, ён не мог аддаваць многа ўвагі маладой і прыгожай жанчыне, і яна яму здрадзіла. Самалюбству брата быў нанесены страшэнны ўдар. Ён ніяк не мог пагадзіцца, што знайшоўся нехта больш любы ягонай жонцы, чым ён. Фёдар быў прыгнечаны, разгублены, і мне прыйшлося рабіць захады, каб аблегчыць яго самаадчуванне. Паколькі ў доме не было каму гатаваць, я запрасіла яго да сябе на абеды, тым больш, што ягонае месца працы было поруч з нашай хатай. А на лета я запрасіла яго ў Беразянку. Міхась з павагаю адносіўся да майго брата як да вучонага, а на ўпартасць і іншыя недахопы характару не звяртаў увагі. Міхась жа парэкамендаваў свайму сябру — Мірзе Авакаву — скласці кампанію на летні адпачынак. З Мірзою Міхась пазнаёміўся ў часе паездкі на сусветную прамысловую выставу ў Брусель. Юрыст-міжнароднік быў напоўнены гумарыстычнымі поглядамі да наваколля, быў лектарам ЦК ці абкама партыі і дастаткова інфармаваным у многіх пытаннях палітыкі і юрыспрудэнцыі. Пару гадоў назад ён вымушаны быў развесціся са сваёй жонкаю. Яна кінула мужа, магчыма, з-за ягонай залішняй прыхільнасці да спіртнога. Мірза пагадзіўся, выклікаў з Ленінграда сваю маці, і яны пасяліліся ў сястры нашай гаспадыні Зосі — Сашы.

Да нас нярэдка прыязджалі сябры, знаёмыя. У адзін год Міхась запрасіў сваю стрыечную сястру Веру — з Масквы. Яна прыехала са сваімі знаёмымі — артыстамі Вялікага тэатра оперы і балета. Яны тут былі некалькі дзён, і ў гэтыя дні па Беразянцы разлівалася цудоўная музыка. Мы і жыхары вёскі з асалодаю слухалі яе. Адным словам, час праходзіў цікава і весела.

Недалёка ад хаты лесніка была некалі пракапана канава. Пад Блужаю асушылі балота, і празрыстая, цёплая вада ўсё яшчэ цякла ў Свіслач. Майму малому сыну Кастусю вады было па калена, але ж якое раздолле для яго! Старэйшыя дзеці разам з намі амаль штодня хадзілі на маляўнічую Свіслач. Гэтым мясцінам

Канстанцін Міхайлавіч прысвяціў шмат вершаў, ды і ў Міхася ўспамінаў было многа. Цяпер ён са сваімі спадарожнікамі — стрэльбаю і фотаапаратам — абыходзіў гэтыя мясціны. Назбіралася мноства здымкаў — на некалькі альбомаў — і чароўных краявідаў, і людзей, з якімі мы тут сустракаліся і сябравалі. На здымках і мой бацька, які прыязджаў сюды на некалькі дзён. Мы там шчасліва летавалі каля дзесяці год. Беразянка пусцела, людзі пакідалі яе. А калі ў Свіслач хлынулі сцёкавыя воды з мінскіх адстойнікаў — прарвала дамбу, падысці да рэчкі было немагчыма, метраў за сто да яе стаяў страшэнны смурод. Якраз у гэты год у Беразянку са сваёй сям'ёй прыязджаў Арсень, з якім Фёдар дзяліўся сваім захапленнем ад гэтых мясцін.

Наш летні адпачынак у Беразянцы скончыўся. Хутка яна зусім апусцела. Зося перабралася ў Падбярэжжа, там жыў яе сын Коля, які стаў механізатарам. Саша з'ехала ў Заціхаву Слабаду. Цяпер на месцы вёскі Беразянка вырас лес і цяжка знайсці рэшткі падмуркаў хат ці калодзежныя ямы. Данік сваіх дзяцей на летні адпачынак уладкаваў у Мікалаеўшчыне ў бацькоўскай радні. Але ні разу нават не прапанаваў, каб мае дзеці паехалі туды хаця б на некалькі дзён. Дзякуючы набытаму аўтамабілю, мы правялі шэраг падарожжаў. Прынамсі, я з'ездзіла з Міхасём ва Львоў, дзе адбываліся спаборніцтвы па стэндавай стральбе. На другі год на дзвюх машынах з сябрамі Пархуцікамі павандравалі па Закарпацці. Міхась узяў мяне на сваю канферэнцыю, якую наладзілі на цеплаходзе па маршруце Краснадар—Дудзінка—Краснадар. Разам з Фёдарам і яго другой жонкаю мы падарожнічалі па Беларусі па маршруце Мінск—Брэст—Ружаны-Пружаны—Навагрудак—Мір—Мінск. На трох машынах з Касцюковічамі і Фёдарам адбылося цікавае падарожжа і адпачынак на возеры Рычы і Браслаўскіх азёрах.

Паколькі Фёдар меў невялікі вопыт кіравання аўтамабілем, то вырашылі: яму ехаць пасярэдзіне, Міхасю — наперадзе, а Сяргею Касцюковічу з дзецьмі — ззаду. Паехалі на поўнач па новай дарозе. Перад ёй стаяў вялікі шчыт з надпісам. Міхась паказаў паварот направа і стаў памалу пад'язджаць да шчыта, каб прачытаць аб'яву. Тое самае зрабіў і Фёдар, але ён так загледзеўся на плот, што не звярнуў увагі на прытармазіўшую нашу машыну і стукнуў ёй у багажнік. Ад нечаканасці я крыкнула на Міхася: «Што ты робіш?» А ён спакойна адказвае: «Гэта не я, а твой брат». У нашай машыне была разбіта задняя фара і паявілася невялікая ўмяціна. У Фёдаравай жа ад удару пацёк радыятар. Недалёка была калгасная майстэрня, але ні паяльніка, ні волава там не аказалася. Хлопцы пайшлі ў вёску шукаць іх. Так што мы згубілі гадзіны чатыры і к вечару дабраліся толькі да Талуці, дзе і заначавалі. Выбраліся позна і к вечару даехалі да Возера перад Браславам. Пачаўся лівень, палатку ставілі пад дажджом, а пасля да ночы абсушваліся каля кастра. Праз дзень без значных прыгод дабраліся да маляўнічага возера Рычы. Каб можна было адпачыць, адзін дзень мы з Тамарай гатавалі ежу, а на другі дзень жонкі Фёдара і Арсеня — Рына і Сара. Пагода была цудоўная, раздолле і для дзяцей, і для нас. Неяк пад вечар Рына з Сараю пайшлі ў вёску і прынеслі амаль вядро малака і паставілі пад хвояй. А назаўтра глянулі — пуста! Усё малако выхлебтаў Міхасёў сабака — Чук, курцхар. Самы разумны сабака з усіх, якія былі ў нас да гэтага. Ён быў усёедны і нават любіў выпіць, чым вельмі здзіўляў нашых знаёмых. Аднойчы, калі ў нас былі госці, Даніла з Чукам, застаўшыся ўдвух, выпілі бутэльку Абусімбла. Данік на нагах яшчэ трымаўся добра, а ў Чука яны раз'язджаліся, ён падаў, але гэтак лашчыўся да мяне і Міхася! Звычайна дома, калі Міхась адпраўляўся на работу, а я заставалася ў ложку, Чук прыбягаў у спальню і падымаў страшэнны брэх, патрабуючы, каб я паднялася. Калі дасягаў свайго намеру, то ішоў на сваё месца адпачываць. А тут ён быў у палоне дзятвы. Мужчыны трошкі лавілі рыбу, а калі нашы запасы скончыліся, Міхась схадзіў у вёску, купіў авечку, з якой за два дні мы ўправіліся. Дахаты ехалі па дарогах Літвы, міма маляўнічага Зарасая, акуратных, ахутаных дрэвамі, хутароў. Сцямнела, калі даехалі да нейкай турбазы перад Вільняй. Каля турбазы на дарозе ляжаў

камень, Міхась аб'ехаў яго, а Фёдар ехаў напрасткі і стукнуўся аб яго так, што пачуўся страшэнны візгат — картэр махавіка прышчыміў яго. Раніцай нешта паправілі і без прыгод дабраліся дахаты. Па маляўнічых мясцінах Полаччыны мы праехалі разам з Віталем Філіповічам. Сябра Данілы ды і ўсёй сям'і Коласа, са сваёю жонкаю прыехаў з Падмаскоўя на «Победе». Гэты аўтамабіль ён абмяняў на «Опель-адмірал», які падараваў яму Данік. Данік жа з Міхасём не раіўся, толькі пасля паведаміў, што падараваў машыну сябру. Мы паехалі на Ушачы, спыніліся недалёка ад дома адпачынку «Лясныя азёры». Азёры надзвычай прыгожыя, а далей за Ушачамі — каля самай рачулкі і вялікага возера, утварыўся тупік. Ніхто там не хадзіў і не ездзіў. Рыбы ў рацэ — процьма, Сярожа відэльцам злавіў шчупака, а Міхась забяспечваў нас рознай рыбай. Дарогі былі неважнецкія, але ў сухую пагоду мы без прыгод дабраліся да Полацка, адтуль да вялікіх азёр. З падарожжаў назбіралася фотаздымкаў на некалькі альбомаў.

Нечакана надарылася цікавае падарожжа па Літве. А было гэта так: я атрымала запрашэнне на канферэнцыю ў Каўнас, якую арганізоўваў нехта Рагульскіс. Канферэнцыя доўжылася ўсяго адзін дзень, прытым у Вільні, паколькі Каўнас быў закрытым горадам для іншаземцаў, а ў ліку запрошаных былі два спецыялісты з ГДР. Для гасцей арганізавалі сапраўднае турыстычнае падарожжа па Літве. Мне было асабліва цікава, бо тут нарадзіўся мой бацька.

Асноўная група «турыстаў» размясцілася ў мікрааўтобусе. І. І. Артабалеўскага з яго і сваёй жонкаю Рагульскіс вёз у легкавушцы, у сваёй машыне ехаў С. М. Кажэўнікаў з жонкаю і да іх прысуседзіўся нехта з удзельнікаў канферэнцыі. На ноч мы спыняліся ў маленькіх гатэлях, дзе месцы для нас былі забраніраваны. Я напомніла С. М. Кажэўнікаву аб нашай паездцы вакол Еўропы, і мы з прыемнасцю ўспаміналі круіз, нашы прыгоды, як ён на нейкім мерапрыемстве пераапрануўся ў жаночае адзенне і прыставаў да мужчын.

Мы пабывалі ў Нідзе, падзівіліся на сапраўдныя дзюны, утвораныя прыродай на Куршскай касе. Наша падарожжа заканчвалася, і С. М. Кажэўнікаў прапанаваў давезці мяне дахаты на сваёй машыне. Я з радасцю згадзілася і прапанавала спыніцца ў нас на начлег. Пазваніла Міхасю, каб падрыхтаваў вячэру і пакой. Мы затрымаліся ў Каўнасе і наведалі музей чарцей мастака Чурлёніса. Музей месціўся ў яго былой маленькай майстэрні, але нячысцікаў там было процьма. Ён з дваццатых гадоў стаў збіраць фігуркі, што спадабаліся яму. А калі яго сябры, знаёмыя даведаліся аб такім хобі мастака, то сталі прывозіць яму цікавыя экзэмпляры з многіх краін свету. Асартымент іх надзвычай шырокі: чэрці з гліны, дрэва, фарфора, косці і г. д. і непаўторна разнастайнага выгляду. Пасля наведвання гэтага музея Рагульскіс запрасіў нас да аднаго старэйшага мастака Літвы. З гэтай сустрэчы захавалася фотакартка, зробленая жонкай Кажэўнікава. Для мяне яна надзвычай каштоўная — разам з двума самымі вядомымі вучонымі ў галіне тэорыі механізмаў і машын: І. І. Артабалеўскім і С. М. Кажэўнікавым.

Да Мінска мы даехалі без прыгод. Міхась усё, што было трэба, падрыхтаваў і паказаў тры альбомы фотаздымкаў, зробленых ім у часе паездкі ў Брусель. А назаўтра ён правёў экскурсію ў Літаратурным музеі Якуба Коласа. З той пары мы пасябравалі з Кажэўнікавымі.

У Кіеве жыла мая стрыечная сястра Тамара, дачка Мусі, іншы раз я наведвала іх. Акрамя таго там пражывала сям'я Бабышкіных, з якой я пазнаёмілася і пасябравала, калі адпачывала ў Express Кактэбелі. Бабышкін бываў у Мінску і заўсёды заходзіў да нас, падараваў нам некалькі сваіх кніжак.

Праз некаторы час Кажэўнікаў арганізаваў навуковую канферэнцыю па ТММ і прыслаў на маю кафедру асабістае запрашэнне. На канферэнцыі было зроблена шмат змястоўных дакладаў, я прывезла на сваю кафедру каштоўныя матэрыялы. Пасля заканчэння канферэнцыі Сяргей Мікалаевіч запрасіў да сябе на вячэру некалькіх удзельнікаў яе, у тым ліку і мяне. Ён пазнаёміў з гасцямі, а за сталом я апынулася поруч з суровым В. А. Гаўрыленкам, загадчыкам кафедры ТММ

інстытута імя Баўмана. За сталом ён маўчаў, на сваю суседку не звяртаў ніякай увагі. А я думала, як разгаварыць яго, чым зацікавіць. І ўспомніла — у нейкім часопісе я прачытала, што дачка лорда Байрана вырашала нейкія задачы з дапамогай метаду графаў, і што гэты метад, на мой погляд, мае перспектыву ў вырашэнні шэрагу задач тэорыі механізмаў і машын. Гэта зацікавіла майго суседа і далей размова ішла як у звычайных суседзяў за сталом на вечарыне.



*На маляўнічым возеры Рычы.*

Тады я не магла падумаць, што знаёмства з Гаўрыленкам так паспрыяе мне ў будучым. Справа ў тым, што ў інстытуце імя Баўмана існавалі курсы павышэння кваліфікацыі па ТММ для выкладчыкаў гэтай дысцыпліны ўсіх ВНУ краіны. У 1974 годзе прыйшла і мая чарга прайсці гэтую школу. Мяне аслабанілі ад заняткаў на ўвесь восеньскі семестр, я падрыхтавала ўсе неабходныя дакументы і занесла сакратарцы аддзела павышэння кваліфікацыі, якая павінна была іх адаслаць. Але выкліку я не атрымала, час ішоў. Пазванілі ў аддзел павышэння кваліфікацыі маскоўскага інстытута. Адказалі, што маёй справы ў іх няма. Я звярнулася да Сяргея Касцюковіча, сталі шукаць, дзе яна. Аказалася — у стале сакратаркі, якая адбыла ў адпачынак, а маю справу не адаслала. Як часта ў мяне не ўсё як мае быць! Касцюковіч падрыхтаваў мне адпаведнае пісьмо ад рэктара з просьбай залічыць мяне на курсы. З пісьмом і дакументамі я адправілася ў Маскву, але ў аддзеле ўжо была сфарміравана група, і я атрымала адмову. Давялося звярнуцца да загадчыка кафедры Гаўрыленкі. Як мне здаецца, толькі дзякуючы сустрэчы з ім у гасцях у Кажэўнікава, маё пытанне было вырашана, і я здолела паспяхова прайсці перападрыхтоўку ў гэтым слынным інстытуце.

Апошні раз я сустракалася з Кажэўнікавымі ў 1981 годзе. Наш сябра Алег Бабышкін атрымаў новую прасторную кватэру ў раёне Галасееўскага парку і запрасіў мяне з сынам у госці з абяцаннем правесці экскурсію па самых знакамітых мясцінах Кіева. Ён выдатна ведаў гісторыю горада, бо яшчэ ў студэнцкія гады падзарабляў, працуючы гідам. Калі мы прыехалі ў Кіеў, я патэлефанавала Кажэўнікаву. Выявілася, што ён таксама пераехаў у новую кватэру ў доме поруч з домам Бабышкіных. Нягледзячы на сваю занятасць, Сяргей Мікалаевіч узяўся выканаць ролю «рамізніка» на сваім аўто на цэлы дзень, а Алег Кандратавіч — гідам. Так нечакана мы з Кастусём азнаёміліся са славутасцямі горада. А Людміла Аляксандраўна, жонка Кажэўнікава, запрасіла нас і Бабышкіных на вячэру, якая прайшла ў сяброўскіх нязмушаных абставінах. Гэта была апошняя сустрэча з Кажэўнікавымі. Я ўдзячна лёсу за магчымасць блізка пазнаёміцца з таленавітым вучоным, выдатным чалавекам — добрым, жыццярадасным, якім быў С. М. Кажэўнікаў.

У гасцях, вандроўніцтве — цікава, добра, але ж дома шмат работы па добраўпарадкаванні. Будаўніцтва курыраваў Міхасёў брат, але аб юрыдычным афармленні дома не паклапаціўся. Ішоў час, змянілася кіраўніцтва ў рэспубліцы,

змяніліся законы. Калі ж Міхась пайшоў у юрыдычную кантору канчаткова аформіць дакументацыю на дом, ён атрымаў адмову — толькі што выйшла новая пастанова, паводле якой забаранялася будаваць кватэры плошчай больш як шэсцьдзясят квадратных метраў. У нас было крыху больш, але ж будавалі да гэтай пастановы. Звычайна законы адваротнага дзеяння не маюць. Тым не менш у другой канторы адмовілі таксама. Што рабіць? Я ўспомніла, што ў бальніцы мне давялося быць у адной палаце з Верай Іванаўнай Філіпавай, і ў нас склаліся добрыя ўзаемаадносіны. Яна ж па партыйнай лініі курыравала суды, юрыдычныя канторы і інш. Прыйшлося звярнуцца да яе па дапамогу, растлумачыць, у чым справа. І яна дапамагала — пазваніла ў юрыдычную кантору, — дом пабудаваны на аснове пастановы вышэйшых дзяржаўных і партыйных устаноў, дазвол на зямельны ўчастак атрыманы, толькі аформіць трэба было раней. І нашы непрыемнасці скончыліся. Тым не менш Даніку на карысць гэтыя абставіны не пайшлі. Праз некалькі год ён вырашыў пабудаваць сабе дачны дом на радзіме бацькі. Ён турбаваўся аб адкрыцці філіялаў музея, і каля іх не пашкодзіла б мець прытулак. Магчыма, што ён бы і не пайшоў на такі крок, каб не яго сябра Фелікс Лагута. Апошні ездзіў на радзіму на Гомельшчыну і там сустрэў свайго былога вучня, які стаў нейкім начальнікам. І той пацікавіўся, ці ёсць у настаўніка дача, калі трэба — то мае магчымасць адпусціць добрага лесу і па невысокай цане. І Фелікс сагітаваў свайго сябра на будаўніцтва дачы, дзе і яму знойдзецца прытулак на старасці гадоў. Данік згадзіўся, выбраў цудоўную мясціну каля нёманскіх дубоў. З Гомельшчыны прывезлі бярвенні, і Данік распачаў будаўніцтва, маючы на ўвазе, што давязецца часта наведваць бацькоўскія мясціны і будзе дзе спыніцца. Але на адвод зямлі пад дачу Данік не паклапаціўся. Паколькі будаўніцтва было даручана курыраваць Феліксу, то той, нічога не кажучы галоўнаму забудоўшчыку, значна пашырыў памеры хаты — будаўніцтва адбывалася не за яго грошы. Хату «вывелі» ў два паверхі, вялікую, і на абсталяванне яе грошай не хапіла. Фелікс пазычыў грошы ў Міхася, упэўнены ў тым, што Данік разлічыцца з ім. Але Даніла адмовіўся: ты пазычаў, ты і аддавай. А тут пайшлі пісьмы сем'яў, якім было, відаць, зайздросна, што гэта хата лепшая за іхнія. І райвыканкам адмовіў у адводзе зямлі. Былых сяброў, якія маглі б дапамагчы, ужо не было. З вялікімі цяжкасцямі Данік здолеў прадаць будыніну пад турбазу. Яе дабудавалі, попыт на пуцёўкі быў вялікі, і новыя гаспадары пачалі пашыраць базу, можна сказаць, цэлага турыстычнага комплексу, дзе маглі б адпачываць многія. Але наўрад ці каму з турыстаў вядома, што фундамент гэтага комплексу заклаў Даніла. А філіялы музея на Стаўбцоўшчыне — гэта асабістая яго заслуга.

Авакаў часцяком заходзіў да нас і тут пазнаёміўся з Данікам. У іх выявіліся агульныя інтарэсы, яны пасябравалі, утварылася кампанія з Малёнкам, Сугробавым — рэктарам наргаса, дзе працаваў Мірза, да іх далучыліся іншыя знаёмыя. Мірза пастаянна кпіў з кампаньёнаў, насміхаючыся над іх прымітыўнымі поглядамі. Як нам падалося, ён настройваў Даніка супраць Міхася, а Міхася — супраць брата. Што датычыцца Міхася, то захады юрыста поспехаў не мелі. Тады ён стаў званіць нам у 2-3 гадзіны ночы і распытваць, як справы і чаму такі заспаны голас. Пасля двух-трох званкоў Міхась стаў тэлефанаваць яму гадзін у шэсць раніцы, звяртаючыся з гэткімі ж пытаннямі. Адвучыў, Даніла ж кпіў з юрыста ведамі юрыдычных тэрмінаў, невядомых таму. Іншы раз Авакаў прыходзіў са сваімі знаёмымі, са сваімі дзецьмі — Сяргеем і Бэлай, а таксама са сваімі пасіямі. Аднойчы ён стаў знаёміць са сваёй жанчынаю, як з нявестай. А Міхась зрабіў разгублены выгляд і сказаў, што два тыдні назад ты знаёміў мяне зусім з другою нявестай! Неяк пад вечар Мірза зайшоў да нас са сваім земляком Барысам Пагосавым. Абодва ўжо былі пад мухай, і ім, відаць, трэба было дазаправіцца. Барыс сеў за фартэпіяна і стаў нешта найграваць. На

гукі музыкі прыбег Кастусь. Яму было гадкоў шэсць. Барыс запытаў малога, што яму сыграць? А той тут жа выдаў: «Лунную сонату». Ого! Паспрабаваў, крыху збіваючыся і запытаў: ну, як! Малы нічога не адказаў, выбег з пакоя, а праз пару хвілін прыбег з пласцінкаю ў руцэ: «Паслухайце, як іграе Рыхтар!» Абодвух кінула ў шок — такая неспадзяванка!

Нягледзячы на тое, што Авакаў мог тыдзень гуляць, а іншы раз і прапусціць заняткі, пасля садзіўся за стол і за два-тры тыдні паспяваў напісаць брашуру ці кнігу. Ён падараваў Міхасю сваю кнігу па працоўным заканадаўстве.

Бываючы ў гасцях у сваіх сяброў, сустракаліся з іх знаёмымі і з некаторымі пасябравалі. Грыша Бельскі, з якім мы пазнаёміліся ў студэнцкія гады як з адным з першых аспірантаў С. І. Губкіна, пасля вяртання з Індыі, Кубы вярнуўся ў нашу кампанію. З яго жонкаю Рагнедаю я пасябравала, да таго ж у нас у адзін год нарадзіліся малодшыя дзеці, якія пайшлі вучыцца ў адну школу і ў адным класе скончылі яе. У Бельскіх бывалі яго калегі па політэхнічным інстытуце, у прыватнасці, Л. С. Ляховіч, Р. І. Тамілін і іншыя. Рэма Таміліна я ведала па рабоце, ён пачынаў працаваць на нашай кафедры. Ён быў своеасаблівым неардынарным выкладчыкам і чалавекам, наскрозь прасякнутым беларускасцю. Кожны раз, калі ён прыходзіў з нейкай нагоды, у яго было падрыхтавана арыгінальнае прысвячэнне ў вершаванай форме. У душы ён быў паэтам. Міхась таксама меў штонебудзь забаўнае з нагоды сустрэчы. Грашыў вершамі і Грыша, але больш на тэму прыроды, настрою. Ягоныя вырабы з дрэва былі проста цудоўныя, карысталіся вялікім поспехам. Аднойчы Міхась падараваў яму набор разцоў па дрэве, а другі раз — выразанага з дрэва зайца, які сядзеў на задніх лапах з нахабнаю-нахабнаю мордаю. Міхась прыклеіў яму сапраўдныя вусы і, каб падкрэсліць яго нахабны выгляд, прыклеіў у адпаведным месцы запалку. Атрымаўся нахабна-сексуальны заяц. Паколькі ў кватэры былі дзеці, Міхась склеіў з паперы цыліндр, які закрываў ніз зайца, і напісаў:

Сезон охоты завершён,
В лесу и в поле тихо,
Я снова смел, опять силён,
Подать сюда зайчиху!

Канешне, смеху было многа, жартаў, эпіграм Рэма. Калі яго не стала, удава Таццяна сабрала паэтычныя творы мужа і выдала кнігу «Роздум». Міхась падрыхтаваў прадмову.

У Сяргея Касцюковіча мы пазнаёміліся з выдатным барытонам нашага опернага — Васілём Ганчарэнкам. Які гэта быў Анегін! З Міхасём ён хутка сышоўся ў поглядах на вакальнае мастацтва. Абодва любілі класічную музыку, народныя песні, рамансы, не прымалі сучаснай безгалосай эстрады з малпавымі крыўляннямі і бяздарнасцю тэкстаў. Распаўсюджванне папсы і захапленне ёю моладдзю непазбежна прывядзе да разбурэння духоўнасці і дэградацыі грамадства. Гэта — вынік адсутнасці музычнай адукацыі і пагоні за грашыма. З экранаў тэлебачання і з радыёперадач зніклі народныя песні, рамансы, камерная музыка. Зрэдку можна ўбачыць і пачуць сапраўднае мастацтва — сімфанічную і оперную музыку. Васіль Ганчарэнка выдатна выконваў украінскія песні, рамансы. І кожны раз пры сустрэчах мы з асалодаю слухалі іх у выкананні майстра вакалу. Аднойчы ледзь не сарваліся яго спевы. Нечакана з’явіўся другі «саліст». Наш Чук рэагаваў на працяглыя гудкі, сігналы. Аказалася, ён рэагаваў і на спевы. Каб не сапсаваць вечарыну, прыпыніць яго выццё, давялося скарміць яму цэлую талерку кілбасы. Кампанія была досыць вялікая, Міхась заўсёды запрашаў свайго брата, які быў неператўзыдзеным тамадой. У яго было шмат сваіх любімых выслоўяў, песень. Так, тэрмін «недоперепил» ён тлумачыў — выпіў больш чым мог, але менш, чым хацеў. Гучала і адна з яго любімых песень — «Ад панядзелка да панядзелка». Час ад часу, калі ён прыходзіў дахаты, адбываліся сутычкі

з жонкаю. Аднойчы, пасля разладу паміж імі, каб запалохаць яе, ён ухапіў чамадан з яе рэчамі і заявіў, што спаліць. Відаць, пагроза не падзейнічала, і ён пайшоў на двор, распаліў вогнішча. Канешне, ён і не думаў губіць каштоўнасці, але Міхася папрасіў сказаць, што ўжо паліць. Зарына страшэнна перажывала, аднак бараніць свае адрэзы не пайшла. З гэтага жорсткага розыгрышу Міхась склаў на вядомы матыў словы:

Твой костер в тумане светит,
Искры гаснут на лету.
Разве кто-нибудь заметит,
Как ты сжег мою мечту.

Платья, блузки, сарафаны
Уничтожены в огне.
Как всегда изрядно пьяный,
Насолить хотел ты мне.

Пусть горят шелка с бостоном,
И пусть дым идет трубой,
Я расстанусь с этим домом
И расстанусь я с тобой.

Заверну свою Алёну,
И Андрея прихвачу,
А тебя пусть змий зелёный
Заберет, как я хочу.

Твой костер уже не греет,
Прахом всё пошло давно.
За скандалом драка зреет,
А любовь…любовь — г...но!

Пасля такіх разборак адносіны паміж мужам і жонкай пагаршаліся. І калі раней Зарына захаплялася эрудыцыяй, энцыклапедычнымі ведамі мужа, то цяпер яна расчаравалася і наогул стала гаварыць, што ён — кепскі чалавек. А пасля нараджэння дачкі, яна зусім абасобілася. Даніла, канешне, перажываў, і ў яго гэтая траўма выклікала больш частыя выпіўкі. Зарына, яшчэ прыгожая, маладая мела нямала паклоннікаў, але завесці новую сям’ю ў яе не атрымоўвалася. Усе раманы хутка заканчваліся нічым.

Час ішоў, і ў асабістым жыцці Даніка адбыліся значныя перамены. Ён сустрэў незамужнюю маладую жанчыну з аднолькавым прозвішчам. Гэта акалічнасць страшэнна ўразіла яго — не так часта сустракаюцца аднафамільцы, ды пры такіх абставінах, якія склаліся ў яго жыцці. Гэта была Аляўціна Цімафееўна Міцкевіч, і Даніла паспяшаўся запрасіць яе ў госці. Ён паведаміў, што са сваёй жонкаю знаходзіцца ў разладзе, дома яе няма — яна даглядае хворую дачку ў сваёй маці. І стаў паказваць сваю кватэру, сад. У яго была слабінка на паказуху. На другі дзень яго госця сказала, што Данік зрабіў ёй прапанову выйсці за яго замуж, і яна пагадзілася. Каб ён не перадумаў, яна з ім паехала ў магазін, дзе Данік зрабіў ёй вясельны падарунак. Там жа ён сустрэў Сяргея Касцюковіча і сказаў, што сягоння жэніцца. Ала падрыхтавала вясельны абед, на які запрасіла сваю маці, сястру і, здаецца, брата. Данік запрасіў свайго неразлучнага сябра Фелікса Лагуту, а таксама даўняга сябра Анатоля Лавыша. Тут жа аказаўся і Аляксей Слесарэнка. Лавыш павесіў праз плячо вышываны ручнік і выступіў у ролі свата. У часе абеду раптоўна з’явілася Зарына, але ўбачыўшы ў застоллі кампанію з незнаёмымі асобамі, яна нічога не сказала, і пайшла ў свой пакой. Нечакана ўсхапіўся Аляксей Слесарэнка з намерам дагнаць Зарыну з прапановай сесці за стол. Даніла жэніцца, а могуць падумаць, што Вы пакрыўдзіліся! Зарына махнула Аляксею рукой, ціха сказаўшы, што нарэшце яна пазбавілася ад Данілы, і з гордым відам пакінула

хату. Пасля мы доўга прыпаміналі Аляксею яго прапанову, — ці ад шчырага сэрца выпаліў, ці знарок. Мне было непрыемна прысутнічаць далей, і мы з Міхасём пакінулі застолле.

І вось на палове дома Даніка на першым паверсе засталася першая жонка з дзецьмі, а на другім — другая, грамадзянская. Востры на язык Мірза тут жа прыляпіў свайму сябру мянушку — дваяжэнец. Як бы там ні было, а гэтая акцыя паскорыла канец неакрэсленасці ў адносінах Зарыны і Данілы. Ён выдаў Зарыне вялікую суму грошай, і яны разышліся. Зарына прывяла да сябе грамадзянскага мужа. Ён загадваў кафедрай нямецкай мовы ў Інстытуце замежных моў, дзе Зарына выкладала французскую. Звалі яго Юра, прозвішча не запомнілася. Ён быў сімпатычным і вясёлым чалавекам, але ў яго была хворая спіна, ён большую частку дня праводзіў у напалову ляжачым стане. Цяпер Даніла змог узаконіць свае адносіны з Алаю. Праз некаторы час Зарына распісалася з Юрыем, і гэта дапамагло атрымаць ім трохпакаёвую кватэру ў Зялёным Лузе. Але захаваць новую сям'ю Зарына не здолела. Юра развёўся з ёю і з'ехаў з Мінска. Зарына засталася з дачкою, Даніла выбіў маленькую кватэру для сына Андрэя, так што адзінай гаспадыняй стала Ала. Яна здолела ўзяць Данілу ў рукі, стварыла нармальныя сямейныя ўмовы, чым дамаглася таго, чаго не магла зрабіць, ці не хацела Зарына. Даніла перастаў прыкладацца да бутэлькі і сваю энергію накіраваў на ўшанаванне памяці свайго бацькі. Несумненна, што нармальныя ўмовы існавання прадоўжылі яго жыццё. Па запісах і надыктоўках дачка Вера змагла выдаць кнігу «Любіць і помніць» — успаміны аб падзеях, звязаных з жыццём Канстанціна Міхайлавіча. Надыктоўкі Даніла рабіў прыкаваны да ложка цяжкай невылечнай хваробай, добра ведаў, што вызвалення ад яе няма. Ён заставаўся да канца дзён непахісным, цвёрдым, без выказвання нават кроплі жалю да сябе. Памёр у дзень народзін Янкі Купалы. Свой прах наказваў часткова развеяць па пэўных мясцінах, а астатак пахаваць поруч з прахам маці і бацькі на Мінскіх вайсковых могілках. Паспеў аформіць усю сваю маёмасць на жонку Алу. А як распарадзілася Зарына з тымі грашыма, што ёй даў Данік пры разводзе — невядома. Яна памерла некалькі месяцаў раней — у дзень нараджэння дачкі Алёны. Шматгадовае курэнне выклікала рак лёгкіх. У труне нябожчыца выглядала чароўнай заспакоенай жанчынай, толькі бледны-бледны твар яе сведчыў, што жыццё скончылася.

***Працяг будзе.***

Т

Васіль ШУР

# ІМГНЕННЕ І ВЕЧНАСЦЬ

**Васіль РАГАЎЦОЎ. Імгненне і Вечнасць.** *Мн.: Кнігазбор, 2010.*

Доктар філалагічных навук прафесар Васіль Рагаўцоў — вядомы мовазнаўца, аўтар шэрагу вучэбных дапаможнікаў для студэнтаў-філолагаў, шматлікіх навуковых прац, у якіх упершыню даследуюцца моўныя сродкі стварэння камічнага эфекту ў беларускай драматургіі. А яшчэ — ён самабытны паэт. Новая ягоная кніга «Імгненне і Вечнасць» увабрала ў сябе ўсё лепшае з папярэдніх зборнікаў «Сутонне», «Далягляд», «На роскрыжы дарог».

Васіль Рагаўцоў па-філасофску асэнсоўвае рэчаіснасць у яе шматстайных праявах, з уласцівымі ёй супярэчнасцямі і складанасцямі. Многія вершы будуюцца на процілегласцях (радасць / трывога, каханне / здрада, дабро / зло, святло / цень, спатканне / ростань, мінулае / сучаснае…) Гэта дазваляе адлюстраваць жыццё глыбінна, з улікам прычынна-выніковых сувязей паміж прадметамі і з'явамі, выявіць не толькі агульнае ў рэаліях навакольнага свету, але і спецыфічнае, адметнае. Паэт — не сузіральнік, ён імкнецца ў адзінкавых праявах убачыць агульнае, і, наадварот, у агульных — адзінкавае.

Глыбокая думка вынікае часцей за ўсё з падтэксту вершаў, якія, на першы погляд, нічым асаблівым не вылучаюцца. Часам можа скласціся ўражанне, што яны звычайныя, простыя (не перанасычаны моўна-выяўленчымі сродкамі ці прыёмамі эксперыментатарства). Аднак нельга не пагадзіцца з Алесем Марціновічам, які, аналізуючы творы першага зборніка паэта, адзначаў, што «звычайнасць і прастата іх падманлівыя». Дзеля пацвярджэння свайго назірання ён праводзіў паралель паміж хуткаплыннай рэчкай, у якой ёсць віры, нябачныя простаму воку, і паэзіяй В. Рагаўцова, якая таксама мае сваю «вірлівасць» — «філасафічную напоўненасць думкі». Яскравым прыкладам можа быць верш «Хвалілася бура…», у якім супрацьпастаўляецца бура (як сімвал разбуральнай сілы) і вецер (як увасабленне цудадзейства). Бура хвалілася ветру: «*Я — // самая моцная ў свеце: // асілкі-дубы вырву з коранем…*» І каб паказаць, хто ёсць уладар, кінула яму словы пагрозы: «*І ты — захачу — // мне пакорышся!*» Вось тут і адбываецца цуд, нечаканы як для самой буры, так і для чытача: *«…А ветрык-гарэза // прайшоўся па бору — // той песняй азваўся // птушынага хору… // Узвіўся у неба // да хмарак імглістых — // яны сыпанулі // даждждом серабрыстым… // А толькі крануўся ён // гладзі азёрнай — // яна разгулялася // сполахам зорным…»* Пераканаўшыся, якія цуды вырабляе вецер, бура «*знямела ў здзіўленні няўмольным*». Яна вымушана была прызнаць сілу ветру, але не столькі фізічную, колькі цудадзейную. У прамоўленых бураю словах (*што ж!..*) чуваць ноткі зайздрасці: «*Што ж!.. // Вольнаму — воля… // Вольнаму… воля!*» Разам з тым гэтыя словы наводзяць чытача на філасофскую выснову: моцны не той, хто надзелены разбуральнай сілай (для гэтага не трэба асаблівых здольнасцей), а той, хто можа здзівіць, як чарадзей, нечым нечаканым, незвычайным — тым, што прыносіць асалоду іншым, што выклікае ў іх захапленне.

Удала выкарыстаны прыём кантрасту ў вершы, дзе праз супрацьпастаў-

ленне засохлага клёніка і яго суседкі — бялёсай, цнатлівай вішні яскрава паказана «несправядлівасць» у прыродзе: адным дадзена красаваць пышнацветам (вішні), а другім (клёніку) быць абдзеленым лёсам, нават не зведаць асалоды красавання. Каб зняць гэтую «няроўнасць», аўтар па-майстэрску карыстаецца прыёмам «ажыўлення», які пераканаўча сведчыць, на што здатная чалавечая дабрыня: «*Маўклівы цень // ад засохлага клёніка // лашчу, // нібы змерзлае кацяня, // даланёю. // І здаецца, // страпянуўся цень, // і зашапацела дрэўца…*» Не толькі зашапацела, але і ажыло пад уздзеяннем магіі чалавечай волі і душэўнай цеплыні. Заключныя словы твора кранаюць шчымлівасцю, бо яны — своеасаблівы велічны гімн таму імгненню зямной прыгажосці, якое ніколі не паўторыцца: «*І быццам растварыліся, // зніклі яны // ў пошугу веснавой квецені…*»

А вось як з дапамогай супрацьпастаўлення непаўторна свежа ствараецца вобраз ветру ў аднайменным вершы, які складаецца з трох невялікіх частак (нагадвае трыпціх): (I) «*Стаіўся вецер // у падстрэшку вясковай хаты: // слухае, // як уздыхаюць масніцы*». (II) «*Вецер на раздольным полі // чуе сябе нявольнікам: // няма з кім падужацца*». (III) «*Вецер прыціх каля весніцаў, // якія сваё // адрыпелі*». У творы выяўляюцца адметныя рысы ветру, якіх нярэдка так нестае чалавеку: чуйнасць (у першай частцы), вольналюбства (у другой), спагадлівасць (у трэцяй).

Выкарыстоўваючы прыём кантрасту, паэту ўдаецца глыбей «зазірнуць» у душу чалавека, паказаць суіснаванне ў ёй супярэчнасцей, якія нярэдка пераплятаюцца, узаемадзейнічаюць і ў залежнасці ад жыццёвых абставін паўней выяўляюць сваю сутнасць: «*Спявае Душа ад смутку, // ды спеў ад смутку журботны. // Сумуе Душа ад гулівасці — // толькі сум бесклапотны. // Смяецца Душа ад зайздрасці — // ды смех той калючы. // А плача Душа ад радасці — // плач той — гаючы*».

На супрацьпастаўленні трымаецца асноўная думка і ў вершы «Сакавіта трашчаць у печы дровы…» Сіраціна бярозка, якая «*туліцца здубянелымі галінкамі // да незамерзлай шыбіны: // просіцца ў хату — // сагрэцца*», зачаравана гуллівым полымем, што «*вясёлкаю гуляе пад чарэнню*». Адзінокай бярозцы няўцям, што рана ці позна і яе, магчыма, чакае такі ж лёс: цнатліва-прыцягальнае полымя прынясе ёй… смерць.

Важную сэнсавую нагрузку нясуць у творах паэта вобразы-сімвалы. Так, у адным з вершаў ужо каторую ноч у адзінокім акне палахліва мігае «*святло незгасальнай свечкі*», перад кволым агеньчыкам якой «*становіцца нікчэмнай // гнятлівая цемра, // што, // як насланнё, // ахінае душу*». Шчымліва сцінаецца сэрца, калі чытаеш, што «*ноччу адной // захліпнуўся агеньчык — // развітальнай слязою матулі*». Святло незгасальнай свечкі, якое сімвалізуе дабро (засцерагальную сілу), затуляе сабою гнятлівую цемру як увасабленне зла (знішчальнай сілы). Нягледзячы на мінорны матыў, канцоўка твора ўсяляе надзею: «*да самага золку // ў адзінокім акне // мігціць // сіратлівая зорка*». Кранае апошні радок. Для зоркі, мабыць, настолькі дарагім было святло свечкі, што без яго і яна асірацела. Разам з тым не выклікае сумніву, што кожным адвячоркам і світанкам адзінокае акно будзе прычашчацца шчымлівым зоркавым святлом. Значыць, жыццё працягваецца…

Па-свойму непаўторныя вершы, пабудаваныя паводле прынцыпу «падманутага чакання». У іх першая частка настройвае чытача на апісанне паэтычнага вобраза як «жывога», прысутнага ў момант гутаркі аб ім, што пацвярджаецца ўжываннем дзеясловаў у форме цяперашняга часу. Другая частка ўспрымаецца як рэтраспекцыя, зварот да мінулага. Як вынік — узмацняецца экспрэсія верша, яго ўздзеянне на чытача, які выступае не проста сузіральнікам, — ён міжвольна суперажывае разам з лірычным героем: «*Палоніць музыка тваіх вачэй, // нібы вясёлка пасля шчодрай навальніцы. // А голас твой — як мілазвонная крыніца: // ён песняй жаўранка — нястомнаю — // бруіцца... // Як боль, святы ўспамін душу пячэ. // І светла мне: жыву яшчэ... // Жыву!*» Верш багаты на мастацка-выяўленчыя

сродкі, з дапамогаю якіх ствараецца прыцягальны вобраз Яе: свежыя метафары «*палоніць музыка тваіх вачэй*», «*ён* [голас] *песняй жаўранка — нястомнаю — // бруіцца...*», параўнанні (у тым ліку разгорнутыя): «*нібы вясёлка пасля шчодрай навальніцы*», «*як мілазвонная крыніца*» (з эпітэтам-аказіяналізмам «мілазвонная») і інш. У шасцірадковіку, які мае рыфмоўку АбббАА, апошняе слова-сказ («жыву!») рытмічна ўваходзіць у шосты радок, аднак яно выносіцца за межы яго, паколькі не рыфмуецца. Такое незарыфмаванае слова вымушае звярнуць на яго ўвагу, бо ў ім заключана істотна важная думка: чалавек жыве да таго часу, пакуль яго душа адгукаецца на радасць, боль… (як рэальныя, так і тыя, што згадваюцца).

Як адзначалі крытыкі, В. Рагаўцоў «улюбёны ў роднае слова», «тонка адчувае яго адценні і значэнні» (А. Марціновіч), умее «зазірнуць у яго ўнутраную сутнасць» (Іван Штэйнер). Дарэчы, «унутраная сутнасць» — гэта не што іншае, як унутраная форма слова, пад якой разумеюць тую адметную прымету, якая кладзецца ў аснову назвы. Выразную ўнутраную форму маюць гаваркія словы. Праз іх выяўляецца светапогляд народа, яго бачанне і ўспрыманне навакольнага свету. Яны не толькі называюць пэўную рэалію (прадмет, прымету, дзеянне), але і адмыслова, непаўторна-свежа характарызуюць яе. Згадаем хоць бы некалькі: *знічка, рукавіцы, вясёлка, ручнік, немаўля, пырскуль* (рэдкі дождж), *маладзіца* і інш. Чуеш, напрыклад, «знічка» — і перад вачыма ўзнікае цэлы малюнак: бачыш, як імкліва ўспыхвае-загараецца зорка і ў адно імгненне знікае.

Паэт жыве родным словам, смакуе яго, наталяецца ім, «*як прагавітая душа — // першацветам*». Ён імкнецца выявіць у слове новыя сэнсавыя адценні, ужывае яго ў вершах так, каб яно стала яшчэ больш вабным. Далікатна паэт перадае, як нараджаецца, шліфуецца слова, каб потым, набраўшыся красы і сілы, спатольваць чалавечыя душы: «*Яно прарастае ў душы // цнатліваю рунню, // спеліцца на вуснах // шапатлівым коласам, // пераліваецца на іх // залатым зернейкам…*» Спалучэнне «*залатым зернейкам*» выклікае багатыя асацыяцыі і шмат пра што гаворыць чытачу. Відавочная паралель. Як зернейка, якое прагне раллі (каб узысці, зарунець, закаласіцца і — урэшце — закрасаваць), так і словы-зернейкі просяцца ў верш, каб даць «*душы сасмяглай наталіцца...*»

У В. Рагаўцова можна сустрэць і наватворы, якія, аднак, «не здаюцца нам не натуральнымі, бо яны вынікаюць са зместу вершаў» (Казімір Камейша): «долягляд», «мяцеляць» (думкі), «адлісцела» (восень), «шчодраць» (святло), «плыніць» (жыццё), «рассечына» (на бярозе), «рэхапрастора», «завейна» (завыць) і інш. Наватворы дазваляюць стварыць вобраз-малюнак. Узяць хоць бы такое новаўтварэнне, як *долягляд*. Яго значэнне ў пэўнай ступені тлумачыцца ў безыменным вершы: «*Жывых // да скону вучыць жыццё. // І на гэтай зямной пуцявіне — // залацінкі-імгненні // чалавечага шчасця. // А для тых, // хто сыходзіць за долягляд, // мімалётнае, плыннае // зліваецца з вечнасцю. // Як і яны самі*». У гэтым ёмістым слове спалучаецца і зямное, тое, што абазначаецца назоўнікам *доля*, і ўзвышанае, з філасофскім адценнем: чалавечае быццё, лёс (не толькі аднаго чалавека, а ўсіх насельнікаў зямлі). Наватвор, такім чынам, сэнсава багацейшы за агульнавядомыя *доля*, *лёс* і, апрача таго, экспрэсіўна насычаны.

У кнізе багата трапных, выверaных жыццёвым вопытам, часам нечаканых аўтарскіх абагульненняў, якія лаканічна вызначаюцца глыбокім філасофскім зместам. Скандэнсаваныя выказванні, што нагадваюць афарызмы, маюць мастацкую завершанасць і глыбокую думку. Дарэчы, крытыкі неаднойчы адзначалі такую адметнасць творчасці В. Рагаўцова, як «здатнасць пісаць афарыстычна» (А. Марціновіч), «схільнасць да філасафізацыі рэчаіснасці» (І. Штэйнер). Напрыклад: «*І радасць // не сагрэе нішчымную душу. // Як ружа ў вазоне — // сваім пустацветам*»; «*Грэшныя моляцца // рукою, // а святыя — // і Душою*»; «*Шчаслівыя, // каго чакаюць. // А яшчэ болей // шчаслі-*

*выя тыя, // каму ёсць каго // чакаць*»; «*Розум і Душа — // што месяц і сонца. // Адно свеціць, // а другое — // яшчэ і грэе*»; «*Паміраць — // ніколі не позна. // Не спазніцца б // жыць*»; «*Быць вязнем чужой Душы // цяжэй, // чым сваёй*»; «*Любіць // можна і Розумам. // А кахаюць — // толькі Душою*».

Некаторыя вядомыя выслоўі В. Рагаўцоў мэтанакіравана «дапрацоўвае», часам удакладняе і напаўняе іх крыху іншым або новым сэнсам: «*З песняю // лягчэй жыць. // Толькі не заўсёды яе // лёгка спяваць*»; «*І багатыя // плачуць. // Нярэдка — // слязьмі бедных*»; «*Жыццё пражыць — // і поле перайсці, // парослае хвашчом, // і лес, // напоўнены трывожным шчэбетам // птушыным, // і луг, // някошаны які ўжо год… // Цяжэй за ўсё // прайсці цераз сябе самога. // І быць // шчаслівым*»; «*Творчасць // пачынаецца з пакутаў. // Але ж і пакуты — // таксама творчасць. // Душы*».

Скандэнсаванасць аўтарскай думкі найбольш яскрава выяўляецца ў невялікіх, з трох-пяці радкоў, творах, якія сваёй формай нагадваюць класічную ўсходнюю паэзію: «*Жабрак ля царквы. // На далоні — // першая міласціна: // залацісты кляновы лісток*»; «*Гора яднае людзей, // а шчасце… // раз'ядноўвае. // Парадоксы быцця*»; «*Я спыніўся. // А цень мой паплыў // побач з ценем // сустрэчнай незнаёмкі*»; «*Дым // з лагодаю абвівае // садовыя дрэўцы, // каб паўтарыцца // у іх першацвеце*»; «*Ліхтар // у пустынным скверы… // Як свечка ля алтара. // Так і хочацца // пакланіцца*»; «*Яловыя лапкі на дарозе… // Сірацеюць людзі. // Сірацее лес*»; «*Многія і на волі — // нявольнікі. // Чужой Душы*».

Асобныя з такіх твораў, на першы погляд, успрымаюцца як супярэчлівыя, напрыклад, гэты: «*Ахмялелыя травы, // злеглае жыта // сняць касу і серп*». Напрошваецца пытанне: няўжо ім так хочацца расставацца з жыццём? Аднак пры больш глыбокім разважанні прыходзіш да высновы, што яны гатовыя самаахвяраваць сабою толькі дзеля таго, каб быў працяг: зноў вырасла на пакошы атава, зазелянела вясною рунь. Бо так было спрадвеку, а інакш — усё… марна згіне. І ці вырасце тады, ці ўродзіць што добрае на тым месцы? Такая няўмольная філасофія быцця…

З нагоды паўвекавога юбілею паэта Алесь Пісьмянкоў пра яго сказаў вобразна і разам з тым трапна: «Думка, пачуццё і адметная лексіка — вось тыя тры кіты, на якіх трымаецца паэзія Васіля Рагаўцова». Нельга не прызнаць слушнымі і меркаванні Якуба Усікава, які, рэцэнзуючы зборнік «Сутонне», адзначыў, што неадлучны элемент паэзіі В. Рагаўцова, як і сапраўднай паэзіі наогул, — сінтэз рацыянальнага і эмацыянальнага. Застаецца толькі дадаць, што вершы А. Рагаўцова вылучаюцца неардынарным поглядам на свет (прыроду, людзей) і глыбокім яго адлюстраваннем. Адна з істотных іх якасцей — наяўнасць падтэксту, з дапамогай якога выяўляецца прыхаваная ад іншых думка, якая тоіць у сабе глыбокі сэнс, пазнаць які намнога цяжэй, чым той, што навідавоку (у тэксце).

# Т

Аляксей НЕНАДАВЕЦ

# ВЯРТАННЕ Ў СВАЁ МІНУЛАЕ

**Анатоль ЗЭКАЎ. Генеральскі нумар. Апавяданні, былі, абразкі.** *Мн.: Мастацкая літаратура, 2011.*

Усё напісанае ў гэтай кнізе я б падзяліў на дзве роўныя палавіны і назваў бы іх без нейкага прыўхарошвання: выдуманае і пражытае, дакладней, мабыць, перажытае. Да першай аднёс бы апавяданні, а да другой — былі, абразкі, успаміны. Асабліва кранальна ўспрымаецца другая палова, дзе ўспаміны. Не толькі таму, што яна лёгка чытаецца, звонка гучыць, напамінае святое правіла, што кароткасць, сцісласць, ёмістасць — сястра таленту. Але яшчэ і таму, што некаторых з тых, пра каго расказваецца, я ведаў асабіста. Любая згадка пра іх — гэта і згадка пра маё ўласна-перажытае.

У апавяданнях А. Зэкаў пайшоў ад традыцыйнага — звярнуўся, напрыклад, да тэмы Вялікай Айчыннай вайны, паказаў суровасць тых страшных падзей, пераацэнку маральных каштоўнасцей у свядомасці людзей. Глыбока псіхалагічным атрымалася апавяданне «Сяргейка». Абраная тэма заўсёды была актуальнай сярод беларусаў. Наш народ пастаянна пакутаваў ад наступстваў шматлікіх войнаў. У мірны час сярод ахвяр заўсёды пераважалі дзеці і падлеткі. Ім усё было цікава, ім карцела ўсё пакратаць уласнымі рукамі, паглядзець, што там усярэдзіне, як яно «бабахне». І даволі часта бабахала. Забірала з сабою шмат жыццяў. Пакідаючы пасля сябе пакалечаных.

Да гонару аўтара, ён нават у такіх выпадках імкнецца ўзмацніць маральны аспект сваіх твораў, лішні раз пацвярджаючы, што душэўная чысціня персанажа сыходзіць ад многіх фактараў, і неабавязкова каб гэта было нешта звышістотнае. Прыгадаем зяця Ціхана, які паабяцаў назваць сына-першынца Сяргейкам. У памяць аб заўчасна загінуўшым браце сваёй жонкі, які падарваўся на міне. Такую сітуацыю ні ў якім разе не назавеш штучнай, яна не выкліча скептычную ўсмешку, бо ў цэнтры яе — чалавечая дабрыня і спагада.

Анатоль Зэкаў імкнецца ўбачыць душэўнае і шчымлівае ў звычайнай жыццёвай будзённасці. Здавалася б, што адметнага ў апісанні пажару на калгаснай стайні. Канечне, агонь, люты і непераборлівы, вынішчае ўсё на сваім шляху. На гэты раз зажыва згарэлі коні. Бясспрэчна, балюча і шкада іх. Зразумелы і боль калгаснага конюха Рамана («Конскія могілкі»), бо згарэлі істоты, якія шмат у чым разумелі яго лепей за людзей. Праўда, тое, што ён прыходзіць на конскія могілкі, якія ў народзе звычайна называюцца кашарамі (але ў аўтара іменна праходзіць назва «могілкі»), з кветкамі, ускладае іх і, зняўшы картуз, моўчкі памінае сваіх былых гадаванцаў, не надта пераканаўча. Усё ж такі людзям людское, а коням — конскае. Відаць, гэтая надуманая недарэчнасць узнікла з-за празмернага жадання глянуць на жыццёвыя нягоды праз уласны пункт гледжання, праз уласную дабрыню і спагаду.

Надуманасць відавочна і ў апавяданні «Сустрэча на канцэрце», у якім расказваецца займальная гісторыя з жыцця былога вясковага механізатара. Чаму займальная? А ўявіце сабе гэтага механізатара на канцэрце, дзе гучаць, напрыклад, творы сімфанічнай музы-

кі. Не можаце? Я — таксама. Як і тое, што дзяўчына, якая разам з ім «карскалася» па камсамольскай сцяжынцы да светлай будучыні, стала вядомай спявачкай.

Затое бґылі і абразкі, нават не створаныя, а нібы спісаныя з самога жыцця, нагадваюць многія аналагічныя выпадкі, сведкамі якіх станавіліся мы неаднойчы. Было з чаго і пасумаваць, і пасмяяцца, і пажартаваць, і прыгадаць штосьці сваё. Не сакрэт, што ў такіх сітуацыях многае залежыць ад самога апавядальніка. Што-што, а распавядаць А. Зэкаў навучыўся выдатна. Схапіць і перадаць на ляту нейкую сцэну адным-двума словамі здолее далёка не кожны. А тут цэлая галерэя розных камічна-трагічных здарэнняў. Яны і запомніліся аўтару, сталі адметнымі з-за таго, што прагучала ўсяго нейкае адно непаўторнае слова, падаўся адрозным нейкі рух, нешта ўлавілася такое, чаго не было ў іншых.

Былі «Як Жэня паміраць збіралася», «Васіль і «Віягра», «Хвядос Панос», «Ці заўсёды лёгка вылаяцца?» і іншыя для мяне, напрыклад, па-свойму перадаюць сум па адыходзячым мінулым сялянскім жыцці, ягоную непаўторнасць і адметнасць, бо тыя павевы сучаснасці, змены, якія бесперапынна вынішчаюць апошнія астраўкі сялянскай лагоднасці, талерантнасці і самабытнасці, не заменяць сабою колішняй дабрыні, спагады і пяшчоты. Таму што змяняюцца самі норавы вясковага жыцця, вяскоўцы больш прыстасоўваюцца да таго, што называецца абыякавасцю, раўнадушшам, чэрствасцю.

Праўда, аўтар кнігі хоча падкрэсліць, што моладзь у многім усё ж пераймае (ці імкнецца да гэтага!) лепшыя традыцыі продкаў, не адмаўляецца катэгарычна ад усяго мінулага, не спяшаецца скасаваць тыя нормы народнай маралі і этыкі, якія фарміраваліся на працягу стагоддзяў. Былі «Настаўнік», «Купіце Кацьку!», «Нявеста ў гонар бабулі», «Па чым плакаць?» — лішняе таму пацвярджэнне.

Абразок сам па сабе, сваім вызначэннем сведчыць пра тое, што гэта дакладная перадача (ці амаль што) пэўнай жыццёвай сітуацыі. Чытаючы такія творы А. Зэкава, адразу заўважаеш, што гэта цудоўна прадуманыя, адшліфаваныя ў свядомасці і толькі пасля гэтага ўсяго вынесены на суд іншых людзей. Так, менавіта гісторыі, бо з іх складаецца само жыццё і гісторыя ўсяго беларускага народа. Тут сустракаецца, як і ўласна перажытае, пабачанае на ўласныя вочы («Чыя рэвалюцыя?», «Пісьменнік № 1», «Піянер з 1981 года») , так і тое, што давялося пачуць ад сяброў-знаёмых, бываючы ў шматлікіх камандзіроўках, творчых застоллях,  у вандроўках па роднай зямлі, калі ў памяці застаецца абавязкова нешта адметнае («У адных трусах», «Чаму хіхікнула сакратарка?», «Вясковы пікнік», «Газуем» і некаторыя іншыя абразкі).

Асабліва шчымлівым атрымаўся раздзел «Пра бацьку без выдумкі». Аўтар пракручвае ў памяці шматлікія сцэны і эпізоды, звязаныя з дарагім яму чалавекам, і імкнецца ўхапіць тое, што бацька імкнуўся перадаць яму, сыну, нагадаць, каб гэта стала галоўным і ў ягоным жыцці, каб і яго дзеці пазначалі свой жыццёвы шлях такімі ж маральнымі нормамі. Неабавязкова, каб бацька паўставаў нейкім «падмаляваным», «прыхарошаным». Дастаткова прааналізаваць усяго некалькі сітуацый, паказаць, як ён у іх дзейнічаў, як паводзіў сябе, і ўсё адразу ж стане зразумелым. Найбольш удаліся, як мне падаецца, — мініяцюры «Дзевяць літар», «Як конь», «Гандаль цыбуляй», «Канькі». Ёсць і чыста павучальныя гісторыі, скіраваныя на разуменне канкрэтных сітуацый, закранаючы адвечныя тэмы чалавечага быцця («Піць трэба ўмеючы», «Без каровы, а з малаком», «Ці грэх працаваць?», «Перакошаная брамка»).

Для Анатоля Зэкава, бацька — прыклад адвечнага працалюбства, вясковай цягавітасці, жыццёвага аптымізму і празмернай назіральнасці, умення трапна ахарактарызаваць пэўнае здарэнне, эпізод, канкрэтнага чалавека. Так што аўтару было ў каго вучыцца (і навучыцца!), пераймаць майстэрства апавядальніцтва і народнай педагогікі.

Так, А. Зэкаў сам ужо даўно бацька (і нават дзядуля) таму прапанаваў у новай кнізе не толькі ўспаміны пра свайго бацьку і запісаў цікавыя здарэнні з дзяцінства свайго сына ў раздзеле «Я размаўляю з сынам». Гэта тое, што найбольш запала ў душу, што ўелася ў памяць ад дзіцячай непасрэднасці, шчырасці, ад празмерна «дарослых» разважанняў («Завочная вучоба», «Каго выклікаюць за «двойку»?», «Вынаходнік», «Рыба ў сантыметрах»).

Паколькі аўтар кнігі «Генеральскі нумар» сталы газетчык, яму ёсць што прыгадаць і з былых рэдакцыйных будняў, пачынаючы ад таго дня, калі ўпершыню пераступіў парог рэдакцыі гомельскай раённай газеты «Маяк». Ягонымі настаўнікамі сталі вопытныя («мацёрыя») майстры. Маглі правесці і «Рэйд па тэлефоне»; і чарку ўзяць, асабліва не дбаючы аб тым, што іх чакае за гэта назаўтра («Вымова пры любым раскладзе»); нагадвалі маладому калегу і пра звычкі ды норавы, якія ўжо існавалі ў іхнім калектыве («Піражкі за грошы?» ці «Абед адмяняецца»). Некаторыя з гэтых твораў маглі б упрыгожыць любы гумарыстычны вечар, бо амаль анекдатычныя гісторыі, якія па словах А. Зэкава, «здарыліся з ім самім», мабыць, больш дакладна будзе сказаць, «пры ягоным непасрэдным удзеле». Сюды аднясём абразкі «Нічога, дык нічога», «Другі экземплярчык», «Перакурылі…» з ягонага апаратнага камсамольскага юнацтва.

Неяк асобна стаіць раздзел «Алесь. Згадкі пра Алеся Пісьмянкова». Не таму, што ў ім адметная тэматыка, а, найхутчэй таму, што гэта ўспаміны пра найлепшага сябра. Пра таго, каму давяраў, як самому сабе, з кім заўсёды раіўся і з кім трапляў у розныя гісторыі, якія атрымлівалі неадназначную ацэнку. Але і не гэта самае галоўнае, а тое, што сябра не стала, ён адышоў у іншы свет. Адышоў нечакана, заўчасна, не паспеўшы развітацца, а гэта значыць, і не дагаварыўшы. Такія страты — асабліва цяжкія і балючыя для ўражлівай душы. Цяжкія і балючыя тым, што яны незажыўляльныя. Яны крывавяць увесь час, пакуль і сам жыцьмеш. Дастаткова толькі за нешта «зачапіцца» ў памяці і… паплылі, і паплылі ўспаміны, якія зноў і зноў пачынаюць вяртаць Паэта ў лік жывых. Таму ўсплывае самае рознае: сцэны на Ісачы і Бесядзі, сяброўскія жарты-розыгрышы, дзе заўсёды было месца «і скварцы, і чарцы», прыгадваюцца гісторыі, калі гасцявалі ў бацькоў Анатоля ці Алеся, нават тыя ацэнкі і характарыстыкі, якія старыя давалі ім, маладым, іхнім знаёмым і таварышам («Пісьменнікі: большы і меншы»).

Анатоль Зэкаў лішні раз яскрава пацвердзіў, што погляд на свет, на людзей, на падзеі ў яго своеасаблівы. Ён вылучаецца тым, што пісьменнік заўважае найдрабнейшыя зрухі ў акаляючым асяроддзі, у грамадстве, у паводзінах людзей, а потым усё гэта, «прасейваючы праз сіта» ўласнага ўспрымання, даносіць да чытача. Падае гэта ў гумарыстычна-сатырычным плане, не забываючы, што ад смешнага да трагічнага не так ужо і далёка. Здаецца, кніга «Генеральскі нумар» павінна спадабацца чытачам, бо напісана яна добрым майстрам мастацкага слова.

# Т

Міхась КЕНЬКА

# ПРА СЕМЯЖОНА-ПЕРАКЛАДЧЫКА

**Ірына ЛАПЦЁНАК. Паэт-перакладчык Язэп Семяжон. Адметнасць творчай індывідуальнасці**. *Мн.: «Беларуская навука», 2010.*

Пераўвасобіць творы аўтараў з іншых краін на сваю родную мову бяруцца часцей за ўсё людзі, якія самі займаюцца мастацкай творчасцю, пішуць вершы ці прозу. Але ёсць і нямала «чыстых перакладчыкаў», якія самі літаратурных твораў не пішуць, аднак робяць выдатныя перастварэнні. Цікава, што большасць іх спачатку добра ўжыліся ў якую-небудзь мову, а потым і зацікавіліся літаратурай на ёй. Да нядаўняга часу лічылася, што менавіта такім шляхам ішоў і вядомы беларускі перакладчык Язэп Семяжон: толькі перакладаў, а сам вершаў ніколі не пісаў. Аднак Ірына Лапцёнак (Лавар) у манаграфіі «Паэт-перакладчык Язэп Семяжон. Адметнасць творчай індывідуальнасці» па-новаму раскрыла ягоны жыццёвы і творчы шлях, засведчыўшы, што ён быў яшчэ і аўтарам арыгінальных вершаваных твораў, дый і паэтам па складзе душы.

Яшчэ студэнткай яна зацікавілася праблемамі перастварэння і пачала наведваць семінар аўтара гэтых радкоў «Праблемы сучаснага мастацкага перакладу». Паколькі добра ведала англійскую і польскую мовы, ёй было прапанавана заняцца вывучэннем перакладчыцкай дзейнасці Язэпа Семяжона, бо ён перакладаў і з гэтых моў. Яна руплівa збірала матэрыял, знаёмілася з перакладамі, параўноўвала іх з арыгіналамі, працавала ў архівах. Абраная тэма, прайшоўшы курсавую і дыпломную работы, і стала дысертацыяй, якую прэтэндэнтка на навуковую ступень пісала пад кіраўніцтвам прафесара Вячаслава Рагойшы. Пасля таго, як дысертацыя была паспяхова абаронена, Ірына Бraніславаўна не спынілася на дасягнутым. Разумеючы, што тэма не вычарпана, не выкарыстана многае з таго, што было знойдзена, дый новыя пошукі абяцалі адкрыцці і знаходкі, даследчыца працягвала працаваць у гэтым накірунку.

Першае адкрыццё Ірына Лапцёнак зрабіла, яшчэ працуючы над курсавой работай. Уважліва прагледзеўшы даваенную перыёдыку, у часопісе «Беларуская работніца і сялянка» за 1931 год знайшла верш, падпісаны нідзе яшчэ не зарэгістраваным псеўданімам «Язэп Азім». Супастаўляючы яго з біяграфічнымі дадзенымі, аналізам тэксту, прыйшла да высновы, што гэты твор належыць Язэпу Семяжону. Пазней яе здагадкі былі пацверджаны сведчаннем самога Іосіфа Ігнатавіча з ягоных запісаў, што захоўваліся ў сямейным архіве.

Тое, што Семяжон пачынаў не з перакладаў, а з уласных вершаў, стала важным для разумення яго творчай натуры, а ў далейшым для характарыстыкі асаблівасцей ягонага перакладчыцкага стылю. Былі знойдзены і іншыя вершы, у тым ліку напісаныя ім у гады Вялікай Айчыннай вайны і пасля яе.

Увогуле ў біяграфіі Семяжона нямала ўражвальных фактаў. Ён працаваў акцёрам у славутым тэатры Уладзіслава Галубка, тройчы ўдзельнічаў у ваенных дзеяннях, быў вайсковым перакладчыкам, настаўнікам, выкладчыкам

у савораўскім вучылішчы і БДУ, журналістам, крытыкам, перакладазнаўцам. Але праз усё жыццё пранёс захапленне мастацкім перакладам. Таму галоўным у кнізе і стаў усебаковы разгляд надзвычай багатай ягонай перакладчыцкай спадчыны, у якой перастварэнні з трыццаці трох моў народаў свету! Зразумела, столькі моў Іосіф Ігнатавіч не ведаў, таму займаўся перакладам і з падрадкоўнікаў, але нязменна імкнуўся пашыраць свой моўны дыяпазон, і нават на схіле гадоў вывучаў некаторыя мовы.

Найбольш актыўна і плённа Семяжон перакладаў з англійскай мовы, першай з засвоеных ім дасканала. Выдатна арыентаваўшыся ў англійскай літаратуры, узяўся перастварыць па-беларуску паэзію Роберта Бёрнса, Дж. Г. Байрана і драматургію Уільяма Шэкспіра. Узваліў на сябе гэтую ношу, нягледзячы на тое, што на той час ужо праславіліся перакладамі гэтых аўтараў на рускую мову Б. Пастарнак і С. Маршак, і бытавала думка: «А навошта нам беларускі Шэкспір, беларускі Бёрнс?» Сваімі выдатнымі перастварэннямі давёў, што беларускія пераклады сусветна вядомай класікі патрэбны, бо яны становяцца фактам нацыянальнай культуры.

Адзін з цэнтральных раздзелаў кнігі той, у якім разглядаецца перакладзенае Семяжонам з няроднасных моў. Гэты раздзел якраз і прысвечаны дэталёваму аналізу перастварэння славутых англійскіх пісьменнікаў. Даследчыца ўважліва разглядае асаблівасці гэтых перакладаў з боку іх формы, зместу, рытмікі, фонікі, выкарыстання вобразнасці. Пры гэтым удала параўноўваюцца не толькі арыгіналы з перакладам Семяжона, але і пераўвасабленні тых жа твораў іншымі перакладчыкамі — як беларускімі, так і рускімі. Прыводзячы водгукі і канкрэтныя заўвагі крытыкаў, яна не хаваецца за чужыя аўтарытэты, часам прыходзіць да высноў, якія разыходзяцца з ужо ўсталяванымі меркаваннямі.

Ірына Лапцёнак згадвае ацэнку перакладаў Семяжона, якую некалі даў у сваім выступленні ў Саюзе пісьменнікаў англійскі пісьменнік і перакладчык Уолтэр Мэй: «Пераклады Язэпа Семяжона па сваёй мастацкай якасці бліжэй да твораў Шэкспіра і Бёрнса, чым пераклады Маршака і Пастарнака. У перакладзе з Бёрнса яму ў нечым дапамагала сама беларуская мова, якая ў адносінах да шатландскага дыялекту, на якім той пісаў, бліжэй да беларускай, чым да рускай сваёй народнай, гутарковага ладу асновай. Але найперш поспех Семяжона вызначае яго ўменне ўжыцца ў перакладаемых аўтараў». І гэта не камплімент госця, а кваліфікаванае сведчанне пра якасць перакладаў таго, хто мог меркаваць аб гэтым, выдатна ведаючы творчасць англійскіх пісьменнікаў.

Пераклады твораў Бёрнса і Шэкспіра, а таксама Міцкевіча, выдадзеныя ў пяцідзясятыя гады, не толькі паставілі Семяжона ў шэраг таленавітых перакладчыкаў, але яшчэ і маральна ўзвысілі пераклад на беларускую мову. «Сваімі перастварэннямі Язэп Семяжон вывеў з ценю перакладную літаратуру», — слушна заўважае І. Лапцёнак.

Яшчэ адно вяршыннае дасягненне Семяжона-перакладчыка — узнаўленне па-беларуску неўміручага «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча. Дагэтуль былі пераклады Б. Тарашкевіча і П. Бітэля. Для Семяжона такое памкненне сталася душэўным парывам, здзяйсненнем доўгай мары, якая нарадзілася ў яго яшчэ падчас перакладаў санетаў і вершаў А. Міцкевіча. «Я стараўся перакладаць не толькі словы, але і тое, што стаіць за гэтымі словамі (падчас у падтэксце!) — ідэі і пачуцці, манеру іх выказвання», — так сфармуляваў Семяжон сутнасць свайго падыходу да пераўвасаблення ў вершах рамана. І. Лапцёнак зазначае: «Язэп Семяжон адмаўляў даслоўнасць, капіраванне і калькаванне на ўсіх узроўнях і выступаў за змястоўна-сэнсавую і функцыянальную адпаведнасць перакладнога тэксту арыгіналу». Калі яшчэ не ўсталяваліся крытэрыі ацэнкі якасці пераўвасаблення мастацкіх тэкстаў, калі ў тых, хто галоўным лічыў дакладнасць перадачы зместу яшчэ знаходзілася нямала прыхільнікаў сярод крытыкаў, дык гэта быў смелы крок наперад, сапраўдны пра-

рыў. Семяжон раскрыўся ў гэтым перакладзе і як сапраўдны паэт — столькі творчага ўнесена ім у тэкст, настолькі па-майстэрску выкарыстаны вобразныя сродкі, столькі ўдалых дэталей, нюансаў мовы, гумару.

Ірына Лапцёнак спрачаецца з тымі, хто як недахоп успрыняў парушэнне эквілінеарнасці (павелічэнне колькасці радкоў) у перакладзе «Пана Тадэвуша». Параўнаўшы гэты пераклад з пераўвасабленнем Б. Тарашкевіча, які захаваў эквілінеарнасць, яна зазначыла, што разам з тым была парушана эквірытмія, павялічылася колькасці складоў у радку, што, паводле яе назірання, зрабіла рытм перакладу Тарашкевіча «значна запаволеным у параўнанні з дынамічным малюнкам арыгінала, а ўзнаўленне Язэпа Семяжона — яго трынаццаці і адзінаццаціскладовым пяці- і шасцістопным ямбам валодае больш рухавай тэмпаральнасцю». Шкада, што пры жыцці Семяжон так і не дачакаўся грунтоўнага, аб'ектыўнага водгуку на гэтую тытанічную працу, а ён на яго разлічваў.

Нямала спрэчак выклікаў і пераклад з лацінскай мовы «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага, які Семяжон стварыў па падрадкоўніку. Спрэчкі аказаліся асабліва зацятымі яшчэ і таму, што ў той жа час з'явіліся яшчэ два пераклады — на беларускую мову У. Шатона, на рускую — Я. Парэцкага ў сааўтарстве з Я. Семяжонам, і кожны з іх спавядаў пэўную канцэпцыю. Семяжон скарыстаў і перанёс на пераклад «Песні пра зубра» прынцыпы, якімі ён кіраваўся падчас пераўвасаблення «Пана Тадэвуша». «Дадзеным узнаўленнем Язэп Семяжон выступіў супраць акадэмічнасці, сухасці падрадкоўніка і даслоўнасці папярэдняга перакладу, пазбаўленых эмоцый, асацыяцый, падтэксту, багатай тропікі. Адметным з'яўляецца імкненне перакладчыка да паэтычнасці, метафарычнасці ў выяўленні думкі», — лічыць даследчыца.

Упершыню прааналізаваны пераклады Семяжона з украінскай і рускай моў, якія рабіліся для зборнікаў ці былі прымеркаваны да юбілейных дат. Кніга цікавая яшчэ і тым, што ў ёй ёсць шэраг тэарэтычных разважанняў аўтара — пра стыль і творчую індывідуальнасць перакладчыка, захаванне нацыянальнай спецыфікі арыгінала, асаблівасці перакладу з роднасных і няроднасных моў, пераствэрэння з падрадкоўніка. Прыводзіцца поўны спіс усіх публікацый перакладаў, вершаў і артыкулаў Семяжона, багатая бібліяграфія па тэорыі перакладу. У дадатку змешчаны ўзоры ягоных перакладаў, некаторыя з іх друкуюцца ўпершыню, узяты з сямейнага архіва.

Ірына Лапцёнак гэтай кнігай заявіла пра сябе як пра здольную даследчыцу. Трэба спадзявацца, што яна прадоўжыць свае навуковыя доследы. Тым больш, што праца тых, хто многа і плённа пераствэрае, заслугоўвае далейшага вывучэння. Праз аналіз асаблівасцей творчага стылю перакладчыкаў можна прасачыць, як дасягаецца немагчымае — адэкватнае ўзнаўленне твора на зусім іншай глебе. Пачатак такому вывучэнню пакладзены даўно — ужо ёсць манаграфіі і даследаванні, прысвечаныя прапкладчыцкай творчасці Я. Коласа, Я. Купалы, М. Багдановіча, М. Танка, А. Куляшова, М. Гарэцкага. Чакае сваіх даследчыкаў перакладная спадчына Я. Брыля, П. Панчанкі, У. Дубоўкі, У. Караткевіча, Я. Сіпакова, Ю. Гаўрука, А. Мардвілкі, В. Рабкевіча, Хв. Жычкі і іншых. Час уважлівей прыгледзецца і да таго, што робіцца ў галіне перакладу сёння.

Т

Сяргей ЛАЗОЎСКІ

# АЙЧЫНУ СІЛКУЮЦЬ АСОБЫ

**Зіновій ПРЫГОДЗІЧ. Постаці: З цэлым народам гутарку весці…** *Мн: Літаратура і Мастацтва, 2011.*

Зіновій Прыгодзіч — добра вядомае ў сучаснай літаратуры імя. Яшчэ ў 1974 годзе пабачыла свет першая яго кніга — «Добры дзень, сад!» Пасля адна за адной прыйшлі да чытача кнігі дакументальнай і мастацкай прозы «Строгая дабрата», «Крылы дужэюць у палёце», «Жменя зярнят», «Журавы на далёкай пойме», «Ноч перад нядзеляю», у якіх літаратар выклаў сваё ўласнае светабачанне, уласныя погляды на рэчаіснасць. Пісьменніка ў большай ступені цікавіла тое, што адбываецца ў вёсцы, якія не толькі сацыяльныя, але і духоўныя змены закранулі вясковага чалавека ў апошнія дзесяцігоддзі. Так і спалучаў літаральна ва ўсе гады Зіновій Прыгодзіч у сваёй творчасці публіцыстыку і мастацкую прозу. Як публіцыст з вострым пяром, здольнасцю пільна ўглядацца ў жыццё дапаўняў сябе як празаіка. А празаік дапамагаў таленавітаму журналісту ўслухоўвацца ў слова, падказваў вартасці жывой мовы, прыгажосць і трапнасць мастацкіх вобразаў.

Новая кніга Зіновія Прыгодзіча «Постаці: З цэлым народам гутарку весці…» у некаторай ступені можа падацца нечаканым здабыткам журналіста і пісьменніка. Пад адной вокладкай сабраны творчыя партрэты вядомых, знакамітых дзеячаў беларускай культуры. Яны прадстаўляюць практычна ўсе сферы нашай культурнай прасторы: літаратуру, тэатр, музыку, жывапіс, скульптуру. Героямі публіцыстычнай кнігі сталі Валерый Анісенка, Міхась Дрынеўскі, Марыя Захарэвіч, Леанід Захлеўны, Адам Мальдзіс, Іван Міско, Міхась Міцкевіч, Георгій Паплаўскі, Янка Сіпакоў, Анатоль Сульянаў. Сапраўды, вядомасці ў кожнага з гэтых людзей звышдастаткова. Пра іх часта пішуць у друку, яны з'яўляюцца героямі папулярных тэлевізійных перадач. Да герояў кнігі часта звяртаюцца як да экспертаў па тых ці іншых пытаннях, найперш — у сферах іх дзейнасці. Здавалася б, пра такіх персанажаў, чыё жыццё навідавоку, і расказваць лёгка. Ды творчыя партрэты, расповед пра сваіх герояў Зіновій Прыгодзіч вядзе праз інтэрв'ю, гутаркі, дыялогі. Размова пісьменніка з кожным з дзеячаў культуры паасобку ўяўляе сабою выкладанне цікавага, адметнага фактаграфічнага матэрыялу ў жанры, які спалучае ў сабе мастацка-публіцыстычны і інфармацыйны накірункі. Пра сваіх герояў пісьменнік, паўтаруся, расказвае іх вуснамі. Дыялогі са знакамітымі персанажамі ўспрымаюцца як паўнацэнныя дакументальныя, мо нават мастацка-дакументальныя аповеды. Мажліва, гэтаму спрыяе і структураванасць. Возьмем, напрыклад, да разгляду дыялог з Адамам Мальдзісам — «Беларуская цывілізацыя мае даўнія традыцыі». Пазнаёміўшы на самым пачатку з героем, вельмі лаканічна абазначыўшы яго «іпастасі» (журналіст, пісьменнік, вучоны, краязнаўца, энцыклапедыст, грамадскі дзеяч), Зіновій Прыгодзіч выбудоўвае пытанні

і адказы такім чынам, каб у чытача склалася поўнае ўяўленне пра розныя бакі жыцця і творчасці легендарнага беларусіста. Раздзелы гутаркі пазначаны наступным чынам: «Таямніцы сівой мінуўшчыны»; «Пошукі і знаходкі»; «Скарбы матэрыяльныя, скарбы духоўныя»; «Не мода, а духоўная патрэба»; «Жыццё — найкаштоўнейшы дар». Кожная з частак мае права на самастойнае існаванне, магла б стаць годным інтэрв'ю, якое ўпрыгожыла б любое з рэспубліканскіх перыядычных выданняў. І разам з тым сабраныя разам раздзелы дыялога-партрэта напоўніцу адлюстроўваюць шматаблічнае жыццё Адама Іосіфавіча Мальдзіса. Што імпануе, дык гэта яшчэ і ўменне публіцыста закрануць у дыялогу грунтоўныя, досыць сур'ёзныя пытанні гісторыі і культуры Беларусі. Можна сказаць і так — краевугольныя для нашай Айчыны, для беларускай нацыі пытанні. З. Прыгодзіч падштурхоўвае свайго суразмоўцу да выкладання сваёй пазіцыі, а не толькі дасведчанасці. Пазіцыі як навуковай, так і грамадзянскай. У той частцы дыялога-партрэта, які носіць назву «Таямніцы сівой мінуўшчыны», суразмоўцы задаюцца пытаннямі пра тое, з якога часу варта адлічваць гісторыю Беларусі, адкуль пайшла назва Белай Русі, чаму Тадэвуш Касцюшка, Ігнат Дамейка, Адам Міцкевіч называлі сябе ліцвінамі, ці можна лічыць Полацкае і Тураўскае княствы пачаткам беларускай дзяржаўнасці. Здавалася б, у імкненні паказаць постаць беларусіста Адама Мальдзіса не абавязкова кранаць такія сур'ёзныя, часам дыскусійнага, палемічнага характару пытанні. Але, учытаўшыся ў тэкст гутаркі, разумееш, што развагі Адама Мальдзіса на тую ці іншую значную агульнаграмадскую тэму істотна дапаўняюць расповед пра асабістае, надаюць дыялогу-партрэту цэласнасць, высвечваюць праявы характару героя.

Кожная з гутарак, змешчаных у кнізе «Постаці», сведчыць пра велізарную падрыхтоўчую працу публіцыста. Відавочна, што перш чым прыйсці да свайго героя, З. Прыгодзіч настойліва, на працягу доўгага часу рыхтаваўся да размовы. Іначай, адкуль бы ўзяліся выкладзеныя ў пытаннях веды стану спраў у нацыянальным тэатры, нацыянальным выяўленчым мастацтве, у беларускай музыцы?..

Некалькі дзесяцігоддзяў назад (мо недзе напрыканцы 1970-х гг.) я выпісаў з адной кнігі пра майстроў газетнай справы такія словы савецкага журналіста Георгія Радава: «Публіцыст, як і нарысіст, — разведчык. Але кожны разведчык ідзе няходжанай сцежкай, а значыць, у сваіх артыкулах ён часта знішчае некаторыя састарэлыя інструкцыі і ўяўленні. У гэтым і заключаецца ўвесь сэнс разведкі…» Зіновій Прыгодзіч з'яўляецца сапраўдным першапраходцам, мастацкім разведчыкам. І не толькі таму, што разбурае традыцыйныя ўяўленні пра жанр інтэрв'ю. Пісьменнік надае сваім персанажам шырокія магчымасці, выбудоўвае праз іх шчырыя аповеды пераканаўчую мастацкую, публіцыстычную прастору. Аўтар кнігі ўлюбёны ў сваіх герояў, і гэтую любоў перадае нам, чытачам.

Адзін з дыялогаў — «Шчасце — калі здзяйсняюцца мары» — расповед пра малодшага сына народнага песняра Беларусі Якуба Коласа Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча. Канешне ж, першнаперш тое, што яго герой — нашчадак паэта, стала прадметам увагі публіцыста. Але ад старонкі да старонкі перад чытачом раскрываецца асоба самадастатковая, чалавек, які шмат дасягнуў у жыцці. «… Міхась Канстанцінавіч — доктар тэхнічных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі за распрацоўкі ў галіне тэхналогіі і абсталявання для электраэразійнай апрацоўкі металаў. Аўтар больш чым дваццаці вынаходніцтваў. А яшчэ ён — майстар спорту СССР па стэндавай стральбе. А яшчэ — старшыня таварыства дружбы «Беларусь — Ірландыя». А яшчэ — ганаровы грамадзянін Мар'інай Горкі…» Можна дадаць, што піша эпіграмы, з'яўляецца аўтарам цікавых мемуараў пра Якуба

Коласа і яго сям'ю, асяроддзе, у якім жыў і працаваў славуты класік беларускай літаратуры. Распытваючы ў сына пра бацьку, Зіновій Прыгодзіч падрабязна распавёў і пра Міхася Канстанцінавіча. І праз гэты дыялог нам адкрыўся чалавек, без якога, як мне асабіста падаецца, партрэт сучаснай беларускай культуры быў бы не поўным. Цікавымі ўяўляюцца і каментарыі Міхася Міцкевіча да Коласавай спадчыны. «... Што тычыцца «Новай зямлі», то на розных этапах гісторыі яе ўспрымалі не толькі па-рознаму, але і супрацьлегла, — выказваецца Міхась Канстанцінавіч. — Аднак, бадай, ніхто не прачытаў гэты твор так глыбока і дэталёва, як Алесь Адамовіч. Ён пераканаўча паказаў, што «Новая зямля» — шэдэўр сусветнага ўзроўню, вяршаваны раман, які істотна паўплываў на развіццё беларускай прозы». І далей: «Значна менш надаецца ўвагі «Сымону-музыку». Хаця ў свой час выдатны разбор паэмы зрабіў Адам Бабарэка. Вельмі глыбокі разбор, ён і цяпер застаецца адным з лепшых. Глыбокае даследаванне правёў Міхась Мушынскі. Магчыма, новыя пакаленні даследчыкаў будуць знаходзіць у творы нешта новае, актуальнае, сугучнае дню сягонняшняму».

Варта нагадаць, што да збірання ў кнігу дыялогі Зіновія Прыгодзіча з дзеячамі беларускай культуры друкаваліся ў часопісе «Полымя». Кожная з публікацый мела шырокі розгалас сярод чытачоў літаратурна-мастацкага выдання. Дарэчы, у часопісе было надрукавана болей тэкстаў, чым іх увайшло ў кнігу. І тыя дыялогі, што засталіся па-за межамі зборніка, не меней цікавыя і вартыя ўвагі.

Несумненна, «Постаці...» — з кніг, на якія неабходна звярнуць увагу студэнтам Інстытута журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Зіновій Прыгодзіч паказаў яркі прыклад валодання прафесіяй.

# Т

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ЖЫЦЦЁ!

***Канец кастрычніка мінулага года стаў знакавым у жыцці Саюза пісьменнікаў Беларусі. Калі ж глядзець шырэй, то і для ўсіх дзеячаў культуры і мастацтва нашай краіны: Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з літаратарамі. Кіраўнік дзяржавы падчас гэтай сустрэчы выявіў добрае веданне сучаснага творчага працэсу, адзначыў поспехі беларускай літаратуры. Разам з тым Аляксандр Рыгоравіч выказаў і сур'ёзныя прэтэнзіі да працаўнікоў пяра. Прэтэнзіі гэтыя істотныя.***

***На жаль, пакуль у беларускай літаратуры няма глыбокіх, маштабных твораў, са старонак якіх ва ўсёй сваёй паўнаце паўставаў бы наш сучаснік. Аднак творы, якія б па-сапраўднаму ўсхвалявалі чытачоў, падштурхнулі іхнюю думку, у цішы кабінетаў не нараджаюцца. Каб напісаць іх, аднаго таленту мала. Неабходна яшчэ добра ведаць саму рэчаіснасць, жыццё тых, хто можа з'явіцца прататыпам рамана ці аповесці. Калі ж гэта дакументальны твор, то і стаць ягоным героем.***

***Таму Кіраўнік дзяржавы, уважліва выслухаўшы пісьменнікаў, з якімі сустрэўся, прапанаваў ім для лепшага азнаямлення з жыццём зрабіць паездку па краіне. Гэтая паездка адбылася. З 8 па 11 кастрычніка 2011 года група літаратараў на чале са старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаем Чаргінцом пабывала ў Мінскай і Магілёўскай абласцях.***

***Магчымасць бліжэй і глыбей пазнаёміцца з сельскагаспадарчымі і прамысловымі прадпрыемствамі, іншымі працоўнымі калектывамі выклікала ў літаратараў краіны вялікую зацікаўленасць. Пра гэта сведчыць ужо тое, што ў ёй актыўны ўдзел прынялі прадстаўнікі розных творчых пакаленняў, пачынаючы ад старэйшыны беларускай літаратуры, па-маладому няўрымслівага Алеся Савіцкага, які з задавальненнем спусціўся нават у адну з салігорскіх шахт, да маладых пісьменнікаў.***

***Уражанняў было шмат. Зразумела, у кожнага яны ў чымсьці розніліся, але сыходзіліся ў адным, самым істотным: як жа шкада, што такая паездка не ажыццявілася раней. Для мяне асабіста яна была яшчэ больш прыемнай па той прычыне, што з'явілася яшчэ адна магчымасць не проста пабываць на роднай мне Случчыне, але і завітаць у вёску, у якой нарадзіўся.***

## Кадэты Радзімай сагрэты

Знаёмства са Случчынай для нас, праўда, пачалося не з «маіх» Казловіч, а з кадэцкага вучылішча, што размясцілася ля самага ўезда ў Слуцк з левага боку, калі ехаць са сталіцы. Афіцыйна гэтае вучылішча называецца Мінскім абласным, таму, як неўзабаве мы даведаліся, у ім вучацца юнакі і дзяўчаты (так, і дзяўчаты, якія з 304 выхаванцаў складаюць 38 чалавек, што, пагадзіцеся, не так і мала) з Міншчыны. Вучылішча яшчэ зусім маладое. Першы набор у яго адбыўся ў 2010 годзе.



*Хлеб-соль Случчыны ўдзельнікам творчага маршруту.*

Што цікавасць да такой формы атрымання сярэдняй адукацыі вялікая, сведчыць немалы конкурс, які трэба вытрымаць, перш чым стаць кадэтам. У гэтым няма нічога дзіўнага. Перад ягонымі выпускнікамі адкрываецца добрая перспектыва. Як кажуць, «все работы хороши, выбирай на вкус». У далейшым можна звязаць свой лёс з арміяй. Можна і ў міліцыю падацца. А калі з'явіцца жаданне, то няблага зарэкамендаваць сябе, уліўшыся ў рады тых, хто працуе ў сістэме Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.

Дзеля гэтага ж трэба вучыцца, вучыцца і вучыцца... І не толькі таму, што так казаў некалі Ленін, а таму, што гэтага вымагаюць самі абставіны. Як вядома, сёння людзі адукаваныя, дасведчаныя патрэбныя на ўсіх участках работы. У сілавых структурах — не ў апошнюю чаргу. А яшчэ яны павінны, як ніхто іншы, быць дысцыплінаванымі. Таму гэтаму аспекту ў выхаванні кадэтаў і надаецца такая вялікая ўвага, а ў пакоях, у якіх яны жывуць, вучацца, адпачываюць, усё строга, ва ўсім парадак. Як у войску.

Прабачце, забыў сказаць, што паступаюць у кадэцкае вучылішча, як і ў ваенныя, толькі тыя, хто мае належную фізічную падрыхтоўку. Гэта тычыцца і дзяцей-сірот, якіх у кадэцкім займаецца трыццаць чалавек. Для іх пры паступленні было зроблена толькі адно паслабленне: залічылі без здачы ўступных экзаменаў. А так яны, як і ўсе паступаючыя, праходзілі і псіхалагічны адбор. Без яго таксама не абысціся. Як-ніяк, а кадэцкае вучылішча — спецыфічнае. Калі ж зірнуць у гісторыю, то раней такая форма навучання ўвогуле лічылася элітнай. У кадэцкія корпусы, так іх спачатку называлі, прымалі дзяцей дваран, у асноўным афіцэраў. Толькі пачынаючы з 1913 года ў некаторыя з іх маглі паступаць і недваранскія дзеці. Аднак высокіх патрабаванняў і тады ніхто не адмяняў. Таму калектыў вучылішча на чале з Сяргеем Мяцельскім, працягваючы даўнія традыцыі, і робіць усё дзеля таго, каб годна трымаць, вобразна кажучы, кадэцкую планку.

## З кадэтамі развіталіся, з Казловічамі спаткаліся

Апошні раз у сваёй роднай вёсцы я пабываў некалькі гадоў таму, працуючы першым намеснікам галоўнага рэдактара часопіса Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Беларуская думка». У той час Слуцкі райвыканкам узначальваў Зянон Ломаць. Калі гаворка зайшла пра тое, пра якія вёскі расказаць, я і назваў Казловічы, патлумачыўшы прычыну сваёй зацікаўленасці імі. Мы з галоўным рэдактарам Уладзімірам Вялічкам разам з Зянонам Кузьмічом і паехалі туды. Уражанні ад паездкі засталіся самыя добрыя. Цудоўны Дом культуры, плавальны басейн, школа, дзіцячы сад і яшчэ шмат што іншае сведчыла на карысць таго, што Казловічы — адна з тых вёсак у нашай краіне, на якія не лішне раўняцца многім.

Светлыя ўражанні гэтым разам былі абноўлены. З’явіліся і новыя, бо сённяшняе СПК «Казловічы-Агра» развіваецца паспяхова, як і раней. Дарэчы, пра гісторыю мясцовай калектыўнай гаспадаркі можна даведацца, пазнаёміўшыся з экспазіцыяй музея. Пачатак сённяшняму СПК некалі паклала сельскагаспадарчая арцель імя Велічэўскага, заснаваная ў пасёлку Грады ў 1927 годзе. Пазней яна была перайменавана ў калгас «Вольная Беларусь». А праз два гады ў саміх Казловічах узнік калгас «Чырвоная ніва». Гаспадаркі ў 1934-м аб’ядналіся ў адну, атрымаўшы назву калгас імя Кірава — пра Сяргея Міронавіча Кірава, па-зверску забітага, тады ведала ўся краіна.

Першым старшынёй калгаса імя Кірава стаў Фёдар Жываглод. Аднак свайго росквіту гаспадарка дасягнула тады, калі з 1959 па 1991 год яе ўзначальваў Сяргей Лямешчанка. Пры ім калгас быў перадавым не толькі ў раёне і ў вобласці, а і ва ўсёй рэспубліцы. Сам Сяргей Дзмітрыевіч атрымаў ганаровае званне Героя Сацыялістычнай Працы. Было ў Слуцкім раёне яшчэ два старшыні, якія мелі Залатую Зорку — Васіль Козел і Сяргей Паляшчук. Усе трое — сапраўдныя гаспадары на зямлі і сапраўдныя гаспадарнікі, а сапраўдны гаспадарнік — гэта той, хто ні пра якіх умовах не аддасць суседу нават кавалка зямлі.

З гэтым, дарэчы, звязаны анекдатычны выпадак. Землі калгаса імя Кірава і імя Калініна, які узначальваў С. Паляшчук, межавалі. Аднойчы нехта з механізатараў аднаго з гэтых калгасаў, апрацоўваючы глебу, непрыкметна заехаў на тэрыторыю калгаса-суседа. Трэба ж было так здарыцца, што ў гэтым «спрэчным» месцы ў той час, калі адбыўся «захоп» зямлі, адначасова аказаліся два старшыні-героі. Сяргей Дзмітрыевіч і Сяргей Сямёнавіч, адстойваючы «суверэнітэт» сваіх калгасаў, не знайшлі нічога лепшага, як даказваць сваю правату, узяўшыся за грудкі.

Выпадак то анекдатычны, але, уважліва ўнікнуўшы ў сутнасць яго, чым не эпізод, які, калі як след па-мастацку асэнсаваць яго, можна ўключыць у раман ці аповесць, у якім расказваецца пра жыццё беларускай вёскі на працягу доўгага перыяду, пры савецкай ужо ўладзе. У падобны твор так і просяцца два прататыпы кіраўнікоў калгасаў, якіх можна спісаць з Лямешчанкі і Палешчука. Садзіся за пісьмовы стол і рабі добрую справу.

Некаторыя, праўда, штосьці пра калгаснае жыццё ў апошнія гады савецкай улады і пішуць. Але ўся бяда ў тым, што аўтары гэтага жыцця па-сапраўднаму не ведаюць, дый, па праўдзе кажучы, ніколі яго не ведалі. Раней гэтае няведанне ў іх хавалася за празмернае ўслаўленне кіруючай ролі партыі, як таго і вымагала афіцыйная ідэалогія, таму абавязкова знаходзіліся тыя, хто асабліва стараўся, каб быць заўважаным. Цяпер крайнасці іншага кшталту. Пачынаеш чытаць і такое ўражанне, што ўсё, што ні рабілася, было кепска. Калі ж паўстае са старонак падобнага, з дазволу сказаць, твора які-небудзь станоўчы кіраўнік калгаса ці саўгаса, то ў думках ён абавязкова ненавідзіць савецкую ўладу. Тую ўладу, якая адукавала яго, выхавала. Дый заўважыла, прапанаваўшы такую адказную пасаду. Вось і ўвесь рэалізм. На сацыялістычны рэалізм плююць, а праўдзівыя творы так і не навучыліся пісаць.

У Казловічах жа шмат прыкладаў, вартых пераймання, і з культурнага жыцця. Да 80-годдзя набліжаецца ўзрост мясцовага народнага хору, якому ўжо больш як 40 гадоў назад прысвоілі званне народнага. Шмат дзе пабывалі казловіцкія артысты са сваімі выступленнямі — і ў Мінску, і ў Ленінградзе, і ў Кіеве. З задавальненнем слухалі іх і госці з Англіі, Іспаніі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Францыі, Японіі, Аргенціны, Германіі, якія ў розны час прыязджалі падзівіцца казловіцкаму сельскагаспадарчаму цуду. Славіцца і фальклорны ансамбль «Ячаўскія вячоркі». Ячава — адна з вёсак, што ўваходзіць у склад СПК «Казловічы-Агра». Самадзейныя артысты выступілі і перад намі, пацвердзіўшы, што там, дзе важкі хлеб надзённы, песні ніколі не цесна.

## На зямлі і пад зямлёй

На Міншчыне пабываць і ў Салігорск не завітаць... Можна знаходзіць самыя розныя параўнанні, аднак усе яны будуць сведчыць на карысць таго, што ні ў якім разе нельга абмінуць гэты горад гарнякоў. Таму з Казловіч наш маршрут і пралёг на Салігорск, а ўжо ў самім Салігорску ён канкрэтызаваўся: Адкрытае акцыянернае таварыства «Беларуськалій».

У маёй памяці адразу ажыло тое даўняе, што заўсёды паўстае, нібыта праяўляючыся на плёнцы памяці, калі наведваюся ў гэты горад. Упершыню я ўбачыў яго яшчэ школьнікам. У якім дакладна годзе, ужо і запамятаваў. Адно засталося ў памяці, як з іншымі вучнямі і настаўніцай, якая суправаджала нас, мы на школьнай аўтамашыне накіраваліся да Чырвонай Слабады, каб ужо адтуль да Салігорска дабірацца пехам, тым самым ператварыўшыся ў турыстаў. Дарэчы, нашы турыстычныя «заслугі» былі пазней прызнаны, і ўсе мы атрымалі значкі «Юный турист СССР».

Тады Салігорск толькі яшчэ будаваўся. Палаткі, канечне, ужо адсутнічалі, але шматпавярховыя дамы можна было пералічыць па пальцах. Цяпер пра тое, як горад забудоўваўся, ператвараючыся ў адзін з буйнейшых у свеце і самага буйнога на тэрыторыі СНД вытворцу і пастаўшчыка калійных удабрэнняў для сельскай гаспадаркі, мы шмат у чым даведаліся, пазнаёміўшыся з экспазіцыяй музея працоўнай славы ААТ «Беларуськалій», урачыстае адкрыццё якога адбылося 5 мая 2005 года і было прымеркавана да 60-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. На сённяшні дзень у ягоных фондах больш як тысячы экспанатаў, сярод якіх рэчавыя, выяўленчыя, пісьмовыя і іншыя крыніцы.

Ёсць і Галерэя працоўнай славы — яна адкрылася 6 кастрычніка 2004 года. Гэта па сутнасці гісторыя прадпрыемства ў асобах. Змешчаны фотаздымкі тых, чый уклад у развіццё вытворчасці асабліва важкі: генеральныя дырэктары «Беларуськалія», пяць Герояў Сацыялістычнай Працы, поўныя кавалеры знака «Шахтёрская слава», і ўвогуле лепшыя з тых, хто самааддана працуе сёння. Галерэя гэтая, між іншым, не штосьці такое музейна-застылае. А пастаянна абнаўляецца. Штогод напярэдадні прафесійнага свята — Дня шахцёра — на ёй з'яўляюцца здымкі тых, хто апошнім часам засведчыў свой высокі прафесіяналізм, дасягнуў выдатных поспехаў.

Пра развіццё прадпрыемства шмат расказала нам ягонае кіраўніцтва, дый падораны кожнаму альбом «Все вместе мы Беларуськалий» даў поўнае ўяўленне пра тое, адкуль ёсць, пайшла беларуская калійная соль і якія перспектывы яе здабычы ў будучым, а, значыць, і новых валютных паступленняў у бюджэт краіны, а салігорскія калійшчыкі ў гэтым сэнсе даюць фору ўсім іншым прадпрыемствам.

Пачатак усяму быў пакладзены будаўніцтвам у 1958 годзе на базе Старобінскага радовішча Першага Салігорскага калійнага камбіната. На долю «Беларуськалія» сёння прыпадае каля 15 працэнтаў сусветнай вытворчасці і экспарту калійных удабрэнняў. Больш як 80 працэнтаў іх у фізічнай вазе пастаўляецца за межы нашай краіны. Калі ж падыходзіць да гэтага ў грашовым выражэнні, то




*Пісьменніцкі шахцёрскі дэсант*
*у шахце Другога рудаўпраўлення «Беларуськалія».*

доля экспарту перавысіла 95 працэнтаў. Каб жа атрымаць як мага больш удабрэнняў, трэба расшыраць вытворчасць. Тым больш, што запасы сыравіны на Першым і Другім рудаўпраўленнях пачалі зніжацца. У сувязі з гэтым пачалося будаўніцтва Чырвонаслабодскага рудніка, які ўжо ўведзены ў строй, і Бярозаўскага.

Толькі нездарма кажуць: лепш адзін раз убачыць, чым некалькі разоў пачуць. Па гэтай прычыне многія з нас выказалі жаданне самім спусціцца пад зямлю. Такое памкненне кіраўніцтвам было ўхвалена, аднак нас папярэдзілі, што калі ў каго ёсць праблемы з сэрцам, лепей ад такой задумкі адмовіцца. Як высветлілася, ніхто на сэрца не скардзіцца. Зразумела, прамаўчалі наконт гэтага. Прамаўчаў і я, хоць у свой час перанёс і інфаркт. Больш за тое, усладнены. Разважыў цвяроза: калі б усё было так сур’ёзна, кожнага праверыў бы ўрач. Але ніякім урачам нікога з нас не паказвалі, таму...

Было дзве групы. Тая, у якую ўваходзіў я, адправілася на Чацвёртае рудаўпраўленне. І, у адрозненне ад першай, спускалася пад зямлю не на 400 метраў, а на ўсе 900. З гакам! Некаторыя казалі, што пры спуску ў іх вушы закладвала ад змену ціску, а галава налівалася цяжарам. Нічога падобнага я не адчуваў. Можа, таму, што побач знаходзіліся жанчыны, а ў паўзмроку, ды ў цеснай кабіне яны выглядалі яшчэ больш прыгожымі. Нават жартаваць хацелася. Калі нечакана ліфт прыпыніўся, некаторыя з нас патлумачылі гэта тым, што прапускаем той, які ідзе знізу. Магчыма, хто-небудзь і паверыў гэтаму, але ўсе былі такія засяроджаныя...

Калі ж казаць сур’ёзна, дык праца шахцёра вельмі цяжкая. Нягледзячы на тое, што праходчыкам выдзелена самая сучасная тэхніка. Але ж без чалавечага фактару, як вядома, не абысціся, а ён заключаецца ў тым, што ў час працы сапраўды ўжо закладвае вушы — ад грукату, лязгату. Пры рабоце ж агрэгата, які зразае сыравіну пласт за пластом, стаіць такі пыл, ад якога не заўсёды выратоўвае і рэспіратар. Праўда, калі мы знаходзіліся ў шахце, змена скончылася, ніхто ўжо не працаваў. Агрэгат гэты ўключылі толькі для нашага лепшага азнаямлення з вытворчасцю. Наўрад ці ў каго-небудзь у гэты момант з’яўлялася жаданне жартам прамовіць: «Я б в шахтёры пошел, пусть меня научат».

Хоць кожнаму сваё. Хтосьці павінен шахцёрам працаваць, нехта на заводзе, а хто за пісьмовым сталом. Галоўнае, каб кожны любіў сваю справу, а таму і працаваў з поўнай аддачай. Але, зразумела, і з належнай аплатай, бо на адным энтузіязме далёка не паедзеш. Хоць, як быццам, зарплата ў шахцёраў і неблагая. Ды не будзем забываць, дзе яны працуюць. Таму нам застаецца толькі паспагадаць. Калі ж удасца, то і творы цікавыя напісаць пра іх, праходцаў зямных нетраў, дзеля таго, каб шчодра каласілася на зямлі ніва. Дзеля дабрабыту ўсіх нас. Паэт Фёдар Гурыновіч, які з'яўляецца галоўным рэдактарам газеты «Калійшчык Салігорска», і кампазітар Эдуард Зарыцкі, дарэчы, ужо аддзячылі ім за іхнюю самаадданую працу, напісаўшы «Гимн «Беларуськалия», у якім такі прыпеў:

Соль — это сила жизни,
Древней земли богатство.
Всё для родной Отчизны! —
Нашего символ братства.
Соль — это наша слава!
Нет здесь людей случайных:
Шахта не терпит слабых,
Нам открывая тайны.

У гэтым і ўся соль. У сэнсе — сутнасць.

## «Радзіма» ёсць «Радзіма»

Пытанне, як кажуць, на засыпку. Што ведаеце вы пра Бялыніцкі раён? Не сумняваюся ў тым, што большасць з вас адкажуць, што гэта радзіма народнага мастака Беларусі і Расіі Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. Сапраўды, Вітольд Каятанавіч нарадзіўся ў фальварку Крынкі, які знаходзіўся непадалёку ад вёскі Цяхцін. Правільным будзе нагадаць і пра тое, што з Бялыніччыны родам і вынаходнік падводнай лодкі Казімір Чарноўскі, які ўпершыню пабачыў свет у маёнтку Карытніца. Праўда, лодка, спраектаваная ім, засталася толькі ў чарцяжах, а ажыццявіў гэту ідэю генерал Карл Шыльдэр. Той жа, хто дасканала ведае мінулае тамашніх мясцін, зазначыць, што ў іх гісторыю ўпісаў свой радок і знакаміты паэт-партызан Дзяніс Давыдаў. Пры гэтым радок вельмі значны: 14 лістапада 1812 года ён вызваліў Бялынічы ад французскіх захопнікаў.

Можна прыгадаць і іншыя цікавыя факты. Яны, між іншым, былі агучаны ў час прэзентацыі энцыклапедычнага даведніка «Бялыніччына» ў раённым Доме культуры. Гэты цікавы творчы праект здзейсніў са сваім актывам калектыў раённай газеты «Зара над Друцццю». Прэзентацыя з удзелам намесніка старшыні Магілёўскага аблвыканкама Валерыя Малашкі і старшыні Бялыніцкага райвыканкама Аляксандра Вароніна нагадвала сабой уражвальнае, а таму запамінальнае мерапрыемства. Выступалі самадзейныя выканаўцы, гучала музыка — народная і не толькі народная, прыводзіліся згадкі як з гісторыі Бялыніч, так і ўсяго раёна, называліся імёны тых, хто праславіў раней гэты кут, а таксама тых, хто праслаўляе Бялыніччыну сёння.

Ніколькі не сумняваючыся ў тым, што ўсе тыя, хто ўвайшоў у гісторыю Бялыніччыны, годныя і вартыя ўвагі і павагі, як і шмат хто з тых, хто прысутнічаў на прэзентацыі. Мы ж у думках звярталіся і да нядаўняга наведвання сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва «Калгас «Радзіма». Праўдзівым будзе сказаць, што ў час гэтай паездкі як паМіншчыне, так і па Магілёўшчыне, нам даводзілася шмат дзе бываць, дзе «парадачак ідзець». Але тое, што робіцца ў «Радзіме», нават у параўнанні з гэтымі калектывамі, не можа не захапляць. Павагу да гаспадаркі выклікае нават тое, што ў назве яе захавалася слова «калгас», а гэта сведчыць на карысць таго, што «радзімаўцы» ладзяць свае справы не на пустым месцы, а прадаўжаюць добрыя традыцыі, якія закладваліся на працягу многіх і многіх

гадоў. Не ў апошнюю чаргу дзякуючы кіраўніку калгаса, а цяпер СПК Аляксандру Лапацентаву.

Гэта сучасныя «дэмакраты» як чорт ладану баяцца слова «калгас». Дылетанты ў дачыненні да ўсяго таго, што звязана з тым, як развіваецца сучасная сельскагаспадарчая вытворчасць, чым жыве сённяшняя вёска, а на практыцы звычайныя ...тэнты — «ведаюць», як усё трэба рабіць, але самі няздатныя на гэта. Панацэю яны бачаць толькі ў розных фермерскіх гаспадарках, заяўляючы, што, маўляў, адны яны могуць накарміць народ.

А Аляксандр Міхайлавіч ведае іншае: вытворчы патэнцыял калектыўных гаспадарак нікольki не вычарпаў сябе. Больш за тое, і перад імі адкрываюцца выдатныя перспектывы. Пры той, безумоўна, умове, калі гаспадарыць па-сапраўднаму. Па-сапраўднаму, дадам ад сябе, — гэта па-лапацентаўску. У значнасці менавіта такога падыходу мы і пераканаліся ў час наведвання СПК «Калгас «Радзіма».

Гэты калгас А. Лапацентаў узначаліў у 90-я гады. Тады, калі нават у параўнанні з сённяшнім днём, было куды больш розных разумнікаў вучыць, як трэба працаваць, але не шмат знаходзілася жадаючых добрыя намеры ажыццяўляць на практыцы. Аляксандр Міхайлавіч належаў (дый цяпер належыць) да тых, хто мала гаворыць, але шмат робіць. Таму, закасаўшы рукавы, і ўзяўся за навядзенне парадку. Не проста ў гаспадарцы, якую ўзначаліў, а ўвогуле парадку на зямлі. Пра тое, як працаваў ён тады, можна кнігу пісаць. Дарэчы, як і пра тое, як працуе сёння.

Магчыма, яна і з'явіцца з цягам часу. Прынамсі, так і просіцца ў новую серыю «Наш сучаснік», выпуск якой распачало выдавецтва «Мастацкая літаратура». Але калі яшчэ тая кніга будзе, таму пастараюся коратка расказаць пра тое, што ж уяўляе сабой СПК «Калгас «Радзіма».

Істотны, безумоўна, ужо такі аспект: узначаліўшы, як і мае быць, адну калектыўную гаспадарку, Лапацентаў паступова далучыў да яе яшчэ тры. Зразумела, не такія, якія імклівымі тэмпамі імкнуліся ў светлую будучыню, забяспечваючы прыбліжэнне яе працоўнымі поспехамі. Іхняе далучэнне да «Радзімы» было адзінай магчымасцю ўратавацца. І не проста застацца на плыву, а працягваць у далейшым паўнакроўнае гаспадарчае жыццё. Пры ўмове, што стануць працаваць па-лапацентаўску. Іншага не было дадзена.

Давялося прымаць умовы, што прапаноўваліся. Не ўсё, канешне, удалося адразу і лёгка, але час паказаў, што былі зроблены вельмі важныя крокі. Першы, другі, трэці... У выніку з'явілася буйное сельскагаспадарчае прадпрыемства, у якім 1200 працаўнікоў, а колькасць сельгасугоддзяў складае 11 тысяч гектараў.

Якую галіну вытворчай дзейнасці ні возьмеш, поспехі не проста відавочныя, а такія, якім зайздросціш. Прынамсі, летась ураджайнасць зерневых склала 55, 5 цэнтнера, што адпавядае агульнаму намалоту 12 596 тон зерневых. Гэта рэкордны паказчык за ўсю гісторыю існавання «Радзімы». Падобныя поспехі не маглі быць не заўважаны. І не толькі на раённым і абласным узроўнях. На «Дажынках-2011» у горадзе Маладзечне поруч з іншымі пераможцамі віталі і працаўнікоў СПК «Калгас «Радзіма». У прыватнасці, Юрый Зайцаў заняў першае месца ў рэспубліканскім спаборніцтве сярод маладых камбайнераў, за што атрымаў аўтамабіль. Мікалай Дарэчкін выйшаў на трэцяе месца, яму ўручылі мотаблок.

Традыцыйна ўпэўнена ў «Радзіме» развіваецца жывёлагадоўля. Прытым аднолькава клопатна ставяцца ў гаспадарцы як да атрымання мяса, так і малака. У прыватнасці, гадуецца звыш паўтары тысячы свіней. Сярод каля 7 700 галоў буйной рагатай жывёлы нямала займаюць мясныя пароды. Аднак ніколі не перасыхае і малочная рака, паколькі надой на адну карову складае звыш 6 700 кілаграмаў. Дасягаецца гэта дзякуючы таму, што жывёла забяспечваецца высакаякаснымі кармамі, якіх маецца ўдосталь. Так, сенажу і сіласу нарыхтавана столькі, што яго хопіць на паўтара года.

Летась быў уведзены ў эксплуатацыю ўласны цэх па прыгатаванні камбікармоў. Выгада ад гэтага двайная. Значна зменшыліся фінансавыя выдаткі, таму

што цяпер застаецца закупляць толькі вітамінныя дабаўкі. Апроч таго, сучаснае абсталяванне дазваляе атрымліваць кармы з тымі параметрамі, якія найбольш прадукцыйныя.

Дарэчы, пра тэхналагічны ўзровень вытворчасці ў «Радзіме». У гэтым накірунку вытрымліваюцца еўрапейскія стандарты. Як правіла, на набыццё высакаякаснай і эканамічна выгаднай тэхнікі ў гаспадарцы грошай не шкадавалі, не шкадуць, дый ашчаджаць на гэтым не збіраюцца. Калі ўзнікае ў тым патрэба, набываюць новую тэхніку не задумваючыся. Летась, для прыкладу, прыдбалі самаходны апырсквальнік «Тэхнома», самаходны агрэгат «Роса», чатыры новыя трактары. Малочны цэх аснашчаны чатырма камп'ютарнымі даільнымі ўстаноўкамі «Імпульс». Усяго ж у гаспадарцы 12 жывёлагадоўчых аб'ектаў. Пабываўшы на адным з іх — Вішоўскім малочна-таварным, — на ўласныя вочы ўпэўніліся, наколькі эфектыўна ён працуе, якія выдатныя ўмовы створаны для працы жывёлаводаў і для ўтрымання жывёлы.

Як у сувязі з гэтым не ўспомніць класіка, няхай і марксізму-ленінізму: быццё вызначае свядомасць. «Быццё» ж у «Радзіме» такое, што і жыць хочацца, і працаваць, і спяваць. Дый шмат чым іншым займацца на карысць духоўнага развіцця, але не на шкоду здароўю. Для гэтага таксама ёсць усе ўмовы. Найперш на цэнтральнай сядзібе Вішоўцы, хоць і іншыя населеныя пункты не нашмат адстаюць у сваім развіцці.

Вішоўка ж — аграгарадок, дзе прываблівалюць забудовы катэджнага тыпу, у якіх умовы не горшыя, чым у горадзе. І нават лепшыя, калі прыняць пад увагу, што асяродак пражывання набліжаны да нерушавай прыроды. Кампактнасць размяшчэння катэджаў зручная ў тым, што без праблем можна дабрацца на работу. Дый ёсць мажлівасць займацца спортам. Апошняя акалічнасць таксама ўплывае на аплату працы. Канешне, вольнаму воля. Не хочаш займацца спортам, не займайся. Ды толькі займацца ім хочацца. Яшчэ як хочацца. Нават не столькі таму, што гэта карысна для здароўя. Тыя, хто пастаянна ўдзельнічае ў розных спартыўных спаборніцтвах, атрымлівае дзесяць працэнтаў даплаты да свайго асноўнага заробку.

Увогуле для заняткаў спортам у гаспадарцы створаны ўсе ўмовы. Калі ж хто пажадае паплаваць, патрэніравацца на трэнажорах, то выдзяляецца транспарт для паездкі ў райцэнтр, дзе ёсць фізкультурна-аздараўленчы цэнтр. У стадыі завяршэння стадыён, які ўзводзіцца за сродкі гаспадаркі. Створаны ўсе ўмовы і для развіцця мастацкай самадзейнасці. Таксама не абышлося без матэрыяльнага заахвочвання. Паспяваў, патанцаваў — грошы атрымаў як даплату да зарплаты.

Падобны падыход, як можа каму-небудзь падацца, гатовы выклікаць спажывецкія настроі. Ды гэта гледзячы як да ўсяго паставіцца. Лапацентаў і прадстаўнікі ягонай каманды ўпэўнены ў іншым. Такая матэрыяльная зацікаўленасць дысцыплінуе людзей, дапамагае ім зразумець сапраўдны сэнс жыцця, які немагчымы без здаровага ладу. Каб жа прывіць яго пайшлі і на такі крок. Тыя, хто не курыць, таксама атрымлівае даплату да заробку ў дзесяць працэнтаў. У цэлым за месяц па гаспадарцы набіраецца сума немалая — каля сарака мільёнаў рублёў. Затое ўжо не кураць каля 70 працэнтаў працаўнікоў СПК. Людзі менш хварэюць, таму радзей ідуць на бальнічны. Дый аддача на вытворчасці ад іх большая, таму што не забіраецца час на перакуры, на якія за рабочы дзень ці не гадзіна набягае.

Жорстка, наступальна вядзецца барацьба з п'янствам як на вытворчасці, так і ў быце. Дый, па праўдзе кажучы, многім не да гэтага. Ёсць дзе адпачыць, ёсць чым заняцца. Далучэнне да духоўнасці, магчымасць задумацца над вечным — гэта і наведванне многімі царквы Пятра і Паўла, узведзенай на сродкі гаспадаркі тры гады назад. Гэтаму храму кіраўніцтва «Радзімы» рэгулярна аказвае матэрыяльную дапамогу. Не забыты і настаяцель айцец Павел, які атрымлівае зарплату, роўную той, што ў спецыялістаў гаспадаркі. Дый як жа іначай, калі ён

не адарваны і ад жыцця вытворчага, прымае ўдзел у рабочых планёрках. Дбае і аб рабоце нядзельнай школы, заняткі ў якой наведваюць 20 вясковых хлопчыкаў і дзяўчынак.

Не абыдзены ўвагай і школы, што знаходзяцца на тэрыторыі сельгаскааператыва. Аляксандр Міхайлавіч не горш за педагогаў разумее правільнасць адной з вядомых народных прымавак: «што пасееш, тое і пажнеш». Таму і дапамагае педагогам у выхаванні падрастаючай змены. Яно вядзецца і ... рублём. Паколькі вучоба таксама свайго роду праца, гаспадарка ўжо на працягу больш як 13 гадоў лепшым вучням выплачвае стыпендыі. Максімальная сума складае 270 тысяч рублёў за чвэрць. Каб атрымаць стыпендыю, мала добра вучыцца. Трэба прымаць і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. У атрыманні стыпендыі зацікаўлены не толькі самі школьнікі, а і іхнія бацькі, бо тыя з іх, чые дзеці адзначаны, маюць штомесячна даплату ў пяці працэнтах да свайго асноўнага заробку.

Слухаеш аповед А. Лапацентава аб тым, што робіцца ў сельгаскааператыве дзеля таго, каб матэрыяльна стымуляваць працаўнікоў на лепшую і з найбольш поўнай аддачай працу, і ствараецца ўражанне, што ён сабраўся пабудаваць у адной узятай гаспадарцы камунізм. Нават захацелася пытанне наконт гэтага задаць, але своечасова стрымаў сябе, бо агульнавядома, што камунізм — гэта тое, што далёкае ад рэальнасці, а яшчэ, калі лепш разабрацца, мае на ўвазе пэўную ўраўнілаўку. Дый Лапацентаў сваімі далейшымі развагамі лішні раз засведчыў, што ў сельгаскааператыве, які ўзначальвае ён, жывуць не ілюзіямі ўсеагульнага шчасця, а застаюцца строгімі рэалістамі.

Можна заахвоціць, можна падтрымаць, але пры ўмове, што пасля гэтага будзе належная аддача. Прыклад таму — стаўленне ў «Радзіме» да маладых працаўнікоў. У іх у гаспадарцы зацікаўлены, таму, каб прыцягнуць, два першыя гады іхняга пражывання ў новых дамах цалкам бяруць на сябе. Прасцей кажучы, не трэба ўносіць кватрплату, аплачваць выкарыстаныя газ, ваду, электраэнергію. Калі ж упэўніліся, што той ці іншы малады работнік добра зарэкамендаваў сябе, яму выдзяляюць чатыры мільёны рублёў на розныя гаспадарчыя патрэбы. Праз пяць гадоў гэты доўг, калі да таго, хто атрымаў пазыку, ніякіх прэтэнзій няма, спісваюць. У іншым выпадку грошы давядзецца вяртаць. Як і тады, калі захочацца звольніцца з працы. Праўда, без працэнтаў.

Дый каб атрымаць свайго роду сацпакет, нельга біць лынды. Калі быць ужо дакладным, то пакет гэты прадуктовы сёння, калі прадукты рэзка падаражалі, вельмі да месца. Таму ў ліпені мінулага года на праўленні і вырашылі ўвесці яго. Зрабілі так, каб падтрымка стала значнай. У месяц на кожнага выдзяляецца тры кілаграмы мяса, па два кілаграмы мукі і макаронных вырабаў, па адным кілаграме крупы пярлоўкі. Выдалі за адзін раз і па 12 кілаграмаў грэчневай крупы. Цана кожнага кілаграма чыста сімвалічная і складае ўсяго дзве тысячы рублёў. У тым ліку і мяса. Дзе яшчэ нешта падобнае напаткаеш!

## Святло Александрыі

Далей наш шлях ляжаў на Шклоўшчыну, а там... Канечне ж, завіталі ў Александрыю, бо як не наведаць родныя мясціны Прэзідэнта нашай краіны. Для мяне асабіста гэта была не першая паездка. Першы раз пабываў у Шклоўскім раёне яшчэ ў 2007 годзе, калі працаваў у «Беларускай думцы». Завіталі туды разам з галоўным рэдактарам Уладзімірам Вялічкам. Падставай для паездкі стала тое, што на «Дажынках-2006», якія праходзілі ў горадзе Бабруйску і на якіх мы прысутнічалі, Кіраўнік дзяржавы ўручыў тагачаснаму старшыні Шклоўскага райвыканкама Валерыю Іванову і начальніку райсельгасхарчу Васілю Віцюнову Ганаровыя дыпломы і грашовыя прэміі за перамогу ў рэспубліканскім спаборніцтве на ўборцы ўраджаю зерневых і зернебабовых культур.



*Падарунак ад старшыні Шклоўскага райвыканкама Аляксандра Анатольевіча Бойкі прымае Мікалай Іванавіч Чаргінец.*

Захацелася падрабязней расказаць пра поспехі раёна і ягонага кіраўніка. Нарыс «Святло над Дняпром» пасля апублікавання ў «Беларускай думцы», увайшоў у двухтомнік «Зямля любові нашай», напісаны ў сааўтарстве Уладзімірам Вялічкам, Алесем Марціновічам і Васілём Шырко, і быў пазней адзначаны Літаратурнай прэміяй «Залаты Купідон».

Шмат што засталося ў памяці ад той паездкі, што адбылася ў 2007 годзе, але найбольш запомнілася наведванне Александрыі. На радзіме Прэзідэнта на той час ва ўсю шчыравалі будаўнікі, даводзячы ўсё да ладу, бо да адкрыцця аграгарадка заставалася толькі некалькі тыдняў. На плошчы ў 11 тысяч гектараў (цяпер ААТ «Александрыйскае» налічвае 15 тысяч гектараў сельгасугоддзяў) стваралася сучасная гаспадарка, шэфства над якой узяў Нацыянальны банк Беларусі, а гэта надало рабоце яшчэ большы размах.

Мы прайшліся вуліцамі. Наведаліся ў мясцовую сярэднюю школу, а потым скіраваліся ў тую школку, у якой некалі вучыўся будучы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь. На шчасце, гэты знешне непрыкметны драўляны будынак захаваўся, цяпер у ім музей. Стаяць парты, у тым ліку і тая, за якой некалі сядзеў вучань Саша Лукашэнка. Экспануюцца здымкі тых гадоў, рэчы. Гэты будынак уцалеў у пажары, хоць іншыя згарэлі. Захаванасць самога будынка, безумоўна, успрымаецца па-свойму сімвалічна. Нібы быў пададзены нейкі добры знак, як трэба ставіцца да ўшанавання таго, што звязана з жыццём выдатных сучаснікаў.

Паспяшаліся ў суседнюю вёсачку. Афіцыйна яна называецца Александрыя-2 і знаходзіцца ў некалькіх кіламетрах ад самой Александрыі. Хаты, у якой Саша Лукашэнка жыў з маці, ужо не было. На яе месцы стаяла вялікая альтанка. Прайшлі ад вёскі ў той бок, дзе, як ведалі, знаходзіцца крынічка, да якой часта хадзіў па гаючую ваду ў маленстве Лукашэнка. Вада і пры нашым наведванні была на дзіва чыстая, а калі зробіш глыток-другі, адчуванне такое, што набраўся сілы. Гэтае месца было добраўпарадкавана, бо сюды часта наведваліся турысты.

І вось новая, праз чатыры гады, сустрэча з Александрыяй. Вёска і тады выглядала прыгожа, а цяпер яе яшчэ больш не пазнаць. Нават не аграгарадок, а невялікі ўтульны сучасны горад, у якім створаны ўсе ўмовы для працы, пражывання і адпачынку. Тратуары выкладзены пліткай, вуліцы шырокія. Паўсюдна акуратныя газоны. Няцяжка ўявіць сабе, як вабяць яны сваім шматквеццем летам, ранняй восенню. Ёсць у Александрыі Дом бытавых паслуг, Цэнтр культуры і

адпачынку, спартыўны комплекс. І, канешне, прыўкрасай Александрыі з’яўляецца Дняпро, які працякае непадалёку ад вёскі. Між іншым, на другім беразе яго знаходзіцца гарадскі пасёлак Копысь, дзе і нарадзіўся будучы Прэзідэнт нашай краіны Аляксандр Лукашэнка. Прыгожыя мясціны, дзе жывуць прыгожыя людзі, якім шмат Богам дадзена.

## У Магілёве — свае ўражанні

Пасля Александрыі накіраваліся ў Магілёў — горад, у гісторыю якога ўпісана шмат незабыўных старонак. Найбольш яркая з іх — Магілёўская абарона 1941 года. Тады нямецкае камандаванне, плануючы ўварвацца ў Магілёў з боку Бабруйска, сканцэнтравала на гэтым накірунку трэцюю сваю танкавую дывізію і пяхотныя часці. На Буйніцкім полі ворагу супрацьстаялі стралковы полк палкоўніка С. Куцепава, лёгкі артылерыйскі полк палкоўніка І. Мазалава і батальён народнага апалчэння камісара П. Цярэнцьева. 13—14 ліпеня на згаданым участку савецкай абароны знаходзіўся карэспандэнт газеты «Известия» Канстанцін Сіманаў. Пазней гэтыя падзеі ён апісаў у сваім рамане «Живые и мертвые». Паводле ягонага завяшчання прах пісьменніка быў развеяны над Буйніцкім полем.

Мы завіталі на Буйніцкае поле, дзе пастаўлены помнік у гонар яго абаронцаў, мемарыяльны знак на ўшанаванне памяці К. Сіманава. Таксама ўшанавалі памяць абаронцаў Айчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Прыехаўшы ў Магілёў, наведалі Магілёўскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя А. А. Куляшова. З асаблівым хваляваннем пераступаў парог гэтай вышэйшай навучальнай установы доктар філалагічных навук, вядомы літаратуразнаўца, гісторык літаратуры Іван Саверчанка, які ў свой час скончыў яе — тагачасны Магілёўскі педагагічны інстытут.

Знаёмства з універсітэтам лішні раз пераканала ў тым, наколькі ў нашай краіне высокая ўвага надаецца падрыхтоўцы спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй. Тут вучацца студэнты, якія, несумненна, пасля атрымання дыпломаў знойдуць сваё належнае месца ў грамадстве. У гэтым мы ўпэўніліся, калі, разбіўшыся на групы, завіталі ў аўдыторыі. Задаваліся цікавыя пытанні, студэнты з задавальненнем слухалі выступленні паэтаў, знаёміліся з развагамі пра сучасны стан беларускай літаратуры. У музеі ж мы пазнаёміліся з ягонай экспазіцыяй, якая расказвае пра жыццё і творчасць пісьменнікаў-землякоў.

## «Магілёўліфтмаш» — гонар наш

Пад’язджаючы да Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Магілёўліфтмаш», здалёк убачылі высокі, бадай, метраў пад сто паралелепіпед з надпісам на ягоных гранях «Могилевлифтмаш». Як неўзабаве даведаліся, гэта свайго роду выпрабавальны «палігон», дзе праходзіць праверка ўсіх тыпаў ліфтаў, што выпускаюцца на гэтым заводзе, а таксама вузлоў бяспекі. Афіцыйна ён называецца Выпрабавальным цэнтрам завода і аснашчаны ўсім неабходным стэндавым і вымяральным абсталяваннем. Такім чынам, створаны ўмовы, блізкія да рэальных. Гэты «паралелепіпед» нагадвае сабой шахту, якія ёсць у шматпавярховых дамах, а таксама на прадпрыемствах, дзе не абысціся без грузавых ліфтаў. З той толькі розніцай, прытым істотнай, што ў гэтым «паралелепіпедзе» ўстаноўлены розныя прыборы і механізмы, якія і дазваляюць правяраць жыццяздольнасць прадукцыі, што пасля выпрабаванняў прыйдзе да спажыўца.

Як праходзіць праверка ліфтаў на бяспечнасць і адпаведнасць стандартам, нам не паказалі, а вось экскурсію па прадпрыемстве правялі — такую, што мы змаглі ўбачыць ці не ўсё тое, што на заводзе выпускаецца, а яшчэ шмат цікавага і пазнавальнага пачуць з вуснаў генеральнага дырэктара завода Анатоля Цюкава.



*Паэт Рагнед Малахоўскі на «Магілёўліфтмашы».*

Дый пазней нямала даведаліся пра работу прадпрыемства з альбома і розных рэкламных буклетаў, якія падарылі нам на памяць, а, магчыма, і з разлікам, што ў каго-небудзь з'явіцца жаданне падрабязней расказаць аб прадпрыемстве, якое з'яўляецца вядучым вытворцам ліфтавага абсталявання не толькі ў нашай краіне, а і ў дзяржавах СНД і паспела набыць рэпутацыю высакакласнага вытворцы надзейнай і якаснай прадукцыі свайго профілю, якая запатрабавана ва Украіне, у Латвіі, Расіі, Казахстане і іншых краінах.

Першы ліфт быў зроблены ў красавіку 1970 года. Ён, зразумела, не ідзе ні ў якае параўнанне з цяперашнімі ліфтамі, якія атрымліваюць пуцёўку ў жыццё на прадпрыемстве. Гэта тычыцца як функцыянальнага прызначэння прадукцыі, так і яе надзейнасці, а яшчэ, што таксама немалаважна, дызайна, асабліва ў пасажырскіх ліфтах. Апроч іх выпускаюцца грузавыя, бальнічныя, катэджныя і іншага прызначэння.

Новым накірункам у рабоце прадпрыемства стала вытворчасць будаўнічых пад'ёмнікаў, на якіх на будоўлях, як без рук. Балазе яны могуць падымаць розныя грузы: выпускаюцца грузапад'ёмнасцю 1500 і 2000 кг. У сельскай гаспадарцы запатрабаваны дыскавы агрэгат па апрацоўцы глебы, а таксама прычапныя апырсквальнікі. Шырокі аспект і спажывецкіх тавараў: машыны дрэваапрацоўчыя, лябёдкі сельскагаспадарчыя, здрабняльнікі кармоў і такарныя дрэваапрацоўчыя станкі. Дарэчы, нам падарылі запальнічкі з лагатыпам прадпрыемства, што засталіся прыемным напамінкам аб наведванні завода. Не важна, курыш ты ці не курыш, а дабротную рэч мець у сябе не лішне.

Уся прадукцыя «Магілёўліфтмаша» высокай якасці. Сістэма менеджменту якасці праектавання, вытворчасці і абслугоўвання ліфтаў сертыфіцыравана на адпаведнасць патрабаванням СТБ ISO 9001 — 2009 у нацыянальнай сістэме пацвярджэння адпаведнасці Рэспублікі Беларусь і на адпаведнасць DIN EN ISO 9001:2008 у нямецкай сістэме акрэдытацыі. Вам гэта нічога не гаворыць? Скажу шчыра, я таксама не надта разбіраюся ва ўсёй гэтай тонкасці. Дый гэта не так і істотна. Галоўнае ў тым, што магілёўскія ліфты, як ужо адзначалася, ахвотна

набываюцца рознымі краінамі. Не кажучы ўжо пра нацыянальнага спажыўца. Адпаведна і расце аб'ём вытворчасці. Так з 2002 па 2009 год гэты рост па ліфтах склаў 2,7 раза. Таму прадпрыемства імкліва развіваецца. На мадэрнізацыю вытворчасці і на ягоную рэканструкцыю на заводзе грошай не шкадуюць. Дбаюць і аб змяншэнні энергазатрат, аб экалагічнай бяспецы. Сведчанне апошняга — вынясенне цэха ліцця за межы горада.

Нельга не адзначыць, што на «Магілёўліфтмашы» заўсёды працавалі (дый сёння працуюць) высокакваліфікаваныя спецыялісты. Так, А. Цюкаў замяніў на пасадзе генеральнага дырэктара Пятра Рудніка, які цяпер, як вядома, з'яўляецца губернатарам Магілёўшчыны.

Добра ладзяцца справы і на шмат якіх іншых прадпрыемствах Магілёва. У ліку лепшых і Адкрытае акцыянернае таварыства «Бабушкина кринка», прадукцыю якой добра ведаюць і мінчане. Частка нашай дэлегацыі наведала гэтае прадпрыемства, частка — «Магілёўфліфтмаш». Як вы здагадаліся, я выбраў апошняе. Дзейнічаў па прынцыпе: сыры, смятану і ў магазіне купіць можна, а з вытворчасцю ліфтаў калі яшчэ пазнаёмішся. І не пашкадаваў, наведаўшыся на гэтае прадпрыемства, як, думаю, не расчараваліся ў гэтым усе, хто аддаў перавагу «Магілёўліфтмашу».

* * *

Пабывалі мы і ў славутай купалаўскай Вязынцы, наведалі пасёлак Чысць Маладзечанскага раёна, Маладзечанскае музычнае вучылішча імя М. К. Агінскага, Бялыніцкую гімназію... Час прайшоў непрыкметна. У рэшце рэшт, так бывае заўсёды, калі праграма паездкі не толькі вельмі насычаная, а і дазваляе пазнаёміцца шмат з чым, што пакідае след у душы. Асабліва, калі ўдзельнікам яе з'яўляецца чалавек творчы.

Пабачанае, пачутае намі, скандэнсаванае ў памяці, упэўнены, абавязкова праз пэўны час выкрышталізуецца ў нейкія мастакоўскія задумкі. Я, аднак, далёкі ад думкі (бадай, з гэтым згодзяцца многія, з кім знаходзіўся ў паездцы), што абавязкова з'явяцца творы, у якіх напрамую будуць прысутнічаць назіранні, пачэрпнутыя падчас яе. Але не адмаўляю таго, што знаёмства з цікавымі людзьмі, каго-небудзь падштурхне да таго, што яны могуць стаць прататыпам некаторых герояў мастацкіх твораў. І яшчэ пра адзін момант...

Некалі Максім Горкі заклікаў пісьменнікаў ствараць гісторыю фабрык і герояў. Ён жа, Горкі, у 1933 годзе аднавіў серыю біяграфій «Жизнь замечательных людей», заснаваную ў 1890 годзе вядомым кнігавыдаўцом Фёдарам Паўленкавым. Дарэчы, аналагам «ЖЗЛ» з'яўляецца серыя «Жыццё знакамітых людзей Беларусі», што выходзіць у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Зыходзячы з гэтага, чаму б не ўзяцца за напісанне кніг пра асобныя прадпрыемствы. Зразумела, знайшоўшы паразуменне з кіраўніцтвам іх. Пра саміх жа кіраўнікоў можна расказаць ужо ў згаданай мною бібліятэчцы «Наш сучаснік». Тым больш, што ў нас ёсць пісьменнікі, якія паспяхова працуюць у дакументальна-мастацкім накірунку.

Пакуль жа ўдзельнікі гэтай паездкі ў прадчуванні знаёмства з іншымі абласцямі нашай краіны. Балазе, у кожнай з іх ёсць пра каго пісаць і пра што пісаць. Толькі ў далейшым у кожнай вобласці, магчыма, трэба зменшыць колькасць прадпрыемстваў — як сельскагаспадарчых, так і прамысловых — для наведвання. Гэта пойдзе на карысць справе, таму што з'явіцца магчымасць больш дэталёва пазнаёміцца з жыццём працоўных калектываў, сустрэцца з большай колькасцю людзей, якія заслугоўваюць да сябе ўвагі і павагі.

Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.
Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.
У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.

Ідзе падпіска
на I паўгоддзе 2012 года:

індывідуальная льготная
для настаўнікаў (індэкс — 00471)

на 1 месяц — 8690 руб.
на 3 месяцы — 26 070 руб.

індывідуальная (індэкс — 74985)

на 1 месяц — 13 420 руб.
на 3 месяцы — 40 260 руб.

ведамасная (індэкс — 749852)

на 1 месяц — 28 490 руб.
на 3 месяцы — 85 470 руб.

ведамасная льготная
для ўстаноў Міністэрства культуры
і Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)

на 1 месяц — 23 120 руб.
на 3 месяцы — 69 360 руб.

e-mail: polymya@bk.ru

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74.

Стыльрэдактар М. М. Гілевіч
Камп'ютарная вёрстка С. І. Стараверавай

Падпісана ў друк 09.01.12 г. Фармат 70 $108^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80. Ул.-выд. арк. 16,91. Тыраж 2791 экз. Заказ 87.
Кошт нумара ў розніцу 13 400 руб.
Часопіс «Полымя» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі
Рэспублікі Беларусь. Рэг. № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.